# Білет удачы

**Кніга першая,**
***якую жадалася напісаць***

## Частка першая

### 1

Не вялікі я аматар піва, але ў той дзень мне яго дужа захацелася нечакана аж з самае раніцы, і нейкае неадольнае жаданне прымушала мяне адкінуць усе клопаты і падацца да піўной бочкі. Тут жа. Неадкладна. Ну як хто падштурхоўваў мяне нябачны і нашэптваў, што калі я не паспытаю яго праз чвэрць гадзіны, то павінна здарыцца нешта непапраўнае і страшнае...

Глупства, канечне ж, і дурнота, але я добра памятаю свой тадэшны стан, тую незразумелую смагу, якая падступаецца хіба толькі тады, калі ў лазні выходзіш з гарачай-гарачай парылкі...

А тады ж і духаты нават не было, а неба было заслана шэрымі прасцірадламі воблакаў...

— Мне так захацелася піва, — прызнаюся свайму сябруку — сядзелі побач на лаўцы ў гарадскім парку, — як голаму купацца...

— А мне вось чамусьці зусім не хочацца, — абыякава адказвае Адам, жмурыцца пры гэтым, некуды глядзіць у засень яшчэ зялёных дрэў.

— Затое ты мне можаш скласці кампанію: піць я буду сам, а ты будзеш толькі назіраць і лічыць куфлі, што я буду апаражняць...

Адчуваю і пераконваюся, што ніхто і нішто не можа перашкодзіць маёй задумцы. Я цяпер магу пайсці на ўсё, нават паслаўшы дружбака туды, дзе Макар не пасвіў сваіх цялятак. Мне ўжо так закарцела, як дурному барацца.

Адам яшчэ працягваў упарціцца, корчыць дурня. У яго, мусіць, зайгралі біятокі супраціўлення, супрацьстаяння. Сябар любіў быць лідэрам і таму не цярпеў камандаў. Тады ён натапырваўся, як спуджаны кот, і выказваў пратэст, нязгоду. Во акурат як цяпер...

Але мяне здзівіла такая акалічнасць — ён жа любіў піва мацней, чым я, ніколі да гэтага не адмаўляўся, а тут заўпарціўся, як малады бычок, якога сабраліся весці на бойню...

— Што з табою, Адам? — ува мне чамусьці пачала нараджацца злосць.

— Анічога... То з табою нешта творыцца... Як звер на мяне кідаешся. А ў цябе ж піеланефрыт. Ведаю, табе і глядзець на тое піва нельга, не тое што каштаваць.

— Ну і хрэн з ім, тым нефрытам...

У Адама вялізныя вушы. Мне здаецца, гэта ад таго, што ён толькі што падстрыгся пад «нулёўку». Нос кірпаты і тоўсты, і калі злуецца, то наздрыны раздзімаюцца і сплюшчваюцца павекі. Я тое даўно заўважыў. Позірк яго можа быць мяккім і даверлівым, а можа выпраменьваць злосць, а то нават і агрэсіўнасць — у залежнасці ад настрою.

— Мне хочацца піва, — талдычу я адно і тое ж, быццам ён, толькі ён і замінае мне наталіць маю смагу ці як той дзіцёнак — упарты і настырны — прыпінае маці: «Купі, ну купі...»

Сябар маўчыць, і незразумела, ці ён згаджаецца, ці працягвае ўпарціцца.

— У мяне няма грошай, — прызнаецца Адам і ўздыхае, задзірае галаву, зажмурвае вочы.

Насупраць нас на лаўцы сядзяць дзве дзяўчыны — з важным і дзелавым выглядам з асалодаю кураць, потым доўгімі пазногцямі атрасаюць попел долу. Робяць тое яны з годнасцю, ну, не раўнуючы, як француженкі ў прэстыжным рэстаране ці кавярні... Я ведаю — то будучыя медыкі, навучэнкі медыцынскай вучэльні. Яны тайком прыбягаюць сюды наталіць сваю нікацінавую смагу-голад. Мне падумалася, што мы ў нечым падобныя — ім хочацца курыць, а мне хочацца піва. Колькі ім — па семнаццаць? Не падступіся — нафарбаваныя, нафуфыраныя, з доўгімі косамі, нага за нагу, нешта абмяркоўваюць з важным выглядам. У мяне нараджаецца думка: а што, калі я правяду пад тую лаўку мікрафон і запішу на стужку іх размову? Для чаго? Для рэпартажу ў газету? Для фельетона — вучымся на медыкаў і атручваем сваё здароўе? Ці дзеля простай цікавасці — пра што могуць гаварыць дзяўчаты ў такім узросце? А калі яны будуць гаварыць такім жаргонам, што стужка не вытрымае і аплавіцца?..

У рэшце рэшт мы кіруемся да бочкі з півам — на бераг Сажа. Там прыветная і паўнагрудая Антаніна не махлюе, заўсёды далівае даверху, потым чакае, калі адстаіцца, і дапаўняе з коптурам, ніколі не спрачаецца з мужчынамі, як усё роўна разумее іх стан. Антаніна — Тоня — прыгожая, дзябёлая. Ад душэўнай дабрыні ў яе спакойныя рысы твару — загарэлая і акруглая шыя, пульхныя шчокі і сакавітыя вусны, прыгожы нос; ззаду, на шыі, закручана гугля, а ад вушэй звісаюць светлыя завіткі косаў; пад сукенкай калышуцца булкі-грудзі,

і калі хто стаіць у чарзе побач з ёю, міжволі кідае позірк, калі Тоня нахіліцца да краніка, — багацце яе кідаецца ў вочы.

Мужыкоў было няшмат — нам пашанцавала, чалавек мо з восем. Гэта ж на некалькі хвілін. А жанчына працуе ўвішна, не паспееш і словам перакінуцца. На першы погляд Тоня працуе павольна, як бы лянiва, але атрымліваецца ў яе хутка і зладжана.

І цяпер, як заўсёды, у яе добры настрой, жартуе, смяецца, паказваючы маладыя здаровыя зубы, — як быццам хоча пахваліцца сваёю пекнасцю і жаданнем усім дабрыні. А вочы ў Антаніны як два блакітныя азерцы, і кожны, напэўна, хацеў бы ўтапіцца ў тых азярынах, магніт была Антаніна, няйначай.

— Ну што, заснуў? — чуецца вясёлы голас жанчыны. — Ты ж чаргу затрымліваеш. Вунь у некаторых аж каласнікі гараць...

— Тры келіхі піва, — ачомаўшыся, гаворыць хутка невысокі хлопец, пэўна, першы раз завітаў да Антаніны.

— Так бы і казаў адразу, — не злуецца лекарка нашых прапітых душаў, адпускае хлопцу тры куфлі піва, не гледзячы на наступнага, пытаецца: — А табе колькі? Сам вады ў рот набраў?

— Чатыры...

Ну і Тоня, усё разумее і здзекуецца, бо ведае добра, чаму хлопцы губляюць мову, але ёй прыемна гэта, яшчэ больш квітнее пад нашымі позіркамі.

— Антон, а колькі мы возьмем? — паварочваецца да мяне Адам — стаіць спераду.

— Можа, па два?.. Так, па два. Не, лепей па тры.

Калі падыходзіць нашая чарга, Адам заказвае шэсць куфляў, а я кладу ў сподак грошы.

— Нечага доўга не было вас у мяне, — гаворыць гандлярка, проста дзіўна, як яна бачыць, нават не паварочваючыся, не падымаючы на нас вачэй, — і па чым пазнае людзей?

У куфлях пеніцца іскрыстае піва, бяжыць праз верх. Яна чакае колькі секунд, пакуль асядзе зусім, зноў далівае.

— З'язджаў далёка.

— Са здачай у мяне кепска. Мо білецік латарэйны возьмеце? «Жыгулі» абяцаю...

У вачах Антаніны весялосць і гарэзлівасць, не праца, а задавальненне, пачуеш ад яе колькі слоў, і настрой на цэлы дзень забяспечаны.

— Вазьмі, Адам, — гавару яму, а сам забіраю ў дзве рукі куфлі, дзякую Антаніне, усміхаюся ёй, адчуваючы, як сагравае мяне яе

позірк і белы месяц незагарэлага цела на грудзях, адыходжу, кірую да столікаў.

Адам запіхвае ў кішэньку тэніскі блакітны білецік, павольна крочыць да мяне.

Піва халоднае, церпкае, а я ўсё не веру, што атрымліваю асалоду і задавальненне, зажмурваю вочы і не ведаю, дзе я і што са мной. Вось каб яшчэ і рыбінку, дык было б...

— Даўжок, шэф! — дакранаецца нехта ззаду да майго пляча.

Расплюшчваю вочы, паварочваюся: на мяне глядзіць няголены юнак, пазірае весела, як на роднага брата.

— З рыбкай дык яно смачней, — тлумачыць ён і кладзе перада мной кавалак вяленага ляшча, радуецца, што ён мне дапоўніць задавальненне.

— Дзякую, дружа! — ківаю галавой, але я не магу ўспомніць, калі ж я яго частаваў рыбінай, хаця за гэтымі стойкамі-столікамі такое здараецца часта.

— Забыўся, бачу, — ківае хлопец галавой, шмыгае прастуджаным носам, — забыўся. Добрае забываеш. А я не, не з такіх. Ты месяц назад частаваў мяне півам і цэлую рыбіну даў. А потым прыехалі мянты і мяне схапілі...

— А-а, — адразу ўспомніўся той непрыемны дзень, — ты назваўся тады Джо...

— Во-во! — абрадаваўся хлопец, заўсміхаўся, як даўняму знаёмаму.

— А чаго яны цябе схапілі? — зноў прыкладваюся да брыжыка куфля, раблю два доўгія глыткі.

— І сам не ведаю. Некага шукалі. А я вывескай сваёй, пэўна, ім некага напомніў. Вывеска такая ў мяне, што толькі за краты... Ну, прабач, што ўлез, — апамятаўся хлопец, адчуўшы, што Адам на яго пазлядае незадаволена і настойліва, — прабачце...

Ён адышоўся ў дальні куток, адвярнуўшыся ад усіх, пачаў піць сваё піва. Дастаў з кішэні недакурак, прыкурыў і зацягнуўся дымком.

Я не ведаў, хто ён, адкуль родам, але нейкім падсвядомым чуццём адчуў яго неўладкаванасць, адзіноцтва. Я не быў упэўнены, што хлопец меў свой кут, ды ці і працаваў дзе. Па голасе адчуваў, што ў яго мяккая натура, але душа нечым надарваная, напэўна, зняверыўся ў людзях, у жыцці ды і, мусіць, у самім сабе.

Нарадзілася жаданне сустрэцца з гэтым хлопцам, пагаварыць, нават, можа, і напісаць пра яго ў сваю газету. Напісаць жорстка, праўдзіва, нічога не ўтойваючы. Зразумела, ён не ўпісваўся ў рамкі сучаснага чалавека, не мог удзельнічаць у камсамольскіх форумах і

тым больш сядзець, як перадавік, у прэзідыумах... Але тут жа ўспомніў, што рэдактар газеты Вуськоў прызнае яго не актуальным ці няпраўдападобным. Ён вельмі трымаўся за сваё месца. Слухаўся заўсёды. Даць у абласную? Дык тут яшчэ горш: газетай кіруе абкам партыі і яго партыйны ідэолаг Бабыроў. А першым быў Хасінаў. Татарын у Беларусі. Ці можна ўявіць Шаранговіча ці Цыбульку першым у Грузіі ці Азербайджане? Не дай бог, калі з'явіцца крытычны артыкул! Тады Хасінаў выклікае рэдактара да сябе, грыміць кулаком па стале, адпускае, беручы з таго слова, што такое больш не паўторыцца. Тады ідзе ў рэдакцыі лятучка і грыміць гром у адрас тых, хто асмеліўся замахнуцца на «честь, ум и совесть нашей эпохи».

Я ж залазіў у такія тэмы і дабіваўся сустрэчы з тымі, хто быў пры ўладзе, хто моцна трымаўся за сваё крэсла.

Прысніўся мне аднойчы ноччу мой дзед Рыгор. Нябожчык. Пахавалі яго гадоў з дзесяць назад. Ён стаяў перада мною ва ўсім белым — валасы і барада былі як са снегу, штаны, доўгая, ніжэй каленяў, сарочка — кужэльныя, толькі твар і рукі чорныя — загарэлыя.

— Усё пішаш, унуча?

— Пішу, дзед, работа такая.

— І не сорамна пісаць табе розную лухту? Ты ж прастытуткай стаў, унучак. Парцейным прыхлябальнікам — што табе загадаюць, пра тое і брэшаш. Не крыўдзіся, што так гавару з табою, бо праўду кажу. Кінь, пакуль не позна, бо ў пекла пападзеш. Я ўжо не кажу, што ты Бога забыў, малітву тую забыў, што баба Адэля цябе вучыла...

— Забыўся, дзед, але «Ойча наш» памятаю.

— Пішы праўду, унучак, калі ўзяўся за такую справу. І я прашу, і баба Адэля, мы за цябе тутака перажываем. Ды і сорамна за цябе, што душу і талент свой сатане нізашто аддаеш.

— Дык я ж, дзед Рыгор...

— «Дык я ж, дык я ж»... — перадражніў мяне дзед, перажагнаў і тут жа пачаў знікаць, як туман, як прывід. — Глядзі ў мяне, капуста шаткаваная...

З таго часу мінула ўжо ладнавата, а сон стаіць перад вачыма як не штодня. Адчуў, што пісаць з такой лёгкасцю і бяздумнасцю я больш не змагу. Дзед Рыгор не дазваляў. Крыўдаваў на мяне за тое.

— Ты дзе гэта лётаеш? — вяртае мяне на ранейшую каляіну Адам, дапівае ўжо другі куфель. — Рыбкай хоць падзяліся. Хто такі, што з табой размаўляў?

Я адламаў палову, паклаў ля Адамавага келіха:

— Не ведаю... Другі раз бачу. Тут усе адчуваюць сябе знаёмымі, размаўляюць з кожным, як быццам кожны дзень бачацца і сябруюць. Гэта як у лазні, дзе ўсе становяцца блізкімі і роднымі.

— Нейкі ён... падазроны.

— Шпіён? — злуюся я ўжо на яго — калі нядголены, неахайны, то не наш,ату яго. Адам больш да акуратненькіх горнецца, з імі ён смялейшы і паважае такіх.

— Чаму шпіён? Біч. Нідзе, напэўна, не працуе. Каб выпіць, крадзе грошы альбо выпрошвае ў такіх даверлівых, як ты.

— А ты не даў бы яму на піва?

— На піва — не. На хлеб даў бы.

— Дзікунская ў цябе філасофія.

— І ў цябе ж такая.

— Але ты, дружа, не хвалюйся, у цябе ён не папросіць.

Адам паглядае на мяне:

— Гэта ж чаму?

Хіба ж я не адказаў яму? Недзе ў глыбіні душы я ўжо шкадаваў, што зацягнуў сюды Адама. На сваю галаву і бяду, быццам я гэтага піва не мог выпіць і адзін. А то быццам сабе сабутэльніка шукаў. Але ж не гарэлку п'ём... А калі б і гарэлку? То што?

Не быў бы побач Адам, мы б абавязкова пагаварылі з Джо. Добра пагаварылі б, па душах, як кажуць. Ён бы абавязкова расказаў пра сябе, можа, і не з першага разу, а неяк пасля... Можа б, гэта была рэабілітацыя перад дзедам Рыгорам, тут бы я не схлусіў ніводным радком, ніводным словам. У мяне ў сумцы, якую я пастаянна нашу на плячы, заўсёды напагатове дыктафончык, які цудам купіў у камісійным магазіне за трыста рублёў. «Соні»! Выдатная штукенцыя!

Тыдзень назад званю дырэктару палітэхнікума Шаганяну. Кажу, што для рэспубліканскай газеты неабходна даць інтэрв'ю. Альберт Шаганян раздумваў некалькі секунд і, каб не пакрыўдзіць мяне, далікатна сказаў:

— У мяне вельмі мала часу. Калі вы згодны, то магу выдзеліць для гутаркі толькі дзесяць хвілін.

— Калі? — ухапіўся я за нітачку.

— У восем гадзін раніцы.

— Згодзен! — абрадаваўся я. — Дзякую. Заўтра без пяці хвілін я ў вашай прыёмнай.

Раніцай я пераступіў парог без дзесяці хвілін. Без пяці ў прыёмную выйшаў дырэктар, павітаўся, убачыўшы мяне, падаў руку, запрасіў да сябе.

Дастаю дыктафончык, кладу на стол, побач наручны гадзіннік, націскаю кнопачку і гавару:

— Калі ласка, слухаю вас. На дзесяць хвілін...

Замест інтэрв'ю дырэктар зарагатаў, гледзячы на дыктафон. Ён адкінуўся ў крэсле, задраў галаву:

— Абхітрыў ты мяне, дружа карэспандэнт! Не мог падумаць, што пад дых мне дасі... Дзякую.

— За што?

— За хітрасць. Армянін хацеў перахітрыць беларуса, а атрымалася наадварот. Часу мне, братка, не хапае, ну і не схацеў я губляць на размову час.

Што мяне здзівіла, дык гэта тое, што ён, прадстаўнік армянскага народа, гаварыў на роднай мове беларусаў. Тут беларус, маючы ў дыпломе высокую адзнаку па роднай мове, крычыць: «Не знаю я этого языка!», а тут...

— Гэта я вам дзякую, Альберт Альбертавіч, што са мной вы гаворыце на маёй роднай мове...

Прагаварылі мы з ім не дзесяць хвілін. Каля трох гадзін ішла даверлівая размова. Ды не інтэрв'ю ў нас атрымалася, а сяброўская размова за кубкам гарбаты. Я і пытанняў не задаваў. Альберт расказваў пра сябе, можа, як ніколі і нікому не расказваў. Хвілінка такая, пэўна, падкацілася да яго — выгаварыцца хацеў. Мне было цікава слухаць і ўяўляць, як ён, хлапчуком, паступаў некалі ў ваеннае вучылішча і старшына сярод ночы прымусіў яго мыць туалет. Сказаў нешта супраць, і старшына ўдарыў па твары. Даў здачы, ды такой здачы, што ў таго і юшка пабегла з носа. А каб пазбегнуць непрыемнасцей, раніцай забраў свае дакументы (здаўшы амаль усё на «выдатна») і паступіў у політэхнічны інстытут... А потым некалькі сутак ехаў у цягніку «Масква — Ерэван». Ляжаў на самай верхняй паліцы. А ўнізе грузіны пілі віно і елі шашлыкі, дражнілі пахам яго пусты страўнік, сцякаў слінаю. «Дарагой, садысь к нашаму сталу, госцем будэш», — гасцінна, не адзін раз запрашалі да сябе, калі ён спускаўся ўніз. «Спасіба, я сыт», — адказваў ён. У кішэнях гуляў вецер — ніводнай капейкі не было, нават на кубак гарбаты.

Калі ж дабраўся да месца, апошнія сто метраў не мог ісці — падкошваліся ногі. Да парога ўжо амаль дапоўз, узяўся за дзвярную ручку і страціў прытомнасць...

Перад развітаннем Альберт аддаў мне свой даклад па навуковай канферэнцыі, сказаў: «Рабі з гэтага што хочаш. Але найбольш можаш выкарыстаць крытычныя заўвагі. Шмат прэтэнзій у мяне да метадаў навучання...»

Джо не Альберт. Што ён расказаў бы мне, не ведаю, але чамусьці ўпэўнены быў, што і яго было б цікава слухаць.

— Слухай, а што з білетам рабіцьмем? — напомніў Адам, трымаючы яго ў руках. — А раптам «Волга» ці «Калхіда»? — яхіднічаў ён. — То ж за твае грошы куплены. Глянь, і нумары якія цікавыя. Злева, дзе серыя, адны тройкі, а справа, нумар, — адны пяцёрачкі. Запамінаць лёгка...

— Адны няшчасці ад тых выйгрышаў.

— Чаму?

— Там, дзе буйныя выйгрышы і вялікія грошы, абавязкова няшчасці будуць. У нас у бухгалтэрыі працуюць Іда Абрамаўна і Сара Ізрайлеўна. Неразлучныя сяброўкі з дзяцінства. Пры сустрэчы цалуюцца, ласкавыя словы гавораць... Ішлі па вуліцы. Сара ўбачыла, што прадаюць «спрынт», і прыстала да Іды — давай купім. Тая аднекваецца — не хачу. А потым паддалася на ўгаворы. «Добра, толькі купі на мяне, грошы аддам раніцай на рабоце...» Купілі па два. Спачатку свае разарвала — пуста, пуста. Іда Абрамаўна разарвала адзін — пуста. Другі... Аж войкнула і ледзьве не асунулася на зямлю: «Волга»! Ачомалася, кінула сяброўку і хутчэй дадому, да мужа. Сара следам — то я ж купіла табе білет, дзяліся. Але дзе там! Пасварыліся. Муж Сары Ізя Мордухавіч пасля, як атрымаў легкавую, спецыяльна паўз вокны праязджаў і сігналіў — іграў на нервах...

— А ў маёй вёсцы таксама нешта падобнае было. Стаю ў магазіне, курыва купляю. А побач цётка Людвіся бярэ хлеб, грошы падае. Прадаўшчыца, маладое дзяўчо, дае, во як сёння нам, латарэйны білецік. «На шчасце, кажа, цётачка, вось пабачыце, выйграеце...» — «А на трасцу мне твая батарэйка!» — завярэдзіла крыўдліва Людвіся і шпурнула пад ногі «батарэйку». Ззаду мяне стаяла яшчэ адна жанчына, даяркай усё жыццё працавала, Аміля, у гадах, мужа ў лесе хваінай прычавіла. Двое дзяцей у горадзе, дарослыя ўжо. Падняла білецік. «Не камень, спіну не сагне панасіць», — так сказала, купіла пачак солі і пайшла дадому. Яна заўсёды трушком, хуценька так хадзіла, як усё роўна бегала. Яна ў Мазыр за дзень дапінала, а гэта за сорак кіламетраў. Пад восень ужо, перабіраючы ў стале паперкі, наткнулася жанчына на сваю «батарэйку», якую падняла ў краме. Пайшла на пошту, просіць загадчыцу: «Правер, донька, маю батарэйку, валяецца во...» На пошце яшчэ людзі былі, чулі і бачылі ўсё. Загадчыца як крыкне на ўсю пошту: «Аміля! Шчасце табе падваліла!» — «Якое шчасце?» — не зразумела. «Матацыкл ты выйграла з каляскай і мяне пракатаеш...» Аміля аслупянела, выхапіла з рук паперку, не паверыла... Але тут жа адбіла сыну тэлеграму, каб

прыязджаў. Вечарам таго ж дня прыбегла да яе Людвіся — дачулася ж, вясковае радыё працуе бездакорна — і з парога заявіла: «Аддавай мой матацыкл! Зяцю акурат добра будзе на работу ездзіць...» А тая кажа: «Ты ж сама выкінула яго, той матацыкл... А можа, то і не твая батарэйка, дакажы, што твае нумары...» І — пайшло-паехала. Да суда дайшло. І мяне на суд выклікалі. Сведкам. Папалам суддзя грошы прысудзіў падзяліць. Во як бывае.

— Ну во, а ты гаворыш. Закажам яшчэ піўка?

— Давай.

На гэты раз я ўзяў лішні куфель. Для Джо. Калі паставіў перад ім, усміхнуўся, удзячна кіўнуў галавой. Мне ён здаўся паніклым і стомленым, хваравітым. Гаварыць яму не хацелася, і я адразу адышоўся. Гэтак я адпомсціў Адаму за яго недавер да хлопца.

Адам нічога не сказаў — ці не бачыў, стоячы да яго спінай, ці не хацелася гаварыць на гэтую тэму.

Праз нейкі час мы з ім развіталіся, а мне дадому не хацелася ісці, і я пабрыў за раку, знайшоў ціхую мясцінку і лёг на зямлю...

## 2

Урэзаўся ў маю памяць даўні эпізод.

Не такі, можа, і даўні, але які яскрава запаў у маю памяць. І пасля з прычыны і без дай прычыны з'яўляўся да мяне, прымушаў уздрыгваць сэрца — кожны раз аднолькава балюча, быццам тое страшнае тычылася блізкага і роднага чалавека.

Бацька, як і абяцаў, узяў мяне нацямочку ў лес. Такое надаралася не часта, бо ў яго сваіх леснікоўскіх клопатаў было процьма, і насіўся ён па сваіх дзялянках, як воўк, — было не да мяне. А тады, напэўна, у бацькі быў ці то добры настрой, ці вальней стала з работай, прапанаваў вечарам:

— Не хочаш заўтра са мною ў лес?

— Хачу! — адразу ж адказаў я, як бы баючыся, што ён перадумае.

У мяне адразу заныла соладка сэрца, мройная і шчымлівая асалода прадчування дзівоснага і незвычайнага апанавала мною, напоўніла ўсю маю дзіцячую істоту, і я не знаходзіў сабе месца: і не раз, і не два правяраў гумовікі і анучкі, сумку са сцізорыкам і маленькай сякеркай, якую ранічкай утыркну за папружку і буду, як дарослы, крочыць следам за бацькам.

Бацька ў мяне чараўнік, няйначай. Ён ведае кожную сцяжынку ў сваім абходзе, кожнае дрэва — здаровае і хворае, як ведае, якія звяры жывуць у яго кварталах і дзе. Да гнязда чорнага бусла бацька

мяне прывозіў летась, і мы з гадзіну пазіралі на яго са свайго сховішча. Не ведаў, што бацькавы назіранні, а асабліва запісы ў тоўстым сшытку, праз пятнаццаць гадоў дапамогуць мне не толькі напісаць аповесць пра нашую пушчу і Крушнянскія бары, а і стануць яны багатым матэрыялам для сталічнага біёлага, які разам з бацькам створаць падручнік па фітатэрапіі...

Можа, ад яго, ад бацькі, і перадалася мне неадольная цяга да прыроды, да ўсяго, што акружае нас, — ад травінкі і мураша да рыбіны і лісця... Адчуваў незвычайную асалоду ад таго, што зліўся з прыродай, стаў неад'емнай часткай яе, яе мікраскапічным ланцужком-звяном; калі кожны дзень адчуваеш, што ты створаны з касмічных часцінак, з неба чэрпаеш незвычайную сілу, умееш накопліваць энергію і распараджацца ёю па ўменню і разуменню, — то прырода прыняла цябе, атуліла сваім цяплом.

Бацька мой — дзівак. Ніколі не есць мяса. Ён траваед. Сыраед. Есць усё сырое — бульбу і буракі, прарошчаныя боб, гарох і жыта. Тлумачыў, калі дапытваліся, што чалавек створаны Богам самым бяскрыўдным, дабрачым і пяшчотным. А агрэсіўнасць і зло з'явіліся ў чалавека з таго часу, калі ён забіў жывёліну і сасмажыў яе мяса на кастры і з'еў яго. Чалавека бацька параўноўваў з каровай, са свіннёй, даводзіў, што і язык, і кішэчнік у нас аднолькавыя — для пераварвання сырой, натуральнай стравы. Казаў нават, што і хлеб шкодны для чалавека. Ну, тут ужо я не мог з ім пагадзіцца. Хлеб? Гэта ж аснова жыцця!

Толькі праз шмат гадоў, калі мяне патрэ жорстка жыццё, калі мяне пашкамутае Афган і неба здасца ў капеечку, калі я паўстану перад выбарам — альбо жыццё, альбо смерць, я паслухаюся дзеда Рыгора, які ў цяжкія хвіліны прыходзіць да мяне, каб паўшчуваць ці падказаць адзіна правільнае рашэнне ў маім цяжкім выбары.

— Унучак, калі ты не паверыў свайму бацьку, — тлумачыў дзед Рыгор, шкадуючы, што я такі неразумны, выхаваны на дурных кніжках ленінска-сталінскай сістэмы, што нам навязвалі прымусова ў школе, — то навучыся вучыцца ў жыцця. Слухайся разумных людзей. А выбавіць цябе ад смерці ўзводны... Калі яму паверыш, то будзеш жыць, унучак. Ты павінен прачнуцца, скінуць са сваіх вачэй пеляну невуцтва і папяровага розуму. Вашыя ідэі, адобраныя ўрадам і роднай партыяй, закліканы зрабіць з вас пакорных рабоў, маленькіх чалавечкаў, злых і агрэсіўных, якія па загаду «правадыроў» гатовы кінуцца ў бой і страляць, ламаць, крушыць...

Дед знік, як і не было яго, а я доўга ляжаў у прапахлай ёдам і нашатырам палаце і ніяк не мог даўмецца, што ён хацеў мне сказаць,

чаму навучыць, ад чаго засцерагчы. І пры чым тут узводны — наш смелы і адчайны камандзір, які не ганяў нас без сэнсу на душманаў. Бярог нашыя жыцці.

Але пра тое не цяпер... То тэма асобная, вельмі важная для мяне. І не толькі для мяне.

Я ўдзячны яшчэ бацьку, што ён адкрыў мне дарогі і сцежкі ў сваім лесе, навучыў разумець яго, як самога сябе. І адкрыў таямніцу, пазней ужо, бадай, самую галоўную. Ён вадзіў мяне кожным разам праз адно і тое ж месца — Барсучынае котлішча, дзе, ідучы дадому, скідвалі свае сумкі і адзенне, каб упасці на мяккую цёплую зямлю і адпачыць, набрацца сіл.

Не ведаю чаму, але нас абавязкова аблытвала адразу дрымотка, нават агортваў моцны сон — не доўгі, моцны, а так, на паўгадзінкі, не болей. Але пасля таго я бачыў, як на маіх вачах маладзеў бацька, у яго вачах свяціўся нейкі дзівосны агонь, голас яшчэ больш мякчэў, і ад яго сыходзіла магутная дабрыня. Хада пасля гэтага была спружыністая, лёгкая, ногі амаль і не датыкаліся да зямлі — як скінуў бацька з плячэй сваіх гадкоў з трыццаць. Тое ж было і са мной — не ішоў, а ляцеў. Тады ж, помніцца, мне і сны сніліся — быццам лётаю я над сваімі Крушнікамі, кожнуго хату зверху бачу і людзей пазнаю ў кожным двары.

Не ведаў я тады, што бацька вазіў туды нямоглага прафесара Андрэева з Менска, якога родзічы, даведаўшыся нейкім чынам пра лекарскія здольнасці бацькі, прывезлі да яго. Дактары з бальніцы выпісалі старога, сказалі родзічам, што жыць яму засталося з месяц, намякнулі, каб самі давалі якой рады, што медыцына далей бяссільная — ніякія лекі і сучасныя медапараты не памогуць.

Бацька, як я памятаю, прарошчваў тады жыта і гарох, паіў цудадзейным адварам — урынай. А каб было зразумела — мачой. Пастаянна з ім, прафесарам, знаходзілася і яго дачка — Паліна Аркадзьеўна, выкладчыца матэматыкі ў інстытуце. Прыгожая, ветлівая. Мне здавалася, што яна ніколі і не спала — усё сядзела каля бацькі, пазірала на яго. І разам у Барсучынае котлішча ездзіла. Колькі разоў бацька яе не браў з сабою, і для мяне то было тайнай. Ці то бацька не хацеў выдаваць свае сакрэты, ці па якой іншай прычыне, не ведаю... Дзіва было адзін раз. Машка, кабыла, прыйшла дадому з пустым возам — без бацькі і прафесара. Занепакоілася Паліна, на маці позірк кінула, каб тая пацвердзіла нейкую бяду, і, нічога не ўбачыўшы ў матчыных вачах, кінулася да Барсучынага котлішча.

Далёка ад вёскі не адбегла — метраў сто — і ўбачыла, і сваім вачам не паверыла — насустрач ішоў яе бацька з леснікам. Ішоў без

падтрымкі, сам, упэўнена перастаўляючы ногі. Не так хутка, як бацька, але ж і не адставаў.

— Татачка, ты жывы! Божачка, якая радасць! — упала жанчына бацьку пад ногі, укленчыла, абняла, прытулілася. — А я думала...

— Кепска думала! Ніколі не трэба думаць пра горшае! — гаварыў Аркадзь Андрэевіч, паглядаючы на лесніка. — Скончыліся, дачушка, мае пакуты. Усё. З таго свету вярнуў мяне Канстанцін Сямёнавіч.

Жанчына паднялася. Яна плакала ад радасці. Абняла майго бацьку:

— Каб не вы, не бачыць мне свайго тату ў жывых. Не ведаю, чым вас аддзячыць, якія словы сказаць.

Бацька ўсміхаўся:

— То не я, то лес яго вылечыў.

І бацька гаварыў праўду, не маніў.

Помніцца, праз тыдзень яны з'ехалі. Іх забрала легкавушка з Менска. А яшчэ Паліна Аркадзьеўна прыехала зноў. Каб разлічыцца. Прывезла шмат грошай. Колькі, не ведаю, але бацька не ўзяў. Вярнуў назад. Раззлаваўся нават за плату. Настояла толькі жанчына на адным — каб узяў бацька адрэзы мацеры на сукенку і яму — на касцюм.

Дапытвалася, чым і як вярнуў ён з таго свету бацьку. Думала, што быў у гэтым нейкі вядзьмарскі сакрэт ці нейкая іншая сіла.

— Ніякіх сакрэтаў, Паліна Аркадзьеўна, — адмоўна круціў галавой бацька, усміхаўся з яе думак. — Усё ж лячэнне было перад вашымі вачыма.

— Не можа таго быць.

— Значыць, можа.

— Дык, выходзіць, урына і сырая яда?

— І — лес.

Жанчына задумалася — і верыла, і не верыла. Бацька казаў праўду, але ўтаіў адну маленькую дэталь — мясцінка ў лесе, Барсучынае котлішча, якое замацоўвала лячэнне, давала энергію і сілу і, галоўнае, абнаўляла кроў, умацоўвала сасуды. Хаваць гэты сакрэт бацька меў поўнае права — ён належаў толькі яму. А перайшоў ад дзеда Рыгора. А таму — ад дзеда Міхася...

— Канстанцін Сямёнавіч, а можна я буду прыязджаць да вас зрэдку? — папрасіла перад ад'ездам жанчына, адчуваючы сябе ў нечым вінаватай, што не змагла, як думала, аддзячыць бацьку за выратаванне роднага чалавека.

— Чаму ж не? Прыязджайце. Месца ўсім хопіць. На чарніцы прыязджайце, на грыбы...

— Дзякуй вам.

І зноў жа — я не пра тое. Заносіць мяне апошнім часам, спыніцца не магу. Не ведаю і сам, ад чаго такое. Хаця ж — чаго заносіць? Усё, пра што расказваю-ўспамінаю, мае непасрэднае дачыненне да агульнай тэмы — кожнаму з нас у жыцці выпадае білет удачы (ці няўдачы?), толькі ад нас залежыць, як ім распарадзіцца, як скарыстаць яго, а ў выпадку ўдачы (ці шчаслівага супадзення абставін) умела выбраць далейшую дарогу.

Ці заўсёды ў нас хапае розуму і клёпу, каб удачу ўзяць да сябе на службу, ёю памножыць ранейшыя добрыя пачынанні?

Пэўна ж, не — не заўсёды і не ўсім...

## 3

Ранак росны, халодна-бадзёры.

Скрозь густое голле і лісце, скрозь высозныя ствалы медзяных сосен прабіваюцца промні малінавага сонца; ад узболатку, дзе яшчэ не ўвайшлі ў сілу ягады малін і ажын, калі яшчэ далёка да чырвані каліны, дзе ўецца спорна па алешынах уверх хмель, плыве церпкі водар, кружыць галаў; у сухой вершаліне дуба шчыруе без стомы дзяцел — выдзёўбвае шышкі, дробная пацяруха ляціць жоўтым сняжком і сцелецца па зямлі...

Я зажмурваю вочы і чую, як бяжыць мураш да свайго жытла, несучы на спіне груз у сем разоў важэй, чым сам; адчуваю, як паўзе гадзюка па сваёй сцяжыне і выбірае месца, дзе можна стаіцца і адпачыць; разумею, як нараджаецца вецер у лясных нетрысках, набірае сілу, мацнее і імкнецца на волю, туды, да высокіх вяршынь, дзе ніхто і нішто не перашкодзяць яго свавольству — і ён стане магутным Ветрам; мне вядома, як набрыньвае сілай маладая бярозка, быццам цікаўнае дзяўчо, наліваецца маладой сілай, жаданнем і прыгажосцю...

Але чым далей і болей пазнаю яго і адкрываю, тым больш адчуваю, што я невук і дылетант. Тым больш разумею, чаму мне непадуладны таямніцы бацькавага лесу.

Але тое я ўцяміў пазней, значна пазней...

Прайшоўшы палову шляху, я знячэўку адчуў, не, найперш зразумеў, што мяне чамусьці не радуе гэты дзень, які падарыў мне бацька, свята адкрыцця таямнічай радасці я не адчуў. Чаму? У маёй душы пасяліліся незразумелая трывога і страх — як быццам мяне наперадзе чакала нешта горычнае і непадуладнае майму дзіцячаму ўяўленню і розуму.

Следам улеглася за намі нейкая жоўтая птушачка — ці не амялушка? — з чорненькімі вочкамі-бісерынкамі, шустрая, як праменьчык сонца, яна шмыгала ад дрэва да дрэва, ад галінкі да галінкі, гаварыла нешта на сваёй птушынай мове і злавалася, што яе не чуюць, — уздрыгвала, як быццам ёй было холадна.

Я міжволі спыніўся. Мяне нешта спыніла. Пільна прыгледзеўся да птушачкі. Што яна ціліўкала? Каму? Мне? Я не разумеў яе мовы, але ж кожным кароткім ціўканнем усё глыбей і глыбей пад сэрца шыўся калюча-млявы халадок, і трывога ўзрастала ўсё больш і больш.

Бацька, здавалася, не чуў амялушку і нічога не заўважаў наўкола — мераў зямлю размашыстым крокам, думаў заўсёдную леснікоўскую думу. У такія хвіліны роздуму я яму ніколі не замінаў, трымаўся воддалеч.

Азіраючыся на амялушку, я пабег даганяць бацьку.

На дзялянцы сустрэліся з братамі Аляшкевічамі — Зміцерам і Аленціем, дужымі дзецюкамі, якія і ў жонкі пабралі родных сясцёр — Лёдзю і Анюту, дачок удавы цёткі Антолі. Былі з імі і дзядзька Віталь з другога канца вёскі, Мікіта, малады хлопец, які толькі што вярнуўся з войска.

— Прывітанне, мужыкі! — паручкаўся бацька з кожным.

— Дзень добры! Здароў быў! — адказалі разам. — О, ты сёння з памочнікам — дзве нормы забяспечаны...

— А як жа, мо і тры нарэжам, га, сын? — смяецца бацька, паглядаючы на мяне, хваліцца: — Амаль мужчына ўжо... Бацьку вунь даганяе.

Пасядзелі, пагаманілі, выкурылі па цыгарэціне. Потым, не згаворваючыся, падняліся, пайшлі да намечанай дзялянкі, у якой намерыўся бацька рабіць расчыстку ад старых і хворых дзеравін. Там раслі бярозы — пераросткі, яны вымкнулі ў неба, іх мог паваліць і разламаць вецер ці буран.

Гэпнулася вобземлю першая бяроза, за ёй другая.Мікіта спорна ўпраўляўся «Дружбай» — і пырскі жоўтага пілавіння ляцелі пад ногі, пакрываючы сівы ціпец і мох. Памагаў і я, махаючы сякерай, — абсякаў сучча, складваў галіны ў лаўжы, каб потым спаліць.

Мужчыны жартавалі, перакідваліся словамі, рагаталі са сваіх жыццёвых няўклюдзіц, смешных эпізодаў жыцця — пачутых ці перажытых.

А я не пераставаў услухоўвацца ў цішыню, шукаў позіркам амялушку — дзе яна, мо зляцела куды. Не, яна і не адлятала нікуды, пырхала непадалёк ад нас, ціліўкала, чорным вочкам страляла ў мяне,

як крычала ўсё роўна: «Бяжы за мною, бяжы за мною — памагчы трэба!..»

Мусіць жа, я адзін і ўчуў яе. Усе астатнія былі занятыя сваёй работай, а прыслухацца і ўбачыць маленькую жывую істоту ў іх не хапіла слыху — не ў тым жыццёвым вымярэнні жылі.

І зноў я не адгукнуўся на яе покліч.

Мужчыны абедалі ў цяньку, гэтак жа рагаталі без дай прычыны. А потым і кімарнулі, лежачы на зямлі.

Лёг і я збоч — пад маладую куртатую бярозку.

Амялушка села над маёй галавой. Я замілавана глядзеў на яе, і карцела пагаварыць, як з чалавекам, папытацца ў яе — што так хвалюе, непакоіць? Па чыёй душы ўбіваецца — птушынай, чалавечай? Чаго так просіць-умольвае? Мо які сваволнік гняздо разбурыў і яна просіць дапамогі, каб не загінулі яе дзеці?

І мяне як што падштурхнула, падкінула з зямлі. Я ўскочыў, наблізіўся да яе. Яна як быццам абрадавалася, адчуўшы мае намеры.

— Вядзі, птушка! — загадаў я ціха і адразу паскорыў крок, пашыбаваў следам. — Я памагу табе!

Яна ляцела паперадзе, вяла мяне па сцежцы, потым крута павярнула ўправа — у гушчарняк — і ціліўкала ўсё званчэй і званчэй, пацвярджаючы, што яна дамаглася свайго, дастукалася да свядомасці чалавека. Сумнення не было — цяпер я яе не пакіну, буду бегчы за ёй праз любыя нетры. Я прабег балотца з ванючай тванню, пырскі ўдарылі па твары, але я не звяртаў увагі — стараўся не згубіць амялушку. Узгорак з чэзлага сосніку я прабег што было сіл...

І тут я пачуў крык.

— Памажыце! ...амажыце! — крычаў мужчына знясіленым і хрыплым голасам, бегаў вакол глыбокай калюжыны, у якой загрузла, вышэй колаў, легкавушка. — Людзі добрыя, памажыце!..

Калі я падбег да яго, не разумеючы, што здарылася, ён упаў на калені перада мной, хлапчуком, прасіў выратаваць ад нечага страшнага і непапраўнага.

Толькі цяпер я ўбачыў — як хто засланіў перад гэтым вочы, — што пярэднія дзверцы «жыгулёнка» былі прачынены і яны ж заціснулі дзяўчынку, якая спрабавала, пэўна, вылезці з машыны, ды папалася нечакана ў такую пастку — палавіна яе, з жывата, была ў машыне, а рукі, плечы і галава былі наверсе. І чым больш засмоктвала твань легкавік, тым мацней дзверцы сціскалі дзяўчынку. «Жыгулі» ўсё глыбей і глыбей пагружаліся ў брудную ваду...

Я паспрабаваў яе пацягнуць, узяўшы пад пашкі, але яна закрычала ад болю — дзверца мёртва ўціснула яе, ужо як не счарнела ўся...

Дзяўчынка ўжо не крычала — яна сплакалася і знемаглася. Пакрысе, сантыметр за сантыметрам, багна ўцягвала ў сябе легкавік — было жахліва назіраць і нічога не зрабіць для выратавання жывой душы...

— Я маментам! Тут мужыкі недалёка! — крыкнуў я і стрымгалоў кінуўся ў кустоўе, адзначаючы пра сябе, што толькі мужчыны могуць выбавіць малую з палону. Толькі б яна засталася жывой да іх прыходу.

Бегучы, яшчэ прыкмеціў, што голасу амялушкі не было чуваць — значыць, яна прылятала за дапамогай да людзей. Ды не той адгукнуўся, хто трэба быў, — які я збавіцель? Няўжо амялушка адчувала няшчасце з раніцы, калі ляцела за намі? Тады ж і легкавушка не праязджала там. Прадчувала няшчасце?.. Прасіла, стукалася ў нашы сэрцы, каб мы папярэдзілі бяду?

Я бег і ашчаджаў сілы, каб хапіла яшчэ дабегчы і назад, бо мужчыны маглі і не ведаць таго месца...

Яны ўжо шукалі мяне, спалохаўшыся, што я некуды знік, гукалі.

— Тата, там бяда... туды трэба... хутчэй... — стараюся крычаць, але не было ў мяне голасу, паказваю толькі рукой у той бок. — Бяда там... Дзяўчынка памірае ў машыне — заціснула дзверцай, і легкавік грузне ў багну...

— Які легкавік? Дзе?!

— У Міколікавым бродзе. Ратаваць трэба! Хутчэй!..

Бацька нешта зразумеў, скамандаваў, каб беглі туды. Яны забыліся пра мяне. Я ж сядзеў, змакрэлы, аддыхваўся, набіраўся сіл. А пасля і сам пабег іх даганяць — быццам ад маёй дапамогі там залежала жыццё дзяўчынкі.

Калі ж я прыбег на тое месца, то ўбачыў, што мужчыны выбілі ў легкавушцы вокны, дручкамі падважвалі яе, стараючыся вырваць яе з багны, але нічога ў іх не выходзіла. Мікіта залез наверх, хацеў, як і я, выцягнуць дзяўчо, але клубы ўпіраліся ў метал і не адпускалі. Прорва балота, як пачвара, засмоктвала легкавік у сябе, як старалася праглынуць...

— Мужчынкі, памажыце, азалачу, калі ўнучку ўратуеце! — прасіў дзяцюк, поўзаў на каленях, размазваў па твары бруд і слёзы. — Век на вас маліцца буду... Пашкадуйце яе, чым жа яна саграшыла перад Богам?

— У вайну ты маліўся добра, ведаем, — пра нешта намякнуў Зміцер Аляшкевіч. — Не цябе шкода, а яе, нявіннае дзіця...

— Ёй памажыце. Маё жыццё забярыце, ёй аддайце...

Твар у дзецюка чорны, як у негра, чорныя пісягі сцякаюць па шыі на грудзі, вочы чырвоныя, крывяныя, умольныя.

— Мо б «Дружбай» разрэзаць? — падказвае бацька.

Я адчуў дзікасць сітуацыі — кагорта мужчын, дужых і здаровых, а зрабіць нічога не могуць — бездапаможныя перад смерцю. А на вачах жа гіне дзяўчынка...

— Не возьме, — сумняваецца Мікіта, але і тут жа абураецца: — Дык я ж, маць тваю, не ўзяў яе... Адкуль мне было ведаць пра такое?

Ні сякеры, ні лома... Як на злом галавы. Чаму, чаму я не здагадаўся падказаць, каб сякеры з сабою ўзялі, — мо б выламалі, выбілі дзверцы, не можа быць, каб не прыдумалі чаго... Збегаць? Але туды паўгадзіны, назад столькі ж. І так, напэўна, ужо позна — дзяўчынка ўжо схіліла галаву, бездапаможна абвялі рукі...

— Людзі! — зразумеў дзяцюк, пабег, плюхнуўся ў гразь, абняў унучку, пачаў цалаваць яе, яшчэ больш плакаць. — Чаму мне такую кару прыдумаў Бог? Чаму не мяне забраў на той свет? А-ааа!.. Чаму, скажы, Божа?!

Я ўткнуўся тварам у жывот бацькі і таксама плакаў, як той дзяцюк.

Мужчыны глядзелі строга, насупіліся, клялі сваю бездапаможнасць.

Справа загудзела машына, і дзядзька, кінуўшы малую, спатыкаючыся, кінуўся насустрач, але ніяк не мог выбавіцца з балотнай твані, падаў. Пад'ехала машына, і вадзіцель нейкі час не мог зразумець, што ад яго хочуць, — чалавек хрыпеў, паказваў на легкавушку, і ні слова нельга было разабраць...

Дзяўчынка была непрытомная.

— Які чорт цябе сюды занёс? — мацюкаўся вадзіцель. — Я і то баюся сюдой ездзіць...

Ён падчапіў тросам «Жыгулі», выцягнуў на цубкі бераг. Пасля папрасіў у мужчын закурыць — дрыжачымі рукамі трымаў цыгарэціну.

Толькі пасля гэтага я асунуўся на зямлю — страціў прытомнасць. Скрозь туман свядомасці чуў, як бацька гаварыў рабочым:

— Вы ідзіце, а я з сынам да Барсучынага котлішча пайду... Дома пакуль нічога не кажыце.

— Добра, зразумелі.

Ён некуды нёс мяне, шаптаў і хукаў на вуха, потым паклаў на зямлю. Ляжаў я доўга і не адразу апрытомнеў.

Першае, што я ўбачыў потым, гэта разгалістыя галіны ліпы — то было тое святое месцейка — Барсучынае котлішча, куды прывозіў бацька хворага прафесара.

— Нічога, сын, нічога, на сваім вяку і не такое пабачыш, — казаў бацька, кранаючыся да майго лба, — дакрананне да чужога гора — рэч непрыемная. Шкадую, што ўзяў цябе сёння з сабою.

— Што ён у вайну зрабіў? Пра нешта напамінаў Зміцер Аляшкевіч.

— Паліцаем ён, сын, быў у вайну. Шмат людзей загубіў. Праклялі яго людзі...

— Але ж яна, тая, што загінула на нашых вачах, невінаватая, — у мяне зноў на вачах слёзы, і зноў выплывае яе воблік — вялізныя вочы, вось-вось выскачаць з арбіт, яе перадсмяротны хрып і счарнелы твар, і я захліпваюся зноў у горы, не могучы забыцца пра тое, што было на маіх вачах, што ўвайшло ў мяне на ўсё жыццё...

— Невінаватая, гэта ты правільна сказаў, — згаджаецца бацька і дастае аднекуль слоік з цёмна-карычневай вадкасцю, — вазьмі во выпі, табе адразу стане лягчэй...

Я паслухмяна выпіў, не адпускаючы бацькавыя пальцы ад слоіка, адчуваў, як ад яго рук сыходзяць цеплыня і дабратворная сіла. Яна ўлівалася ў мяне і з зямлі, на якой я ляжаў, і аднекуль зверху. У мяне мацнелі рукі і ногі, яснеў розум. Асабліва пругкімі сталі рукі — імі хацелася ўзмахнуць і, як у дзіцячым сне, узляцець пад воблакі, не дайсці дадому, а даляцець, плывучы над лесам...

— Тата, а што гэта са мной было? — дзіўлюся я і нічога не разумею.

— Такія відовішчы не для дзіцячага сэрца.

— Тое я зразумеў. Пра іншае я — ты ўліў у мяне нейкую невядомую дагэтуль сілу. Як гэта табе ўдаецца?

Бацькаў твар побач — нада мной. Я бачу яго вочы — па-маладому сінія, бы васількі ў жыце, паголены падбародак, светлыя, бы пшанічная салома, валасы. Ад яго патыхае нейкім незвычайным пахам. Ніколі і ад нікога я такога не чуў. Ад чалавека, які не курыць, не п'е віна і гарэлкі, не есць мяса, смажанага і печанага.

— Гэта не я, сын, гэта лес.

— А і хлусіш ты, бацька. Ты так і прафесару казаў. Чаму ж мне праўду не гаворыш?

— Праўда, я не падманьваю цябе. Але тое ты пакуль не зразумееш. Як падрасцеш, як жыццё закруціць цябе ў свае віхуры, тады прыйдзе пара пагаварыць пра тое. Тады я табе і перадам усё, што ведаю, чаму навучыўся. А цяпер яшчэ рана. Зразумеў?

— Здаецца, зразумеў.

— Вось і добра. А цяпер табе пара ўставаць — цяпер ты вылечыўся ад сваёй памаракі, але маленечкі пісяг ад сённяшняга ў цябе застанецца. Ведай пра тое.

...Позна вечарам мы вярнуліся дадому. Ужо прыгналі з лесу статак пастухі, і пасля яго асеў на зямлю густы пыл. Маці ведала пра ўсё, занепакоілася за мяне, кінулася насустрач, абняла, прыціснула да сябе. А я слаба ўсміхнуўся ёй, каб хоць усмешкай супакоіць яе.

— Як на згубу прадаў тыя латарэйкі, — ноччу скрозь сон чуў, як маці шаптала бацьку.

— І не кажы. Хто ведаў.

Гэта пасля я даведаўся, што адбывалася на самай справе з тым дзецюком-паліцаем з далёкай ад нас вёскі. П'яніца, калгасны каваль Бронік Засухін, паміраў, так хацеў выпіць. Да паліцая былога прыбег — пазыч, Парфёнавіч, пляшку самагонкі. «А чым разлічвацца будзеш?» — спытаў Дзяніс. «Во на час магу латарэйкі жончыны даць — дзесяць штук». Згаварыліся. А праз тыдзень у газеце розыгрыш надрукавалі. Дзяніс не дурань, адразу ж кінуўся на пошту, каб праверыць. І — «Жыгулі»! Жонка Засухі прыперла да сценкі Броніка — дзе латарэйкі? Прызнаўся. Пабегла да Дзяніса, а той кукіш пад нос ёй — ведаць не ведаю ніякіх латарэек, наплёў твой алкаголік. А жонка Засухі перапісала перад тым нумары ў блакнот, таму і ведала, які нумар аддаў паліцаю...

Праз месяц зяць прыгнаў у вёску новенькага легкавіка. Як ні сварылася пасля Зінаіда, як ні плакала, адказ той жа — нічога не ведаю, то зяць і выйграў сам легкавіка. Засуха яшчэ тайна бегаў, упрошваў, каб хаця пляшку паставіў за такі падарунак, — кукіш з маслам атрымаў...

Бацька зноў даў мне выпіць таго ж адвару, ад чаго я заснуў моцным і глыбокім сном. Прачнуўся толькі назаўтра пад абед.

На душы, здаецца, было спакойна і хораша.

Бацькі радаваліся майму выздараўленню.

Але мяне доўга яшчэ трывожыў успамін аб трагедыі, якая адбылася каля Міколікавага броду...

— Цікавая гісторыя, — уздыхнуў Адам. — Ты ж пра бацьку ніколі не расказваў.

— Не расказваў. Не было патрэбы. А вось сёння прыйшла пара.

— А што сталася з тым паліцаем?

— Розум страціў. Хадзіў потым па вёсцы, шукаў сваю ўнучку. Прасіў людзей, каб памаглі з балота выцягнуць машыну, — абяцаў разлічыцца латарэйкамі...

— Во як яно здараецца ў жыцці.

— Ніводная фантазія такога не намалюе.

— Чалавечы мозг не здольны прыдумаць такія сітуацыі, якія падсоўвае нам само жыццё.

А я міжволі назіраў за Джо, які стаяў да мяне спінай.

Куфель піва, што я паставіў каля яго, стаяў некрануты. Хлопец стаяў нерухома, абапершыся локцямі аб брыжык століка. На ім адзенне вісела як на калку, — звісала, ні за што не трымалася...

Мы дапілі сваё піва. Я ўспомніў, што мне неабходна было наведаць гандлёвы аддзел аблвыканкома — забраць паперы пра наяўнасць магазінаў, у якіх была наладжана механічная праца. Атрымлівалася смешна і недарэчна. Камсамольскія арганізацыі кінулі лозунг «І за таго хлопца». Дзяўчына, нацягаўшыся за дзень скрынак, кошыкаў грузу — не адну тону, аж жылле парвала, павінна яшчэ адцягаць «і за таго хлопца», які не вярнуўся з вайны. Да абсурду даходзілі цэкоўцы, выдумляючы чарговую ініцыятыву...

— Ну што — пагналі нашы гарадскіх? — гляджу я ў светлыя вочы Адама, намякаючы, што наш час наталення душы і страўніка скончыўся, што нам пара разыходзіцца.

— Праз тыдзень зноў убачымся?

— Сляпы сказаў: «Пабачым...»

Перад тым як пакінуць піўное поле, азірнуўся: Джо стаяў нерухома і ў той жа паставе. Як акамянеў. У мяне было жаданне падысці да яго, нешта сказаць. Але ўнутранае пачуццё падказвала, што яму ў гэтыя хвіліны ніхто не патрэбен — ні вораг, ні сябар, тым больш той, хто будзе яму спачуваць.

І тым мацней ува мне нараджалася ўсё большае і нецярплівае імкненне даведацца пра яго лёс. Нешта прыцягвала да яго, нехта падштурхоўваў, як некалі тая ж маленькая птушачка амялушка.

Супакойвала хіба думка — я знайду яго тут абавязкова, калі прыспее час пагаварыць. З цягам часу я навучыўся не падганяць падзеі, не прыспешваць іх, тое, што трэба, само паспее і зваліцца ў рукі... А не зваліцца, дык што ж, так таму і быць.

Адам аднёс бакалы да бочкі, падзякаваў жанчыне.

Праз хвіліну, пацiснуўшы адзін аднаму рукі, мы разышліся — кожны пакіраваў сваёй дарогай...

## 4

Я дапісваў чарговы допіс пра той жа гандаль.

«Адлюблю і... за таго хлопца». Так назваў. Злосна напісаў, не быў упэўнены, што і надрукуюць. Я да таго часу перабраўся ўжо ў

рэспубліканскую маладзёжную газету, але быў «на кусце» — уласным карэспандэнтам па вобласці. Не быў упэўнены, што рэдактар надрукуе напісанае — падрываю ж цэкоўскую ініцыятыву, абвяргаю яе. На кошык, вядома, працаваць не хацелася, але дзед Рыгор рабіў сваю справу...

Заклеіў канверт, падпісаў адрас.

На маім стале забулькатаў тэлефон. Па працягласці званка — міжгорад. Разважаў — падымаць слухаўку ці не? Мо зноў якое звыштэрміновае заданне, а я ўжо выклаўся, сілы аддаў на бегатню, а потым на пісаніну.

— Тута я, — прывычна адказваю на любы званок — дабіваліся мяне знаёмыя ці незнаёмыя людзі.

— Маё шанаванне, Антон, — чую ў слухаўцы знаёмы голас загадчыцы аддзела камсамольскага жыцця Наташы Палынскай. — Як ты там? Напісаў?

— Заклеіў канверт. Але табе можа не спадабацца.

— Чаму?

— Я не падтрымаў той заклік. Абвергнуў яго...

— Нешта новенькае, — Наташа хмыкнула на другім канцы дроту, засмяялася. — А што? Дасылай. Шэф сёння-заўтра ў Маскву збіраецца, паспрабую нешта зрабіць.

— Не пабаішся? Ты ж яшчэ не чытала.

— Не пабаюся. Калі ты смелы, то я тым больш...

Бацька Наташы працаваў у ЦК партыі, і гэта давала мне нейкае спадзяванне.

— Дзякую за падтрымку.

— Дзякую за радкі... Слухай, Антоне, ведаю, што насядаю. Але ж паслуга за паслугу. Невялічкая просьба. Схадзі ў любую школу на камсамольскі сход. Ад сілы тры староначкі. Паласу рыхтую, і геаграфія трэба. Паслязаўтра раніцай перадасі па тэлефоне? Зможаш?

Яшчэ б! Згодзен за такую падтрымку.

— Удакладненне — дадатны ці адмоўны?

— На твой погляд. Хоць разбівай ушчэнт...

— Выдатна! Тады чакай званка.

Наташа кладзе слухаўку, а я яшчэ слухаю кароткія пазыўныя: «так, так, так, так...» На гадзінніку тры гадзіны дня. Зразумела, што сёння позна ўжо дамаўляцца. Калі здолею, то толькі на заўтра. А вечарам і напішу, раніцай падпраўлю — і можна дыктаваць.

У даведніку выбіраю наўздагад любую, але далей ад цэнтра, школу. Набіраю нумар. Акурат на дырэктрысу нарваўся. Ветліва

назваўся, гавару, што ў гарана параілі менавіта пад'ехаць да іх у школу.

— Прыязджайце. Заўтра а палове трэцяй гадзіны будзе такі сход. У выпускным дзесятым, — запрасіла Мая Карпаўна — так назвалася жанчына.

— Дзякую. Буду ў вас.

Мяне заўсёды ахоплівае бадзёры настрой, калі нясу канверт з артыкулам да паштовай скрынкі. Па-першае, прыходзіць супакаенне пасля нервовага напружання (а калі пішаш крытычны, то і каленкор працы іншы — не заўсёды раскажуць патрэбнае, і таму трэба шмат настырнасці, хітрасці, нават нахабства, каб дамагчыся свайго), потым прырастаю да машынкі, і пачынаецца галоўнае дзейства...

Раней, памятаю, прывык пісаць толькі залачоным пяром кітайскай ручкі. І калі працаваў на Палессі ў райгазеце, наведваючы ў полі камбайнераў, згубіў любімую ручку. Для мяне тое было сапраўднай трагедыяй. Доўга не мог прывыкнуць пісаць другой, а шарыкавая нават і не слухалася, і стамлялася рука. Кітайская ж пісала «сама» — я толькі трымаў яе ў пальцах.

Губляў я ручку другі раз. Першы — калі вучыўся ў школе, ці не ў чацвёртым класе. Любілі мы, падлеткі, гуляць на прасторным школьным двары, дзе былі турнік, арэлі і драбіны — нахіленая і прамая. Тады я з бацькам назбіраў на здачу чарніц, і маці выдзеліла мне тры рублі. А я доўга мерыўся купіць у нашай краме просценькую самапіску. Трыццаць капеек усяго каштавала яна... І чарніла яшчэ развёў, раструшчыўшы стрыжань хімічнага алоўка. Пісала выдатна і, галоўнае, доўга, і мачаць у чарніліцу не трэба было. Не развітваўся з ёю, насіў пры сабе.

Аднойчы загуляліся да цемнаты. Калі ж збіраліся ісці дадому, ненарокам памацаў кішэньку — ручкі не было. Адразу адчуў, як ад шкадавання і гора сталі мокрыя лоб і патыліца. Для мяне то была вялікая страта. Заснуць не мог, усё думаў пра самапіску. Пад раніцу толькі агарнуў мяне сон. Яскрава памятаю, што прыснілася: бягу следам за Лёнікам, сваім сябрам, нешта крычу яму і даганяю, а з маёй кішэнькі вылятае самапіска і падае прама пад драўляную паламаную скрынку, што ляжала пад плотам...

Усхапіўся адразу, спехам насунуў штаны і ціха, каб не пабудзіць каго, выскачыў у двор. Сапраўды, пры плоце ляжала скрынка. Акурат такая ж, якую бачыў у сне. Дрыжачымі рукамі прыўзняў яе і — о Божа! — бачу яе, чакае мяне мая самапіска, у роснай траве ляжыць.

Да сённяшняга дня памятаю. Што тое было? Дзіцячы мозг разам са зрокам зафіксавалі, як ляцела ручка, а потым мне пракруцілася ў

сне? Не ведаю. Колькі пасля таго было страт і прапажы, але ніводная не прыходзіла ў сне. Прыйшла першая, мусіць, таму што для мяне была самая балючая страта і ўпершыню.

Калі ж праз нейкі час прыдбаў кітайскую ручку, амаль такую ж, якую згубіў па дарозе да камбайнераў, але трошкі большую, нават лепшую, то я ні пад якой прапановай не выносіў яе з хаты. Трымаў у самым патаемным месцы, дзе хаваю самыя важныя для сябе дакументы і рэчы, — у каробачцы з тоўстага кардону, з-пад батарэек.

А потым кітайскія ручкі сталі хобі, нават хваробай. Я іх пачаў калекцыяніраваць, складваць у тую каробачку. Пісаў то адной, то другой. Але радасці, якая была ў мяне ад яднання з той, першай, згубленай падчас жніва пад вёскай Махнавічы, не было. Не прыходзіла. Мо помста за маю неахайнасць і неабачлівасць.

Асабліва акуратна выпісваў кожны радок першых сваіх артыкулаў, што дасылаў у рэдакцыю як улкар — уласны карэспандэнт.

І ўласным стаў, можна сказаць, выпадкова. З газеты, калі я пачаў працаваць у раёнцы, запрасілі ў райком партыі. У арганізацыйны аддзел. Думалі, што раз я пішу для газеты, то змагу выдатна страчыць даклады. А я ў іх — як у касманаўтыцы... Мне да ванітаў было прыкра пісаць «благодаря идейному руководству родной Коммунистической партии мы добились определенных успехов в...». Ды яшчэ на расейскай мове. Учарашнія вяскоўцы, скончыўшы інстытут, паварыўшыся ў райкоме камсамола, ішлі напрамкі ў партыйныя работнікі. І іх потым нельга было пазнаць. І не Мікола ён ужо, а няйначай Мікалай Сяргеевіч, і не «добры дзень», а «здравствуйте», і не ўсмешка на твары, а пыхлівы партыйны выгляд... Не апраўдаў, як кажуць, спадзяванняў, не выходзілі ў мяне тыя даклады, словы не тыя падбіраў, не пафасныя.

Аднойчы сустрэў мяне дырэктар прафтэхвучылішча геалогіі, хмыкнуў, разумеючы:

— Што ты там на паўсагнутых ходзіш... І спіну не гнеш, а прыгнечаны. Ідзі да мяне ў намеснікі — сур'ёзнай справай займайся, выхоўвай маладое пакаленне. І зарплата большая, і вольны чалавек будзеш — пішы, што душа патрабуе.

Пераходу майму не пярэчылі. Здалося мне, і рады былі такому рашэнню.

Вучылішча рыхтавала бурыльшчыкаў, якія працавалі не толькі ў Беларусі, а і ў Цюмені, Іраку, Індыі, Танзаніі... Не ўтрымаўся, напісаў пра хлопцаў-выпускнікоў, якія шукалі на Палессі нафту. Так і назваў нарыс — «На далёкай буравой». Адаслаў у маладзёжную газету — і

адбылося дзіва: праз тыдзень убачыў яго — далі на ўвесь разварот. Мастак прыгожа намаляваў клішэ...

Нечакана нарыс у конкурсе заняў прызавое месца. А калі паехаў у сталіцу на курсы ўдасканальвання намеснікаў дырэктараў, зайшоў да рэдактара. Той павіншаваў мяне з творчай удачай і тут жа прапанаваў:

— Ідзі да нас уласным. Па палескім «кусце». Акурат месца пустуе...

Я, канечне ж, даў згоду.

Дырэктар, добрая душа, праводзячы мяне з вучылішча, чамаданчык усырычыў. З «Эрыкай» — нямецкай машынкай. Такога падарунка я і не чакаў. Лічу, што самы дарагі падарунак.

Напісанае ад рукі ў рэдакцыі праглядаў супрацоўнік аддзела, потым загадчык, нешта крэслілі, папраўлялі. А потым аддавалі на машынку. Тады пачала мне памагаць «Эрыка» — я перадрукоўваў напісанае ад рукі, каб ім там, у рэдакцыі, было прасцей з маімі старонкамі. Але з цягам часу падумалася: я ж раблю двайную работу. А ці нельга адразу — на машынку. З блакнота... Доўга не мог прызвычаіцца: аказваецца, гэта рабіць было нялёгка... Не клаўся радок так, як пад пяром... Разрыў нейкі існаваў. Мо з паўгода я так пакутаваў. Але ж пераламаў сябе.

Такім чынам я развучыўся пісаць самапіскай. І яны ляжалі ў мяне як музейныя экспанаты, напамінаючы пра першую страту, пра радасць дакранання залатога пяра да паперы... Як пра першае каханне, якое я згубіў, якое прынесла мне шмат творчых пакут, але не шчасце...

## 5

Камсамольскі сход, як і намячалі, пачаўся з пачаткам урокаў пасля перапынку. Дырэктар школы пазнаёміла мяне з класным кіраўніком — жанчынай у строгім касцюме, у гадах, невысокага росту. Галіна Эдуардаўна абыякава аднеслася да майго прыходу.

— Добра, пасядзіце. Толькі ці знойдзеце вы што цікавае для сябе. Звычайны клас, звычайныя дзяўчаты і юнакі, са сваімі схільнасцямі і недахопамі...

— А я і не шукаю нешта незвычайнае.

Гаварылі завучанымі і сцёртымі сказамі, нуднымі і сухімі, ніводнае слова не кранала душу — як маю, так і іх. Як адбывалі пакаранне. Прымусова. Выпускны ж клас — ніякіх зрываў ці выбухаў быць не магло.

А мне ўспомнілася чамусьці, як я ездзіў не так даўно ў Жыткавічы і мяне запрасілі баптысты на сваё маленне. Юнак, трымаючы ў руцэ Евангелле, не заглядаючы ў яго, пяцьдзесят пяць хвілін пераказваў раздзелы з яго, як не трэба садзіць плевелы ў зямлю разам са здаровым насеннем. На маленні, я ведаў, было чалавек з дваццаць з мясцовага прафтэхвучылішча. Ніводнага разу юнак не спатыкнуўся, а гаварыў так пераканаўча і натхнёна, што яму можна было верыць. Яй-богу, было б мне гадоў з восем, слухаючы яго словы, абавязкова стаў бы веруючым. Тады падумаў: вось бы нашым камсамольскім важакам такую перакананасць і ўпэўненасць! Не было яе. Не закладзена проста было ў душы камсамольцаў. Колькі і быў на сходах потым, дык ніводнага разу не пачуў, каб хоць адзін гаварыў разумна і пераканаўча. У ідэалогіі не было глебы, не было праўды, не было будучага. Смешна, але калі хто гаварыў, дык і саромеўся гаварыць, бо і сам не верыў у свае словы...

Я ж напісаў пра баптыстаў так, як і пісалі тады пад рубрыкай «У павуцінні рэлігіі». Шкадую, што так напісаў адзіны артыкул на такую тэму. Хаця ж і пісаў з сумненнем, бо і людзі спадабаліся, песні іх спадабаліся, ведаў, што ніхто з іх не піў і не курыў, не мацюкаўся, але матэрыял павярнуў так, што абвінаваціў маладых у памылковасці іх ідэалаў і жыцця... Паралельна ж пісалася нешта іншае. Я спрабаваў разабрацца з другога боку ў іх жыцці і веры. Хаця ведаў, што тое, другое, не надрукуюць...

Сход доўга і не цягнуўся — трошкі больш за гадзіну. Нічога не рашылі, ні пра што не дамовіліся... Прабалабонілі ўпустую і самі ведалі пра тое. Але ж ведалі і другое — мерапрыемства правялі.

Калі ж зноў ішоў да дырэктара школы, у калідоры заўважыў аб'яву пра другі камсамольскі сход — з персанальнай справай.

— Што ж за злачынства такое ўчыніла вучаніца?

Мая Карпаўна зняла акуляры і павесіла іх на залачоным ланцужку на грудзях:

— Ведаеце, факт непрыемны. Таня Кружнова трэціруе ветэрана вайны — іграе на піяніна тады, калі ветэран вайны кладзецца адпачываць. Яна жыве на другім паверсе, а ён на першым.

— Вы правяралі — усё так?

— Навошта? Во перада мною пісьмо ветэрана. Ён, дарэчы, і сам прыйдзе на сход, раскажа.

Расчыніліся дзверы, і ў кабінет дырэктара зайшоў невысокі юнак — пухленькі, як калабок, рухавы. Вусны дзявочыя, акуратна апрануты — як на сцэну выходзіць. Рука мяккая, вялая.

— Першы сакратар Чыгуначнага райкома камсамола Сяргей Батурын. — А мне палезла ў галаву: «А ў Батуры былі куры, іх паны паелі, каб яны павыдыхалі да гэтай нядзелі...»

— Мо ты правяраў пісьмо?

— Не. Мы рэагуем на пісьмо. Нам указаў на тое райком партыі. Даём ход пісьму.

Педагогі і самі не разумелі, чаму адбываецца такі сход. Васьмікласнікі сядзелі насупленыя, маўкліва пераглядаліся.

— Падкажыце, дзе віноўніца сходу, — шапчу я класнай, з якой паспелі пазнаёміцца перад гэтым.

— Таня Кружнова? Ды вунь яна, на другой парце — ля акна.

Дзяўчынка і не выдавала на васьмікласніцу — ледзьве было бачна яе з-за парты. Разгублены твар, азіралася то на маці, то на класную, шукала падтрымкі, у вачах скруха і недаўменне.

— Скажыце, Вера Максімаўна, сапраўды Таня можа так псаваць нервы ветэрану, што трэба яе ўціхамірваць вось такім чынам? — цікаўлюся ў класнай.

— Ды што вы... Таня? Самая ціхая ў класе і ўражлівая. Слабая здароўем. Зрок кепскі. Маці збіраецца звазіць яе ў інстытут Фёдарава. Дзяўчынка марыць паступіць у музычнае вучылішча... Дырэктар выконвае ўказанне райкома камсамола — таму і сход...

Ветэран пісаў у сваім пісьме: «...такім не месца ў камсамоле, прашу выключыць...» Вось так і не інакш. Як загад. Ніколі не ўмешваўся ў ход падзей, але тут падказала нешта, што трэба ўмяшацца... Я падняўся, пайшоў і стаў між дырэктарам, якая строга «восседала» за сталом, і восьмым класам, прамовіў:

— Дзеці! Сход з персанальнай справай — гэта памылка. Мы (хто «мы», я на той момант не ведаў) прапаноўваем вам ісці дадому і забыць пра гэты сход. Мы будзем самі гаварыць з ветэранам, калі ён прыйдзе. А Таня няхай спакойна рыхтуецца да заўтрашніх урокаў — і забудзе пра сённяшні дзень.

Нехта хацеў крыкнуць «ура», але голас абарваўся. Падняліся ўсе і, як спалоханыя вераб'і, выскачылі з класа. Толькі Таня не верыла пачутаму, як і дырэктар, якая была ашаломлена выхадкай карэспандэнта, паглядала недаўменна на мяне і на настаўнікаў. Пульхныя губы Батуры прыадкрыліся — вось-вось заляціць муха.

І ў той жа момант у клас зайшоў ветэран. Высокі, стройны, увесь сівы, але са злым позіркам — калючым, едкім. Камандзірскім тонам высветліў абстаноўку:

— А клас дзе?

— Мы іх адпусцілі, — сумелася, спалохалася дырэктар, нават прыгнулася ад яго позірку. — Мы хацелі б паслухаць вас...

— Я пра ўсё падрабязна напісаў у пісьме. Патрабую строга пакараць дзяўчынку. А гэта хто ў вас? — паказаў ён пальцам на мяне.

— З газеты... — зніякавела дырэктар.

— Вы заманілі мяне ў пастку! — закрычаў ветэран. — Гэта вам не пройдзе! Я ў абком пайду, у ЦК буду скардзіцца! З заўтрашняга дня я жыву на дачы — аб'яўляю пратэст. Я да Брэжнева дайду... Я — ветэран вайны... Я вам устрою вясёлае жыццё.

«Такі ж Таню жыўцом праглыне і не аблізнецца, — падумалася мне, і я адчуў, што чалавек ён злы і страшны. — Ён ні перад чым не спыніцца сапраўды...»

І тады з ім загаварылі настаўнікі. Маўчаў, схіліўшы галаву, Батурын — намечанае мерапрыемства зрывалася.

— Дзякуй вам, што сарвалі гэты дурны спектакль, — прамовіла класная, калі праводзіла мяне на вуліцу. — Гэта ж дадумацца да такога... Але цяпер ён будзе пісаць на вас.

— Нічога. Разбяромся, Вера Максімаўна. Галоўнае, каб Таня не перажывала, — усё будзе добра.

Я пакінуў школу і не ведаў, пра што гаварылі дырэктар, Гаеўскі і Батурын. Тое мяне не цікавіла...

Пасля я ездзіў у чыгуначны інстытут, дзе працаваў ветэран Гаеўскі. Аказалася, што ніякі ён і не ветэран зусім, а праседзеў з маткаю ў вайну дома. Сын яго працаваў вялікім начальнікам у сталіцы...

Дамовіліся з дэканам факультэта, дзе выкладаў Гаеўскі вагонную гаспадарку, што сходзім да ветэрана дадому.

— Хачу толькі вас папярэдзіць, — звярнуўся я да Веніяміна Пятровіча. — Трэба быць гатовым да ўсяго.

— Да чаго — «усяго»?

— Да нечаканых сюрпрызаў.

Дзверы адчыніў сам гаспадар. Не здзівіўся прыходу, запрасіў праходзіць. Голасу я не пазнаваў — ціхі, спакойны, нават добразычлівы. Не той, што гучаў у класе — пагрозлівы, як быццам наважваўся запужаць усіх.

— Мо чаю згатаваць?

— Не, дзякую, — адмовіўся я адразу.

Гаварылі пра тое-сёе і ні пра што канкрэтна.

— Вы пагаманіце, мне адлучыцца трэба на хвілін колькі, — сказаў я. — Хутка буду.

А я падняўся вышэй — на другі паверх, да Тані. Усміхнуўся ёй, спытаў:

— Напалохалася сходу?

У адказ толькі кіўнула галавой — непрыемна было ўспамінаць пазаўчарашні дзень.

— Забудзь. А цяпер я хачу, каб ты пайграла на тым піяніна, якога так баіцца твой сусед.

Думаў, што ў іх у хаце, над галавой Гаеўскага, але маці з Таняй павялі мяне на калідор, адкрылі суседнія дзверы:

— Яно тут, у нашага дзядулі...

І стаяла яно зусім каля процілеглай, ад Гаеўскага, сцяны. Таня сыграла некалькі эцюдаў. Іграла, мне здавалася, добра, з любоўю ці натхненнем, хаця насцярожынка жыла ў ёй, не прападала.

— А цяпер моцна, — папрасіў я.

— Як — моцна?

— Проста бі па клавішах... Так, так... Дзякую, Таня.

Я развітаўся, падзякаваў. Убачыў радасныя і здзіўленыя вочы дзяўчынкі. Дзеля такой усмешкі я гатоў быў увязацца ў любую бойку — у вачах дзяўчыны былі спадзяванне і надзея. Слязінка на дзіцячай шчацэ...

Гаеўскі і Санько гаварылі паміж сабой, голас у гаспадара кватэры быў яшчэ цішэйшы і мякчэйшы — да раны прыкладвай яго, вылечыць...

— Вы чулі піяніна? — спытаў я ў Санько.

— Не. А хто іграў?

— Я ў Тані толькі што быў. Прасіў яе, каб пайграла. Ды не проста пайграла, а біла з усяе сілы па клавішах.

— Не, музыкі мы не чулі...

Гаеўскі адвярнуўся. Я мог спытаць у псеўдаветэрана, хто будаваў яму дачу і хто пакінуў з цэглы надпіс на сцяне «ГВ-13». То студэнты групы вагоншчыкаў здавалі яму на дачы экзамен. Спытаць пра тое, хто напхаў у вечка, аж даверху, у піяніна бутэлек каньяку. Рабочыя перавозілі ў новую хату, як усяляўся, ды ненарокам нахілілі — пасыпаліся бутэлькі на прыступкі і ўсе пабіліся. З паўгода стаяў каньячны пах у пад'ездзе.

Але спытаў зусім пра іншае, нязначнае, пра што ведаў і дэкан, калі ўжо дакрануўся да дзвярной ручкі:

— Скажыце, Гаеўскі, ці праўда, што вы судзіліся некалі з суседам толькі за тое, што вас укусіла за лоб пчала з яго вулляка?

Гаспадар раптоўна змяніўся з твару, прашаптаў:

— Вы і пра гэта ведаеце?

— Ды не толькі... А цяпер нам пара. Прабачайце за візіт, дзякуем.

Я прачыніў дзверы, і тут за нашай спінай, на кухні, нешта грымнулася аб падлогу. Я, нават не паварочваючыся ў той бок, ведаў, што гэта было. На кухню кінуўся збялелы Санько, вярнуўся да мяне, устрывожана спытаў:

— Што будзем рабіць?

— У такіх выпадках выклікаюць «хуткую дапамогу».

Гаеўскі ляжаў, падагнуўшы пад сябе правую руку, — упаў разам з табурэткай. З рота ішлі пена і сліна, зрэнкі закаціліся пад бровы, бялелі амаль пустыя вачніцы. Санько дрыжачымі пальцамі набраў нумар «Хуткай», папрасіў тэрмінова прыехаць.

Мы перанеслі гаспадара на дыван, паклалі пад галаву падушку. Дзіўна, але ўнук Пецька, які сядзеў за сталом, не звярнуў на гэта аніякай увагі — гартаў старонкі і плямкаў губамі. Праінструктаваў, значыць, малога, каб той не палохаўся.

Маладая дактарка, што прыехала на «хуткай», праслухала грудзі Гаеўскага, памерала ціск. Калі ж пайшла на кухню памыць рукі, я растлумачыў ёй сітуацыю, спытаў пра стан здароўя.

— Нічога пэўнага сказаць не магу. Канчаткова можа сказаць толькі кардыёлаг. Але я не бачу ніякай пагрозы.

— Дзякую.

Дактарка ўбачыла збялелага Санько, устрывожылася:

— Вось за вас я хвалююся. Давайце тэрмінова ўкалю вас...

Бедны Санько атрымаў укол і ў правую руку, і ў левую. Толькі тады трошкі пажвавеў. Я ж папярэджваў, шаноўны дэкан!..

Кардыёлагам аказалася пажылая, вопытная ў сваёй справе жанчына. Адразу ж, як пераступіла парог, спытала:

— Ну, дзе мой стары знаёмы?

Упэўнена пакіравала з калідора ў залу, ведаючы добра дарогу ў хаце. Падышла да гаспадара, паставіла на табурэцік чамаданчык, яе памочнік — малады ўрач — рыхтаваў апарат. Далонню паляпала па шчацэ, як бы абуджаючы ад памаракі:

— Прачынайцеся, не да твару вам дэманстраваць так сваё здароўе.

Запрацаваў апарат, асцылограф пачаў выпісваць крывыя лініі. Потым, калі яна прагледзела ленту, калі дала ўкол, праводзіў я яе да машыны. Назваўся, растлумачыў сітуацыю, выказаў сваю здагадку.

— Кардыяграма выдатная для яго здароўя. Гэта мой пастаянны кліент. З такім клапанам, як у яго, жывуць па сто гадоў, калі не даваць вялікія фізічныя нагрузкі.

— Дзякую. Можна, гэтыя словы я прывяду ў сваім артыкуле? — спытаў я. — Гэта вельмі важна.

— Пад любым словам магу падпісацца.

Мы пабылі яшчэ які час каля гаспадара. Санько, убачыўшы, што той расплюшчыў вочы, апрытомнеў, прапанаваў:

— Пайшлі. Здаецца, мы можам пакінуць яго аднаго. Ды і жонка хутка прыйдзе з работы.

І дарогай, як ішлі да прыпынку тралейбуса, выказваў недаўменне — чаму раней не заўважаў за ім такога, як было ў школе.

Была ўжо ноч. Восеньскія халады падступаліся ад зарэчча, халадзілі асфальт, дрэвы. Санько сцепануўся ад холаду, зашпіліў куртку на ўсе гузікі.

— Здзіўляюся, адкуль вы ведалі, што ён выкіне такога коніка? Вы ж пра гэта папярэджвалі?

— Пра гэта. Ён тое хацеў зрабіць яшчэ ў класе. Перад вучнямі. Каб адтуль яго «хуткая» забрала. Але не аказалася вучняў і Тані, ды і карэспандэнт нечакана з'явіўся — план яго парушыўся. А ён робіць усё для таго, каб памяняць сваю кватэру, пашырыцца плошчай. Ёсць заява ў райвыканкоме. Не хапала толькі фактаў, што жыве ў кепскіх умовах. Былі званкі з Менска, намякалі, што лёс ветэрана знаходзіцца на кантролі ў вялікай арганізацыі. Запалохвалі. Напісаў ветэран-зласлівец пісьмо і ў музвучылішча, куды Таня збіралася паступаць, пісаў, што, калі прымуць такую на вучобу, пісаць будзе ў ЦК.

— Не можа быць.

— А вы схадзіце ў вучылішча, прачытайце. Ці пазваніце дырэктару, ён пацвердзіць...

— Абы-што. Як можна быць такім двулікім? Будзеце пісаць?

— Абавязкова. Ён жа не адстане ад дзяўчынкі. І матэрыял я назаву «Персанальная справа... піяніна».

Клопаты газетныя адбіралі шмат часу. Не любіў я чамусьці корпацца ў гарадскіх праблемах. Мяне найбольш цягнулі вясковыя дарогі, людзі, якіх я разумеў лепш, чым гарадскіх, — мо таму, што нарадзіўся сам у вёсцы. З імі і гаварыць было лягчэй, і цікавага ад іх больш пачуеш.

Еду ў далёкі раён, праз які цячэ Прыпяць. Перад гэтым, два тыдні назад, прыязджалі хлопцы з маскоўскага ЦК з грунтоўнай праверкай. Першы пастараўся — і начная юшка, і каньяку скрынка, і гатовыя да ўсяго дзяўчаты, у адклюючцы ўсе былі. Першы абкома даў такую ўказілаўку — сустрэць па вышэйшым класе. Ну, раённы першы і даў клас. Калі цэкоўцы купаліся ў асалодзе (куды там да той праверкі — галовы гудзяць, пахмяляцца трэба і зноў піць), другі сакратар і загадчык аргаддзела начамі пацелі над складаннем даведкі, якую павінны былі рабіць прыезджыя.

А тут я блытаў карты — не па тых адрасах ішоў, якія паказвалі райкомаўцы, не з тымі людзьмі сустракаўся. Цяжка было прабіваць потым тыя матэрыялы. Але выручала Наташа, не ведаю, як ёй тое ўдавалася...

Праз тыдзень зноў паездка. У паўднёвы раён. «Пісьмо паклікала ў дарогу». Такая была ў нас рубрыка. Сапраўды, пісьмо было трывожнае, і прыйшлося шмат павалаводзіцца, каб абараніць маладога спецыяліста — дзяўчыну, ад нападак дырэктара саўгаса.

І адчуваю — выдыхнуўся. Адчуваю — перапынак патрэбен, бо галава трэсне ад перагрузу. Хто сказаў, што педагогі і журналісты — кандыдаты нумар адзін на той свет? Не памятаю, у якім часопісе прачытаў тое. Білет на той свет... А хто за намі? Дактары? Інжынеры? Вадзіцелі?..

Майго ж вялікага сябра, старэйшага па ўзросце, уласнага карэспандэнта Івана Мікітавіча «зарэзалі» ў бальніцы, робячы простую аперацыю. Перытаніт «падаравалі». Нябожчыка завезлі ў яго ж раён, а праз год ён аказаўся за калючым дротам — апынуўся ў зоне Чарнобыля.

А быў чалавек у творчай сіле і фізічна трымаўся моцна, а вось нейкая дробязная аперацыя панесла яго на той свет.

Чым выбавіцца з палону стомы і атупення мазгоў? Каб жыў блізка ад вёскі, то абавязкова наведаў бы Барсучынае котлішча і зноў быў бы бадзёрым і нястомным чалавекам. А да яе далёка, і дабірацца ў той край трэба шмат часу.

У руках заклееены канверт. У ім дзесяць старонак. І задаволены, і незадаволены напісаным. Ніколі не ведаю пра сваё — добра ці кепска напісаў. Вось выйду з хаты, падыду да паштовай сіняй скрынкі, усуну ў шчылінку — і пайду куды вочы глядзяць: ці то да рэчкі, ці проста па зарэччы паблэндаюся... Жонка на рабоце, Ірына і Таня — у школе.

Уздрыгваю ад тэлефоннага званка, хаця даўно прыглушыў моц сігналу і ён стаў амаль нячутны. Не міжгорад, нехта мясцовы...

— Тута я.

— І я тута. Што парабляеш? — Голас у Адама нейкі ціхі, далёкі — пэўна, звоніць з аўтамата.

— Анічога! Вольны казак.

— Тут доўгая чарга за півам. Але я заняў, і застаецца чалавек пятнаццаць. Пакуль прыйдзеш, то я і вазьму. Хочаш піва?

— Вельмі хачу. Дзякую, Адаме, за клопаты аб маім душэўным стане. Буду за нашым столікам роўна праз паўгадзіны. Бяры па тры келіхі.

— Добра. Чакаю.

У паштовай скрынцы было тры газецiны i больш нiчога. Заўсёды з нецярпеннем гляджу сваю газету — канечне ж, няма, бо «трамвай» — апошнi нумар месяца, кожны iмкнецца ўсунуць сваё, каб мецъ хутчэй ганарар. Я ж далёка, я ж — на «кусце», мяне можна i адкiнуць, адпрэчыць... Але гэта мяне не засмучае, а недзе i радуе — значыць, яшчэ партфель там мой не апусцеў, матэрыялы ёсць, значыць, можна чакаць i пакуль рабiць перадышку...

Канверт упаў бязгучна на iншыя канверты ў скрынцы, i ў мяне паспакайнела на душы. Заданне выканана, цяпер можна колькi дзён адпачываць.

А на дварэ ўжо восень. Ужо ўдарылi першыя i другiя прымаразкi, зляцела першым каштанавае лiсце, на чарзе таполi i лiпы. Ужо без курткi не выйдзеш — ахопяць дрыжыкi. Па дарозе забег у абком камсамола, перакiнуўся словам-другiм з хлопцамi, паслухаў, што думаюць пра апошнiя мае друкаванкi, i пабег на бераг. Мяне нiхто не абавязваў наведвацца ў абком, проста аднойчы ўзнiкла сама па сабе неабходнасць з некiм гаварыць, адвесцi душу. Бо дома, на адзiноце, я «размаўляю» толькi з паперай, а яна субяседнiца маўклiвая i сухая.

Адам здалёку, убачыўшы мяне, махае рукой — кiруй сюды. Перад iм стаяць з блiскучымi мокрымi бакамi шэсць куфляў — як пузатыя салдаты на аглядзе.

— Здароў быў!

— Быў здароў!

Пiва бальзамам улiваецца ў мяне, вяртаючы да жыцця. Зажмурваюся i бачу лес, хвоi, рэчку. Хараша! Цуд! Ой, як добра!

— А рыба дзе, Адам?

— Не знайшоў, прабач. Позна ачомаўся.

— А вось яна, ваша рыба. Частуйцеся! З-за маёй спiны цягнецца чыясьцi рука — на газецiне перад намi лёг карычневы, тлусты, вэнджаны ляшчук.

Джо заўсмiхаўся наiўнай усмешкай:

— Добры дзень. Даўнавата вас тут не было.

— Даўно, Джо. Месяцы з два. Дзякую за рыбу, а ў самога хоць засталося?

— Ёсць. I не адна. Я сёння багаты.

— Адкуль багацце?

— З Калiнiнграда цётцы прыслалi пасылку. Яна са мной падзялiлася.

— Шанцуе, скажу табе, на цётку.

Джо нечым перамянiўся. Не тым, што цяпер ён быў паголены, i не тым, што трошкi лепей апрануўся. Не, нечым iншым, а чым,

зразумець не магу. Ён свяціўся нейкім таямнічым святлом, гарэў жаданнем нешта рабіць, памагаць, тварыць дабро.

— Пачаставаць півам, Джо? — заўважаю, што ў яго куфлі засталося толькі на донцы.

— Ды, як той казаў, калі не вельмі, дык яно добра, але калі вельмі добра, дык яно і не вельмі, але так ужо і калі б і не, то падумаць можна, што і няўжо...

— Зразумеў.

Я паставіў перад ім два куфлі. Адчуў, што Адам, які маўкліва стаяў перада мною, быў незадаволены. Але я не пачуў ад яго ні слова папроку. Нават незадаволенага позірку не заўважыў.

— Дзякую, смачна вам піць, — сказаў і адвярнуўся, бачачы, што мы з Адамам яшчэ і словам не перакінуліся.

Адам дапіў свой куфель, адставіў убок. Хлебтануў з наступнага.

— Куды падзеўся, што злавіць не магу?

— Па маршрутах Палесся насіўся. Дадому заскочыў, з бацькамі пабачыўся.

— Трымаюцца як?

— Нічога, дзякуй Богу. Маці хварэе апошнім часам. Ногі ў яе — даярства дарэмна не праходзіць. У гумавіках — зімой і летам. Ім жа цёплай адзежыны ніхто і ніколі не выдаваў.

Піва з рыбай п'ецца весялей. Пажуеш салёны кавалачак, і піва само просіцца. Смаката! Дай Бог Джо здароўя! Сёння можна было б з ім зблізіцца яшчэ больш, але ў мяне галава бы пусты цабэрак. А дамовіцца з ім пра будучую сустрэчу баюся, а раптам з'еду куды. Да яго трэба прыйсці вольным ад думак і клопатаў, свежым і бадзёрым, з жаданнем добрай і шчырай гаворкі. Ды і без Адама. Каб ніхто нам не замінаў, не перашкаджаў, каб нагаварыцца ўдосталь.

Адам пільна ўгледзеўся ў газету.

— Пачакай, пачакай, — скінуў ён лешчыка і шалупінне з газеты. — Дык гэта ж табліца розыгрышу... Ты не правяраў?

— Не, — кажу я абыякава, — толькі і было тое ў галаве. Я ж не памятаю і нумар. Білет у цябе?

— Дома. Але ж я памятаю — злева ўсе тройкі, а справа — пяцёркі.

Адам вадзіў пальцам па радках, шукаў патрэбны радок. Я ж пацягваў піва, думаў пра сваё, найбольш пра будучую сустрэчу з Джо.

— Гы... Гы-гы-гы... — перакрывіўся твар у Адама, па-дурному вырачыў вочы. — Вачам не веру... гы-гы-гы... Здаецца, браце, «Жыгуль»! Ну, точна ён. Тройкі і пяцёркі! Антон, слухай, я выйграў!

— Віншую, Адам! — пацiснуў я яму машынальна руку, быццам гэта ён сабе сам прыдбаў той латарэйны білет і хваліцца выйгрышам, а я тут збоку прыпёку.

— Дзякую, дзякую.

У яго гарэлі ад радасці вочы. Ён не знаходзіў сабе месца. Яму ўжо было не да піва. Забыўшыся і на мяне, ён стрымгалоў кінуўся ў людскі натоўп і знік — як і не было яго побач са мною.

— Што за радасць у вашага сябра? — спытаў Джо, перайшоўшы да мяне.

— Машыну выйграў.

— Машыну?! Во дае! Малаток!

— Па латарэйным білеце, які я яму купіў.

— Як гэта? — у вачах Джо недаўменне і нават шкадаванне.

— У яго не было грошай на піва. Разлічваўся я. Антаніна замест здачы дала білецік. Яму дала.

— Ну, мужык! Дык гэта ж не чэсна! Ён жа павінен аддаць табе выйгрыш альбо, на худы канец, падзяліцца з табой сумай.

Я паціснуў плячыма, паднёс брыжык куфля да вуснаў: піва, якое купляў Адам, падалося мне чамусьці нясмачным. Каб не Джо, выліў бы яго за плот.

А ён недаўменна цікаваў за выразам майго твару і не разумеў, чаму я да ўсяго стаўлюся абыякава і спакойна. Гэта здзіўляла яго, злавала нават.

— Хочаш, я з ім пагавару як мужык з мужыком. Дай мне яго адрасок. На суд яго.

— Навошта, Джо? У гэтым павінны разабрацца мы самі. Ніхто ж не бачыў, а калі і бачыў, то яшчэ даказаць тое трэба. Толькі сумленне ўсё рашыць, ніякі суд тут не паможа. Я добра ведаю. Дзе двое замешаны, там палавінкі быць не можа. Альбо нічога, альбо — усё.

Джо толькі свіснуў ад такой маёй філасофіі. Яна для яго была незразумелая.

— Ды мы такіх шкур у Афганістане...

— І ты там быў, Джо? — Я паклаў сваю руку на яго, дужую, мускулістую, сціснуў нечакана яе.

— Быў, браток. І не адзін год. Лепшых сваіх дружкоў там пакінуў. А цяпер да канца жыцця мне месца спакойнага не знайсці.

— Знойдзеш.

— Не, Антон, я ведаю, што не. А калі і знайду, то гэта ўжо будуць не сябры, а так, сабутэльнікі...

— Добры ты хлопец, Джо. Шкада, што мы з табой не былі там побач.

— Шкада. А за машыну не перажывай. Мне яго шкада, а не машыну.

— Чаму?

— Ён яшчэ шкадаваць будзе, што так пастапіў. Не падзяліўшыся.

— Не разумею цябе.

Замест адказу ён падняў куфель, іншым голасам, гледзячы мне ў вочы, сказаў:

— Хоць півам, але памянём нашых дружкоў-сябрукоў. Пухам ім зямля. За іх...

Я дапіў рэшту. Але больш не хацелася. Адчуў, як яшчэ мацней абхапілі нябачныя абручы маю галаву.

— Прынесці яшчэ мо па адным?

— Не, Джо. Хопіць. Па завязачку.

— Выглядаеш ты блага. Як цябе сто бабенцый адхадзіла. А ідзеш адсюль як выціснуты лімон. Табе тут сёння не месца. А мо дасі ўсё ж Адамаў адрасок, га?

Я адмоўна пакруціў галавой.

Мяне пачаў біць калатун. Нервы? Крыўда? Ператомленасць, напэўна... Радкі, хай на іх, даюць пра сябе знакі.

Вечарам жонка выклікала «хуткую дапамогу». У мяне была тэмпература пад сорак. Недзе падхапіў ангіну. Ці не на піўным полі? Мо Антаніна кепска памыла посуд... Ды і не ў кіпні ж выварваць яго...

Пра латарэйны білет жонцы нічога не сказаў — апошнім часам у нас з ёю былі нацягнутыя адносіны.

І трэба ж — праз паўгода, як быў надрукаваны матэрыял пра піяніна і псеўдаветэрана Гаеўскага, падаў ён на мяне ў ЦК партыі на шасці старонках скаргу. Наплёў там пра мяне такое, што...

Скаргу правяраць прыехаў жвавы маладзенькі хлопец, новаспечаны цэковец камсамола, учарашні супрацоўнік нашай маладзёжкі. Кучаравенькі, як херувімчык, галасок, як у жанчыны, і паходка такая ж. Я абрадаваўся таму, што разам працавалі, павінен жа адстойваць пазіцыю газеты — усё загарэлася з-за таго, што мы баранілі дзяўчынку ад нападак шызафрэніка.

Але з першых пытанняў Івана Жановіча я зразумеў, што ён прыехаў праінструктаваны і ад свайго не адступіцца: пытаўся ён, ці сапраўды я п'яны быў на камсамольскім тым сходзе, і ці праўда, што мацюкаўся... Ён адшукаў і жанчыну-кардыёлага, пацікавіўся, ці сапраўды яна так казала, як я напісаў. Аказалася, што нехта з аддзела газеты выкінуў са сказа два словы, і атрымалася, што засталося толькі «выдатная кардыяграма», а «для яго здароўя» прапала. А так выходзіла, што сапраўды ў інваліда са штучным клапанам не магло

быць выдатнай кардыяграмы. Батура спалохаўся праверкі і блытаўся ў адказах: адмаўляўся, што даваў дырэктару ўказанне праводзіць такі сход. Іван хацеў, каб і я з ім паехаў на дачу да Гаеўскага, дзе ён жыў адзін. І пытанне ў лоб — а як я дакажу, што быў таварыскі суд з-за пчалы...

Во як яно павярнулася! Во як лезці ў вароты, у якія цябе не просяць. Месяц яшчэ мне давялося адмывацца ад бруду. Папрасіў Санько, дэкана, каб правялі сход кафедры і ўспомнілі, як яны праводзілі той суд з-за пчалы. Выпіску зрабілі, пячатку паставілі...

Прыдбаўшы неабходныя паперкі, я паехаў у ЦК камсамола. Аддаў Івану. Той доўга моршчыўся, быццам хто піхаў яму прымусова ў рот селядзец. Забег загадчык аддзела прапаганды Іван Цяпура. Прачытаў, з непрыхаванай пыхай і злосцю спытаў у мяне:

— Вам, можа, надакучыла працаваць у газеце?

— А табе, можа, у ЦК? — не ўстрымаўся я. Ведаў, што яны цяпер мне на хвост солі насыплюць, ды і не даражыў я работай у газеце — абрыдла пісаць хлусню і падман.

Я ведаў, што родзіч Гаеўскага перабраўся ўжо ў апарат ЦК партыі. Таму так прыдзірліва правяралі скаргу. Іван правяраў.

Ён толькі скрыгатнуў ніжняй сківіцай, паказаў рэдкія шчарбатыя зубы. Не люблю, калі ў роце зубы як у паламаным плоце — сікась-накась, і характар у іх такі, і ўчынкі непрадказальныя...

Я ляснуў дзвярыма, пакінуўшы Івана ў недаўменні. Праз тры гадзіны на агульным сходзе рэдакцыі з парадкам дня «Аб маральна-этычных паводзінах уласнага карэспандэнта Антона Клімовіча» ўляпілі мне вымову. За маральна-этычную блізарукасць. Так і да сённяшняга дня не ведаю, што тое азначала. Недаўмявалі ўсе члены рэдкалегіі і супрацоўнікі газеты — артыкул вісеў перад гэтым на дошцы лепшых матэрыялаў тыдня. Наташа вінавата прасіла ў мяне прабачэння, што не магла абараніць.

Я ж ведаў, адкуль плыў на мяне ўвесь гэты бруд.

І што-небудзь змяніць, перайначыць не мог.

У мяне не было валасатай рукі ні ў ЦК камсамола, ні ў ЦК партыі. Было толькі жаданне памагчы слабай і хворай Таццяне, якой Гаеўскі мог сапсаваць разам з Батурам жыццё.

А Таня, як я потым даведаўся, паступіла ў вучылішча. Будзе ў дзіцячым садзіку музыкальным кіраўніком. Маці ездзіла ў інстытут Фёдарава. Аперацыя прайшла паспяхова, зрок у дзяўчыны палепшыўся.

У Адама прачнулася сумленне. Праз тры месяцы ён прынёс мне тысячу рублёў, паклаў на стол. Вінавата загаварыў, хаваючы вочы за калматымі бровамі:

— Я разумею, што гэта твой «Жыгуль»... Але ж білет аказаўся ў мяне — як бы і мой. Ты мне яго аддаў. Ты прабач, што так выйшла... Мы з Адай параіліся, рашылі табе сплаціць хоць столькі...

Я яму не сказаў ніводнага слова. І шкада было яго: вельмі ж пакутаваў чалавек, грызла яго, напэўна, сумленне.

Роўна праз тыдзень пасля таго ён трапіў у цяжкую катастрофу. З месца здарэння — аварыі — яго забрала «хуткая». У яго быў пашкоджаны пазванок і траўма галавы.

Як накаркаў Джо сваім таямнічым прадказаннем.

А мо ён ведаў у жыцці адну непахісную выснову: на чужым свайго шчасця не пабудуеш...

Эх, Джо, Джо... І ты ўвайшоў у мой лёс, няпрошана ўвайшоў, сам не падазраючы пра тое. Чаму мяне так цягне да цябе? Чым прычараваў? Што абодвух ахрысціў Афган? Ці нечым іншым?!

Калі і дзе мы сустрэнемся з табою наступны раз?

Вечарам я пайшоў да Адама ў бальніцу. Але дактары ў палату не пусцілі, сказалі, што ён у цяжкім стане.

Ля дзвярэй, у калідоры, сядзела, плакала Ада, яго жонка, — трымала ў руках насоўку.

Мяне яна не бачыла, быў прыцемак, і я, доўга не думаючы, пакінуў бальніцу...

## 6

Не лезуць думкі ў галаву, хоць плач. Бывае такі застой, хаця і не часта. Маўкліва стаіць перада мною «Эрыка», не падганяе, церпіць.

Набыў сабе і электрычную — «Ятрань». Але схаваў яе падалей, каб не была пад рукамі: ёю добра толькі гатовае перадрукоўваць, не спыняючыся, не думаючы. А калі пачынаеш пісаць новы матэрыял і трэба думаць, напручваць мазгі, то рухавічок машынкі яхідна выгаворвае:

— Ну, што спыніўся? Ану націскай на клавішы... Што, мазгі не вараць? Няма каму лупцаваць цябе. Ну, хопіць спаць, гані радкі пра будаўніцтва светлага будучага... Давай.

Ну акурат як дзед Рыгор здзекуецца!

Альбо як сварлівая жонка, калі не ў гуморы, звягае і звягае, выводзіць з сябе. Ні на што не прамяняю «Эрыку» — маўклівая, спагадлівая, усё разумее, цярпліва чакае, калі праклюнецца ў мяне свежая думка — і тады пойдзе, загаворыць радок. Я нават адчуваю яе

спагаду і пяшчоту. Дыханне дабрыні адчуваю. Яна імкнецца ўсімі сіламі памагчы мне, паспагадаць, падказаць, але не ўмее... Пакуль не ўмее. Потым і гэта навучыцца рабіць — веру ў тое.

Я чапляюся за першы сказ, за першае слова — і тады ўсё зрушваецца з месца. Тады ідзе праца, тады я ва ўладзе той тэмы, якая павінна быць выкладзена на паперы.

Званок тэлефона перабівае думкі. Падымаю слухаўку.

— Алё, скажыце, абгат ужо прывезлі? — пытаецца нейкая старая з картавым «р», працяжным, аж захліпаецца, і я з цяжкасцю разумею, што яна мае на ўвазе абрат.

— Будзе заўтра, — адказваю я, каб не раздражняцца далей.

Майму карэспандэнцкаму пункту далі тэлефон былога гармалзавода. І так у даведніку горада. Таму я часта адказваў на пытанні: ці выкананы план па малаку, ці палепшана ручная праца...

Праз хвіліну зноў званок.

— Алё, гармалзавод?

— Мг...

— Гэта з абласной газеты турбуюць, Вадзім Ішкевіч. Гэта інжынер Цыбульскі?

— Мг...

— Можа, у вас што ёсць цікавае для заўтрашняга нумара?

У абласной газеце ўсе гаварылі па-расейску, і Вадзім пытаўся гэтак жа. Прыйшлося і мне гаварыць гэтак жа.

— Да, кстати, есть у нас свежая информация. Она должна вас заинтересовать.

— Минуточку, я возьму ручку.

Гром мяне забі, але я не ведаў, што яму змарозіць. Што наплесці — ні секунды на роздум.

— Слушаю вас, Петр Исаевич.

— Так вот... вчера... из гормолзавода в сторону БАМа отправлена очередная партия сгущенного молока. Пишете?

— Да, да, это очень интересно и заинтересует читателей, слушаю...

— ...на этикетке, на банке, написано: «Дорогим строителям БАМа от гомельчан...».

— Очень интересно!

— Да. И добавьте обязательно, что молоко изготовлено по специальному рецепту...

— ...рецепту...

— ...уласнага карэспандэнта Антона Клімовіча.

У трубцы маўчанне, недаўменне, потым кароткае пытанне:

— А чего ты там?

— На заводзе працую. Малаказборшчыкам.

Быў бы злы на яго, не прызнаўся б, хай бы і ішла такая «интересная» інфармацыя. Не захацелася свінню падкладваць Вадзіму.

Зноў за работу. Галоўнае, што злавіў першы радок. Ён пацягнуў за сабою другі. Значыць, працэс пайшоў, як казаў Мішка Мечаны.

Мяне ўжо нічога не магло адарваць ад машынкі...

А дзед Рыгор зноў праведаў мяне. Быў ён, як і раней, у срэбнай кашулі — новенькай, адбеленай, якая цягнулася па траве, — толькі босыя ногі вытыркаліся, калі ён ступаў наперад.

— Як жывеш, нябога? Ці навучыла цябе жыццё чаму-небудзь людскаму?

Гэта ўжо не сон, а ява. Бо дзед Рыгор быў такім асязальным, што мне хацелася дакрануцца да яго, пакратаць.

— Дакраніся, не бойся, не з'ем...

У дзеда, здалося мне, зменшыліся мяшкі пад вачыма. Памаладзелі, пасвятлелі вочы, хаця чырвоныя пражылкі выдавалі дзедаў узрост. Калі яго не стала, меў ён сто дваццаць гадоў. Доўгажыхар. Але бацька казаў, што дзед пражыў толькі палову свайго жыцця. Бо па дзедавай сістэме чалавек павінен жыць і пяцьсот год, і болей... Пра тое і ў Бібліі сказана, што людзі павінны жыць доўга. Смешна мне было слухаць бацьку. І вельмі шкада, што не паверыў, што раней не разумеў.

— Як жыву? Ды не ведаю, дзед, яй-богу... Здаецца, кручуся, бягу, даганяю, а нічога не відаць. Чымсьці задаволены, а чымсьці і не.

— Мітусішся шмат. Пэўнага не дабіваешся.

— Згодзен, дзядуля. Работа такая.

— Дурная і няўдзячная ў цябе праца. Адным балюча робіш, а другім радасць даеш. Што сабе пакідаеш? Несправядліва.

Што яму скажаш на тое? Мо ён і праўду кажа. Пэўна ж, праўду. Дзед проста так да мяне не прыходзіць.

— А як там у цябе жыццё, дзед Рыгор?

— А як бы не як, дык ператакваць не буду, — ухіліўся дзед ад прамога адказу. — Нішто сабе. Тут весялей, радні тут уга колькі! Усе п'юць гарэлку, весяляцца. А ў вас там указ нейкі — піць забаранілі.

— Забаранілі, дзядуля, і дастаць нідзе няможна.

— І па талонах усё.

— Па талонах.

— Смех, курам на смех... Тут мы так смяёмся, што аж слёзы на вачах, ну і людзі, ну і ўдумаюць жа такую лухту! Тут у нас і правадыр Ленін, дык ён найбольш маўчыць альбо рагоча, напэўна, з глузду

з'ехаў... Во нарабіў бяды, аж на тым свеце спакою няма. Ён і тут хацеў нейкія парадкі наводзіць, дык яму хутка паказалі, што да чаго.

— Адрыгваецца, дзед, нам яго эксперымент.

— Доўга адходзіць будзеце. Але вы нешта ж там вырабляеце, дзе яно дзяецца, унучак?

— І сам не ведаю. Сакрэт вялікі. А ў вас як там наконт усяго?

— Як? А ў нас камунізм. Усяго хапае, і ўсяго хочацца. Хаця тут не трэба ні адзежы, ні абутку, ні яды...

— А як жа, дзед, без усяго гэтага? Мо і мне да цябе?

Дзед узарваўся:

— Рана, ёлкі-маталкі, думаць табе пра тое. Рана! І — цыц мне. Пра што пытаецца, дзівак... Сапсавала цябе твая газета — усюды табе хочацца ўплішчыцца.

— Цікава ж, дзед, што...

— Сказаў, маўчы! Замаўчы зараз жа! — крыкнуў дзед і нагой нават тупнуў, мне аж вусцішна стала, бо адразу ж у небе пачуўся пагрозлівы гром, як пярун выстраліў. — Малако яшчэ не абсохла на губах, а туды ж... Я чаго прыйшоў да цябе, хлопча? Памажы ты, унучак, яму. Ты зможаш.

— Каму, дзед?

— Сам ведаеш каму. У яго шрам вялікі на грудзіне. Такога ні ў кога няма.

Не мог успомніць такога чалавека. Пакуль успамінаў, пакуль перабіраў у памяці таго-сяго, дык дзед і з вачэй знік.

Пазваніў намеснік рэдактара Валера Шыхаўцоў. Сказаў, што трэба пад'ехаць на рэдкалегію.

— Пытанне па рабоце газеты. І цябе слухаць будуць, — падказаў няўцямна, — як спрацаваў за апошні год... Таму, я думаю, трэба падрыхтавацца — прааналізуй, колькі разоў выступаў, колькі арганізаваў выступленняў рабочых, калгаснікаў, студэнтаў...

— Калі рэдкалегія?

— Заўтра ў адзінаццаць. Так што ў цябе цэлы дзень наперадзе. Да заўтра.

— Будзь.

Валера — мой зямляк. Курыруе работу ўласных, значыць, і маю. Спачатку была завядзёнка — заданні мне дае толькі намеснік. Але звоніць Галя Пшонка, пяшчотна-ўмольным голасам просіць: «Антось, ну хоць староначку, тут я паласу раблю, а з твайго «куста» нічога — зрабі з самай далёкай вёскі...» Галя ведае вёску, як я вышэйшую матэматыку, але прэтэндуе на ролю лепшага маралі́ста газеты. І па вясковых тэмах таксама.

Потым, праз гадзіну, падае голас Вера Шчацініна. Яе цікавяць эканоміка і моладзь. Калі я дасылаю на такія тэмы вялікі артыкул, Вера абавязкова выкіне пару абзацаў, уставіць свой (перапіша думкі з нейкага вялікага часопіса), але падпішацца пад матэрыялам побач са мною. Быццам не ведае, што існуюць аўтарскія правы...

У газеце аддзелаў шмат — эканомікі, маралі, камсамольскага жыцця, сельскай гаспадаркі, культуры, спорту... Я павінен быць докай ва ўсіх тэмах і даваць радкі для ўсіх аддзелаў. Гэта так трэба. Фізічна такое нельга зрабіць. Таму, калі ў нейкіх аддзелах забракавалі мае артыкулы (і правільна, можа быць брак), я пераставаў для іх пісаць — значыць, прафан, значыць, не лезь...

І ў спорце прафан. Колькі жыву, ні за адну спартыўную каманду (футбольную, баскетбольную, хакейную) не хварэў. Ніколі. Акрамя, праўда, шахмат, калі гэта спорт. За Толю Карпава хварэў, а ён падвёў мяне.

Таму я выбраў сабе тры «кані» і на іх скакаў у сваёй рабоце — жыццё вёскі, мараль і нарысы. І тады адчуў, што стала лягчэй працаваць.

Арганізоўвалі мы матэрыялы часта. Гэта калі пішаш за некага. Каб паказаць чытачу, як ахвотна пішуць у газету людзі.

Хіба ж будзе табе пісаць, напрыклад, першы сакратар абкома партыі? Ты рыхтуеш загадзя яму матэрыял і нясеш, каб хаця прагледзеў. Занёс і я. Анатолю Фаламееву. Ганарлівы, з пыхай, праз губу гаворыць і толькі на расейскай мове. Прачытаў, хмыкнуў:

— Так что от меня нужно?

— Ваш подпіс, што вы згодны з напісаным.

Распісваецца, кідае на стол:

— Сухо написано.

Тваю макаўку! Я пацеў, рабіў не сваё, яму за адзін росчырк пяра прышлюць саракоўку (гэта ж восем пляшак гарэлкі!), а яму суха... Каб цябе сушылі... Зарокся — больш ні ў якія дзверы абкома заглядваць не буду...

Але сустрэча яшчэ з ім адна адбылася. Аказаліся разам на адным камсамольскім сходзе ў саўгасе — у далёкай хойніцкай вёсцы. Калі тое было, каб першы абкома прысутнічаў на сходзе пярвічнай? А першы здабываў плюсы для свайго аўтарытэту. Над дакладам камсамольскаму важаку калгаса працавалі ўвесь райком партыі і тры інструктары з абкома камсамола. А сход атрымаўся сухі і невыразны. Усе сядзелі як нежывыя, і словы такія ж былі нежыццёвыя. Ні слова крытыкі, толькі «ўра, ура, ура».

Падвозіў ён мяне да абласнога цэнтра на сваёй «Волзе». Спераду пасадзіў, сам сеў ззаду.

Дарогай гаварылі, спрачаліся. Пэўна, думаў, што побач з ім сядзіць інструктар. Не згаджаўся з нечым, пярэчыў. Загаварылі пра лёс дзвюх маладзёжных газет — чаму на расейскай і беларускай мовах?

— Ничего страшного не произойдет, если две объединить в одну и выпускать ее на русском языке. Беларусская культура от этого не пострадает, — катэгарычна выказаўся ён.

— Вы вельмі глыбока памыляецеся, — мяне разбірала злосць.

Тады ён дакрануўся да пляча вадзіцеля:

— Иван Петрович, включи «маячок» — послушаем музыку...

Да самага горада мы маўчалі, за нас гаварыў «Маяк».

Калі я сказаў у абкоме партыі свайму таварышу Пятру Бязлупкіну, з якім гонарам мяне вёз першы, той засмяяўся:

— Спераду пасадзіў? То ён у трактар «Волгай» урэзаўся, дык баіцца ехаць спераду.

На рэдкалегіі мне закацілі вымову. Каб не Валера, то і строгую. Абараніў, выручыў.

Пэўна ж, добра рэдактару наківалі на мяне, раз ён усімі сіламі хацеў правучыць мяне, уціхамірыць. Рэзка змяніўся рэдактар Плюскавы, новы рэдактар, — то адносіўся добра да мяне, прасіў даваць нарысы і «забойныя» артыкулы, а то нечакана павярнуўся да мяне задам. І папрок быў, што тэмы падымаю неглыбокія, што спісаўся, што няма кантакту з абкомам камсамола. А на які хрэн мне той кантакт?

Ці тое галоўнае ў рабоце?!

**7**

Апошнія дзянёчкі восені. А з прыходам халадоў і Антаніна закрывае піўное поле. Тады піўныя рыцары пакідаюць поле змагання. Усё збіраўся, ды так і не мог выбрацца на сустрэчу з Джо — выбівалі з каляіны непрадбачаныя акалічнасці.

Ужо мінула трэцяе бабіна лета, адлілі дажджы, і на вуліцы ўсталявалася спакойнае цёплае надвор'е.

Апошні тыдзень месяца. Апошні тыдзень работы піўнога поля. Як не праверыць, як не адзначыцца сваёй прысутнасцю. Хаця і не пакутаваў смагай, як летам, але доўг ветлівасці і абавязку прымушаў ісці туды. І было спадзяванне, што ўбачуся з Джо.

Мы топчам апалае кляновае лісце — як усё роўна ідзём па стракатым дыване. Ад Сажа патыхае ўжо волгласцю і холадам. Ужо

цяплей апранулася Антаніна і не прыцягвае ранейшым магнітам позіркі маладых хлопцаў — схавала свае прыцягальныя грудзі.

Аднаго куфля, на маю думку, было мала, акурат два. Антаніна павіталася са мною, але на мяне не глянула, уздыхнула толькі, не спытала, чаму так доўга не быў. Не ў гуморы, пэўна, была, адразу бачна, але ж не скажаш ёй пра тое, яшчэ і мацюкоў нагне — пракідваецца і такое ў ёй зрэдку... Яна налівае маўкліва два куфлі, дае рэшту — медзякі, і незадаволена гаворыць:

— Наступны! Што спіш, чаргу затрымліваеш?

Выбіраю столік і заўважаю за адным з іх Джо. Ён глядзіць на мяне, і здаецца, позірк запрашае прыйсці да яго.

— Добры дзень, Джо!

— Дзень добры, Антон! Даўно не бачыліся.

— Даўнавата. А чаму без піва? Бяры маё.

Ён адмоўна пакруціў галавой. І тут толькі я прыкмеціў, што ў яго быў шэра-зямлісты твар, у вачах нявыказаны сум і боль. Мне нешта перадалося ад яго, як электрычным токам пранізала кожную клетачку, нарадзіўшы ўва мне не то жаласць, не то шкадаванне да яго...

— Захварэў?

Ён не адказваў.

Нейкая незразумелая трывога напаўняла мяне, прымушала сціснуцца ад болю сэрца.

— Джо — гэта тваё імя? Усё хачу спытаць, ды не асмельваюся.

— Ды не. Пецька я. Пятро Саджораў. А хлопцы чамусьці празвалі Джо.

— Прабач, Пятро, я і не ведаў.

— Ды я ўжо прывык. Як маім стала імя. А пра цябе я ведаю — у газеце працуеш. Чытаў тваё «піяніна». Нялёгка, адчуваю, даўся табе матэрыял.

— Нялёгка. А чаму ж не п'еш? — кіўнуў я на піва.

— Адпіў я, мусіць, сваё.

— Як гэта?

— І апавяданні твае чытаў. То першая кніжка?

— Першая. Таму і слабая.

— Мне там адно спадабалася. Як вясковы хлопец прыехаў у горад. Ты ўсё з жыцця бярэш?

— Як калі. Але можна сказаць, што з жыцця. Калі б не з жыцця, прыдумваць усё, то і пісаць цяжка, і не паверыць. То я сам і выпраўляўся першы раз у горад.

Пілося без ахвоты — ці то піва было нясмачнае, ці то Антаніна зарадзіла яго кепскім настроем — ледзьве дапіў свой куфель. Не

ведалі мы, што Антаніну пакінуў муж, прыстаў да другой, — таму яна вельмі перажывала.

Пецьку пранізваў нейкі ўнутраны боль, бо ўздрыгвалі на твары сасуды. Працінаў незразумелы боль і мяне — з галавы да ног.

— Ты доўга ў Афгане быў?

— Два гады, — адказаў Пецька, — ад званка, як кажуць, і да званка. А ты?

— І я.

Маўчым. На столік з дрэва зляцеў зжоўклы ліст — лёг паміж куфляў.

— Пеця, аддай каму-небудзь маё піва — не лезе сёння.

Ён азірнуўся ўлева, управа, аднёс некаму ў дальні куток. Калі вяртаўся, кінулася мне ў вочы, што ішоў з цяжкасцю: безжыццёва апушчаныя рукі, яны звісалі, як абрэзаныя лейцы, уздоўж хударлявага цела. Вярнуўся і стаў, цяжка дыхаў, прыхінуўшыся плечуком да збуцвелага слупка.

— Табе блага, Джо... Пеця? — устрывожыўся я, сціснуў яго руку.

— Нічога, хутка пройдзе. Накатваецца, тваю качалку, калі-нікалі.

Ён хапаў паветра, разяўляў рот, як рыбіна, выкінутая на бераг, заплюшчваў вочы.

— Табе, Пецька, дадому пара. У ложак. Ты ж хворы...

— А што — ложак паможа? — з'едліва спытаў ён, не расплюшчваючы вачэй. — Памагаў там, у шпіталі? Мастакі толькі скальпелем працаваць ці адрэзаць рукі-ногі... Ды што гаварыць — каго там лячыць пасля мясарубкі? Адныя здані засталіся — ні душы, ні цела...

Голас слабы, сіплы. Яму кожнае слова давалася з цяжкасцю. Мяне ахапіла хваляванне за яго стан, за яго здароўе — хто ж паможа яму?

— Быў і я ў шпіталі. Пашкамутала троху ў адным баі...

— Значыць, ведаеш, калі будзеш пісаць, то няпраўды не напішаш...

— Не напішу, Пеця.

— Але ж тваю праўду, дружа, не надрукуюць. Ты павінен пра гераізм расказваць. А які ён, к чорту, там гераізм быў. Адно забойства... Невінаватых і бяспраўных. І самі сябе забівалі. Адзін аднаго. Чаго мы туды палезлі? Свой погляд на жыццё ім падсунуць? Ды лажылі яны на нас... Голымі рукамі бралі... Яйцы выразалі і назад адпускалі, што цяпер з цябе возьмеш... Жах, Антон, які жах!..

— Ведаю, жах. Пайшлі дадому, га, Пецька? Я правяду. Вазьму таксі і завязу.

— Куды? Каб жа я...

Нечакана ён сашчаміў зубы і застагнаў, збялеў увесь. Асунуўся на зямлю. Ён як ведаў, што ўпадзе, бо ўхапіўся адной рукой за слупок, абняў яго. Упаў на правы бок, як ужо сеў на бетонную пліту. І часта задыхаў, праз нос, застагнаў яшчэ больш, пэўна, пёк яго невыносны боль...

Я расшпіліў сарочку, нават ірвануў яе, вырваўшы верхні гузік.

На грудзіне, паміж саскамі, літарай «х» адметна віднеўся пісягшрам. Ці не пра яго і казаў мне дзед Рыгор? Так, пра гэты...

— Адзін алкаголік гатоў! — пачуў я за спінай. — Во слабакі пайшлі — дабярэцца да піва, і гатоў Вася!

Я ўспомніў, што тут жа, побач, на набярэжнай, была тэлефонная будачка. На маё шчасце, тэлефон працаваў. На другім канцы дроту пацікавіліся, што з хворым.

— Былы афганец. Быў цяжка паранены. Але нешта ў яго іншае, не ведаю — што. Ляжыць каля моста праз Сож. Я вас буду там чакаць.

«Хуткая» і сапраўды прыехала хутка — праз якіх хвілін дзесяць. Я данёс хлопца да машыны, убачыўшы, як яна вырульвае да пляцоўкі. Супадзенне — урачом была тая жанчына, што прыязджала да псеўдаветэрана.

— Вы?

— Я... Гэтага хлопца я тут часта бачу. Прозвішча яго Саджораў, Пятро.

Дакторка памацала пульс, памерала ціск, загадала вадзіцелю:

— Тэрмінова ў бальніцу!

— Мне можна з вамі?

— Можна.

Завыла сірэна, патрабуючы дарогу «хуткай дапамозе». Уступалі ёй дарогу сустрэчныя людзі і машыны.

Па дарозе Пецьку далі кіслародную маску. У кішэні пінжака знайшлі нейкія дакументы. Дакторка падала мне:

— Чытайце.

Пецька меў высокую ступень абпраменьвання — быў ліквідатарам, знаходзіўся ля чарнобыльскага рэактара больш месяца ў самыя страшныя хвіліны. А мне адзін спец з ваенных сказаў, што тую радыяцыю, якую лічылі асноўнай, трэба было памнажаць на пяцьшэсць разоў...

— Вось яно што...

Божачка мой, хто мог падумаць? Лейкемія... Захворванне крыві...

Пецька доўга не прыходзіў у сябе.

«Памажы, унучак, яму, памажы... Ты зможаш...» Пра што казаў дзед? Чым жа я магу памагчы? Хіба дастаць якіх дэфіцытных лекаў? То дактары павінны яму памагчы. На іх толькі можна спадзявацца. І то не на сваіх, былых савецкіх, а «загніваючых», з Захаду...

## Частка другая

### 1

Дзіўна, але я не магу глядзець раўнадушна на латарэйныя білеты. Не-не ды і куплю адзін-два-тры... Проста так, без надзеі на выйгрыш — два разы снарад у адну яміну не пападае. Але я адчуваў сябе вялікім іграком у вялікай гульні. Адчуваў, што выйгрыш недзе блізка — вось-вось прыйдзе ў рукі.

І — кожны раз — міма. Пуста-пуста...

І — зноў жа — ні кроплі шкадавання. Бо выпадкі, калі сам купіш і сам выйграеш, вельмі рэдкія. Во калі з кім-небудзь, калі дзяліцца трэба абавязкова, калі ляцяць да д'ябла прынцыпы сяброўства і гонару, калі... Як нячысцік які ці сатана будуе тую непрадказальную сітуацыю і кідае ў той страшны вір людзей і іх душы, а потым стаіць збоку і назірае, здзекуецца, хіхікае...

Але, назло таму ж сатане, бяру латарэйныя білеты як не за кожным выпускам.

Хоць і не выйграю, але і ўзлую сатану, што не адступаюся ад свайго, што спадзею маю на добрае.

Хай ведае, як ганяцца за нашымі...

Афган і Чарнобыль...

Дзве чорныя меціны на маім пакаленні. І на наступных. Каму на памяці, а каму на асабістай скуры.

Мне ж, як і Пецьку, на асабістых шрамах-пісягах. Мы, як распятыя на крыжы, — адна рука прыбіта да Чарнобыля, другая — да афганскай зямлі...

Божа, прабач, што параўноўваю нашы пакуты з пакутамі Сына Твайго, які пайшоў на Галгофу з-за нас, дурных і неразумных...

...— Хлопчыкі, не спяшайцеся, перачакаць трэба, — шэпча ўзводны Міхась Страшкевіч нам, першагодкам, якія папалі да яго, і мы слухаемся яго, як роднага бацьку, бо толькі ад яго залежыць нашае жыццё — і яшчэ ад Бога. — Загадваю ляжаць усім і не рухацца... Нават не дыхаць.

Міхась — беларус. Кадравы ваенны. Пасля заканчэння пяхотнага вучылішча папаў у дэсантную віцебскую часць, якую ноччу першай і

кінулі туды, у цемру, у пекла, у невядомасць, у нашую ганьбу, у гаўно, на самую брудную старонку перакрыўленай гісторыі...

«Щ» ён вымаўляе, як і мы, беларусы, — шч. Як і той рэпарцёр тэлепраграмы «Час» Жук, які выстаўлены як усё роўна напаказ усёй Расеі — во якія яны, беларусы, нават расейскую мову і вымаўленне не могуць вывучыць і таму гавораць — брукі, таварышчы, трумо, урад лі... А рэпарцёр і сам не разумее ці не чуе самога сябе, рады, пэўна, што яго бачаць людзі на экране, і не выпраўляе сваю гаворку...

Мы ляжым, чакаем, трымаючы напагатове аўтаматы. Зліліся з шэрай чужой зямлёю, са скаламі, з пяском... У нас і твары, як тыя скалы, — шэрыя, зямлістыя... Нам здаецца, што тут шэрае ўсё — рэчка, неба, воблакі. І нават сонца.

Узводны не выходзіць на сувязь, баючыся, каб не засеклі душманы японскай тэхнікай, — хітры паляшук, як той ліс. Раней было такое — толькі пашлём сігнал па рацыі аб дапамозе ці даложым абстаноўку, як праз тры-чатыры хвіліны мясціну, дзе мы знаходзімся, накрывае град мін і куль... І пакуль верталёт дабіраецца да сваіх, іх ужо няма — адны ямы ад выбухаў і кішкі, ад якіх ідзе пара, і галовы, і рукі валяюцца дзе папала...

— Не высоўвацца, тваю маць, каму сказаў, — злуецца камандзір. — На той свет захацелася? Дома ж нявесты чакаюць, а ты лоб пад кулі падстаўляеш... Снайпер сядзіць на гары, так і чакае, калі ты макотрык высунеш і рот адкрыеш... Не муха туды заляціць.

Калі ўзводны чуе, як нехта смяецца, рады, гэта азначае, што хлопцы трымаюцца, на нешта спадзяюцца. А куды падзенешся — жыццё даражэй.

Міхась — дзетдомавец. Бацькоў не стала, калі яму было восем гадоў. Родзічаў не было, і яго дырэктар школы адвёз у раённы дзіцячы дом. Не сказаць, каб і лёгка было там, але жадання калі-небудзь вярнуцца туды, праведаць ці ўспомніць той час, не было. У вёску прыязджаў. Да дырэктара школы заходзіў, быў удзячны, што той нешта зрабіў для яго, хаця то было і не ад сябе, а па педагагічнаму абавязку, але ўсё ж... А ў дзетдом — не, як і не існавала яго, як і выкінуў з жыцця тыя гады.

Справа ад нас разрываецца міна. Асколкі ляцяць над галовамі, завылі незадаволена, што не зачапілі гарачае маладое цела. Засеклі ці выпрабоўваюць? Узводны маўчыць. Яго каманду выконваем бездакорна — маўчым, нічым не выдаём сябе...

Потым выбух злева, спераду. І — ціха. Нейкі час ціха.

— Як адчуваеш сябе, радавы Добрусаў? — каб разрадзіць нервовую напружанасць, цікавіцца камандзір — Добрусаў паранены ў нагу, яму зрабілі перавязку.

— Усё добра, таварыш лейтэнант. Трымаюся.

— Трымайся — ужо нядоўга засталося.

Камандзір не гаворыць пра сваю задумку, значыць, канчаткова не прыняў рашэння. Ён сто разоў узважыць, асэнсуе, а потым знойдзе адзіна правільны выхад. Але і думае не паўдня, а якія-небудзь хвіліны...

Нас здорава заціснулі ў расшчэліне гары. Думалі, што капцы. А ўзводны знайшоў куточак і ўсім загадаў там залегчы. Праз хвілін колькі тое месца, дзе мы ляжалі, накрылі снарадамі — жывога месца на зямлі не пакінулі, ні сантыметра. Калі сціхла, камандзір загадаў распаўзціся па ўзарванай, раскурочанай тэрыторыі...

Калі ж апусцілася за гару сонца, узводны шапнуў мне:

— Непрыкметна падпаўзі да рова. Унізе павінны быць душманы. Калі яны там ёсць, падымі правую руку. Тады мы іх абыдзем справа і злева. З трох кропак мы скіруем на іх агонь. Заданне зразумела?

— Калі будзем страляць?

— Па сігналу ракеты.

— Зразумеў...

...І быў бой. І была ў тым баі наша перамога. Але не заўсёды ж такое можа быць пастаянна. Раз на раз, як кажуць, не прыходзіцца. Хіба ўгадаеш на такой вайне, хіба ж уберажэшся ад бяды?

Ад нашага ўзвода засталіся я і камандзір. Каго забіла, каго цяжка параніла, хто прапаў без вестак, а хто здаўся ў палон...

Быў і я ў шпіталі, быў і камандзір. Потым разам прывезлі — ледзьве жывых.

— Дзе шукаць цябе пасля Афгана, Міхась?

— Знойдзеш, як захочаш. А цябе на Петрыкаўшчыне?

— Там. Сустрэнемся. Быць таго не можа, каб не сустрэліся. Убачымся.

І яшчэ было некалькі баёў. У адным мяне пранізалі асколкі, перабілі ногі, рукі. І дарогі мае з узводным, як мне здавалася, разышліся...

Аказалася, што памыліўся. Вось тут, калі я ляжаў аслабелы, зусім выбіты з жыццёвай каляіны, поўны адчаю і апатыі, што ўжо і жыць не хацелася пасля перажытага і ўбачанага, прыйшоў да мяне дзед Рыгор. Сказаў пра ўзводнага. Вось там, у шпіталі, ужо на сваёй тэрыторыі, мы і ўбачыліся зноў.

Яго прывезлі днём.Быў ён бінтаваны-перабінтаваны, нават і твар, ад чаго я і не пазнаў адразу.

Паклалі яго, на маё шчасце, у суседнюю палату — дзверы насупраць, дзе лячыліся афіцэры. Нас, хто не хадзіў, вывозілі ў качалках на веранду.

«Травілі» анекдоты, рагаталі, расказвалі штосьці смешнае, каб забіць той агідны настрой, які меў кожны.

— Ні хаты, ні печы, ні дроў, ні палена, адна толькі радасць, што хрэн да калена... — пачуў я знаёмы голас і тут жа не вытрымаў, крыкнуў:

— Міхась! Ці ты гэта?

Медсястра, што стаяла побач, уздрыгнула, адмахнулася ад мяне рукой.

— Антон? — Ён прыўзняў галаву, павярнуўся ў мой бок. — Гвардыі радавы?

— Я, Міхась. Я! Як я сумаваў па табе...

Сястра падвезла яго да мяне, і мы адразу ж абняліся, не верачы ўсё яшчэ ў шчаслівую сустрэчу. Ён з'явіўся перада мною як крынічка ў пякельнай і мёртвай пустыні, як паветра ў задушлівым і гнілым сутарэнні... Але тое, галоўнае, дзеля чаго нам Бог і паслаў такую сустрэчу, будзе пазней, калі вылечаць яму вочы таленавітыя хірургі, калі збольшага стане на ногі...

Яго камісуюць з арміі як інваліда, мяне ж — па стане здароўя.

Але перад гэтым ён вярнуў мяне з небыцця. Усяліў у мяне надзею, уліў невядомую дагэтуль сілу. Ён аддаваў яе мне, аддаваў на адлегласці, хаця і сам не мог пахваліцца здароўем. Ён мне напомніў майго бацьку, у нечым яны былі падобныя, аднолькавая ад іх зыходзіла дабратворная энергія.

Тады вось і паехалі да бацькі, дзе далечваліся ўжо ўдвух. Барсучынае котлішча зрабіла сваю цудадзейную аперацыю душы.

Бацька лячыў яго ўрынай, адварамі з зёлак, сырой ежай.

І Міхась прыняў яго веру, узяў яго жыццё і лячэнне на ўзбраенне.

Я ж яшчэ толькі ішоў да гэтага.

Мяне вярнуў да жыцця Міхась, але маё новае нараджэнне было яшчэ наперадзе.

## 2

Грымнуў гром сярод яснага неба: без выбухаў, без крыві і новай рэвалюцыі расколвалася маналітная скала, разбілася на кавалачкі, потым яны раструшчыліся і ператварыліся ў пясок, пылоту...

Хто ж мог падумаць, хто ж мог уявіць, што чорны ідал, «ложный пророк», як яго вызначыў яшчэ сотні гадоў назад правідца

Настрадамус, зляціць са свайго п'едэстала, як і яго крывавыя памагатыя...

«Расстрэльваць, расстрэльваць, расстрэльваць — і чым больш, тым лепш...»

Ні ў аднаго крывавага дыктатара за ўсю гісторыю чалавецтва не было больш жорсткага, больш цынічнага лозунга-загаду-дырэктывы, чым у гэтага апантанага... ці чалавека?

«Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин...» — сказаў на поўным сур'ёзе паэт-трыбун і пясняр перавароту.

І ў беларускай школцы замест Багдановічавых васількоў, замест асабістай гісторыі, сваёй, нам падсоўваюць Маякоўскага, і вучым на памяць яго адыёзна-падхалімную паэму «Ленін», нам падсоўваюць герояў гісторыі накшталт Суворава, а ён густа і шчодра паліў крывёю зямлю Беларусі, жорстка падавіўшы паўстанне лепшага з беларусаў — Тадэвуша Касцюшкі, якога і палякі лічаць сваім.

А пра Полацак, пра Сафійку, пра Богшу — дзе мы маглі прачытаць што пра іх? Вытраўлівалі бальшавіцкай атрутай, рабілі з нас невукаў, быдлаў, манкуртаў: і не падумай хаця, і не скажы, і не засумнявайся, і не напішы, як думаеш, — непаслухмяных чакаў калючы дрот. І колькі чыстых, светлых душаў было распнута на тым іржавым дроце!..

І няма цяпер ідэалогіі, камуністычнай уяўнай ідэалогіі! Няма забаронаў на думкі і словы. Няўжо дзякуючы вялікаму балаболу з памецінай на лбе? Ці гэта быў ужо наспелы гістарычны працэс, які наспеў, які мусіў прарваць, як фурункул з брудам пасля доўгага і нуднага ныцця і болю.

Няўжо пачалося ўсё з Чарнобыля, які прагучаў, як набат, і адкрыццём — усё злое караецца, ніхто і ніштo не можа замяніць Бога: ні Ленін-Сталін, ні партыя камуністаў...

Маё ж прасвятленне пачалося з Чарнобыля.

Мне заўсёды снілася вайна. Пачатак яе. Хаця я нарадзіўся пасля яе. У сне была нейкая трывога, якой я паддаўся, бо трывожыліся, беглі людзі, несучы на сабе транты і клункі, спяшаліся, падалі. Божкалі бабулькі, няспынна хрысцячыся, глядзелі з надзеяй у шэрае неба...

Такое паўтараецца часта, я прачынаюся ў халодным поце і не разумею, чаму ў хаце ціха і спакойна. Такое снілася і пасля Афганістана, але не афганская вайна, а тая, з немцамі... Яна была мацней і ўражлівей, бо з дзіцячых год убілася ў галаву з размоў вяскоўцаў, бацькі, дзеда і маці.

А ў Афганістане мне снілася вайна з немцамі.

У тую красавіцкую ноч мне таксама прысніўся сон. Але сон-маўчанне. Сон-прарок. Людзі стаялі маўкліва, падняўшы вочы ў неба. Усе былі ў белым, кужэльным, як дзед Рыгор, я і яго ўгледзеў сярод усіх, толькі ён не глядзеў на мяне, як усердзіўся за нешта, — пагардліва адвярнуўся.

Усё вакол дыхала трывогай і страхам, адчаем і смерцю. Як чакалі некага. І Той нехта з'явіўся. У тым баку, куды глядзелі людзі. У светлым зеніце, у жоўтым арэоле, у белым-белым хітоне з распасцёртымі рукамі. І ўсе ўпалі на калені, апусціўшы галовы — ілбамі — да зямлі, у пясок, бо зямля была чамусьці апалена, уся спрэс у чырвоным вуголлі... і людзі босыя па вуголлі, па жарынах... і ўспомніліся чамусьці «босыя на вогнішчы»...

— Людзі! Лю-юююю-уудзі! Як жа вы гэта, га?

Голас балючым адчаем пранізаў кожнага, як промнем, — прайшоў і праз маё сэрца і душу, я аж скалануўся, закрычаў у сне — і прахапіўся. За акном усчалася завіруха, кволае лісце, якое толькі-толькі нарадзілася на бярозавых галінках, стукалася ў акно, як прасілася ў хату, быццам дрэвам было на вуліцы невыносна цярпець...

Трывога не праходзіла. Яна нарастала ўсё больш і больш.

А раніцай, калі я прачнуўся, бадзёры дыктарскі голас па тэлебачанні абвясціў аб дасягненнях будаўніцтва камунізму пад мудрым кіраўніцтвам. І — ні слова пра выбух. (А пра тое крычалі ўжо радыёстанцыі ўсяго свету.) І, як назло, перадавалі адны песні і танцы — нам весела жыць, нам нічога не страшна. Пір падчас чумы... Як і Сталін у першыя дні вайны не мог ачомацца і маўчаў, не мог сказаць і слова народу, так і Мішка Мечаны не ведаў, як растлумачыць такую бяду народу і ўсяму свету. А мо і не хацеў — каму трэба тыя беларусы і іх суседзі?

Дзень маўчанне, тры... Вакзал забіты ўцекачамі — людзі ратаваліся, ратавалі дзяцей, ратавалі будучае. Чамусьці хутчэй за ўсіх на вакзале аказаліся габрэі. І глыталі яны найперш актывіраваны вугаль, пілі ваду з ёдам.

А той жа паўпрэд «ШЧ» на праграму «Час» дае рэпартажы пра сяўбу і матчы футбалістаў, а цётка з Брагіна, стоячы сярод высокіх пыжыкавых шапак, па ўказцы аператара сказала партыйнаму босу з Масквы: «А ў нас усё добра, чаго нам баяцца — пражывём, не такое пераджывалі...»

Тады і сонейка наша з плямінкай выступіла, пацвердзіла, што мы, маўляў, даўно ведалі, аварыяй назваў найвялікшую ў свеце катастрофу — як быццам кола ў машыне паламалася.

Ва ўсіх нас потым наступіла азарэнне-прасвятленне — раз так думаюць пра народ партыя і ўрад, то можна здагадвацца, як тое рабілася ўсе гады... Нас быдлавалі, называючы «малодшым братам», з якім можна было паступаць як хочаш. І пастýпалі як хацелі, — амаль палову нацыянальнага багацця адбіралі ад нас усе гады...

А тут спадзяваліся, што мы і цяпер будзем маўчаць, як раней, маўчаць як рыбы... Як рабы.

Да Пецькі-Джо мяне пусцілі толькі на пятыя суткі.

Ён ляжаў у палаце з трох чалавек, каля акна. Убачыўшы мяне, абрадаваўся, хацеў падаць руку, але, пэўна, не здолеў яе падняць — толькі ўздрыгнула ад напружання. Я сціснуў яе, сказаў радасна:

— Здароў быў, Джо!

— Прывітанне...

Голас слабы, натужны. Пэўна, вялікіх намаганняў каштавала яму кожнае слова. У вачах адбіліся сляды пакут, адчаю, у іх цяпер была толькі абыякавасць. Толькі маё паяўленне ажывіла трошкі яго твар, пасвятлеў позірк. Напачатку я падумаў, што Пецька падстрыжаны, а потым убачыў на падушцы валасы... Бедны Пецька! І дасталося ж табе за твой кароткі век!

— Родныя прыходзілі? — Я стараюся прыдаць свайму голасу дзяжурны і амаль абыякавы тон, каб як-небудзь завязаць далейшую размову, бо і медсястра, чарнавокая дзяўчына, пільна змераўшы мяне позіркам, папярэдзіла:

— Толькі нядоўга, ён вельмі слабы...

Пецька ўздыхнуў, паглядзеў некуды за акно:

— Няма ў мяне, Антон, родных. Ні маці, ні бацькі.

— Як гэта?

— А так... Бязродны я, бязбацькавіч. Сам не ведаю, як на свет з'явіўся. І ад каго.

— А жывеш дзе?

— Анідзе. Дзе прыйдзецца. На вакзале жыў. У пад'ездах жыў.

— Ты ж мог у інтэрнаце жыць.

— Я ж не магу працаваць. А хто не працуе, куток не мае, не даюць.

— І нікуды не звяртаўся за дапамогай?

— Звяртаўся. Але каму я патрэбны? Пасля Афгана мне бюракраты гаварылі, як прасіў які куток, па льгоце: «А мы цябе туды не пасылалі...» Калі ж я як ліквідатар прасіў помачы, гэтак жа адшылі: «Хто вас туды пасылаў, хай той і памагае...» А мяне сярод ночы паднялі, апранулі ў вайсковую форму і туды... Дык хто мяне пасылаў?

Савецкая Армія? А цяпер няма Савецкай, бо няма Саюза. Дык хто пасылаў?

— Ды не можа быць такога! — не веру я, гляджу на яго і чую, як у кожным слове гучыць падман, фальш, і не веру, што Джо здольны на такое.

— Наіўны ты чалавек, Антон, хоць і пісака...

— Хто, хто табе такое гаварыў? Назаві хоць адно прозвішча. Я пайду, разбяруся, пагавару.

— Ну і што, калі пагаворыш? Так яны табе і пацвердзяць, што гаварылі тыя словы. Скажуць, што першы раз чуем, а ліквідатар ваш хлус і падманшчык. Ты во цяпер і сам так падумаў пра мяне, а што пра іх гаварыць? У іх скура тоўстая, нічым да іх сэрца не дастанеш. І не кажы, што прэса ўсё можа, памыляешся. На дурняў усё разлічана: над прэсай таксама ёсць прэс, ды яшчэ і які! Не крыўдзіся, ведаю, што непрыемнае табе кажу, але мушу сказаць. Спачатку думаў і сам да цябе звярнуцца па дапамогу. Пасля таго як прачытаў тваё «піяніна». Але то ты ваяваў з адной асобаю і то колькі адмываўся. А тут сістэма, сі-стэ-ма! Ну, дасі, як ты кажаш, падвал з кідкім загалоўкам, ну і што? Яны толькі пасмяюцца з цябе і з газеты.

— А рэагаванне?

— Не смяшы людзей. Адпісвацца яны ўмеюць. Ты і сам тое ведаеш — адпісваліся і на твае допісы, чым і злавалі цябе. А ты ім потым солі на хвост насыпаў. Ці не так?

— Але ж цяпер дэмакратыя.

— Ціха... — шапнуў ён затоена, потым яшчэ цішэй дадаў: — Ціха... Бо мае тараканы пачуюць твае словы і падохнуць. А мы да іх прывыклі, сумна без іх жыць стане.

Ён здзекаваўся з мяне, а я так стараўся пераканаць яго ў тым, чаму і сам да канца не верыў, бо і на сваёй жа скуры паспрабаваў усё.

— Вот ты мне скажы, браце Антон, — працягваў Джо ранейшым спакойным голасам, ужо сур'ёзна, — ты шчаслівы чалавек?

— Ды так... як сказаць.

— Во, шчыра сказаць не можаш, не хочаш, бо баішся прызнацца, што і цябе шкуматала жыццё пад самую завязачку. Што біла і пад дых, і пад рабрыну і па мазгах біла. Што болей нешчаслівых дзён і часін было, чым прыемных. Ці не так? Так, так, хоць згаджайся, хоць не згаджайся... А чаму? Адкрыць сакрэт?

— Ну, адкрый.

— Ты верыш у тое, што чалавек чалавека можа сурочыць? Наслаць праказу? Толькі чэсна?

— Ну, веру. З дзяцінства тое ведаў.

— Во, дзякуй. Тады ты зразумееш мяне. Ты пішаш, пішаш пра добрае і кепскае. Пра добрае — лягчэй. І — спакайней. Але ты хочаш, як тое сказаць, і самавыразіцца, самасцвердзіцца. Даказаць, што ты нешта можаш, на нешта здатны. І лезеш у тыя сферы, дзе вітае дух варожасці і зла. Адных ты абараняеш — для цябе гэта бяскрыўдна, хаця ж і траціш сілы... Але тыя, каму ты зрабіў дабро, праз нейкі час забываюцца пра цябе, не дасылаюць табе падзяк і пажаданняў быць здаровым і моцным — сувязь губляецца, і ты не маеш падтрымкі. Ты для іх ужо не існуеш.

Я з цікавасцю слухаў, адкрываў яго — ніколі ж да гэтага не гаварылі на такія тэмы, ды ні пра што, па сутнасці, не гаварылі, не было калі і не было нагоды.

— А вось табе другі бок. Ты расшавельваеш чорную магму, крануўшы пяром чорныя душы людзей. Злых і помслівых людзей. Чалавек — істота жорсткая, ён будзе помсціць абавязкова. І будзе думаць пра цябе з агідаю кожны дзень, праклінаючы цябе, жадаючы табе самага страшнага, нават смерці. Што яму твая смерць? Толькі радасць — больш пісаць не будзеш. Яны шлюць табе праклёны: «Каб цябе... каб ты...» І, як ні дзіўна, іх стрэлы далятаюць да цябе. Таму ты і пакутуеш начамі ад бяссонніцы, таму і хапаюць цябе хваробы, і кладзешся ў бальніцу. А ўрачы ніяк не могуць знайсці прычыны твае хваробы, спісваюць на стандартнае — нервы, творчае перанапружванне. Ды глупства ўсё гэта, і сам пра тое ведаеш. Дома невядома чаму пасварыўся з жонкаю, з дзецьмі не знайшоў агульнага, у выдавецтве вярнулі тваю кнігу на дапрацоўку, і нечакана акрысіўся на цябе рэдактар...

«Як дзед Рыгор мяне крые, — падумалася мне нечакана, калі ўспамінаў апошнюю сустрэчу з нябожчыкам, — як згаварыліся між сабою... Адкуль ён ведае ўсё падрабязна пра мяне? Дзіўна ўсё гэта. І дзед, і ён, Джо, гавораць мне праўду, да якой я яшчэ не дайшоў, але якая настойліва стукаецца ў маё сэрца...»

— Што, усё мо не так? Скажы, не так?

Голас у Пецькі слабеў. Ён ужо знямогся, даказваючы мне тое, чаму я і сам падспудна верыў, таму і згаджаўся з ім. Хто яму мог расказаць пра мяне? Містыка... Ці за свой кароткі век ён стаў мудрым і відушчым, як старац? Як дзед Рыгор?

— Так, Пецька, так. Са мною ніхто ніколі так не гаварыў. Апроч дзеда Рыгора.

— Хто такі?

— Бацькаў бацька. Сто дваццаць год пражыў. У сне да мяне прыходзіць. Ён і пра цябе казаў.

— Пра мяне? — спытаў без здзіўлення ў голасе: ён як быццам удакладняў, ці не памыліўся.

— Ён не называў тваё імя, толькі сказаў, што ў цябе на грудзях шрам крыжом.

— Тады я ведаю яго... Ён у белым, да зямлі, адзенні. І барада белая-белая, і любіць гаварыць: «Гідота-брыдота, не адвесці ад рота...»

Сапраўды містыка! Адкуль яму ведаць, як выглядае дзед Рыгор і якія словы любіў гаварыць?

— І ён прыходзіў да мяне. Як я адной нагой быў ужо «там». Ён насварыўся на мяне, сказаў, што рана яшчэ да іх. Прагнаў. То ён бачыў мае шрамы, бо я быў без адзення...

Верыць ці не верыць яго словам? Няўжо хлусіць — любімы занятак Джо? Дык ён жа і да мяне тады з'яўляўся, як быццам утрох жылі ў адным вымярэнні. Чаму дзед Пецьку ўпадабаў? Ці не таму, што мая душа памкнулася да яго, безабароннага і няшчаснага ў жыцці, слабога целам, але не душой? Хто ведае...

— Вось яно што...

У прачыненае акно залятае цёплы асенні вецер, толькі подых яго калыхнуў фіранку, прайшоўся па палаце. З тумбачкі, узняўшыся старонкай, упала газета.

Дзесьці на Сажы падаў голас буксір — пэўна, ішоў насустрач яму параход ці выходзіў на паваротку.

Пецька прымружыў вочы, уздыхнуў.

Я зразумеў, што адабраў ад Пецькі ці не апошнія сілы. Але не ведаў, што ён выведзе мяне на такія сцежкі, дзе адкрыюцца мне невядомыя дасюль тайны пра самога сябе, пра якія і не падазраваў. Ды яшчэ як адкрыў, з лупцаваннем, няшчадна. За тое, што так доўга не мог азірнуцца, задумацца над тым, што раблю і каму тое ў рэшце рэшт патрэбна.

Мне здалося, што Пецька задрамаў.

На маё плячо легла цёплая далонь медсястры.Ківком галавы паказала, што час скончыўся, што мне пара яго пакінуць аднаго.

— Што з ім? — пацікавіўся ў яе, калі выйшлі ў калідор.

— Лейкемія. Яму патрэбна аперацыя па перасадцы коснага мозгу. Яе ў нас не робяць. Толькі за мяжой. І каштуе яна дваццаць пяць тысяч даляраў. Але пра ўсё вы пагаварыце лепш з урачом, які лечыць яго.

— Дзякую, добра. Ён на месцы?

— У ардынатарскай. Вы ж у халаце, можаце ісці смела.

## 3

За акном зіма.

На белым снезе, пакуль што яшчэ не забруджаным попелам з заводскіх труб, выдзяляюцца рабінавыя гронкі, якія склёўваюць вераб'і і сініцы. Учора прыляцелі снегіры і далучыліся да іх кампаніі. Прыйшлося дзяліцца далікатэсам.

Дзень пусты. Ні за што не магу зачапіць рукі. «Эрыка» знямела, не рэагуе на мой душэўны покліч, на мой стан, не памагае, але ж і не злуецца...

Спрабаваў брацца за пэндзаль (гэта раней давала нейкае суцяшэнне і прыводзіла да раўнавагі), але на эцюдніку атрымоўваліся нейкія невыразныя і незразумелыя спробы бяздарнасці...

Да піва не цягнула зусім. Як і да гарэлкі. Гэта ад таго, што яна толькі ўзмацніла б мой боль.

Ведаю пра двух сваіх сяброў — калі ў іх «творчы крызіс», то яны напіваюцца да бяспамяцтва, а потым праз дзень-два выходзяць з гэтага стану асветленымі і свежымі. Нырaў у алкагольныя хвалі і Высоцкі, але вынырваў адтуль з нізкай новых вершаў-песень...

Спрабаваў акунуцца ў п'янку, каб змыць з душы хмару, але потым галава балела мо з тыдзень. Не кожнага, значыць, ратуе гарэлка.

У такі час, як назло, ніхто і не пазвоніць. Звоняць тады, калі шкада аддаваць на размовы нават хвіліны.

Я перабраў газеты, якіх накапілася цэлая гара, рассарціраваў на патрэбныя, павыразаў нешта цікавае, што магло некалі спатрэбіцца альбо проста было цікава, астатняе пусціў на макулатуру.

— Ці ёсць хто дома, ці ёсць хто дома? — заспяваў маркотна тэлефон.

Я абрадавана падняў трубку.

— Тута я!

— Вой, а хто гэта? — непасрэдны дзіцячы голас выказваў сваё здзіўленне.

— А ты хто? — стараўся я не напалохаць маленькага чалавека. — Трэба ж назвацца перш, тады і я скажу пра сябе.

— Я — Віка.

— А я — дзядзька Антон. Так ты можаш мяне называць. Не, лепей заві спадар Антон, добра?

— Добра, спадар Антон. А чым ты займаешся цяпер?

— Анічым. Не магу знайсці занятак, бо вельмі стаміўся ад папярэдняй работы. Чакаў, калі хто пазвоніць. Таму я рады твайму званку.

— Праўда? — абрадавалася дзяўчынка. — А я думала, што непрыгожа вось так гаварыць з незнаёмым чалавекам. Мне таксама стала сумна, і таму рашыла пазваніць. Я не ведала, які набраць нумар, і ведаеш, як я цябе набрала?

— Не.

— Сёння мяне выклікалі на ўроках шэсць разоў. Такога яшчэ не было ніколі. На першым уроку я атрымала пяцёрку. На другім — таксама. На трэцім — столькі ж. А на трох апошніх — тройка і дзве чацвёркі... Вось і склаўся нумар тэлефона...

— Геніяльна! — пахваліў я дзяўчынку, смяюся яе прыдумцы, і ў мяне, адчуваю, з'явіўся добры настрой — Віка не толькі развесяліла мяне, але і ўліла свежыя сілы, сама не падазраючы, пэўна, пра тое. — І як табе такое прыйшло ў галаву?

— Сама не ведаю. Ад суму што хочаш можна прыдумаць.

— Можа, і так. Ты адна дома?

— Адна.

— А дзе ж бацькі?

— Працуюць, мама — у бальніцы, тата — на заводзе, брыгадзірам.

— А ты ў чацвёртым класе вучышся?

— Ага. А адкуль ты ведаеш?

— У мяне відэатэлефон. Усё бачу.

— Няпраўда, у горадзе яшчэ ні ў кога няма. Хлусіш.

— Хлушу.

— А падманваць, хлусіць — кепска.

— Прабач, больш не буду, — усё больш і больш мне пачынае падабацца размова, імпануе непасрэднасць Вікі. Мне здавалася, што я яе нават бачыў — блакітная сукенка, такі ж бант на галаве, шэрыя вочы, кірпаты носік. Такі партрэт маляваў яе голас.

— Антон, прабач, але мне пара мыць падлогу, — вінавата прызналася дзяўчынка.

— Добра, Віка. Ты памагаеш маме?

— Не памагаю, то на мяне ўскладзены такія абавязкі.

— Зразумеў. Значыць, ты ўжо дарослы чалавек.

Віка яшчэ памаўчала і спытала:

— Антон, а ці можна мне яшчэ пазваніць? Калі стане сумна і захочацца пагаварыць. Не пакрыўдзішся?

— Не, не. Буду рады.

— Тады, другім разам, ты мне і раскажаш, кім ты працуеш, чым займаешся?

— Добра, раскажу.

— Тады — бывай. Усяго добрага.

— Шчасліва табе, Віка.

А ў мяне асацыяцыі — ідзе дождж, пахмурна, нідзе не схавацца, у душы бязладдзе і неразбярыха. І тут раптам рассоўваецца воблачная завеса і выглядвае цёплае і даверлівае сонца — пачынае саграваць сваім цяплом і даваць энергію, якую страціў, аддаў на нейкія патрэбныя і непатрэбныя клопаты. Так і тут — тым сонейкам стала невядомая і незнаёмая Віка...

Як хораша, калі ёсць тэлефон, які ў цяжкую хвіліну можа пасłаць табе на дапамогу дзіцячую непасрэднасць, якая простым і нязначным словам можа вярнуць да жыцця.

Кепскі настрой як рукой зняло.

Цяпер сама час прайсціся па ўзбярэжжы Сажа, зазірнуць у абком — пачасаць язык, паслухаць свежы анекдот.

На вуліцы ззяла зыркае напорыстае сонца.

Зноў кінуўся ў вір. Не ўтрымаўся...

Пісьмо даслалі з рэдакцыі. Скаргу. Першымі на чарзе на кватэру стаяла маладая сям'я. Ды абышлі іх — хто быў сёмым, тым далі. Сёмая — пляменніца сакратара райкома партыі, а начальнік ПМК яго лепшы друг... Узяўся, разварушыцца захацелася, бо заседзеўся па дробязных адпісках ды арганізаваных допісах...

Тыдзень я патраціў на збор фактаў. Прафсаюзны дзеяч ПМК, былы партыйны работнік Буднеў, тлусты, як кот, з лысінкай, таксама далёкі родзіч сакратара... Цэлы клубок, агульны муравейнік.

Набраў тэлефон сакратара — хацеў яму задаць апошняе пытанне, бо іграў ён галоўную партыю ў гэтай гісторыі.

— Хвілінку, — падняў трубку сакратар і тут жа паклаў побач з тэлефонам. Без усялякай перасцярогі гаварыў з некім. Пачуў выразна, як ён паведаміў:

— Ды яны нейкага сапляка з маладзёжнай газеты падключылі... Трэба правучыць яго, падбяры момант.

Сакратар раіў начальніку ПМК, як паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі, што гаварыць. Я загадзя падключыў мікрафончык да слухаўкі — касета круцілася, голас запісваўся.

Сакратар скончыў гаварыць, паклаў слухаўку, звярнуўся да мяне:

— Алё, слухаю вас. Хто гэта?

— Добры дзень, Віктар Платонавіч! Гэта той сапляк з маладзёжнай газеты, пра якога вы гаварылі Сідорчыку. Цікавая ў нас атрымліваецца размова. І яна пішацца на дыктафон.

Уяўляю маўклівы і разгублены твар сакратара — ён маўчыць некалькі секунд. Я апярэдзіў яго:

— Нам ёсць патрэба сустрэцца. На тры-пяць хвілін.

— У бліжэйшыя дні ў мяне няма часу!

— Па сутнасці тое нічога не мяняе. Дыктафон нашую размову фіксуе, і сапляка таксама, фактаў для артыкула дастаткова, але па журналісцкай этыцы няёмка ўспамінаць чалавека, амаль галоўнага героя, і ў вочы яго не пабачыць. Так што глядзіце самі, я не настойваю...

— Калі ёсць час, прыязджайце цяпер, а то я праз сорак хвілін імчу на Менск.

— Добра, праз дзесяць хвілін я ў вас буду.

Але гаварыў я ўжо сам сабе — у слухаўцы чуліся кароткія гудкі.

Я паслаў сігнал SOS.

Найперш у сваю газету, а потым у іншыя, звязаўшыся з калегамі па пяру, пісьменнікамі. У бядзе быў чалавек. Джо ніхто не абараняў, нікому ён не быў патрэбны. Быў у чэраве таго страшыдлы, якое напалохала ўвесь свет і нарабіла бяды мільёнам людзей. Пра дозу радыяцыі не казалі, у хлопцаў не было нават рэспіратараў. Яны былі як смертнікі, як злачынцы, якія нічога благога за сваё жыццё не зрабілі, але ім прыдумалі найвышэйшае пакаранне — паступовую і пакутлівую смерць пад рэактарам.

Смяротныя промні пранізалі яго наскрозь... Людзей абараняў ад бяды, а самога яна напаткала найперш. Цяпер жа тыя людзі павінны памагчы яму. Гарбачоў не паможа, бо Саюза няма, а хоць бы і быў, то ці балела б у яго галава за аднаго нейкага чалавечка, калі не балела галава за ўсю пакутную Беларусь. А Ельцыну і яго кампаніі нейкая там калонія — Северо-Западный край — ні ішоў ні ехаў...

Неабходна было тэрмінова сабраць грошы для таго, каб зрабіць аперацыю за мяжой. Адкрылі рахунак у банку, куды можна перасылаць грошы...

За гэты час пазваніў у лясніцтва, дзе працаваў бацька. Ляснічы быў на месцы.

— Як там жыццё, Зміцер Сымонавіч?

— А як у той бульбы — калі не пасадзяць, дык з'ядуць.

— Зразумеў. Як там бацька?

— Трымаецца. Нам бы яго рэлігію. Маладых за пояс запіхвае. Вунь, бачу, па двары ходзіць, нешта парадкуе.

— Як бы з ім перагаварыць? Пільны ёсць клопат. І вашая, Сымонавіч, дапамога трэба.

— Якая?

— Бацька потым раскажа. Спачатку я ў яго павінен атрымаць згоду. Я роўна праз паўгадзіны буду званіць, хай падыдзе.

— Добранька. Зразумеў цябе, Антон.

Бацька з'явіўся ў намечаны час. Я яму кораценька расказаў сітуацыю. Ён маўчаў, абдумваў усё. А я і не падганяў — ад таго, якое бацька прыме рашэнне, залежала многае, можа, і жыццё Пецькі...

— Дык то пра яго было ў абласной газеце і ў тваёй?

— Пра яго, бацька.

— Бо тут ужо і ў вёсцы пачалі збіраць грошы, калі прачыталі.

— Уся бяда, бацька, у тым, што наўрад ці ўдасца сабраць грошы. Валюта толькі ў буйных прадпрыемстваў, а яны сёння ўмеюць грошы лічыць. Хто ён ім — без роду, без племені. Кааператары таксама — без выгады грошы не дадуць.

— Сітуацыя, — уздыхае бацька. — Але ж у мяне ёсць нейкія задумкі. Што ж, давай рашымся — будзем лячыць твайго хлопца. Я ж пабудаваў у Барсучыным котлішчы леснічоўку. Ён там і будзе жыць. Думаю, што дамо нейкае рады.

— Дзякую, бацька.

— За што? Трэба — значыць трэба.

— Сымонавіч згадзіўся памагчы, раскажы яму, якая дапамога ад яго трэба.

— Добра. Прыязджай. Чакаю. Каб праз тыдзень прыехаў бы, надта добра было б.

Прыйшла са школы дачка. Бачу, засмучоная, не глядзіць у мой бок, адварочваецца.

— Таня, што з табой? — прысядаю, стараюся пагладзець у вочы.

І раптам у яе вонкі вырываецца плач — аж не можа стрымацца.

— Дачушка, што здарылася? — устрывожыўся я, беручы за худзенькія плечыкі. — Набіў хто?

— Не-е... Настаўніца двойку паставіла.

— За што?

— За... сачыненне. Яна сказала, адкуль я ведаю, што ў гладышы малако.

Вось яно, аказваецца, што. Учора дачка папрасіла мяне памагчы напісаць сачыненне па малюнку. Маладая жанчына з дзяўчынкай сядзелі на ўзлеску і абедалі. Разам з хлебам, цыбуляй і рознай ядой стаяла пасярэдзіне гладышка. Мы разабралі малюнак.

— Адкуль яны могуць ісці?

— З вёскі. Былі ў гасцях.

— А што трымаюць вясковыя людзі ў гладышах? Як у нашай бабулі, што жыве ў Цыбулева?

— Малако.

— Вось ты і адказала на сваё ж пытанне.

— Дзякую, татусь, іду дапісваць...

І во — настаўніца Дуброўская, заслужаная настаўніца, зрэзала дзіцячую фантазію пад корань, адбіла крылы, і дачка плюхнулася на зямлю...

Як мне растлумачыць дачушцы, трэцякласніцы, што настаўніца паставіла сама сабе двойку за няўменне выкладаць расейскую мову. Ёй бы штабным пісарам акурат добра, дзе ўсё канкрэтна, без выдумкі, дзе люмінь, а не алюміній правіць баль...

У старэйшай, Ірыны, беларускую мову выкладала Бэця Ізрайлеўна. Ці ж было калі наадварот — каб габрэйскую мову выкладалі габрэям беларусы? Наўрад ці... Прагледзеў сшытак па беларускай мове і здзівіўся — адны пяцёркі. Калі ж пачаў правяраць практыкаванні, то ў кожным знайшоў па восем — дзесяць памылак. Пераправіў пяцёркі на двойкі і паказаў дачцэ. Яна, здавалася, не здзівілася і не пакрыўдзілася на маё ўмяшанне.

Рашыў паслухаць, як ідзе выкладанне прадмета ў класе. Можа ж бацька папрысутнічаць на ўроку, паглядзець, як вучыцца дачка?

І — наслухаўся. «Пішыце в строчку», «пішыце з краснай стракі», «запамятавайце напісанне назоўніка»...

На перапынку цікаўлюся, калі ўсе выйшлі з класа:

— Бэця Ізрайлеўна, скажыце, што азначае слова «запамятаваць»?

— Как что? Запомнить! — здзівілася настаўніца маёй недасведчанасці, нядобра бліснуўшы на мяне сваімі чорнымі вачыма.

Калі ж я потым сказаў дырэктару школы пра свае ўражанні і вывады, тая запярэчыла:

— Так это же лучший преподаватель беларусского языка в городе!

Божачка! Бедная мая мова!

Яшчэ ўспомнілася...

На бацькоўскім сходзе класная Ірыны, Зінаіда Аркадзьеўна, неспадзеў звярнулася да мяне:

— Антон Сяргеевіч! Я хацела б, каб вы падзяліліся вопытам выхавання сваёй дачкі — у вас «благополучная» сям'я...

Дзіўнай была просьба. І — нечаканай.

— Па-першае, адкуль вы вызначылі, Зінаіда Аркадзьеўна, што ў нас «благополучная» сям'я? А па-другое, вопытам выхавання дачкі падзяліцца я не магу. І вось чаму — я не ведаю, што такое выхаванне. І таму ніколі дачку не выхоўваў. Урокі амаль ніколі не памагаў вучыць.

— Але ж яна выдатна вучыцца.

— Тым больш — не спадзяецца на чыю-небудзь дапамогу. У першым класе, на першых днях вучобы, прыходзіць яна дадому. Кінула партфель — і на вуліцу. Кажа, трошкі пагуляю. Жонка раз адарвала ад вуліцы, потым другі. А на трэці рашылі — хай гуляе, пакуль не надакучыць. Гуляла да тае пары, пакуль не змерклася. Прыйшла і ледзьве не плача — урокі не падрыхтаваны.

— Сёння позна ўжо, дачка, час падрыхтоўкі ўрокаў прайшоў, пара класціся спаць...

Раніцай я пазваніў настаўніцы, каб яна паставіла ёй двойку. Яна здзівілася, але ўважыла маю просьбу.

Дачка прыйшла дадому ў слязах. Прызналася пра двойку. Выбегла на вуліцу, пагуляла з паўгадзіны і — за ўрокі. З таго часу з вуліцы яе ніхто не клікаў. А за ўрокамі ніхто не сачыў. Вось і ўсё...

Бацькі заўсміхаліся майму аповеду, а класная, відаць, пакрыўдзілася, што яе намаганні правесці педагагічную гадзіну на высокім узроўні не спраўдзіліся. Сказала толькі:

— Это же жестоко, Антон Сергеевич!

— Затое я пазбавіўся ад непатрэбнай апекі над дзіцём. Яна навучылася сама размяркоўваць час, прывыкла сама адказваць за свае ўрокі, за сябе. Я даў ёй волю. І яна тое зразумела. Спадзявалася ва ўсім толькі на сябе.

А сам пра сябе падумаў: каб жа мой сённяшні розум і магчымасці ў дзіцячыя гады, то савецкую школу ababег бы за тысячы кіламетраў. Для чаго мне цяпер тая хімія і алгебра, трыганаметрыя і Канстытуцыя?.. Што я запомніў? Сінус, косінус, аш два о... Маглі ж гэта і па-за ўрокамі вывучыць, хаця б азнаёміцца, а асноўнае, што трэба ў жыцці, — сваю гісторыю, родную літаратуру, замежную мову — мы не ведалі і не ведаем. І выхоўвалі з нас паслухмяных і тупых рабоў, раўнялі пад адзін грабянец, з аднолькавай колькасцю мазгавых ізвілін...

Акцябронак, піянер, камсамолец, камуніст... Многія абавязкова павінны былі прайсці праз такі этап (па дзіцячым этапе?!), гэтыя прыступкі. Першыя тры як закон, а вось чацвёртая — як па разнарадцы. Бо зверху спускаўся план — колькі рабочых трэба прыняць у партыю, колькі калгаснікаў, інтэлігентаў... Але маглі ісці туды ўсе, хто жадаў, — абы спраўна плаціў потым узносы, карміў тлустых «катоў»...

## 4

Я ўзяўся за ручку дзвярэй, калі зазваніў у хаце тэлефон. У мяне іх два — адзін у дальнім пакоі, дзе мы спім і дзе мой рабочы куточак, і тут, у калідоры, каля дзвярэй, побач з залай.

— Тута я!

— Антон, добры дзень, гэта Віка! Як у цябе справы?

— Нічога, добра. А ў цябе?

— І ў мяне нічога. У нас жыве кошка Машка, і ўчора яна прывяла пяцёра кацянят.

— Цікавая падзея.

— Антон, а ты сёння без настрою, — зразумела мой стан Віка. — Я не ў час пазваніла?

— Так, Віка, не ў час. У мяне білет у кішэні на аўтобус, які адпраўляецца праз пятнаццаць хвілін.

— Шкада. А я хацела з табой пагаварыць.

— А ты пазвані мне паслязаўтра. Добра?

— Добра. А ў цябе тады будзе добры настрой?

— Не ведаю, Віка, пэўна, будзе. Тады і разбяромся. А цяпер — прабач, пабег я.

— Да паслязаўтра.

Адчуваю, што пакрыўдзіў малую. Трэба было неяк інакш з ёю пагаварыць альбо зусім не падымаць слухаўку. Так табе і трэба. А цяпер думай, перажывай, дакарай сябе.

Аўтобус напакаваўся людзьмі, і я ледзьве паспеў ускочыць у прачыненыя дзверы — вадзіцель ужо закрываў іх.

Наперадзе амаль тры гадзіны дарогі. Як кажуць, пісьмо зноў паклікала ў дарогу. Будзе час падумаць, паразважаць над сваім жыццём, узважыць, асэнсаваць мінулыя дні, памарыць...

Мяне адразу ахутала дрымота — цеплыня, што нараджалася ў аўтобусе, закалыхала мяне, кінула ў сон...

Ну вось і ўсё... «Заканапаціў» усе шчыліны ў сваёй рабоце, сплаціў усе даўгі — газеце і сябрам, пазашываў прарэхі і дзіркі, наклаў латкі, больш таго — напруціўся і зрабіў некалькі пісьмаў рабочых і механізатараў, тым больш што пасля раённых канферэнцый іх у мяне сабралася больш трох дзесяткаў. На ўсе выпадкі жыцця.

З крытыкай, з аналізам. Я загадзя прасіў пра тое першых сакратароў, каб чарнавікі потым пакідалі для мяне.

Пазваніў Валеру і сказаў пра ўсё гэта. Намякнуў, што выдыхнуўся і хачу цяпер заняцца лёсам свайго падапечнага, цяпер ужо нашага падапечнага — газета ж узялася яму памагчы.

— Добра, калі што, прыкрыю, — паабяцаў ён, — але ў выпадку чаго дзе цябе шукаць?

— Зялёнамошскае лясніцтва на Мазыршчыне. Альбо звані дадому — жонка адкажа.

— Лады. Зразумеў. Дарэчы, у заўтрашні нумар ідзе твая «пуга» — пра даярак з Залесся. Толькі загаловак я замяніў, клішэ зрабілі.

— Добра, дзякую. Бывай.

Аўтобус завёз мяне на ўскраіну горада, дзе на беразе Сажа размясцілася бальніца. Паказваю пропуск. Мне выдалі белы халат. Ліфт завёз на пяты паверх — у тое аддзяленне, дзе знаходзіўся Джо.

Я прыняў рашэнне. Ён выпісваецца, і мы едзем да бацькі. Потым абком камсамола дае машыну — дамовіўся з першым — і імчым на Палессе.

Асцярожна стукаюся ў дзверы дзяжурнага ўрача. Ручкаемся, і я адразу цікаўлюся станам Пецькі — колькі дзён не наведваўся.

— А вы хіба не ведаеце? — Новікаў глядзіць на мяне і запрашае сесці.

— Не... А што? — баюся пачуць пра самае страшнае, і ў мяне ўсё халадзее ўсярэдзіне.

— Вы не хвалюйцеся, з Пецькам нічога не здарылася. Проста ён ужо выпісаўся.

— Калі?

— Учора. Настояў, каб выпісалі. Мы курс лячэння амаль правялі, але ён сказаў, што паправіўся, што яму ў нас няма чаго рабіць.

Я не верыў таму, што адбылося, таму перапытаў:

— І вы адпусцілі яго? У такім стане?

— А што мы маглі зрабіць? Ён прыгразіў, што збяжыць сам, калі не адпусцім. Ды і ваша тут ёсць невялічкая віна, калі ўжо на тое пайшло...

Урач падняўся з крэсла, падышоў да акна, расчыніў яго яшчэ больш — пачулася шамаценне галін пад слабым ветрам.

— Мая? У чым?

— Не ведаю. Але мне падалося, што ён з-за вас быў такі ўзбуджаны і так паступіў. Мо што доўга не прыходзілі ці якая іншая прычына. Лепш ён вам сам пра ўсё раскажа...

— Але дзе мне яго цяпер шукаць?

— Дзе? Дома.

— Ды няма ў яго ніякага дома. У тым і бяда, Віктар Пятровіч, што няма.

Урач нахмурыўся, закусіў губу, пацёр кулаком падбароддзе.

— А мне казаў, што да бацькоў паедзе, будзе здароўе папраўляць.

— У яго сур'ёзна са здароўем, Віктар Пятровіч?

Новікаў кіўнуў галавой:

— Вельмі. І вы правільна падалі сігнал SOS. Адгукваюцца на заклік?

— Глухія людзі. Нашага крыку не чуюць... Ну, як жа гэта вы далі прамашку? Я ж збіраўся яго тэрмінова завезці ў сваю вёску. Там бацька мой з таго свету людзей вяртаў. Хацелі во і яму памагчы. А тут дарагія кожная хвіліна і гадзіна.

Я паціснуў руку і пайшоў да дзвярэй.

— Калі што ўведаю, адразу вам дам сігнал, — паабяцаў Новікаў, праводзячы мяне.

Я кіўнуў галавой.

## 5

Джо, ну дзе цяпер шукаць цябе?

А мо ты зусім з'ехаў з горада і цяпер знаходзішся за тысячы кіламетраў ад мяне? Што я зрабіў такога, каб ты так раззлаваўся на мяне?

Цэлымі днямі я блукаў па вуліцах горада, пабыў ва ўсіх піўнушках, але нідзе яго не ўбачыў. Не дасі ж у міліцыю фота на стэнд «Іх шукае міліцыя». Тады ўвогуле буду яму ворагам.

Дзе ты, Джо, адгукніся! Мне не было часу завітаць да цябе, другім людзям трэба была помач, і я кінуўся туды. Але ты ж на першым месцы ў мяне, і я ўсё падрыхтаваў, каб выканаць просьбу дзеда Рыгора... Толькі ж жыццё дыктуе нам свае ўмовы і свой сцэнарый. Каб жа я ведаў, што ты, Джо, пакрыўдзішся на мяне, плюнуў бы на ўсё і памчаў да цябе, кожны дзень прыходзіў бы...

На Віку не хапіла часу, а, пэўна ж, няпроста так звaніла, дзіцячай душы было адзінотна. І табе адзінотна, Пеця-Джо. Калі ў Вікі яшчэ ўсё жыццё наперадзе, то ў цябе невядома што заўтра... Ну і дурань жа я набіты! Якой бяды нарабіў! Божа, памажы мне адшукаць яго, ён сам не ведае, што творыць, што робіць для самога сябе блага. І для мяне таксама. Навучы, дзе шукаць яго...

Плануеш так, а выходзіць ніяк. Так і ў мяне. Усё расклаў па палічках, з усімі дамовіўся, а забыўся пра дробязь — удакладніць пра ўсё з Пецькам. Ён і не падазраваў пра мае імкненні памагчы яму, пра тое, што я, рызыкуючы работай, умешваюся ў яго лёс...

Я мог бы папрасіць колькі хвілін экраннага часу на тэлебачанні — вяду ж там зрэдку сваю перадачу «Літаратурная гасцёўня», але ведаю, што ён ніколі і не глядзіць тэлевізар. Як і не слухае радыё. І газет, адпаведна, не чытае. Ён адарваны ад свету. А можа, і не

адарваны, то мы ад яго свету адарваныя. Але ад таго не лягчэй — Пецькі няма, і слядоў не пакінуў.

Каб жа ведаў адрас яго цёткі. Ды наўрад ці і яна існуе, не верыцца ў тое. Упэўнены, што наплёў пра яе, каб не падумалі, што ён недзе «пазычыў» тыя ляшчы, якімі частаваў на піўным полі. А мо і ёсць тая цётка, ды не патрэбен, пэўна, ёй Пецька...

Няўжо згубіў? Няўжо — назаўсёды?!

Як жа мне тады апраўдацца перад сваім сумленнем, перад дзедам Рыгорам, калі з'явіцца, што скажу яму? Нічым не апраўдаюся. Бо няма і падстаў ніякіх для гэтага.

І я ўсё ж працягваў да позняй ночы блукаць па горадзе. У кожны пад'езд заглядваў, не мінуў ніводнага падвала ў цэнтры, дзе ён мог начаваць, — было ж па-зімоваму холадна.

Днём заспела мяне Віка, а я быў у роспачы.

— Табе цяжка зноў, Антон, праўда?

— Праўда, Віка.

— Хто пакрыўдзіў цябе? Злыя людзі?

— Не, Віка, я сам сябе пакрыўдзіў.

— А так бывае?

— Здараецца. Адзін мой знаёмы, які стаў амаль і сябрам, папаў у бяду — захварэў. Быў у Чарнобылі. Яму патрэбна аперацыя за мяжой, а грошай няма. Я хачу завезці яго да бацькі, які вылечыў шмат людзей. Прыехаў у бальніцу, а ён выпісаўся, уцёк ад мяне. Пакрыўдзіўся, што не прыязджаў да яго.

— А бацькі...

— Няма ў яго бацькоў. Нікога няма. І вось я хаджу тыдзень і не магу яго адшукаць. І адраса ў яго няма, і жылля няма. А дарагі кожны дзень...

— А што цябе затрымала?

— Ездзіў у камандзіроўку. Абараняў дзяўчыну ад самадурства старшыні, яна выпускніца заатэхнічнага вучылішча.

— Абараніў?

— Працуе, усё наладзілася.

— А сябра згубіў. Антон, а давай будзем разам яго шукаць?

— Не, ты яшчэ малая. Нельга табе... Гэта для дарослых. Я павінен яго адшукаць, Віка, я. Чаго б гэта мне ні каштавала. Як з вучобай?

— Нармальна.

— Як кацяняты?

— П'юць ужо малако.

— Ну во, у цябе ўсё добра.

— Амаль што.

— Чаму — амаль што?

Віка засмяялася:

— Як-небудзь іншым разам.

— Добра, звані.

— Мг… А ты знайдзі Джо. Абавязкова знайдзі.

Вось і Віка ненарокам далучылася да лёсу Пецькі. Але ці меў я права рабіць «замыканне» на дзіцячай душы? Я ёй перадаў свой боль. Як грамавы разрад на зямлю. У яе ж і сваіх дзіцячых клопатаў хапае, яшчэ і маіх, дарослых, дадалося. Знайшоў каму расказваць пра сваю бяду! Ну ці не цяльпук я пасля гэтага? Дзяўчынка ж і пазваніла табе дзеля таго, каб аблегчыць свой боль, даверылася табе, а ты… Як самы агідны эгаіст, не выслухаўшы яе, сваю агіднасць ёй перакінуў — у падарунак. Вар'ят! Дэспат!

Божа, што за насланнё такое на мяне ў гэтым месяцы?!

Няўжо мая зорка так пахіснулася, перайшла на другую арбіту? Па гараскопе, што я глядзеў, Цяльцу спадарожнічае толькі ўдача! Хто ж мне выдаў такі білет? Венера, якая ў мяне за фундатара? А я не адчуваю яе дабраплыннага ўздзеяння, наадварот, мяне душаць няўдачы і супярэчнасці, не знікае процістаянне…

Я ў нейкім цэйтноце сваёй удачы. Ды якая, шыпшына мая калючая, удача, калі пракол за праколам… Калі сабраць усё ў кучу, то атрымаецца вялікі мінус…

Некалі, калі быў я яшчэ сляпым, калі прымаў на веру ўсё, што было напісана ў школьных падручніках, бабулька сказала мне, што ёсць на небе Бог і трэба слухацца яго і не рабіць нічога кепскага… Тады ж, тры ночы запар, прыходзіў да мяне дзед Рыгор і, стаўшы на калені, плакаў:

— Унучак, я яшчэ сто разоў гатоў памерці, але паслухай мяне, старога, адумайся. Ты ж сляпое кацянё, якое не ведае, куды ідзе і што робіць. Ніколі не былі такімі твае продкі, а ты стаў слугою ў сатаны. Ніколі не было такога, каб за нас думалі другія, толькі мы — яцвягі, палешукі, дрыгавічы — думалі самі за сябе і адказвалі за свой род, за будучы род. Чаму ў твае мазгі загналі гаўно і ты памяшаўся розумам?! Адумайся! Як навучыўся чытаць, ты не трымаў у руках Біблію. То ж вялікі грэх! Знайдзі яе, прачытай. Адумайся! Дай слова, што не будзеш рабіць глупствы, ну-ууу?!

Дзед раз'ятрыўся, замахаў рукамі, і здавалася, вось-вось ашчаперыць рукамі маё горла і мне будуць капцы. Я разумеў тое. Я такім дзеда яшчэ не бачыў, тым больш пры жыцці. Ачомаўшыся, прачнуўшыся нават, я адказаў дзеду:

— Даю слова, дзед Рыгор! Вось пабачыш, я не падвяду цябе!

Жонка прачнулася, спалоханая, прыціснула мяне да падушкі, нешта шаптала супакойваючае, а я, укручаны мокрай прасцінай, курчыўся ў сутаргах, не могучы зразумець, чаму дзед Рыгор ператварыўся ў маю жонку...

— Во давялі палюбоўніцы, што і спаць не можаш з-за іх, — уздыхнула яна, калі пабачыла, што я супакоіўся.

Здаецца, каб не Ўльяна ў гэты час, то я зрушыўся б «па фазе»...

Некалі, калі прыціснула мяне бяда і хапіла сэрца, калі адкачалі дактары, пайшоў праз колькі дзён да Прыпяці, укленчыў, зажмурыў вочы, падставіў твар космасу, прамовіў:

— Ойча наш, які на небе! Ды свяціцца імя Тваё, ды наступіць панаванне Тваё, ды будзе воля Твая і на зямлі, як на небе...

А ў маёй кішэні ляжаў той чырвоны, як вымачаны ў чалавечай крыві, партыйны білет з сілуэтам таго, хто хацеў адрынуць людзей ад Бога.

Але я адчуў у той жа момант, што Бог не адрынуў мяне ад сябе.

Калі б я не верыў у Бога, у Яго святую дапамогу, калі б не памаглі жонка і дактары, то я быў бы ўжо на тым беразе жыцця, адкуль не прыплываюць назад...

Знік, растварыўся Пецька-Джо, бы цукар у шклянцы вады.

Якія я толькі ні прадпрымаў спробы, на якія ні ішоў прыдумкі, якія сеткі ні закідваў, каб вылавіць яго ў піўных забягалаўках, качагарках, падвалах, — і ўсё без вынікаў.

Старшыня абласнога пісьменніцкага гурту Васіль Качоў, даведаўшыся, што еду ў Нароўлю, папрасіў заадно папрысутнічаць на літаратурным аб'яднанні пры раённай газеце. Сказаў, што ёсць цікавыя хлопцы і дзяўчаты, мо што і для газеты спатрэбіцца. Намячалася выдаць літаратурны альманах, дык для яго трэба было адабраць колькі вершаў ці апавяданняў.

Заседзеліся дапазна, за спрэчкамі і размовамі не заўважылі, як прабег час. Загадчык аддзела сельскай гаспадаркі Мікіта Цыбулька, які і кіраваў літаб'яднаннем, угаворваў застацца яшчэ на адну ноч. Хаця і час быў позні, але я заўпарціўся — спаслаўся на важную прычыну.

Дарогай, здаецца, драмануў. Дзесьці на паўдарозе, як толькі пераехалі Дняпро, на нас абрынуўся дождж. Ды яшчэ, здаецца, падмарожвала...

Аўтобус поўз марудна і асцярожна — вадзіцель баяўся, каб нас не занесла ў канаву. Непрыкметна да майго плечука прыхінулася русявая дзяўчына, што сядзела побач.

У маіх вачах стаяў Джо — пасміхаўся з мяне, крыўляўся.

— С вами умереть можно со скуки, — шапнула мне перад самым горадам суседка.

— Дзякую, што вы мне пра тое сказалі ў канцы дарогі, а не ў пачатку.

— Пожалуйста. А вы из Наровли?

— Адтуль. А што?

— А оно и видно — на деревенском языке разговариваете. Разрешите, я встану, мне скоро слезать надо.

Не ўтрымаўся, сказаў:

— Калі вы на некага залезлі, то можна і злезці.

Вакол засмяяліся, але спадарожніца, пэўна, не зразумела з-за чаго... Аўтобус спыніўся, яна нырнула ў дажджліва-снегавую цемру, пабегла назад па дарозе, згінаючыся, хаваючыся ад халяпы.

Мы спазніліся амаль на дзве гадзіны, але ніхто не крыўдаваў — па дарозе бачылі не адну аварыю.

Я выйшаў апошні. За спінай грукнулі дзверцы аўтобуса, і ён тут жа ад'ехаў — паехаў у гараж. Разбегліся хто куды пасажыры, а я нечага яшчэ марудзіў, як раздумваў — ісці дадому ці не.

Была другая гадзіна ночы.

У прыцемку, каля калоны, не звяртаючы ўвагі на халяпу, стаяў хлопец — як быццам п'яны, хістаўся, падтрымліваючы сябе рукой — упершыся ў калону. Не ведаю чаму, але мне захацелася падысці да яго, сказаць, каб не стаяў на холадзе, а ішоў у залу, дзе цяплей. Нейкае шкадаванне падгарнулася да мяне — прападае ж чалавек з-за сваёй неабачлівасці.

Дакрануўся да пляча, але ён стаяў нерухома, не паварочваўся да мяне.

— Вам блага? Вам трэба ў залу — там суха і цёпла...

Я абышоў яго і стаў наперадзе. Па твары ў яго сцякала вада, на непакрытай галаве змерз снег, быў ён непаголены, зарослы, твар — зямліста-чорны. Хлопец глядзеў абыякава на мяне і нічога не бачыў. Святло ад акон слаба адбівалася ў яго вачах. І тут я як бы спатыкнуўся аб што — мяне затрэсла ад нечаканасці...

— Джо?! Пецька, ты? — не паверыў сваім вачам, схапіў за плечы, страсянуў. — Што ты тут робіш?

Ён маўчаў, як і не чуў мяне. Ці не пазнаваў?

— Чаго ўцёк з бальніцы, мяне не папярэдзіўшы? Чым я пакрыўдзіў цябе? Скажы, чаго маўчыш?

Я стаў перад ім на калені, на слізкі асфальт, абняў за ногі і прыціснуў да сябе. Ён як анямеў, не чуў нічога наўкола, што я яму казаў.

— Прабач, Пецька, я не хацеў зрабіць табе балюча.

У ім нешта адгукнулася, я пачуў, як ён не то выдыхнуў з сябе паветра, не то закрычала ад болю яго спакутаваная душа — выдыхмычанне было доўгім і безнадзейным...

Я зноў устаў, прытуліў яго да сябе, павёў да ўвахода. Пасадзіў на першае сядзенне. Ён ужо не ведаў, што адбываецца з ім, няўцямна глядзеў перад сабой. Выдыхнуў з сябе гэтак жа, як і на вуліцы, паветра, усё роўна як крычаў, крычаў маўкліва, некаму аднаму, хто б мог яго пачуць. Калаціўся ўжо, адчуваючы холад, сцепануўся раз, другі, заляскалі зубы...

— Джо, ты пасядзі хвілінку... Я на секунду, ты не падымайся толькі.

Добра, што працаваў на дварэ тэлефон-аўтамат — рэдкая з'ява ў нашым жыцці. Знайшлася і двушка. Жонка ўжо спала, але адразу ж адчула маю трывогу:

— Што ў цябе здарылася?

— Улляна, я адшукаў Джо. Выклічы тэрмінова нам на вакзал таксі. Мы будзем чакаць. І вось што яшчэ. Налі ў ванну вады, ён, здаецца, прастудзіўся. Будзем лячыць. Харошай гарбаты зрабі. І падрыхтуй канапу, засцялі...

— Добра, Антон, зразумела.

— Дзякуй. Чакай.

Калі вярнуўся да яго, Пеця, не расплюшчваючы вачэй, прамовіў:

— Нікуды я не паеду. Бальніца мне не паможа.

— А мы не ў бальніцу паедзем. Да мяне паедзем.

— Тым больш дадому не паеду сярод ночы. Клопатаў з-за мяне...

— І не зусім дадому — на карэспандэнцкі пункт. А туды можа завітаць кожны, хто пажадае.

— І ўсё роўна не хачу.

Я зусім не разумеў яго. Чаму ён упарціцца? Чаму?

— Джо, скажы, чым я пакрыўдзіў цябе?

Толькі цяпер ён павярнуўся да мяне, як прачнуўся ад дрымоты ці нежадання гаварыць са мной, як не закрычаў:

— Сказаць? Чым? А то і сам не ведаеш? Хто цябе прасіў даваць на ўвесь свет тое, што ты пісаў пра мяне? Якое SOS, якое «памажыце, людзі»? На храна мне твая і людская дапамога! Я ненавіджу жаласць. А пакліча да сябе Бог, так таму і быць. Мне не будзе сорамна перад ім...

— Пецька, апамятайся! Што ты гаворыш!

— Гэта ты апамятайся! Чаго ты лезеш туды, дзе цябе не просяць, — са сваёй міласэрнасцю, з жаданнем некаму памагаць, прасіць,

капацца ў гаўне?.. Гэта твая работа ці абавязак душы? І тое, і тое — праціўна і непрыгожа.

«Як згаварыліся з дзедам, адно і тое ж гавораць, а я хіба вінаваты, што мяне жыццё кінула ў такую (няўжо няўдзячную і непатрэбную) прафесію?!»

— Работа, Джо. Інакшай не маю. Але не ўва мне загваздка, Пятро. У табе. Адкінь усе абвінавачванні, падазрэнні, паслухайся мяне. Паехалі ў вёску да майго бацькі. Ён — ляснік. Ён будзе цябе лячыць сваім метадам.

— І тут без мяне ўсё рашыў?

— Рашыў. Бо рашаецца твой лёс, тваё жыццё ў небяспецы. І таму нельга адкладваць ні на адзін дзень. Я заклінаю і прашу, Пецька, я адказваю за цябе...

— Хто цябе ўпаўнаважыў быць адказным за мяне? Хто? Адкуль такі Хрыстос узяўся? Адкуль ты на маю галаву? — ён, здаецца, плакаў, схіліўшыся да каленяў, мокрыя валасы звісалі на лоб, хавалі вочы...

— Афган мяне ўпаўнаважыў. Закон брацтва. Мы ж на вайне, Джо! На вялікай вайне. Няўжо ты не разумееш, што цябе спачатку паслалі забіваць, а потым паслалі, каб забіць цябе ж нябачнымі промнямі... Ты не мог процістаяць, бо не меў такой сілы, бо беларусам нарадзіўся, рабом у расейскай імперыі. І намі распараджаліся як хацелі. А цяпер, калі цябе выкінулі за борт жыцця, ты і рукі апусціў — не ўмешвайцеся, я памерці хачу, мне так зручна, змагацца я не ўмею і не хачу... Сорамна так думаць! Нягожа... Я абавязкова звяду цябе з маім узводным, ён табе лепей за мяне растлумачыць, што да чаго. Як і мне некалі, як я быў вось у такім настроі, як ты цяпер — паміж жыццём і смерцю...

Ён зіркануў недаверліва на мяне, быццам хацеў пераканацца, ці я яму гавару ўсё тое, што адчуваў. На нас са здзіўленнем глядзелі людзі, якія сядзелі побач.

— Ладна, рабі што хочаш, — здаўся Джо і абвяў зноў, выказаўшы ўсё, патраціўшы на тое апошнія сілы.

Каля мяне спыніўся юнак у джынсавым адзенні, дакрануўся да пляча:

— Для вас заказвалі таксі?

— Для нас...

У Пецькі падняцца не было ўжо сіл — адкінуў галаву на спінку сядзення і цяжка дыхаў. Данесці да таксі памог вадзіцель — ведаў, каго нясём, павінна ж была сказаць Улляна...

Хаця і ў крыўдзе быў на мяне абкомаўскі сакратар Пятро за крытычныя выступленні ў газеце, але ж «Волгу» даў. А каб рэйс вадзіцеля быў апраўданы, пасадзіў з намі інструктара, які заадно справіць свае клопаты ў гаркоме і райкоме камсамола...

Пецька быў маўклівы і стомлены.

Мо і адчуваў яшчэ сваю віну за ўчарашняе. А мо і не адчуваў. Дзіма Рукавіцын, вадзіцель, усю дарогу расказваў анекдоты, стараўся стварыць вясёлы настрой. Інструктар Лёня Касач усю дарогу маўчаў, нечым быў незадаволены — мо ад таго, што нечакана выпала яму дарога, а думаў нешта важнае зрабіць на месцы.

## 6

Бацька накінуўся на мяне:

— Чаму ж так доўга не было?

— Узніклі нечаканыя праблемы, бацька... Не крыўдуй. Раскажу — усё зразумееш. У цябе як, усё гатова?

— А нам і не трэба рыхтавацца.

Бацьку, само сабой, не па душы было нашае спазненне, не ведаю чаму. Не апраўдаешся ж перад ім тым, што Пецька збег ад мяне і я так доўга яго шукаў.

Бацька не мяняўся з гадамі, хаця яму было ўжо каля сямідзесяці гадоў. Такі ж рухавы, лёгкі на хаду, хударлявы, але не настолькі, каб сказаць, што на ім скура ды косці. Ён быў па-маладому працавіты, актыўны, амаль ніколі не хварэў.

У маці спрэс ссівелі косы. Рукі ад натруджанай, як не рабскай работы на ферме сталі вузлаватымі і загрубелымі. Але калі яны датыкаліся да майго твару, да хворай галавы, я адчуваў іх пяшчоту і цудадзейную сілу — пакрысе праходзіў боль і святлела ў вачах.

Вочы ў мамы маладыя, светлыя, бы празрыстыя крынічкі-азярыны. А голас... Голас яе буду памятаць усё жыццё. Ніколі маці не павысіла голасу, не накрычала на мяне, ніколі ні на кога не раззлавалася. Яе голасам можна было лячыцца. Яна і сапраўды лячыла не раз, калі не толькі мяне, а каго іншага знячэўку ахоплівала хвароба...

Яна ведала, што свайму не заўсёды памагае, таму насіла мяне да бабы Аўдолі, якая шаптала і ад пуду, ад болю ў жываце, ад суроку. Лячыла шаптаннем, шаптаннем малітвы, якую, можа, сама і прыдумвала:

«Божа, навошта ты насылаеш хваробы на неразумнае дзіця, якое яшчэ не паспела правінавацілца перад Табой, не заслужыла Тваёй кары... Ён жа так любіць бацькоў, усё жывое на зямлі і Цябе шануе, Божа, не адварочвайся ад яго. Хай упэўненасць авалодае ім,

навучыцца цвёрда хадзіць па зямлі, хай дыхае на ўсе грудзі паветрам, бегае па лузе і купаецца ў копанцы, у красках-кветках... Прападзі, хвароба, пакінь сына ў спакоі...»

Я, памятаю, заўсёды засынаў пад музыку яе слоў.

Калі ж прачынаўся, мяне ўжо нічога не непакоіла, не турбавала — хваробу як рукой здымала.

— Чаго, сынок, так рэдка прыязджаеш? — вінавата пыталася маці, як быццам была ў тым і сама вінаватая, а не я. — Усё радзей і радзей. Нельга ж так цурацца роднага гнязда...

— Я і сам ведаю, што рэдка. Але столькі клопатаў, мама, што няма калі і дыхнуць.

— Дык што ж гэта за работа такая, што і дыхаць няма калі, — горка ўсміхаецца матуля, са скрухай і шкадаваннем глядзіць на мяне, — дык мо на другую перайшоў бы...

— Мо і перайду з цягам часу, пабачу.

— А што ты за хлопца прывёз, Антон? Сябра твой? — зноў у мамы голас ранейшы — мяккі і добразычлівы.

— Больш чым сябар, мама. У Афганістане, як і я, ваяваў. На кроў хворы. У Чарнобылі быў, на самой станцыі, як ірванула. Калі бацька не паможа, то...

Маці пахітала, шкадуючы хлопца, галавой:

— Ён да маладзіка чакаў вас. А цяпер поўня, зыход...

— Вось чаму ён узлаваўся на мяне, пакрыўдзіўся.

— Ён жа заўсёды, калі чалавек нямоглы, пачынае лячыць на маладзік. Тады сіла ў чалавека нараджаецца. І свае клопаты заўсёды на маладзік пачынай... Хіба ж не казаў бацька?

— Казаў... Ды каб гэта ўсё можна было падагнаць у жыцці. Усё перамешана, завязана ў нейкі вузел, што і не развязаць. А вузлоў такіх — не злічыць.

— Чаму ж ты жывеш, што ўсё перамешана, з вузламі? Нягожа так. І Ўляна не прыязджае, як засердзілася на мяне нечага. Сварыцеся?

— Усяляк бывае.

— Ды ты ўступай ёй, трэба ж жанчыну слухацца — яна ж маці.

— А што я зраблю, такі ў мяне характар. Такое жыццё, мама.

— Эх, сын, сын, нешта не так у цябе, у душы тваёй не так...

З бацькам жа гаварылі да раніцы. Перш чым узяцца за лячэнне, хацеў ён пра Пецьку больш даведацца.

— Хрышчоны хоць?

— У Афгане нас разам кулі хрысцілі.

— То сатана вас хрысціў. Там смерць была. І табе, і яму неабходна ў царкву схадзіць, грахі свае зняць з сябе. Ці быў ён у царкве? Ці хрышчоны?

— Спытаю, не ведаю.

— Як харчуецца? Што есць?

— Як усе — чым кормяць.

— Ёгай не займаўся?

— Пэўна, не. Дэсантнікам быў, кросы па сто кіламетраў рабіў.

Бацька маўчыць, думае пра нешта, пытаецца, мусіць, пра галоўнае:

— Сын, а сам ён ці хоча таго лячэння? Тут галоўнае яго жаданне. Я магу пачаць толькі пасля таго, як ён цвёрда скажа мне, што пойдзе на ўсё і выцерпіць усё, што я яму прапаную.

З гэтым адказам было куды цяжэй. Я расказаў бацьку пра ўсё, нічога не ўтойваючы. Каб зразумеў сітуацыю.

— Тут вялікая, сын, ахвота трэба. І жаданне. І — сіла волі. Трэба мне з ім самому пагаварыць.

— Пагавары, бацька. У цябе лепей тое атрымаецца. Мо здолееш пераламаць яго, ажывіць, прымусіць паверыць у самога сябе. На цябе аднаго спадзяванне.

— Добра.

Падалі голас ужо другія пеўні.

— Пара спаць, сын. Кладзіся...

Толькі дакрануў галаву да падушкі — і пайшоў я некуды па гнуткім імху бацькавага абходу. Мяне ахутала мройная цеплыня, у спіну грэла сонца — я растварыўся ў бацькавым лесе, зліўся з дрэвамі, кустоўем, паветрам...

І са мной жыло шкадаванне, што мала выпадала вось так гаварыць з бацькам, слухаць яго душу і пульс дабрыні, шмат чаму павучыцца мог я ў яго, пераняць. А ён не раз спрабаваў разбудзіць ува мне цікавасць да таго, што ён робіць, а я, дурань, адкладваў надалей, пераносіў на нейкія пазнейшыя дні...

«Цяпер я папрашу ў таты прабачэння за сваю глухату і невуцтва, разам з Пецькам буду браць у яго ўрокі доўгажыхарства і здароўя, каб навучыцца і самому валодаць такім жа дарам, як і дзед Рыгор, і мой бацька, а потым перадаць тое сваім дзецям...»

З такімі думкамі я і праваліўся ў салодкі сон, які бывае толькі ў роднай хаце...

Праз тры дні бацька запрог кабылу Машку і павёз Джо на Барсучынае котлішча.

Перад гэтым тата доўга гаварыў з ім. Пра што гаварылі, не чуў — сышоў у лес, па якім засумаваў, замаркоціўся. Але адчуў я, што Пецька паверыў майму бацьку, а значыць, даў слова слухацца яго ва ўсім...

Найперш Петрусю была прапісана дыета: еў салаты з крапівы. Спачатку ён жаваў недаверліва, насцярожана, як бы правяраў, ці не атруціцца. А потым, асмялеўшы, еў усё, што рыхтаваў яму лекар. Ён аддаўся поўнасцю яго ўладзе.

Праз колькі дзён у вачах хлопца засвяціліся невядомыя мне раней іскрынкі жыцця, цікавасць да бацькавай методы, вера ў добрыя перамены.

А я радаваўся яго настрою — як добра, што ён пайшоў насустрач і маім, і бацькавым намаганням. Бо яго, Петрусёва, жаданне мела палову поспеху ў лячэнні. Так казаў бацька. Дай, Божа, майму сябру доўгае жыццё... Уратуй і захавай!

Дні былі і не сказаць каб халодныя і золкія, але і цёплымі назваць нельга было. Пачыналася вясна. Пятрусь глядзеў на мае любыя з дзяцінства мясціны, і ў яго святлеў ад замілавання твар:

— Хораша як!

З яго грудзей вырваліся радасць і ўзнёсласць, якія ён знайшоў тут, у лесе, у голасе чуліся бадзёрасць і спадзяванне.

— Я ж табе казаў, што не пашкадуеш, калі прыедзеш сюды, — сказаў я, але сустрэўся з бацькавым неадабральным позіркам і таму адразу перавёў гаворку на іншае: — Тут грыбоў восенню — касу закладвай. Восенню мы абавязкова паходзім тут.

— Сляпы сказаў: «Пабачым», — адказаў няўцямна сябар, але то быў яго любімы выраз, які азначаў нешта сярэдняе паміж згодай і абяцаннем.

Машка спусцілася ў лагчыну, асцярожна ступала па балотнай твані, быццам спрабавала дарогу на цубкасць, а потым пайшла ўжо ўпэўнена, нават спяшаючыся.

І гэты ўзболатак, і гэтыя алешыны, і хмель, што абвіў іх як не да вільчыка і церпка патыхаў ад узболатку, і нейкі своеасаблівы, толькі тут народжаны пах, і ўсё астатняе, што складала агульную сімфонію ляснога настрою, — з дзяцінства сядзела ў маёй душы і цешыла ўспамінамі, мрояй, што некалі, у хуткім часе, адкінуўшы свае клопаты, я прыкладуся і зрокам, і душой да гэтага гаючага асяроддзя і вярнуся ў ранейшае чыстае і светлае рэчышча.

Ужо з самага пачатку шляху, калі мы пачалі грузіцца, адчуў, што мне нехта памагае ў маёй рупнасці. За што б ні браўся, цяжару не

адчуваў — як нехта яшчэ, нябачны, трымаўся за клунак ці каробку з гарохам, крупамі і бобам.

Адно бацька пасмейваўся нечага, хаваў усмешку.

Ведаў мой настрой ці быў далучаны да гэтай тайны?

Мы ўзялі кажухі, абутак, запасныя гумовыя боты, сякеру, пілу, нажы, лыжкі і відэльцы, — бацька, аказваецца, усё падрыхтаваў загадзя, ведаў, што можа спатрэбіцца там. Ён не тлумачыў, як усё будзе наладжана і арганізавана, хаця, як я меркаваў і разумеў, меў свае планы з самага пачатку нашага падарожжа.

Выехалі на тую дарогу, дзе некалі гінула на маіх вачах дзяўчынка, мая равесніца, а мы не маглі ёй нічым памагчы. Пэўна, у кожнага з нас, хто тады назіраў за трагедыяй, на ўсё жыццё засталося пачуццё сваёй слабасці і бездапаможнасці, упэўнены быў, што прыходзіла яна, жывая, да кожнага ў сне і калі не дакарала, то глядзела чыстымі і празрыстымі вачанятамі і маўчала.

Да мяне ж яна прыходзіла часта, як і дзед Рыгор, але ніколі не прамовіла ніводнага слова — ні папроку, ні дакору.

Машка тым часам павярнула ўправа, паднялася на невысокую пясчаную выспачку з чэзлым сасоннікам і, пабегшы трушком, выкаціла нас у бярозавы гай — бялела і справа, і злева, суцэльныя бярозавыя свечкі, аж балела ў вачах...

Вось яшчэ неглыбокі раўчук — Мікітаў брод, потым урочышча Алёсы, бацькава падсочка, і далей, яшчэ глыбей у лесе, акружанае з усіх бакоў непралазным гушчарняком і балотам, і знаходзілася бацькава запаведнае месца, перададзенае ў спадчыну дзедам Рыгорам, а дзеду Рыгору — дзедам Анціпам...

Пэўна, то была бацькава вялікая тайна.

Кабыла сама ўжо трымалася шляху, бацька яе і не надта падганяў — сама вывезла нас з нізіны, павярнула ўлева, зноў з дзвюх непрыкметных дарог выбрала правую, і густое голле пачало шлёгаць нас па твары, па галовах і спіне.

Праз нейкі час Машка спынілася.

— Вось і ўсё, прыехалі, — прамовіў бацька, першым саскокваючы з воза, атрасаючы з сябе сенную труху. — Міласці прашу.

Мы стаялі каля невялічкай хаціны, якую я ніколі не бачыў. Бацька заўважыў маё здзіўленне, заўсміхаўся:

— Бач, як даўно не быў тут — не ведаеш, што і за хата вырасла. Я жыву калі-нікалі тут, начую...

Дык вось чаму мы бралі транты, кажухі, посуд, бульбу і ўсё астатняе, неабходнае.

— І вы тут жыцьмеце... Праз тыдзень я пакіну вас, калі прыйдзе пара. Як ты, Пятрусь, не змарыла цябе дарога?

— Не, Сяргей Пятровіч, наадварот, падбадзёрыла крыху, — радасна адказвае Джо, глядзіць на бацьку, на мяне, прадчуваючы невядомую, але захапляючую старонку ў сваім жыцці. — Толькі не магу растлумачыць свой стан — мне стала незвычайна лёгка.

— Здзіўляцца ты будзеш яшчэ не раз.

Бацька распрагае Машку, спутвае яе і пускае ў сасоннік, за ім лугавіна, знойдзе, дзе папаптацца. Я ж бяру лахманы, клункі, нясу да парога і ўсё не магу адарваць позірку ад леснічоўкі — як ладна змайстравана, як прыгожа выраблены аканіцы — з узорамі, з карункамі. Пазіраю і на Петруся, радуюся яго добраму настрою.

У леснічоўцы стол, два ложкі, крэслы, паліца з кнігамі і часопісамі. Грубка з плітою, на якой можна гатаваць ежу. Было і падполле, куды я згрузіў мяшкі з буракамі і бульбай, морквай і капустай. Адчуў, што шмат страціў чаго ў сваім жыцці: імкнуўся да мора, туды, бліжэй да сонца, а тут, зусім побач з вёскай, з роднай хатай, у гэтай залатой мясціне, ці не найлепшай у свеце, можна было сядзець з машынкай ці мальбертам і рабіць сваю галоўную ў жыцці работу — пісаць, пісаць, пісаць... Не тое, што прымушалі абставіны і праца, а тое, што балела, тое, што хацелася, што накапілася за доўгія гады...

Божа, чаму асвятляе Твой розум і наступнае прасвятленне позна, а не тады, калі трэба?.. А мо і не позна? Можа, ніколі не позна?

— Крынічка не забыўся дзе? — падае бацька металічны пазалочаны гладыш на тры літры — з дужкай-ручкай. — Прынясі вады.

Каб дайсці да яе, неабходна спусціцца па прыступках у роў. Пад нахіленай калінай, якая штогод цвіце буйным цветам, а потым зімой палаюць чырвоным полымем буйныя пераспелыя гронкі, і схавалася нябачная воку крынічка.

Памятаю, што бацька некалі рабіў з дубовых клёпак спецыяльную бочку і абгарадзіў тое месца. І кожны год чысціў яе, асвяжаў.

Калі прынёс крынічанкі, бацька паставіў гладыш на стол, потым адліў у кубак, падаў Петрусю:

— З гэтага самага моманту я і пачынаю дадзенае мне Богам і прыродай лячэнне. Можа, нават і не лячэнне, а проста я вам павінен паказаць натуральны стан чалавека ў жыццёвых абставінах, якога не павінны браць ніякія хваробы. Прашу яшчэ раз аднесціся да ўсяго сур'ёзна і з вялікім жаданнем спасцігнуць вялікую тайну, якая некалі і не была тайнай... Галоўнае — паверыць... Вось толькі цяпер я

адчуваю, што вялікая хвароба сядзіць у табе і не можа пакінуць цябе. Але да тае пары, калі ты сам захочаш яе выгнаць са свайго цела. Цяпер адкажы: ці згодзен ты прайсці праз усё, перамагчы і вылечыцца?

Пятрусь нейкі момант маўчаў, уражаны такім урачыстым момантам, не выпускаў з рук кубак з вадою і адказаў цвёрда і ўпэўнена:

— Згодзен!

— Ці верыш ты ў тое, што хвароба пакіне цябе назаўсёды? Ці верыш?

— Веру.

— Ці абяцаеш ты не парушаць дадзенае табой слова і пройдзеш праз усе выпрабаванні, якія выпадуць табе тут, у святым месцы?

— Абяцаю... Я ўсё вынесу, усё вытрымаю.

Бацька ж неяк перамяніўся, стаў іншы і напамінаў мне хутчэй нейкага дзеда-чараўніка, толькі без барады, і ад яго сыходзілі мудрасць і нейкая глыбінная ўпэўненасць у сваёй перакананасці і правільнасці, ён як бы зарадзіўся нейкай нябачнай энергіяй, і яна выпраменьвалася на нас, умацоўваючы ў сваёй сіле і дабрыні.

— Запомніце абодва: гэтае акно — усход. Заўсёды, калі вы будзеце піць, стойце тварам толькі на ўсход. Пі, Пятрусь, першую сваю порцыю гаючай сілы. Бог пачуў цябе, Бог ідзе табе насустрач...

Пятрусь піў павольна, маленькімі глыткамі, смакуючы, адчуваючы, як у яго ўліваецца нябачнае «нешта», расцякаецца па кожнай клетачцы яго цела, напаўняючы ўсю яго істоту лёгкасцю і Божай асветленасцю.

Бацька стаяў з растапыранымі рукамі, як бы гладзіў кубак, але не датыкаўся да яго, нешта шаптаў.

Следам выпіў і я — гэтак жа павольна, не адрываючы губ ад срэбнага кубка. Бацька гэтак жа «гладзіў» далонямі і мой кубак...

— І ў табе, сынок, бачу, сядзіць хвароба. Яна дрэмле пакуль, але некалі абавязкова напомніць пра сябе. Ці згодзен ты ісці следам за ім, слухацца свайго ўнутранага голасу?

— Згодзен, бацька.

— Прыйшла пара перадаць табе ўсё, што ведаю, што ўмею. Ці гатовы ты да гэтага?

— Гатовы.

— Ты вернешся адсюль іншым чалавекам, не такім, якім прыехаў сюды. Ці не пашкадуеш, што твае думкі будуць мець іншы кірунак? Ты шмат страціш, але знойдзеш утрая больш. Найперш — светлы розум. Ты выйдзеш адсюль са светлымі думкамі і жаданнем рабіць добрае і раднае.

— Не пашкадую. Я гатовы да ўсяго. Усё вытрымаю.

— Мне яшчэ бацька казаў, твой дзед Рыгор, што перадаць павінен толькі табе. І вось той час прыйшоў. І табе, Пятрусь, таксама пойдзе на карысць — ад цябе я нічога ўтойваць не буду.

— Дзякую, Сяргей Пятровіч.

— Вы выпілі незвычайную ваду. Калі б я хацеў стаць багатым, то ім бы мяне зрабіла вось гэтая крыніца. Чаму? Ёсць такая мясцінка на зямлі — Хузакут. Там людзі жывуць па сто дваццаць і сто пяцьдзесят гадоў. Жывуць доўга таму, што ў іх ёсць крыніца чароўнай вады. Чаму чароўнай? А таму, што калі абследавалі яе, то аказалася, што мінералы ў той вадзе прысутнічаюць не ў форме іонаў, а ў форме калоідаў, ды яшчэ адмоўна зараджаных, а вадкія крышталікі вады настолькі энергетычна насычаны, што вада тая мае паверхневае нацяжэнне шэсцьдзесят восем дзін-сантыметраў. А звычайная вада мае нацяжэнне на паверхні значна больш — семдзесят пяць дзін-сантыметраў. Вось усе гэтыя ўласцівасці і робяць хунзакуцкую ваду жыватворнай. Амерыканцы знайшлі замяняльнік, а адзін прадпрымальнік на гэтым скалаціў цэлы капітал. Памятаеш, Антон, як я лячыў прафесара? Дык я папрасіў яго дачку, каб яна зрабіла аналіз маёй вады, але каб не прызнавалася, дзе яна яе ўзяла. І, ведаеце, вада аказалася намнога лепшай за хунзакуцкую. Я не кажу, колькі каштуе літр — некалькі даляраў, але багачом я быць не збіраюся. Я і так багацейшы за ўсіх — нават за мільярдэраў. Яна павінна, хлопчыкі, і вам памагчы! Як і многім іншым. Ды паможа вам Бог!

— Няхай паможа!

Бацька адкрываўся перада мною новымі невядомымі гранямі, якіх я дасюль не заўважаў. Не пазнаваў яго, бо адразу ж паддаўся яго чароўнасці і цудатворнасці, поўнасцю падпарадкаваўся яго ўладзе, паверыўшы беспаваротна, як ніколі, што я падышоў да таго парога, за якім будзе маё новае нараджэнне, мая душа набудзе новыя рысы, і я вызвалюся ад непатрэбных думак, перажыванняў, зразумеўшы, што на гэтым свеце ёсць шмат іншых каштоўнасцей. Вера мая ўмацоўвалася ў маёй душы з кожнай хвілінай, з кожнай секундай.

Пра крыніцу і яе цудадзейныя ўласцівасці бацька ніколі мне не прызнаваўся. І я не надаваў раней ніколі ўвагі, калі падчас хваробы паіў каго і гаварыў: «Вада з маёй крынічкі, яна абавязкова паможа...»

Ён здаваўся мне ў гэтыя дні няхай не Богам, дык недзе самым блізкім Яго памагатым, бо мы пачалі жыць па законах яго рэлігіі, дадзенай Богам, яго філасофіі. Найперш ён забараніў нам есці мяса. Растлумачыў тое тым, што першы чалавек, створаны Богам, мяса не

ўжываў зусім, яго страўнік і язык былі прыстасаваны да сырой яды — тое, што ядуць каровы, свінні.

Страшныя рэчы адкрываў нам бацька. Я пра тое ніколі не чуў, ніводная газета не пісала пра тое. Я цяпер ведаў — чаму. Нашаму грамадству добра мець людзей з нездаровай псіхікай, якія б маглі без шкадавання забіваць у Афганістане і іншых кропках, якія б не задумваліся над сваімі паводзінамі, і ў іх жыла пастаянная смага крыві і забойства... А гэта жахліва і бесчалавечна!

Бацька паказаў, як на цёрцы рыхтаваць для яды буракі і капусту, як прарошчваць жыта і авёс, гарох і боб... У нас стаялі дзесяткі слоікаў з белымі наклейкамі, з вадой і насеннем, якое павінна было пусціць парасткі і якое мы павінны былі спажываць праз дванаццаць дзён...

Наступны і пасля гэтага дзень мы не трымалі нічога ў роце з яды — галадалі. Самае дзіўнае і тое, што мы палілі ў грубцы, але нічога не варылі, нават гарбату. Мы абагравалі хату, стваралі мікраклімат, у якім ладзілі сваё асабістае энергетычнае біяполе.

Бацька зняў матрацы і дошкі, што былі пад імі, і аказалася, што то і не ложкі зусім, а каробкі памерам з ложак, спрэс засыпаныя зямлёю і пакрытыя мохам. Вось на гэтую «пярыну» і паклаў нас гаспадар хаціны. Яна была прагрэтая, нават цёплая. Укрываліся лёгкім прасцірадлам.

— Чалавек усё сваё жыццё павінен спаць на зямлі, як і хадзіць па ёй босы. Як і есці ўсё жыццё сырую ежу, а не забіваць жывёлу і звера варварскімі метадамі і спажываць іх. З таго першага моманту, калі чалавек забіў звера і з'еў яго мяса, у ім і нарадзіліся інстынкты агрэсіўнасці, зла, зайздрасці... Паўтару — у нас кішэчнік, як у свінні, якая ніколі не есць мяса. І язык у нас разлічаны адчуваць салодкае, кіслае, салёнае, а ў звера разлічаны толькі на мяса. Чалавек сам сябе сапсаваў, ператварыўся ў звера.

— Бацька, а адкуль у цябе такія веды?

Ён не адказаў мне, не выказаў крыўды, што я перабіў яго, працягваў сваё:

— Таму адзін з кампанентаў майго патрабавання — сыраедства. Яно выганіць асноўнае чорнае смецце з вашага засмечанага арганізма. Заўтра з раніцы вы будзеце есці толькі сырую гародніну і садавіну.

Я гляджу на Петруся, думаю: а што ён адчувае ў гэтыя хвіліны? Ці не засумняваўся ў тым, што прапаноўваў нам бацька? Але ён не глядзіць у мой бок, ён аддадзены самому сабе і настаўніку, лекару, бо пайшоў па яго шляху і не збочыць з яго. Позірк строгі, самаадданы.

Для яго ўжо нічога не існавала, нішто не магло збіць з дарогі, па якой кіраваў.

І я плыву побач з ім у гэтай вірліва-трывожнай плыні, не змагаюся, не стараюся выплысці да якога-небудзь збавіцельнага берага, а толькі лёгкімі ўзмахамі рук стараюся ўтрымліваць раўнавагу на плыву, каб не пайсці на дно. Але — дзіва — адчуваў на паверхні сябе я ўпэўнена і лёгка. Нават не плыў па цячэнні, аддаўшыся ўладзе магутнай ракі, а ляцеў пад подыхам порсткага ветру, і не рукі былі ў мяне, а самыя сапраўдныя крылы...

Пецьку навучыў бацька рыхтаваць асабістую ўрыну, упарваць яе да адной трэцяй у гліняным горшчыку, наказваў піць тры разы на дзень. І дома бацька трымаў коз, ад іх браў урыну і штодня паіў хворага.

Шмат чаго яшчэ цікавага адкрываў ён перад намі.

На сёмы дзень ён пакінуў нас абодвух, схаваўшы ў тайнік стрэльбу, папярэдзіў:

— Ці мала што ноччу — не злы чалавек, дык раз'ятраны звер... Але я думаю, што да такога не дойдзе. Буду прыязджаць, наведвацца. Рабіце ўсё так, як я раіў. І ўсё будзе добра.

І мы засталіся адны.

Як Рабінзон з Пятніцай на неабжытым востраве...

## 7

Праз колькі дзён наведаўся бацька зноў.

Прывёз тэлеграму ад Валеры: «Усё спакойна. Не хвалюйся, прыдумаў табе важкую прычыну адсутнасці». Жонка прыслала пісьмо. Цікавілася, як я і чаму пераключыўся з маладых дзяўчат на падлеткаў. Нічога не зразумеў.

Але радавала галоўнае — можна пабыць у гэтым раі яшчэ нейкі час.

Наша затворніцтва працягвалася.

Але кожны дзень уліваў у нас бадзёрасць і сілу — мы гэта адчувалі ўвачавідкі.

І нагаварыліся ж мы з ім!

А зблізіліся яшчэ больш, як не парадніліся. Пятрусь мяняўся на вачах. Пажвавеў позірк, упэўненай стала хада. А мы з ім блукалі як не кожны дзень па некалькі кіламетраў.

— Слухай, Антон, я адчуваю, як у мяне ўліваюцца кожны дзень сілы. Усё больш і больш. А ты як адчуваеш?

— Тое ж самае, Джо.

— Ты вось што, Антон... Прабач мне, дурню, за тое... ну, што я на вакзале табе лухты нагаварыў.

— Нічога, браце, і не было на вакзале. А я рады, што ў цябе іншы настрой, што з табой гаварыць можна, спрачацца, а не сварыцца.

Добра, што захапіў з сабою блакнот. Мне захацелася пісаць. І думкі выскаквалі так хутка, што я ледзьве паспяваў іх запісваць.

Пятрусь далікатна не адрываў мяне ад майго занятку, тым больш што спаў ранічкай доўга — зморвала яго стома. А мне хапала гадзінкі дзве пасядзець за сталом. І пісаў пра лес так, як ніколі да гэтага не адчуваў і не разумеў яго. Цяпер я сцвярджаў, што лес дадзены чалавеку Богам і ёсць у гэтым глыбокі філасофскі сэнс. Здзіўўся хіба адной акалічнасці — тут, у леснічоўцы, і словы знаходзіліся патрэбныя, і былі яны як баравікі ў дажджлівыя дні — толькі не лянуйся згінацца і зразаць. Галава ж была ясная і чыстая. Такі ж і настрой жыў ува мне.

Няўжо пра тое казаў мне бацька?

І праз нейкі час да мяне даляцела зусім простая выснова — усё тое, што было там, у Гомелі, на рабоце, усе тыя дробязныя спляценні і карункі жыцця, плёткі пра расейскіх і сваіх, беларускіх, вялікіх мужоў, пра цэны і талоны, пра віно і гарэлку, — што ў параўнанні з тым пачуццём, якое я набыў тут, у леснічоўцы, у глыбіні бацькавага абходу. Я як быццам адшукаў свой білет удачы і шчасця, і іншага ў гэтым жыцці мне ўжо і не жадалася, не хацелася.

Я дзівіўся са сваіх думак, і мяне ахоплівала шчымлівая, да слёз, радасць, і я зразумеў, пакляўся сабе, што бацькава навука цяпер назаўсёды ўвайшла ў маё жыццё, у мяне, і цяпер я не адцураюся яе. Як і Пецька-Джо, якога я цяпер буду зваць нашым паляшуцкім імем — Пятрусь...

Ноччу Пятрусь пачаў крычаць у сне і клікаць некага на дапамогу. Я ўскочыў з ложка, падбег да яго, пачаў трэсці за плячо, стараўся разбудзіць. Жудасны і немы крык вырываўся з яго грудзей, і ён адпіхваў мяне, біў кулакамі па маім твары — ратаваўся.

— Пятрусь, то я, Антон, не бойся! Пятру-уусь!

А ён біўся ў маіх абдымках, плакаў, крычаў, сцінаўся, як быццам нехта здзекаваўся з яго, душыў, ламаў яго косці. Я здагадаўся запаліць лямпу, каб ён вачыма ўбачыў, што знаходзіцца ў леснічоўцы, што яму нішто і ніхто тут не пагражае.

— Пятрусь! Родненькі, прачніся!..

На памяць прыходзілі тая далёкая дзяўчынка і легкавушка, знясілены крык дзяўчынкі. Маё сэрца пранізваў боль...

Потым ён уздыхнуў, ускочыў і сеў, няўцямна аглядаўся вакол, не бачачы мяне. Я ўжо баяўся вымавіць слова, каб не нарабіць якой бяды.

— Антон? Ты?..

Я падышоў да яго, стаў побач:

— Я. Што з табой? Ты ачнуўся?

Ён доўга маўчаў. Мая рука легла на яго плячо, і ён уткнуўся тварам мне ў жывот, заплакаў. Але я адчуў, што ад яго адышлі боль і трывога — ад яго ішла ўжо цёплая энергія. Пэўна, у гэты момант я быў яму і за бацьку, і за маці.

— Прабач, Антон, то дзяцінства даганяе мяне. Яно ніколі не пакіне, будзе са мной вечна.

— Што там было, у дзяцінстве?

— Страшна было.

— Раскажаш?

— Калі табе цікава.

— Не дзеля цікавасці. Сам ведаеш, для чаго...

— Ведаю. Раскажу. Не сёння. Заўтра. Днём.

— Добра. Заснеш цяпер?

— Не ведаю. Але тое ўжо няважна. Не хвалюйся за мяне, ты кладзіся.

Заснуў не адразу, пад раніцу. Калі ж прачнуўся, то Петруся на ложку не было. Я ведаў, што ён блукаў дзесьці непадалёку, шукаў супакаення сваёй душы. Што ж там такое пачварнае было ў яго дзяцінстве, што і сёння яно страляе яму ў спіну, не дае спакойна жыць?

Па абедзе мы ляжым на сваіх земляных ложках. Маўчым. Я не напамінаю пра абяцанне, бо ён мог і перадумаць, не пусціць мяне ў свае ўспаміны...

— Ведаеш, дружа, — парушае першым маўчанне Пятрусь, — чаго я крычу ў сне? Бо на мяне заўсёды насоўваецца нейкая страшэнная пачвара і кашчавымі рукамі ўчэпліваецца ў твар. Тады я крычу і клічу некага на помач. Каго? Маму? Бацьку?

Голас у яго спакойны, значыць, ён прыйшоў у ранейшы стан, можа смела расказваць пра ўсё.

— Божа, нават на Вялікім судзе я не адмоўлюся ад сваіх слоў, ад сваіх думак,ад свайго пастаяннага болю, які нашу ў сваім збалелым сэрцы, у сваёй спакутаванай душы. Божа міласэрны, як позна ты прыйшоў да мяне, у маю свядомасць, але як шмат даў... Мо таму і даў памяць...

Не ведаю, з якога ўзросту можа памятаць сябе чалавек, але я яскрава бачу сёння тое, што было са мною ў тры гады...

Нас некуды вязуць, і я моцна стаміўся за доўгую дарогу — заснуў на сядзенні аўтобуса. Калі ж разбудзілі, незнаёмая цётка нейкім злым голасам (чамусьці запомніўся яе голас, як марозам і сцюжай павеяла ад яе) абвясціла:

— А хто кепска сябе паводзіў у час паездкі, таго будзем абліваць гарачай вадой...

Нам завязалі чамусьці назад рукі, павялі ў пакойчык з кафельнымі сценкамі. Сапраўды, ішла пбра, лілася з крана гарачая вада. Тая ж цётка абліла і мяне кіпнем, а яе таварышкі рагаталі ад таго, як я спуджана ўскрыкнуў... Для мяне яна была цёткай, а тады ж ёй было за дваццаць пяць, і звалі яе (запомніў на ўсё жыццё!) Таццяна Анатольеўна. Я ж паслізнуўся і ўдарыўся галавой аб рог сцяны. З твару пайшла кроў. Але я не мог яе выцерці, бо нам яшчэ не развязвалі рукі... Я тады нават не плакаў, бо я не адчуваў сябе чалавекам і мне не было балюча. Я адчуваў сябе нейкім нечалавекам, бо ні ад кога на маю істоту не сыходзіла чалавечая цеплыня і я быў як нежывы прадмет...

Але пасля таго я не мог спаць начамі: у мяне на целе выступілі чырвоныя пухіры, яны не зажывалі... Ноччу было холадна, ці маглі сагрэць нас дзіравыя коўдры, але ў той жа час нас распраналі дагала і зноў каралі — станавілі на калені, накідвалі прасціны на галаву і загадвалі не рухацца. Калі ж хто не вытрымліваў такой паставы, шавяліў рукой ці нагой, таго білі чым папала — па галаве, па спіне... Але самых маўклівых і, як ім здавалася, настырных ставілі на калені, на падлогу, падсыпалі абавязкова гарох ці металічныя кнопкі, а то і сухую грэчку. Помню, як яны ўпіваліся ў калені і цела крывяніла... Я не вытрымліваў, агрызаўся, упіваўся зубамі ў руку ненавіснай жанчыны, і тады мяне яшчэ білі, білі, білі... Ды што мяне, маіх сябровак Таню і Віку білі па пальцах металічным прутом, заціскалі ў дзверы...

— Ты мне пра канцлагер расказваеш такія рэчы? — не вытрымліваю я. — Ды ці можа такое быць у нашым хаця і былым сацыялістычным грамадстве?! Ты паклёп узводзіш на нашую рэчаіснасць. Дзе, у якой дзіцячай установе было такое?

Пятрусь як і не чуў маіх слоў. Тым жа размераным тонам працягваў сваю споведзь. Я адчуваў, як па маім целе пачыналі бегаць мурашкі-палямуды і кусаць мяне, запускаць у цела кропелькі атруты. Няўжо я сляпы быў, што такога не заўважаў? Ці не хацеў заўважаць,

а мяне прымушалі пісаць толькі пра шчаслівае дзяцінства савецкіх піянераў?

— Чамусьці сярод ночы Таццяна любіла хадзіць сярод нас голая — у чым маці нарадзіла. Але мала таго, яна выбірала сярод нас, хлопчыкаў, некага, хто ёй падабаўся, і распранала яго, садзіла на сябе. Лажыла на сябе і моцна прыціскала да свайго цела, абдымаючы нагамі. А потым дзіка енчыла і знясільвалася, адпускала хлопчыка ад сябе.

Побач са мной быў ложак Нэлі Лелюковай, якая жыве ў Гомелі. Яна, як магла, супакойвала мяне, хаця ж сама перад гэтым плакала ад невыноснага болю — зацiскалі пальцы ў дзверы за непаслухмянства, шаптала: «Петрык, мы выстаім, мы ўсё вытрымаем — Бог усё бачыць...»

Нас білі пастаянна. Білі часцей ноччу, пад раніцу, а то пужалі, падкраўшыся нечакана да ложка, насунуўшы на твар нейкую страшную маску... Прымушалі мыць падлогу, туалеты, нават мыць ніжнюю бялізну той жа Таццяне... І кожным разам над нашым вухам гучала адно і тое ж пагрозліва-караючае: «Паспрабуйце толькі каму паскардзіцца, ноччу прыдушым, ніхто і ведаць не будзе...» Я ўпэўнены сёння, што яны спраўдзілі б сваю пагрозу, каб нехта з нас паспрабаваў некаму сказаць. Таму ж дырэктару нашага дашкольнага дзіцячага дома. Але яна так рэдка сустракалася і гаварыла з намі, што мы не ведалі, хто і дырэктар і ці ёсць такі...

Я баяўся спаць у ложку і запаўзаў кожны раз пад яго. Баяўся, што зноў будуць прывязваць да металічных пруткоў ложка пякучымі вяроўкамі і біць металічным дроцікам па пятках. Чамусьці яны любілі гэтае пакаранне — біць па пятках. Не ведаю і сёння — чаму ў жанчын жыла такая лютая нянавісць да нас, безабаронных дзяцей? Яны ж нараджаюць нас, даюць жыццё. Тады жанчыны — гадзюкі? Бо і гадзюка, нараджаючы сваіх гадзючанят, выціскаючы іх з жывата, ловіць на ляту і з'ядае...

Калі ж я чую, як здзекуюцца з маіх сяброў, не вытрымліваю, крычу што ёсць сілы: «Не біце іх, яны слабенькія, хворыя, не біце!..» Тады яны яшчэ больш балюча спаганяюць зло на мне. Плачуць Колька Шаўчук, Славік Ярмоліч, Алёнка Скрыпчанка, Нэля Лелюкова, просяць пашкадаваць іх, не біць так балюча... Але тая ж цётка з высокай прычоскай выганяе нас зноў на вуліцу — на мароз, босых і голых, гыркае на нас, зачыняючы дзверы: «Будзеце ведаць, як не слухацца, — дэбілы, падзаборнікі!..»

На тым Страшным судзе пацвердзяць пра тыя здзекі і катаванні мае сябры і сяброўкі, якіх лёс параскідаў па зямлі, але ні яны, ні мы

не згубіліся, падтрымліваем сувязь між сабою. Яны не дадуць схлусіць, не дадуць зманіць і пацвердзяць, што я не шызік, што я нармальны чалавек, што не з'ехаў з глузду ад тых здзекаў, пацвердзяць, як мы пакутавалі ў дзіцячым дашкольным доме, што ў Навабеліцы, на ўскраіне Гомеля…

Немаўляткам здала мяне мая мама ў дзіцячы прыёмнік.

Як і старэйшага брата Юрку.

— У цябе і брацік ёсць?

— Ёсць, Антон. Толькі я яго ніколі не бачыў. Як і маму.

— Як такое можа быць, Пятрусь?

— Значыць, можа. Самую ж маму спалярушавала, і яна не магла даглядаць нас. А нарадзіліся мы ад розных мужчын, якія не былі мужамі для яе… Так сказалі мне пасля людзі. Я быў у дзіцячых дамах Жодзіна, Цярухі, Кармы, а апошняе — Рэчыцкая школа-інтэрнат, ад якой таксама ўспаміны не з лепшых… Я ўсё жыццё буду памятаць толькі адно: здзекі, абразы, катаванні. Не ведаю, у якім савецкім падручніку педагогікі было закладзена такое, але тое мы паспыталі на сваёй скуры. «Свіння», «падонак», «казёл», «падзаборнік», «дэбіл» — гэта далёка не ўвесь пералік эстэтычнага лексікону настаўнікаў і выхавацеляў. Каб жа я запісаў іх выразы на твой дыктафон, ты б ачмурэў ад іх тупасці і нянавісці да малых дзяцей. Усё было скіравана толькі на адно: падавіць дзіця, яго волю, прынізіць, зняважыць, растаптаць самыя светлыя пачуцці і імкненні, не пакінуць і іскрынкі нечага чалавечага.

Чаму, чаму дарослыя людзі, асабліва жанчыны, атрымлівалі неймавернае задавальненне ад таго, калі бачылі, як на нашых вачах выступалі слёзы пасля таго, як нас выводзілі з душэўнай раўнавагі і мы зрываліся?.. А ім зноў жа была прычына жорстка караць нас — за грубасць, за супраціўленне… Каралі не фізічна (мы ўжо трохі падраслі, маглі паскардзіцца альбо даць і здачы, хаця б грызануць крыўдзіцеля зубамі), а маральна, словам і аўтарытэтам, пасадай і бяздушнасцю…

Каб жа гэта вёў дзённік з таго трохгадовага ўзросту — колькі жахаў умясціў бы той дзённік! Відэажахі, што я глядзеў, дзіцячыя казачкі. А можа, і добра, што нешта забываецца, а толькі прыходзіць у страшным і пачварным сне, і ты крычыш, ратуешся ад экзекуцыі выхавацелькі, махаеш рукамі… Калі ж цябе будзяць сябры, во як ты ўчора ноччу, то абрадавана адзначаеш, што тое ж не наяве, то толькі страшны сон… Не раз ноччу будзіў сяброў і я — і яны заходзіліся ў жудасным крыку. У дзяцінстве. І цяпер тое ж, калі ў каго прыходзіцца пераначаваць у гасцях… Хаця тое вельмі рэдка надаралася.

Але светлым успамінкам прыходзіць заўсёды на памяць Сяргей Дыбко — трэнер у Рэчыцкай школе-інтэрнаце. Яго ўсе любілі, давяралі сваю душу і тайны. Калі ад'язджаў на Поўнач, не ведаю, чаму туды падаўся, мы ўсе плакалі. Мо таму мы і сталі ўсе спартсменамі, што ён здолеў кожнаму не толькі прывіць любоў да спорту, а і выхаваць у сабе сілу і настойлівасць.

«Калі вы слабыя, вас можа пакрыўдзіць нават і камар! — гаварыў ён нам. — Вы павінны пастаяць за сябе пры любых абставінах. Толькі вы можаце самі сабе памагчы...»

Пэўна ж, ведаў дарагі наш настаўнік, што нам патрэбна ў жыцці! Дзякуй яму за тое, не забудзем яго ніколі.

Мо дзякуючы яму і яго памочніку Валеру Фалінскаму сталі спартсменамі з вялікай літары Юрый Петух, майстар спорту па лыжах, Наташа Дзергунова вучыцца ў інстытуце культуры... Коля Шаўчук — майстар спорту па футболе, Ігар Пішкун і Ларыса Канаваленка вучацца ў Гомельскім універсітэце на фізкультурным аддзяленні...

На ўсё жыццё нам спатрэбіцца загартоўка, падораная настаўнікамі. Каб выстаяць у гэтым жорсткім жыцці.

І вось нам выдалі па сотні рублёў пасля выпускных экзаменаў, апранулі ў летнюю форму — і едзь у белы свет, ніхто за цябе не адказвае. Падаўся я ў Харкаўскі інстытут. Выбраў фізіка-тэхналагічны факультэт — ядзерную фізіку. Праз ноч, калі начаваў на вакзале, у мяне ўкралі рэчы...

Усе мы будзем памятаць кожны дзень, праведзены ў савецкіх катавальнях. Так мы называем дзіцячыя дамы. Можа, цяпер, калі мая родная Беларусь стала вольнай, адарвалася як калонія ад старэйшага брата, урад задумаецца над тым, каго выхоўваюць у дзіцячых дамах — ці будзе гэта здаровы генафонд нацыі?

— Наведваўся ў дашкольны дом калі?

— Ды наведваўся. Зусім нядаўна. Найперш да дзяцей зазірнуў, у той пакойчык, дзе начамі раздзіралі цішыню дзіцячыя крыкі. Мая крыўдзіцелька цётка Таццяна не паказвалася мне на вочы, а мо і проста не была на рабоце — так яна і пабаіцца мяне... Палічыў, ёй жа сёння толькі за трыццаць пяць, а тады здавалася сапраўды цёткаю...

У кутку ўбачыў зарумзанага хлапчука. Падыходжу, сядаю побач на падлогу. Ён адчуў ува мне свайго, шапнуў:

— А мяне сёння зноў моцна білі. Толькі ты не расказвай нікому, бо мяне заб'юць...

Мяне пеканулі словы. Я паверыў яму. Хлопчыку ніхто не паверыць, калі б ён паскардзіўся, і ты не паверыў бы, каб пачуў ад

яго такое. Не пярэч. Трэба прайсці самому праз тое савецкае таталітарнае і крывавае пекла, каб адчуць яго, хлопчыка, маленькі боль і вялікую праўду. А так ён дастукаецца да каго-небудзь? Ні да аднаго правяраючага, ні да аднаго начальніка — ні абласнога, ні раённага.

— Не плач, Мішка, не плач, — я прыціснуў яго моцна да сваіх грудзей. — Я некалі вярнуся сюды, я раскажу людзям праўду пра сябе і пра вас. Толькі мне трэба вучыцца, вывучыцца і падрыхтавацца. Ты мяне зразумеў?

Мішка глыбока-глыбока ўздыхнуў, як адчуў палёгку, як зразумеў мяне ўсё роўна, маральна падтрымаў. І я ўжо не меў чалавечага права падвесці яго. І сябе. І сяброў сваіх — бязбацькавічаў, дзетдомаўцаў. І перад Богам не адступлюся. Мяне яшчэ ніхто не вучыў маліцца — у дзіцячых дамах Яго, Бога, не ўспаміналі, мо ад таго і пасяліўся сатана ў душах жанчын і яны выглядаюць карнікамі і катамі? Але я маю Евангелле, і вывучаю яго, і дзіўлюся з яго, і радуюся — мне адкрыўся другі свет, я ўведаў шмат малітваў. Я веру цяпер ва Ўсявышняга, а цяпер, калі на маім шляху сустрэўся твой бацька, я паверыў канчаткова і веру, што толькі Бог даў нам усім жыццё і розум. І дабрыню. І даў веру, што я не адступлюся, што дамагуся свайго...

Вось таму я ўзваліў і яшчэ адну ношку на свае плечы: паступіў вучыцца ў юрыдычную акадэмію, вячэрнюю, што пры Харкаўскім універсітэце. Мне трэба абавязкова стаць адвакатам. Абавязкова!

— Пятрусь, а ты хіба на завочным?

Ён уздыхнуў:

— Не, калі я адчуў сваю хваробу, кінуў вучобу. Навошта траціць сілы, калі жыцця заставалася зусім мала. Я ж ведаў пра тое...

— Трэба аднавіцца, Пятрусь! Вось вылечыць цябе бацька, ты станеш на ногі, і паедзем разам у Харкаў, абаб'ем усе парогі, а адновім, твая мара здзейсніцца. Ты цяпер у адказе не толькі за сябе, а і за тых дзяцей. А мама, прабач, дзе яна цяпер?

— Няма. Памерла. Не паведамілі, не адшукалі, дзе яна, хаця я прасіў іх пра тое. Праз тры гады прыехаў на магілу. Людзі сказалі, што старэйшы брат у турме. Хацеў есці, украў нешта.

Я не верыў пачутаму. Як страшны сон быў перада мною. Колькі ж гора прыйшлося перанесці Петрусю! Колькі пакут! Доўга я ляжаў і не мог вымавіць слова.

Маўчаў і ён, прыплюшчыўшы вочы.

Сіл, каб расказаць такое і яшчэ раз перажыць ва ўспамінах, прыйшлося патраціць шмат.

Божа, дай яму сілы і доўгіх гадоў жыцця! Памажы яму!

Яшчэ праз тыдзень бацька прынёс новую тэлеграму:

«Прыкрываць болей не магу. Трэба, каб ты з'явіўся...» Жонка пісем больш не пісала — пэўна, пакрыўдзілася за мае доўгія адсутнасць і маўчанне.

Я безуважна паклаў паперчыну на стол, як выкінуў. Нават смешна было, што недзе там, у Менску, я некаму яшчэ патрэбен.

Агледзінамі Петруся бацька застаўся задаволены, толькі ўдакладніў:

— Спіш добра?

— Як забіты.

— Слабасць яшчэ падступаецца?

— Не без гэтага.

— Так і трэба. У арганізме ідзе барацьба. І яшчэ яна будзе цягнуцца нейкі час. Трэба тэрмін, каб перамагло здароўе. Ёсць яшчэ сілы?

— Адступаць няма куды, Сяргей Пятровіч. І няма сэнсу адступаць. Гэта будзе ўжо як здрада.

— Во, во, — бацька паляпаў па плячы, заўсміхаўся, — здрада. І сабе, і мне здрадзіш. Я не памыліўся — усё ідзе так, як і планаваў. Праз паўгода з цябе поўнасцю выйдзе радыяцыя. Даю слова гонару...

У вачах Петруся з'явіліся слёзы:

— Дзякуй вам, Сяргей Пятровіч.

— Не трэба, Петрык, не трэба, — няёмка стала бацьку, і ён хапіўся за кубак вады, прыклаўся да яго, як быццам пакутаваў ад смагі...

## 8

Калі ж прыйшла трэцяя тэлеграма, што пытанне стаяла ўжо аб маёй рабоце, мы прынялі з Петрусём кампрамісная рашэнне: я еду ў сталіцу, а ён застаецца.

— Рашэнне добрае, — адобрыў бацька, — але ж як ты тут адзін у лесе? Ці не страшна будзе?

— Страшна, напэўна, другое — спыніць на пачатку шляху вашую задумку. У мяне ж усё ёсць — ежа, вада, дровы. Мне тут хораша, хораша, як ніколі. Мне дастаткова будзе, калі мяне Сяргей Пятровіч праведае хаця б раз на месяц...

— Я і часцей буду. І не я, а і дзед Макавей — ён любіць блэндацца па лесе і цябе праведваць будзе. Так што мы арганізуем дзяжурства, так бы мовіць.

Голас у Петруся настойлівы, упэўнены, што ён пастурае правільна і яго нішто не зрушыць з месца. Значыць, ён ведае цяпер,

што такое аптымізм, што такое вера ў самога сябе... Значыць, дзед Рыгор, калі з'явіцца, будзе задаволены.

— Я буду пісаць пра ўсё, што думаю. Буду весці дзённік — каб сумна не было. А потым аддам табе, добра?

Я абняў яго, сціснуў у абдымках, шапнуў:

— Дзякую, дружа, што паверыў бацьку... Мужнасці табе і поспеху тут. Будзем трымаць сувязь праз бацьку.

— Выстаю. Усё перамагу, — паабяцаў Пятрусь.

У тым у мяне ўжо не было ніякага сумневу.

Дачка Таццяна сказала раніцай, як я прачнуўся:

— Званіла нейкая Віка. Сказала, што вельмі хацела цябе чуць.

— Не сказала чаго?

— Не. Ты ёй пазвоніш?

— Яна не дала мне свой тэлефон.

Вечарам пазваніла незнаёмая жанчына, удакладніла, ці я Антон. Назвалася мамай Вікі.

— Прабачце, Антон. Ведаеце, з Вікай творыцца нешта незразумелае. Маўчыць, не размаўляе. У яе нейкі ўнутраны крызіс. Памажыце. Толькі вы тое можаце зрабіць.

— Як? Што я павінен зрабіць?

— Не ведаю, — голас у жанчыны дрыжаў, яна амаль плакала. — Вы ж ведаеце, яна не ходзіць. Мы акурат у дзень выбуху на Чарнобыльскай станцыі ездзілі садзіць бульбу. Ад рэактара два кіламетры... Праз месяц у яе выпалі косы. Перастала хадзіць. У інваліднай калясцы ездзіць. Дактары махнулі на яе рукой...

«Божа, я ніколі не падумаў бы, што Віка — няшчаснае дзіця! Дзіця Чарнобыля! Якой вясёлай старалася быць, калі расказвала пра сябе, распытвала ў мяне. А я не адчуў яе, яшчэ свой боль перадаваў ёй... Хто ж я пасля таго?!»

— Дзе яна цяпер?

— У ваннай мыецца.

— Скажыце, хай пазвоніць мне, я прызначу на заўтра сустрэчу, і мы пабачымся. Дзе вы жывяце?

— Каля парку.

— Вось бы ў парку і пабачыцца.

— Добра, я пастараюся пагаварыць з ёю...

Віка не пазваніла праз гадзіну, не было званка і праз тры. І вечарам. Званок пачуўся раніцай. Слухаўку ўзяла жонка.

— Цябе твае малалеткі турбуюць, вазьмі трубку.

То была, канечне ж, яна, Віка.

— Я хачу ўбачыцца з табою, Антон.

— І я хачу пабачыцца. Прыходзь у парк.
— А як ты пазнаеш мяне?
— А ты будзь каля фантана. Трымай у руцэ газету.
— Тады — да сустрэчы!
— Да сустрэчы!
Яшчэ здалёк я ўбачыў, як дзяўчынка, седзячы ў інваліднай калясцы, махала мне скручанай газетай.
Я памахаў у адказ і ўсё бліжэй і бліжэй рухаўся да яе. І першым жаданнем было абняць, пацалаваць яе, сказаць радасна:
— Вось я і прыйшоў, Віка!
Нас сабралі на вялікую нараду журналістаў у Доме друку. Нешта нуднае чытаў дакладчык, і яго ніхто не слухаў, кожны займаўся сваім — чыталі газеты, часопісы.
У суседа па крэсле я ўбачыў «Звязду», убачыў чарговы выпуск розыгрышу — афіцыйную табліцу. Папрасіў на хвілінку.
Дастаў з кішэні ўсе дваццаць тры латарэйныя білеты і пачаў звярацца з лічбамі. Першы — пуста, другі — пуста... Пятнаццаты, дваццаць другі...
Ад нечаканасці я падняўся, тупа глядзеў на білет, праказаў сам сабе ўголас:
— «Жыгулі»...
Дакладчык спыніў свой маналог, спытаў у мяне:
— Вы нешта хацелі сказаць, малады чалавек?
— «Жыгулі»...
— Пры чым тут «Жыгулі»? У нас гаворка ідзе пра эканамічны крызіс...
— Ён «Жыгулі» выйграў, — падказаў, стаўшы побач са мною, сусед, — толькі што. У маёй газеце — магарыч з цябе, Антон!
— Кіньце жартаваць! — наліўся чырванню дакладчык, пэўна, не любіў, калі няўважліва слухалі яго разумныя думкі і аргументы.
— Сябры, трэба павіншаваць нашага калегу з білетам удачы, — павярнуўся да ўсіх сусед і першы ўдарыў у далоні.
А я доўга стаяў ачмурэлы і не ведаў, што рабіць з білетам...
За апошні час адбыліся вялікія змены.
На нашую газету, калі прыйшла камуністычная дэмакратыя ў рэспубліцы, падпісалася ўсяго сем тысяч маладых людзей. Рэдактар паклікаў да сябе і сказаў, каб шукаў сабе работу. Я, здаецца, абрадаваўся такім пераменам.
Праз тыдзень я трымаў кірунак да Барсучынага котлішча.
З маіх плячэй зваліўся вялікі груз, і вольным чалавекам адчуў я сябе. І шчаслівым як ніколі. Мне выпаў шчаслівы білет.

А дадому я рашыў не вяртацца. Думаю, што і жонка асабліва перажываць з-за гэтага не будзе.

Ноччу Петрусю сказаў:

— А што, калі з намі і яшчэ адна паселіцца дзіцячая душа? Як у казцы — церам-церамок, хто ў церамку жыве? І яе, Віку, ахрысціў Чарнобыль... Як глядзіш на тое?

Пятрусь-Джо памаўчаў, а потым прамовіў:

— Месца ўсім хопіць. Толькі як яна, малая, з намі будзе?

Я яшчэ не ведаў, што яму адказаць, але яскрава бачыў, як жыве сярод нас Віка, расказвае нам цікавыя гісторыі, а мы смяёмся, адчуваючы, як у нашай леснічоўцы пасялілася радасць. І шчасце. І ўсё мы раздзелім пароўну.

Бадай упершыню я адчуў, як і пра што трэба пісаць.

І ведаю, што адказаць цяпер дзеду Рыгору...

А што, калі і сапраўды да нас падсяліць Віку?!

За сцяной леснічоўкі спакойна і мройна гаманіў пракаветны лес. Высозныя патрыярхі-дубы дзяліліся з намі сваёй адвечнай тайнай...

Мы разумелі іх мову.

Яны непакоіліся і клапаціліся пра нас...

Мы перажывалі сваё новае, і невядома, ці апошняе, перараджэнне...

*Essentially, жнівень 1992*

# Ахутавана

**Кніга другая —**
***прытча аб мроях***

**1**

*...каханая, як цяжка без цябе.*
*Без погляду твайго, твайго кахання...*
*Згараю ў полымі гарачага дыхання.*
*Ці ажыву я знойку у святой мальбе?!*

Адкуль прыйшлі да мяне гэтыя радкі, я не ведаў.

Яны нарадзіліся самі, без майго жадання. Пісаць іх я не збіраўся, толькі ў думках нашэптваў словы. Падумалася: а мо хто падслухаў мае радкі і паклаў іх на паперу. Але хто?

Верш я знайшоў у сваім стале. Замок у мяне быў адмысловы, і ніхто не мог адкрыць шуфлядку. Раніцай, калі адкрыў яе, убачыў зверху жоўты аркушык паперы. Чатыры радкі былі напісаны невядомым мне чарнілам.

Непакоіла хіба адна думка — хто вадзіў маёй рукою? Ці не ты, Ойча? Усёмагутны і Ўсёмогучы Божа! Калі ж я пачаў першыя радкі, памажы дапісаць астатнія. Толькі на Цябе мая надзея...

*... каханая, як цяжка без цябе...*

З маіх душэўных нетрыскаў не выходзіў нясцерпны боль.

Мне не было вядома, калі ён нарадзіўся.

Мройна памятаўся нядаўні сон. Каляровы сон. Ён прыходзіў да мяне не раз і раней. Бачыўся адзін і той жа малюнак: зялёна-ружовы, у кветках, луг; крумканне жаб і гудзенне пчол; малочная квецень вішанніку... Адмысловыя пялёсткавыя карункі на маіх вачах пачыналі ажываць, надзімацца, і тады яны адрываліся ад галін і імкнулі ў блакіт неба, каб стаць аблокамі і далучыцца да іншых...

І вось з гэтага казачнага харастава — з гукаў і пахаў вясны, з маіх думак і жаданняў, з майго трызнення і радасці прадчування ўзнікаеш ты, нараджаючыся з небыцця, з нічога. Ты крочыш мне насустрач — жаданая і казачная, расхінаеш, бы крылы, рукі — ці то хочаш узляцець з гэтага дзівоснага лугу ў бездань неба, ці то імкнешся да мяне, каб агарнуць сваёй пяшчотай...

Ты не прыйшла на сустрэчу на другі, і трэці, і чацвёрты дзень... Штовечар я наведваўся на нашае месца сустрэчы, чакаў да поўначы тыдзень і другі, але ты не з'яўлялася.

збіваюцца з дарогі ў царстве кветак і таму робяцца такімі бездапаможнымі, што на іх смешна глядзець... Хаця яны і не заўважаюць таго. Вы за сабой таго не заўважалі?

У Яніны ружовяцца шчокі, наліваюцца сокам вусны, а ў паглядзе іскрынкі пяшчоты і даверу:

— Не, Ахутаванчык, не заўважалі.

Гаспадар вадзіў нас па сваіх аранжарэях. Радаваўся, калі Яніна, ураджаная, нахілялася, каб, зажмурыўшы вочы ад задавальнення і мройнасці, дакрануцца да нейкай кветкі і панюхаць яе...

— А гэтая кветка з вашай Ліцвініі, — паказаў Дзьмухавец на блакітны васілёк, на поле васількоў, з якіх выткаўся вялізны жывы дыван.

— Адкуль ён тут, Дзьмухавец? — расчулілася Яніна, пагладзіла блакітнавокую кветку, спыталася: — Васілёк-васілёчак, адкуль ты тут? Ты ж — як прывітанне з роднай Ліцвініі!

Васілёк захістаўся, як жывы, ад ветру. Загайдаўся блакітны дыван поля.

— Яны ад вашага кахання выраслі. Вашай энергіяй жывіліся. Хутка і вашая Ліцвінія расцвіце гэтаксама. Такія кветкі заўсёды цвітуць на яе вольным абрусе. Вы яго і засцелеце на стол, за якім будзеце святкаваць сваю перамогу над сіламі зла, калі адчуеце сябе зноў шчаслівымі і вольнымі, люд Вялікага Княства Ліцвініі...

Прыйшоў час і развітвацца.

Мы ўзялі Ахутаванчыка па чарзе на рукі, паднеслі да твару, дакрануліся носам да носа, сказалі:

— Ты не сумуй тут, дружа!

— А на маіх зорках ніколі сумна не бывае. Вы не дасце мне сумаваць.

— То і добра, — радаваўся я. — Хай Ахутавана ніколі не ведае суму і расчараванняў. Шчасця тваёй планеце Венеры!

— Так яно і будзе! — крыкнуў у адказ Дзьмухавец-Ахутаванчык. — Ахутавана! Да сустрэчы!

— Ахутавана! — адказваем мы, аддаляючыся ад яго, пачынаючы разбег у Галактыку.

Дзьмухавец развітальна махаў нам рукой...

Мы ляцім скрозь галактыкі, абмінаючы сузор'і. Неадрыўна глядзім адно аднаму ў вочы.

— Спадар Антон, шляхціц Клімовіч! Ты мяне не пакінеш ніколі? Мы яшчэ вернемся на нашую планету Кахання?

— Вернемся, Янінка, абавязкова вернемся. Ахутаванчык запрашаў жа нас да сябе.

— Я вельмі хачу верыць у тое.

— Нам жа нішто не можа перашкодзіць. Бо Ахутавана заўсёды з намі, заўсёды ў нашай душы...

Зноў адчуў, як ад яе зыходзіла ўзмоцненая трывога.

Але такой, здавалася мне, яна ніколі не была! Што адчувала сэрца жанчыны? Што прадчувала?

Няўжо — Зямля?!

Поле, як акінуць вокам, спрэс блакітнае і неабсяжнае. Як і неба. Акурат як той дыван, што паказваў нам Дзьмухавец.

Цвіце лён. Маленькія суквецці ўтвараюць блакітны абрус. Ім засцелена, здавалася, уся зямля, што злівалася на гарызонце з небам...

Рахманае сонца жывіла палеткі, промні лашчылі і сагравалі мне твар.

Мне здавалася, што я стагоддзі не быў на Зямлі.

Бо шчыра радаваўся сустрэчы з лугам і лесам. Не ўтрымаўся — прайшоўся басанож па роснай халоднай траве.

Нехта сцёр маю памяць, бо я нічога не ведаў пра сябе, пра тое, што адбывалася са мною, дзе я быў і што бачыў.

Адчуваў я сябе няйначай цяжарнай жанчынай, якая не магла нарадзіць.

Мяне распірала незнаёмае дасюль пачуццё. У сонечны дзень бачыў у небе зоркі. Іх жа відаць толькі ноччу. Бачыў я яшчэ, як пераляталі ў небе нейкія незразумелыя лятальныя апараты. У іх сядзелі нейкія стварэнні і паказвалі пальцам у мой бок. Не разумеў толькі: ці то пасміхаліся з мяне, ці з гонарам паказвалі на мяне, каб расказаць іншым пра дзіўнага зямляніна, які бачыць і чуе тое, што недаступна ўсім астатнім...

На небе не было ні воблачка.

Праз хвіліну за наміткай блакітнай палоскі лесу жыханула маланка.

З-за пагорка, у тым баку, дзе злівалася сіняе поле з небам, вынырнуў на белым грацыёзным кані пры ўсёй амуніцыі малады вершнік. Трымаў ён над сабою бліскучы даўгі меч. Не апускаў яго — як аберагаў усё роўна ад таго грому ці перуна зямлю.

Вершнік вагаўся, выбіраючы дарогу, і неўзабаве накіраваў каня ў мой бок.

Скакаў па блакітным абрусе, які выткалі васількі. Бег каня быў запаволены, марудны, спаважлівы — як што перашкаджала ці замінала, і капыты, здаецца, не краналіся зямлі.

Я ж не рушыў з месца, стаяў як укопаны.

Да мяне пакрысе падступаліся ўзрушанасць і салодкашчымлівая радасць.

Даўно чакаў я вершніка. Даўно верыў, што менавіта вось такім сонечным днём ён і адшукае мяне, каб уручыў я яму тое багацце, што прынёс з Космасу. Толькі яму я мог уручыць сведчанні для Праўдзівай Кнігі Памяці нашага Княства.

Ён наблізіўся зусім блізка да мяне. Але тупату капытоў я не пачуў — быццам прывід узнік перада мною. Убачыў шчыт з патрыяршым крыжам, похвы ад мяча — залачоныя, і сам меч у моцнай і дужай руцэ.

Ваяўнічага ці агрэсіўнага ад вершніка не сыходзіла. Наадварот, выпраменьвалася магутная энергія Дабрыні і Абаронцы. Абаронцы і Заступніка Вялікага Княства Ліцвініі...

І тут жа з неба жыханула чорна-атрутная маланка — скіравала сваю смяротную піку на мяне. Але вершнік тут жа выдаўжыў руку — і меч застыў над маёй галавой.

Маланка апяклася аб лязо мяча, успыхнула ружова-чорным полымем і згарэла, упала клубком на зямлю — і згасла...

Каб не ён, вершнік Княства, не мінаваць мне бяды. Абараніў, засцярог, уратаваў жыццё... Значыць, ён — абаронца. Абаронца ад зла.

— Чаму так доўга не з'яўляўся? — спытаў у яго, калі ён зноў падняў меч над галавой.

— Раней не мог. Чакаў.

— Чаго?

— Калі абудзіцца народ. Калі зразумее і адчуе, што ён гаспадар свайго лёсу і сваёй Дзяржавы. Чакаў, калі загаворыць на роднай сваёй мове, якую яму даў Бог.

Я падаў яму дзве тоўстыя кнігі, напісаныя мной і Янінай. Сказаў, што неўзабаве яшчэ некалькі тоўстых пастаментаў будзе гатова — рыхтуюцца ў Касмічнай Радзе.

— Дзякую, яны вельмі неабходны для нашай гісторыі! Цяпер усё больш і больш людзей паверылі ў сябе. І іх з кожным днём усё больш і больш. Людскія душы абудзіліся. Вашыя старонкі ўвальюцца васільковым вянком у Кнігу Жыцця...

Зашыпела гадзюкай маланка, скіравала свае смяротныя стрэлы на мяне і на кнігі. І зноў вершнік імгненна падставіў вострае лязо мяча.

Чорнае воблака яшчэ мацней зашыпела, скацілася безжыццёва на зямлю — у тую ж чорную яміну, што ўтварылася перад гэтым...

І ў той жа момант я пазнаў вершніка! То быў Яён!

Ён сышоў з белага няўрымслівага каня, пагладзіў яго шаўковую доўгую грыву, што краналася зямлі, і накіраваўся да мяне, не выпускаючы з рук мяча.

Мяне ж нешта скаланула — не мог зрушыцца з месца.

Яён павярнуўся да мяне спінай. Зрабіў яшчэ адзін, апошні крок. І — увайшоў у мяне.

Тады ж я адразу адчуў, як мы зліліся ў адно цэлае.

Тады ж мне зрабілася невыносна балюча — і з грудзей вырваўся немы і доўгі крык — крык радасці і сцвярджэння, крык жыцця і спадзявання...

У руках адчуў нешта важкае, амаль непасільнае. Але я ўтрымаў яго — мне трэба было ўтрымаць, чаго мне тое ні каштавала б... Нейкі голас загадваў мне тое зрабіць...

За спінаю пачуліся крокі, але не было магчымасці азірнуцца, каб пераканацца ў сваіх здагадках.

— Не палохайся, любы, і не аглядвайся. Нельга тое рабіць, бо парушыш агульнае суладдзе пачатай намі гісторыі... Так, то я, твая Ахутавана!..

Голас Яніны супакоіў мяне. Зразумеў, што трэба ўсё прымаць так, як яна раіла, тады ўсё і адбудзецца па нашым сцэнарыі...

Яна прайшла скрозь мяне, як і Яён.

Тады ж перастала біцца ў грудзях другое — закаханае сэрца. Яна прайшла і выйшла з мяне, панесла сваю палавінку з сабой. Па маіх плячах яшчэ доўга струменіўся шлейф яе шаўковых косаў. На галаве паспеў заўважыць вянок з васількоў.

Чамусьці меч апынуўся ў яе руцэ, і яна ўселася на месца вершніка. Трымала ў руцэ нашыя кнігі.

А пасля і не Янінай мне падалася, а князёўнай Ліцвініяй — прыгожай і ўпэўненай, з тым жа вяночкам на галаве.

І трэці раз атрутна зашыпела маланка, пусціўшы на мяне плойму чорных стрэлаў.

Але меч і на гэты раз прыкрыў мяне, абараніў, і нічога благога не здарылася са мною...

Трэці раз жыццё маё было ўратавана.

А ў памяці, і на маім языку, неспакойна звінелі, пераліваліся крынічкай паўзабытыя радкі:

*...каханая, як цяжка без цябе.*
*Без погляду твайго, твайго кахання...*

Ніяк не мог успомніць, адкуль радкі, як і не ведаў, хто іх напісаў. Толькі нейкае незразумелае і чароўнае слова суправаджала, як музыка:

— Ахутавана!.. Ахутавана!.. Ахутавана!..

Мне было хораша стаяць пад чэрвеньскім сонцам і дажджом.

Цёплыя промні і дажджавыя кроплі падалі на твар, абмывалі мяне чысцінёй і бальзамам, касмічным нектарам... Я адчуваў прыцягненне неба — неабсяжныя і недасягальныя галактыкі клікалі да сябе...

Калі ж я толькі падумаў пра тое, то адразу адчуў сябе ў бязважкасці.

На імгненне мне падалося, што адарваўся ад зямлі і касмічная сіла ўзняла мяне на планету Кахання, на зорку Кветак, дзе чакаў нас Дзьмухавец-Ахутаванчык...

Верылася: тое і сапраўды можа адбыцца ў любы момант, калі я захачу таго...

І тая вера не пакідала мяне, яна проста драмала ў тайніках маёй душы, дачасна не прасілася на волю.

Адзінае, што мяне трывожыла і непакоіла, дык гэта знікненне Яніны Альшанскай. Помнілася, пра нешта мы з ёю дамаўляліся. А вось пра што — ніяк успомніць не мог...

Яна ж не падавала ні голасу, ні знаку. Здзекавалася з маіх пачуццяў? Чаму яна згубілася ў зямной прасторы? Чаму не чую яе поклічу?

Калі ўсяго гэтага няма, то ці было наяве тое, што адбывалася з намі да гэтага? Мо то толькі быў салодкі сон? Мроі ці прывідная фантасмагорыя?

Мо зусім і не кахала мяне, а я ўявіў бог ведама што ў хворым сваім жаданні? То мне, мусіць, так хацелася...

І я рашыў знайсці, адшукаць яе на шырокіх прасторах Зямлі і Космасу, паклікаць і праверыць яе пачуцці.

А таму чакала нас апошняе выпрабаванне, каб падняліся мы на самую высокую прыступку Вышыні, да якой імкнуліся, якая прыцягвала нас з неадольнай сілай...

*Сочы, санаторый «Беларусь»*
*Лістапад 1994*

# Пякельны рай

**Кніга трэцяя,**
***якую за мяне нехта напісаў***

### Частка першая

**1**

Ён збочыў з наезджанай дарогі, пераскочыў неглыбокую канаву, спрэс парослую шорсткім чаборам з пахкімі блакітнымі кветкамі, і падаўся ў глыб сасонніку. Адтуль даносілася верашчанне нечым устрывожанай ці спуджанай сойкі...

Антон шаргацеў ботамі па збуцвелай шорсткай траве, не збаўляючы хады, узбіўся на пясчаную выспачку з рудым і светла-зялёным лішайнікам, з якога выбіваліся смалістыя пакручастыя карані. Спыніўся, каб прыслухацца да навакольнай цішыні.

Нішто не парушала ляснога спакою, нават спуджаная сойка. Недзе ў тым баку, дзе выструніліся ў неба стромкія сосны з медзяным адлівам, ці то цененька падвывала бензапіла, ці то так паветра цадзілася скрозь густое голле дрэў пад націскам цёплага асенняга вятрыскі...

Раскашоўвалася ранняя восень.

Кажынным годам Антон Клімовіч такой вось парой выбіраўся ў лес, не зважаючы на перашкоды, якія неспадзеўкі абрыньваліся на яго.

Ён тады абавязкова браў з сабою Чэрчыля — паляўнічага сабаку. Не свайго, дзядзькі Апанаса Янушкевіча — з Каменя. Ды і стрэльбу Апанас яму даваў сваю. Яшчэ і зарады рыхтаваў. Набіваў колькі начэй гільзы порахам ды шротам, быццам ён, Антон, збіраўся паляваць на зубра ці мядзведзя.

Сустрэла яго самотная Апанасава жонка Насця. Як усё роўна роднага, абняла, прытулілася да яго, заплакала.

За акном, у двары, жаласліва завыў сабака. Антон позіркам пацікавіўся, што б тое азначала.

— То Чэрчыль. Кажынны дзень вые. Як плача сядно. І ў яго, як і ў мяне, душа баліць. На магіле трое начэй начаваў — ляжаў, ад яды адмаўляўся. Вочы ў слязах, як у чалавека. Ведаў і адчуваў гора. І ён, чалавеча, здаецца мне, не жылец на гэным свеце. Забярэ ён яго з сабою. Адна я, Тонічак, і застануся...

Як выйшаў у двор, Чэрчыль на яго не звярнуў ніякай увагі. Нават і вухам не павёў. А ў вачах... А ў вачах былі такія сум і скруха, што

працінаді навылёт, як шрацінай, як быццам душа Чэрчыля перасялілася ў яго, каб пераканаўся ў невыносным болі...

## 2

Антон пагладзіў сабаку па галаве.

Чэрчыль не зварухнуўся — як быў нежывы. Ён сапраўды падаўся нежывым, бо ніводная жылка не ўздрыгнула ад дотыку рукі, і далонь не адчула цеплыні сабачага цела...

Ідучы ў лес, Антон паклікаў яго з сабою.

Чэрчыль адно падняў галаву, паглядзеў на яго, як сказаў нешта сваё, сабачае, — ці то як прасіў прабачэння за сваю нямогласць, а мо паслаў госця туды, дзе з Апанасам авечак пасвіў...

— Мо б не хадзіў сёлета ў той лес, Тонік? — глядзела жанчына на яго сваімі празрыстымі, бы сінеча неба, вачыма, як умольвала, як упрошвала. — Дні цяпер такія нехарошыя...

— Чым яны нехарошыя, Настасся Язэпаўна?

— Паслязаўтра Пакрова. Заўтра — пятніца, ды яшчэ трынаццатае чысло. Такое спалучэнне вельмі благое, так дзяды казалі. Дык ото мо не хадзіў бы, Тонік, га?

Клімовіч трошкі паразважаў і адказаў, пагадзіўшыся з ёю:

— Добра, спадарыня Настасся! Тады я толькі прагуляюся за Броньку, пасяджу ля каверта, дзе сядзелі разам з Апанасам, падыхаю паветрам і вярнуся. На аладкі і паспею...

— Ну то глядзі сам, як хочаш. Аладкаў я зраблю. Са шкваркамі, якія ты любіш...

Смерць Апанаса нешта перавярнула ў ім, перайначыла, перакуліла ўсё дагары нагамі.

Клімовіч спыніўся зноў.

Яго як быццам нешта насцярожыла, прымусіла ўглядзецца ў густое кустоўе. Падалося, што адтуль, з карункаў голля, нехта цікаваў за ім, не зводзіў з яго пільнага позірку. Ён нават быў перакананы, што той, хто сочыць за ім, стаіўся за камлюкаватай бярозай — там гайдалася паветра ад нябачнага руху...

Клімовіч закурыў «прыміну». Зацягнуўся едкім дымком, выпусціў яго праз нос, прымружыў вока. У тым баку, дзе гайдалася паветра, падалося, што нехта заплакаў. Бы немаўля, просячы ў маці цыцку. Так магла падаць голас і птушка. Альбо дрэва, калі галіны церліся адна аб адну...

Шкадаваў, што не было побач Чэрчыля. Усё ж жывая душа. Сабака чуйна аднёсся б да ўсіх перападаў і незразумелых з'яў, супакоіў бы сваёй прысутнасцю.

Калі ж зноўку прыйшло супакаенне, калі агарнула дрымотная млявасць, тады яшчэ з большай сілай і напорыстасцю наляцеў віхрыска, уцягнуў у свой калаўрот траву і сухое бадылле, анучкі зноў падняліся з зямлі і пачалі круціцца над галавой Антона. У ботаў падняліся халявы — як хто браў іх рукой, — і яны ўзляцелі над ім, і самога Антона нешта прыўзняло, адарвала ад дуба і колькі разоў крутанула ў паветры, але не шмякнула, а асцярожліва апусціла нябачная сіла на зямлю — разам з ботамі і анучамі.

Ён лёгка ўпаў на спіну і раскінуў рукі ўшыркі.

«Што ж гэта такое было? — сам у сябе папытаўся Клімовіч, але дзіўна, страху не адчуваў, толькі цікавасць. — Перапады тэмператур? Атмасфернага ціску? Якую ж трэба мець магутную сілу, каб падымаць такое ў паветра?..»

Клімовіч не паверыў сваім вачам — дуба на сваім месцы не аказалася. Ён ляжаў за крокаў трыццаць далей — сырым, што быў пры зямлі, бокам, перавернутым да сонца. На тым жа месцы, дзе быў да гэтага дуб, зеўрала чорная яміна. У ёй валтузіліся не то жабы, не то вужы, ці то, можа, чорная зямля, як жывая істота, не магла супакоіцца і старалася зацягнуць сваю рану дзірваном і яшчэ амаль зялёнай травой.

«Божа, што за дзівосы ты падсоўваеш мне? Як тое акурат, што прыходзіла ў сны... Для чаго выпрабоўваеш мяне? Для чаго?..»

Антон заўважыў і яшчэ адну акалічнасць — там, дзе ляжаў нядаўна дуб, не было пня. Тады адкуль ён, дуб, тут узяўся? Буран-віхор прынёс аднекуль здалёку — нават не з гэтых мясцін? Ці пень зарос травой?..

На вачах, тут жа, чорная паласа-яміна зацягвалася травой, звужалася і звужалася — напачатку пакрывалася шэрым налётам з перасохлымі высокімі сцяблінамі, а потым, праз колькі хвілін, і следу не засталося ад разварочанага чарназёму...

«Як у маім сне, — усміхнуўся кісла Клімовіч, — толькі не зразумець — то дзівосы ці нечыя фокусы? А можа, хто пакепլівае з мяне, пасміхаецца?..»

Але ж страху, як і раней, не было. Антон прыняў гульню і рашыў падпарадкоўвацца яе правілам. Падсвядомым пачуццём адчуў, што страхам можа нарабіць шмат бяды. Як усё роўна нехта падказваў яму, як трэба сябе паводзіць, як рэагаваць на ўсё нечаканае, што адбывалася перад яго вачыма.

— Ладна, — сказаў некаму Клімовіч, — твая ўзяла. Я перастаў баяцца, прыму ўсё, што здарыцца са мною, спакойна і разважліва, без здзіўлення...

Тады, недзе за спінай, пачуўся глухі ўздых, як быццам пацвярджаў, што дамогся свайго.

І тады ж прымусіў сам сябе паверыць у тое, што нехта сочыць за ім, неадступна крочыць следам — нават слабыя крокі чуліся.

Антон адшукаў стрэльбу. Яна ляжала пад пакручастай бярозай. Там жа ляжаў і патранташ. Толькі з ячэйкі выпаў адзін зарад. Выпаў, калі насіла ў паветры? Пашукаў, пільна ўглядаючыся ў ссохлую траву — нідзе не было. Падумалася, што, можа, ён і з дому не браў яго. Хаця ж не — не хапала з сярэдзіны, а не з краёчку...

Клімовіч страціў пачуццё часу.

Гадзіннік спыніўся, стрэлкі не рухаліся на цыферблаце. Забыўся накруціць? Крутануў колькі разоў, але маятнік не захацеў набіраць ход.

Прайшло ўжо, меркаваў ён, шмат часу, а сонца як было ў зеніце, так і не скранулася з месца. Жыццё як быццам спыніла свой імклівы бег. І ў яго не было жадання некуды ісці, некуды спяшацца, нешта рабіць... Ім авалодала не то млявасць, не то санлівасць. Ён, здаецца, не ведаў, адкуль ён ішоў і куды, колькі часу крочыў ці быў у лесе пад Бронькай...

І тады Антон апамятаўся, схамянуўся. Азірнуўся навокал. Яму ж трэба неадкладна ў Камень — паабяцаў жа Настассі, што да снедання прыйдзе дадому, бо дзевяціны па Апанасу пасля Пакроваў. І яму, Антону, трэба абавязкова быць на памінках, бо пакрыўдзіцца нябожчык, калі ён за памінальны стол не сядзе...

Але ў які бок трэба было ісці, і дзе быў усход, дзе захад, — ніяк вызначыць не мог. Сонца не краталася з месца, як хто цвікамі яго прыбіў да столі.

Клімовіч рашыў выйсці на дарогу і па ёй кіравацца ў любы бок — глядзіш, і прыбіцца можна да нейкай вёскі, а там ужо раскажуць-пакажуць, як даклыпаць да Каменя. Далёка ж адысці ён не мог... Палескія вёскі не так і далёка адна ад адной, за гадзіну дацепае, і не сорамна будзе перад Апанасам і перад Настай...

Выбраўся ў дарогу няскора...

Пакуль адшукаў анучы — а іх пазаносіла аж на другі бок лугавіны, да самага ўзболатку, дзе тырчэлі каля сажалкі карычневыя катахі рагозу, а боты дык і зусім невядома дзе апынуліся — на суках дуба завіслі, халявамі зачапіліся, — прыйшлося лезці даставаць.

Калі ўсё прывёў да ладу, калі прыйшлі да яго асвядомленае супакаенне і перакананасць, што робіць усё лагічна і правільна, Тонік угледзеў непадалёк ад сябе маладую жанчыну — ці не Віту, карэктара

газеты. Але што ёй тут рабіць, у гэтым лесе. У лес, здаецца, яна ніколі і не выпраўлялася...

«Паклікаць? Гукнуць? Дагнаць? А калі не яна, тады як і што сказаць? Ды якая, у рэшце рэшт, розніца — мне ж толькі дарогу папытаць трэба, каб выбавіцца з гэтай невядомай і незразумелай пасткі...»

Ён ускочыў з месца. Похапкам пашыбаваў следам — за стракатай сукенкай, за прыгожым гнуткім станам, каб сказала паляшучка, у якім кірунку ісці.

— Пачакайце хвілінку, шаноўная спадарыня! — пагукаў Клімовіч, адчуваючы, што крокі яго няпэўныя, а паляшучка аддаляецца ад яго — спяшалася некуды. — Пачакайце, я заблудзіўся. Богам прашу, пачакайце!..

Жанчына спынілася, але не павярнулася, так і стаяла тварам да ўзболатку, трымаючы кошык, з якога выглядвалі сыраежкі і зялёнкі.

Клімовіч, задыхаўшыся, падбег да яе, абышоў і стаў спераду, хуценька загаварыў:

— Прабачце, што я вас запыніў — заблудзіўся. Ніколі са мной такога не здаралася, сам не ведаю, як такое атрымалася сёння...

Сказаўшы, ён паглядзеў ёй у вочы, стаўшы насупраць, зірнуў і аслупянеў: перад ім стаяла яго жонка Яніна, усміхалася ветла, паказваючы маладыя белыя зубы, кофту распіралі пругкія крамяныя грудзі. Вось такой акурат яна была тады, як пазнаёміліся, як ён сустрэў яе па дарозе на станцыю — была яна ў такой жа апранасе, у тапачках на босую нагу і з кошыкам.

— Ты? Яніна? — аслупянеў, не верачы сваім вачам, аж дыханне забілася.

— Я — Яніна, але, прабачце, вас не ведаю... — яна смяялася ці здзекавалася з яго. — Вы памыліліся...

— Можа, і памыліўся, яшчэ раз прабачце. Але ў вас пісяг на руцэ пасля аперацыі і сем рабацінак на шыі, — я яшчэ называў цябе Вялікай Мядзведзіцай і Ахутаванай.

— Ахутаванай? Дзіўны вы, аднак, чалавек, спадар...

— Антонам маці назвала.

— ... спадар Антон Клімовіч. Першы раз бачыце мяне і адразу кінуліся ў заляцанні. Я ж магу і пакрыўдзіцца. А то і разззлавацца.

— Вы і прозвішча маё ведаеце? Яніна, прабачце, калі падаўся вам такім, не крыўдуйце. Калі вы мне паможаце адшукаць дарогу на Камень, буду вам вельмі ўдзячны і не буду крыўдзіць сваімі прыставаннямі. Заблудзіўся я, і ўва мне гаворыць толькі радасць сустрэчы з жывым чалавекам. Яніна, вы мне скажыце пра дарогу...

— Скажу, але трошкі пасля. А што вы ў лесе робіце? Адзін, са стрэльбай. А за ўсе гады, што вы ходзіце, ніводнага разу так і не стрэлілі. Хто вы — паляўнічы, рыбак, грыбнік?

— Гэтага я і сам не ведаю. Проста люблю гуляць ці блукаць па асеннім лесе.

— Блукаць? Навошта? Для чаго?

Клімовіч не заўважыў, як сонца над галавой схавалі хмары і на лугавіне неўпрыкмет нарадзіўся слабы прыцемак, як сонечнае зацьменне...

Дождж ліў ужо не як з бочкі, як усё роўна прарвалася неба — за крок не было нічога бачна. Шкадаваў, што не папытаўся, з якой вёскі была купрынаўская Алеся-Янінка, пэўна, такой прыгажуні не стрэць нідзе ў свеце... А потым жа і апамятаўся — а калі і сказала б, а калі і прызналася б, то хіба магло што змяніцца ў яго становішчы?

## 3

Янінка, Яніна...

З вялікага кахання не атрымалася вялікага шчасця. «Каханая, як цяжка без цябе...» Як хто сурочыў, як хто пазайздросціў. Не склеілася, не звязалася...

І хто быў у тым вінаваты, ніхто адказаць не мог.

Ды і не вінавацілі абое нікога, наракалі толькі на сябе, на свой характар ды на абставіны, у якія кідаў іх жыццёвы віхор...

Нехта ўкраў іх шчасце. Падгледзеў і ўкраў.

Як некалі нехта ўкраў у яго агульны сшытак з чорнымі вокладкамі.

Ішоў Тонік з лесу, арэхаў поўныя кішэні набіў ды і за пазуху яшчэ напіхаў — ішоў як Барабек пузаты і малы. Трэскаў спелыя арэхі, даставаў сырыя сакаўныя зярняты, са смакам жаваў.

Насустрач крочыў вайсковец. Убачыў хлапчука з арэхамі, запыніў. Захацелася і самому пакаштаваць.

— Слухай, хлопчык, — нахіліўся ён над Тонікам, глядзеў зверху ўніз на яго — быў ростам вышэй двух метраў, — грошай у мяне няма, а арэхаў хочацца. Вазьмі вось харошы новы сшытак — тоўсты, старонкі лашчоныя, у клетачку. Вершы пісаць будзеш ці дзённік свайго жыцця весці. Некалі, праз шмат гадоў і мяне ўспомніш, — салдат дастаў з рэчмяшка абяцаны сшытак і падаў хлапчуку.

Тонік з цікавасцю ўзяў агульны сшытак. Нават разгарнуў яго. Ён і так пачаставаў бы вайскоўца арэхамі, бо ўбачыў у ім дзядзьку Лёніка — мамінага брата.

У першую ж ноч, як вярнуўся з войска, забілі... У калодзежы ўтапілі.

Сшытку Тонік быў рады — даўно хацеў мець такі. Ён шмат чаго цікавага запіша ў ім. Мо і пра жыццё сваё пісаць будзе, як і раіў пехацінец.

Вайскоўцу ён аддзяліў амаль палову сваіх арэхаў.

— Дзякуй, хлопчык! Поспехаў табе ў жыцці! — ляпнуў пасяброўску вайсковец Тоніка па плячы — як роўнага. — А як звацьвелічаць цябе, будучы салдат?

— Тонік я. Антон яшчэ. А арэхі лускайце на здароўе, — прыжмурыў малы вока — сонца біла ў твар.

— Бывай, Тонік! Да сустрэчы ў войску!

Дадому прынёс як лепшы свой набытак. Паклаў на стале, асцярожна разгарнуў сшытак, пагладзіў ласкава старонкі і адчуў, як зашчымела, затрымцела ад шчаслівага прадчування дзіцячая душа. Абрадаваўся, не ўтрымаўся — на ўнутранай старонцы вокладкі намаляваў дарогу, а на пачатку яе — сябе. І ішоў ён па дарозе размашыстым крокам.

Карцела нешта ж і напісаць на першай старонцы. Але не ведаў што.

А потым прыдумалася. І напісалася:

«12 верасня 1955 года...

Глядзелі на вуліцы кіно. На сцяну прыбілі вялізную прасціну, і ўсе людзі сядзелі на зямлі. А нехта прынёс з дому зэдлікі і ўслоны. Было вельмі холадна. Запомніліся не пятлюраўцы і чырвонаармейцы ў кіно, а песня:

*Люба, братцы, люба,*
*люба, братцы, жыць, -*
*з нашым атаманам не прыходзіцца тужыць...»*

Такі быў першы запіс у сшытку, калі Тонік разам з ім выправіўся ў жыццёвую дарогу. На першы погляд запіс нічога не азначаў, ні да чога не абавязваў — проста фіксацыя падзеі, якая адбылася. Кіно ўражвала ўсіх. Але той запіс быў своеасаблівай прыступкай да нечага вялікага і значнага. Да таго маячка, што мільгаў на далёкім даляглядзе — успыхне і згасне, згасне — і ўспыхне...

І трэба ж было здарыцца такой бядзе.

Аднойчы ранічкай Тонік не намацаў за дымаходам, на гарышчы, свой сшытак. Тое, што яго маглі ўзяць бацька ці маці, адпадала адразу — на гарышча яны не падымаліся. Не было ў тым патрэбы. Падгледзеў малодшы брат Міколка? Дык навошта ён яму, маламу, які

і пісаць яшчэ не ўмеў? А калі і ўкраў бы, то не здолеў бы і схаваць — не ўмеў ён яшчэ хавацца і ўтрымліваць нейкую тайну...

Але Тонік усё ж спытаў у брацiка пра сшытак. Паабяцаў нават, калі той яго верне, сцізорык з перламутравымі тронкамі, ліхтарык і бінокль з патрэсканымі лінзамі, што знайшлі ў старым, падбітым у вайну, танку. Міколка ж адмоўна круціў галавой, не разумеючы, пра які сшытак ішла размова, бажыўся, што не браў таго сшытка з чорнай вокладкай. Нават заплакаў, калі брат прыставіў ад адчаю кулак да носа.

І тады Тонік заплакаў сам. Ад крыўды. Ад таго, што не ўбярог такую каштоўную рэч. Маці як магла супакойвала сына, бацька недзе ў школе расстараўся агульны сшытак з чырвонымі вокладкамі — прынёс дадому.

— Не такі! Не такі! — біўся ў істэрыцы хлапчук, і разрывалася ў яго душа ад бяды, ад страчанага, бо зразумеў, сэрцам найперш адчуў, што ў яго жыцці адбылося першае вялікае гора. — Той быў інакшы, большы, і старонак болей. І папера лашчоная...

Бацькі не на жарт захваляваліся за здароўе сына, нават паклалі ў бальніцу. І кожны дзень праведвалі то маці, то бацька... А Тонік ні з кім не размаўляў. І не плакаў ужо. Не супакоіўся. У вачах аселі нявыказаны сум і скруха. Сваім горам ён не мог падзяліцца ні з кім на ўсім белым свеце...

То была першая ранка на дзіцячым сэрцы. Першы пісяг.

Нязначная, нябачная, але ж ранка...

Вось так і каханне нехта ўкраў у Антона і Яніны, як той сшытак з-пад дымахода.

Так ніколі той сшытак Антон Клімовіч і не адшукаў. Калі дзе бачыў на вітрыне ці ў каго ў руках, то ёкала душа і заходзілася сэрца, з грудзей вырывалася, у пяткі збягала. Калі ж браў у рукі — кожны раз чакала расчараванне: не яго, не такі...

Толькі ў сне ён знаходзіў яго. З радасцю тады разгортваў старонкі і пісаў, пісаў, невядома што. Пісаў густа і дробненька, каб усё памясцілася ў дзённіку яго жыцця. І распавядаў ён пра сябе падрабязна, з рознымі дэталямі, і так у яго ўсё складна выходзіла, што шчаслівым чалавекам ён адчуваў сябе ў сне...

А тут прымроілася ў вусцішным лесе прыгажуня Яніна. Апаліла напамінкам пра той цудоўны і шчаслівы час. І параніла, і адначасова абрадавала — як-ніяк гожая старонка ў іх мінулым жыцці. Касмічная. Чароўная...

А дождж не аціхаў, здавалася нават, што пачаў узмацняцца. А потым завіхурыла, закружыла, і вецер пачаў згінаць дрэвы: як

мерыўся нехта нябачны іх паламаць і параскідаць па зямлі. Ужо нічога не было бачна перад самімі вачыма — суцэльная сцяна дажджу.

Хоць і была ў Антона куртка, але вымак ён да рубчыка. Яго пачала ўжо біць дрыготка — зуб на зуб не пападаў, а дажджу, здавалася, не было канца. Жыхала маланка, канцом зыркай пугі даставала да зямлі — каля самых ног Клімовіча кранулася долу, аж зямля засычэла і счарнела кругам...

У макрэчнай цемрадзі падалося, што нехта прайшоў непадалёк ад яго — у кроках пяці, сагнуты, з капюшонам на галаве, але неяк прасунуўся, бы манекен, не мяняючы паставы. Цяпер Антон пагукаць не асмеліўся, падумаў: «Хай ідзе сваёй дарогай...» Следам, ростам ужо большы, праплыў яшчэ нехта — і зноў Тонік не зачапіў здань, маўчаў, безуважна гледзячы ў суцэльную ліўневую сцяну.

І трэці, яшчэ вышэйшы, пракалываўся, цяжка дыхаючы і стогнучы, усё ў той жа бок.

Клімовіч маўчаў. Безуважна праводзіў позіркам невядомыя істоты: ведаў ужо, як паводзіць сябе. Галоўнае — не кінуцца ў паніку, не нагнаць на самога сябе страху.

Потым пачуліся рогат і грымоты, а яшчэ пазней данесліся плач немаўляці і скуголенне савы. Прабіваліся дзятлава музыка на вершаліне сасны і крык парадзіхі...

Жудасна было чуць такое і назіраць за зданямі.

Не зварухнуўся Клімовіч, не ўздрыгнуў ад жудасных гукаў, здушыў у сабе боязь і страх і не баяўся цяпер ні пачвар, ні ведзьмакоў, ні лесавікоў...

Выратаванне было, пераканаўся ўжо, у спакойнасці і разважлівасці.

Адно непакоіла — даймаў холад.

Ён прымружыў вочы, уявіў сябе ў іншых абставінах — на беразе Прыпяці ў спякотны дзень, твар лашчыць сонца, а спіну саграває гарачы пясок. І тут жа адчуў, як да лба дакрануліся цёплыя промні — аднекуль жа яны струменіліся, хаця ж ведаў, што ўсё неба было ў чорна-алавяных аблоках і сонца не магло прабіцца скрозь іх. Але ўсё роўна не расплюшчваў вачэй, як баяўся спалохаць тое чароўнае імгненне, зноў падпарадкоўваўся таму пачуццю, што набыў за дзень, — як ведаў, што будзе аддзячаны за разважлівасць і абачлівасць.

Цяпло перакінулася ўжо да пераносіцы, потым падступіла да шчок. Гарачымі сталі вушы, патыліца, і па ўсім ужо целе разлілася цеплыня — запульсавала роўнымі штуршкамі кроў, ударыла ў скроні.

І яшчэ не расплюшчваў вачэй, як чакаў яшчэ нейкага цуду ці адкрыцця, а якога, і сам не ведаў, не здагадваўся. За дзень у яго адбылося столькі дзівосаў, што ён і здзіўляцца перастаў.

Нехта злёгку штурхануў яго пад бок, як сядно хацеў вывесці з задумення.

І тады ён расплюшчыў вочы і з усіх сіл стараўся не выказваць здзіўлення: на лугавіну зырка свяціла сонца.

На небе не было ніводнай хмурынкі — нават і дажджавых кропель на высахлай траве не значылася.

«Дык што ж тады ўсё-ткі гэта было? — хацеў здзівіцца Антон, але тут жа і прытушыў сваё здзіўленне, сам сабе адказаў, як супакоіў: «Анічога не было. Прыродная з'ява...»

Ён скінуў з сябе дажджавік, каб прасушыць на сонцы, але на ім і знаку ад дажджу не было. Згарнуў яго, паклаў у рэчавы мяшок.

Што яшчэ кінулася ў вочы — перамяніўся пейзаж. Замест дубоў стаялі нейкія іншыя дрэвы — ці не вольхі. І былі яны высачэзныя, у дзесяткі разоў большыя, што бачыў да гэтага. Дубовая калода, на якой адпачываў, зусім знікла — як і не было яе на лугавіне.

А калі выбраўся ў дарогу, напачатку разгубіўся — перад ім замест адной дарогі, на якую паказала Яніна, было аж некалькі — і ўсе яны разыходзіліся, беручы пачатак ад высокай алешыны, у розныя бакі, як промні сонца. І не было сярод іх галоўнай, бальшака, — усе аднолькава стаптаныя нечымі нагамі, і былі яны ўсяго сцежкамі-сцяжынкамі...

Атрымлівалася ж як на малюнку Васняцова — улева пойдзеш, там пагібель чакае, направа — долю сваю згубіш...

«Дык па якой ты раіла ісці, Яніна? — звярнуўся думкава Клімовіч да дзяўчыны. — Ці ўсё роўна ісці па якой — усе галоўныя?..»

Ніхто не адказаў — ні вецер, ні голас дзяўчыны.

І ён рашуча пашыбаваў наперад, нават не выбіраючы дарогі. Рашыў так — на якую выб'ецца, па ёй і пойдзе. Але ён і так ішоў па сцяжыне, нават не пільнуючыся яе. І гэтаму не падзівіўся, ведаючы, што нічога не пераменіць, не перайначыць. Ды і навошта? Ён сам сабе ўжо не належаў, а падпаў пад чыюсьці ўладу, і той, нехта, кіраваў яго думкамі, жаданнямі, а можа, нават і лёсам...

З кожным крокам сцяжына раздавалася ўшыркі. Спачатку паказаліся сляды ад калёс, і між імі значыліся конскія капыты з узорамі падковы, карычневыя кучы круглякоў. Потым, праз сотню крокаў, дарога яшчэ больш пашырылася, і ён ужо крочыў па правай машыннай каляіне — выразна бачыліся рабрыстыя карункі ад колаў магутных «МАЗаў». Дзесьці наперадзе, далекавата яшчэ, пачуўся брэх

сабак (мо ўжо і Камень?), затрымцела радасна сэрца, што вось так хутка і проста выйшаў на вёску, што хутка знікнуць яго хваляванні і трывогі, праясніцца незразумелае становішча і стан...

Льга было пазнаць і тую дарогу, па якой выбраўся ранічкай, і той масток праз Броньку, на якім некалі з Чэрчылем адпачываў і пераабуваўся — нацёр тады надта ногі, і там жа, пад пакручастай бярозай, біла крынічка з-пад зямлі... А вунь і крыж драўляны перад вёскай, абвешаны вышытымі ручнікамі клапатлівых гаспадынь...

Але (дзіва!) чым больш у ім мацнелі радасць і пачуццё, што ён вызваляўся з нябачнага і незразумелага чыйгосьці палону і ўлады, тым хутчэй пачала звужацца перад ім дарога. Машынная каляіна стала дзвюма палоскамі ад колаў вазоў, а потым і яны зніклі, і ён ужо валюхаў па добра ўтаптанай сцяжыне, што пралягла выспай праз узболатак; абапал сцежкі хісталіся качалкі рагозу. Далей ад сцежкі маўкліва стаялі яшчэ з зялёным лісцем роўныя алешыны. І яму ўжо нельга было ступіць ні ўправа, ні ўлева. Толькі — назад. А назад, туды, дзе ён быў да гэтага, вельмі ж не хацелася...

Клімовіч страху не адчуваў, і тое яго ратавала. Сам не ведаў, чаму гэтым кіраваўся, але перакананы быў, што ратаваўся.

Потым ён зразумеў сваю памылку, чаму не дайшоў да Каменя, — вёска ж, лічы, была перад самым носам, нават пах яе адметны пачуў... Вылузалася з рук, як уюн, выслізнула.

Памылка была ў тым, што раней часу ў ім нарадзілася радасць. Хаця, калі ўдумацца, яна ні на чым і не трымалася. Як і нічым не жывілася. Таму і сапсавалася ўсё нечакана, згасла. Нездарма ж прашчуры прыдумалі прымаўку: «Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў...»

Пашкадаваў, што праявіў сваю нявытрымку. Няўсцерп, бач, яму стала. «Уж замуж невтерпеж...» І да гэтага яна, мачыха-нявытрымка, падводзіла не раз, але, як ні дзіўна, нічому не навучыўся — паўтараў свае памылкі зноў і зноў. Як усё роўна выпрабоўваў сябе на трываласць.

І, здаецца, не шкадаваў пра тое...

Нешта пракрычала сойка ў вершалінах алешыны — як папярэджвала. Пра што яна магла папярэдзіць? Нават калі і сказала б пра нейкую бяду чалавечым голасам, то ён не абмінуў бы яе, не пазбегнуў бы свайго лёсу...

Дарогу-сцежку пераразӑў вірлівы ручай. Напорыста гнаў чыстую ваду на схіл, быццам недзе справа, у кустоўі, біла порстка з зямлі крыніца. Ён нахіліўся, памыў рукі, выцер твар. Зірнуў на сонца — яно гэтак жа вісела над галавой, было ў зеніце.

«Ці бывае ў гэтым царстве калі-небудзь ноч? — абыякава спытаў у самога сябе, не надаючы нейкай асаблівай увагі і значнасці свайму пытанню. І каб нічога лядайкага не падумаў пра яго Ён, той нябачны, здаецца, ж і нязлы, але што Вялікі Жартаўнік, дык тое дакладна, згладзіў сваё пытанне і сам жа сабе адказаў: «А навошта табе ноч? Хіба кепска — жыць толькі днём? То ж і спаць не трэба. Бо колькі доўгіх гадоў у чалавека на сон трацицца — страх!..»

Дарога яшчэ больш звузілася...

Сцежка пралягала праз балота. Абапал яе рос бабоўнік, рагоз, а дзе калюжыны, лапушыста ляжалі зялёныя аладкі лотацяў. Нават цвілі белыя лілеі. Узабраўшыся на іх, пераклікаліся, раздуваючы белыя капшукі на шыі, жабы.

Патыхала гніллю, церпкай затхласцю і атрутнымі газамі.

«Жабы ў кастрычніку? — спытаў і тут жа спахапіўся Антон. — Ну і што, што ў кастрычніку? Так трэба, у прыродзе ўсё можа быць...»

Сцежка ледзь-ледзь стала шырэйшай.

А як яе расшырыць можна было да ранейшай дарогі, Клімовіч не ведаў, хаця разумеў, што здольны тое зрабіць.

Наперадзе былі ўжо кладкі. Праклаў нехта іх праз усё балота. Патыхала смярдзючай тванню, багнай, уюнамі і хмелем. Аднекуль з нетрыскаў дрыгвы вылузвалася наверх паветра і ўспучвалася гулкімі чырвонымі бурбалкамі, — тады яшчэ больш смярдзючым рабілася паветра, не прадыхнуць...

Тонік адчуў, як пачала кружыцца галава, і, каб не ўпасці, заспяшаўся на кладкі.

На пачатку кладак тырчэў тоўсты арэхавы кій.

Клімовіч ухапіўся за яго, каб падтрымаць сябе, калі захістаюцца бёрны ці закружыцца галава, бо калі, не давядзі Божа, ён зваліцца і пападзе ў абдымкі Балотнага Цара, то яму ўжо ніхто, мусіць, не паможа.

Кій быў сухі, лёгкі, мо і занадта лёгкі. І не ўгадаць, быў ён высечаны летась ці залетась, а мо і ўсе сто год назад. Як і лагі, па якіх ступаў, якія былі і не сёлетнія, і не леташнія — вятры і дажджы зраўнялі час, спынілі яго на адным месцы...

Лагаў было дзве, і кладкі аднолькавай таўшчыні і шырыні. Счасаныя зверху, каб зручна было ступаць. І было пакладзена некалькі прагонаў — ці не з пяць. На трэцім прагоне ён нечакана пахіснуўся, хаця ж ногі цвёрда і ўпэўнена ступалі па кладках. Абапёрся на кій, а ён мякка пайшоў углыбіню і не знайшоў нідзе апірышча.

І Антон здагадаўся ўпасці на калена, каб не паляцець у смярдзючую багну, у якой пухкалі бурбалкі і кішэла процьма жукоў і, здаецца, вужоў. Ён толькі цяпер прыгледзеўся і здрыгануўся — вужы поўзалі адзін па адным, як дурэлі, і атрымлівалі асалоду ад балотнага жыцця. Над імі лёталі машкара і камарэча, розныя кузуркі сядзелі на лотацях — чым не жыццё? Рай... Вужыны рай, вужынае царства...

«Недзе ж з імі і Вужыны цар жыве, — падумаў разважліва Клімовіч, — тут у іх сваё жыццё...»

Яны на яго не звярталі ніякай увагі, не баяліся, не палохаліся, не ўцякалі, але і не імкнуліся да яго. Ён як і не існаваў для іх...

Пятыя кладкі ён прайшоў без асаблівых цяжкасцей, не лічачы, калі слізганула трошкі левая нага. Але ён не страціў раўнавагі, выратавалі правая нага і кій, што не даў нахіліцца ў левы бок...

Спрэс па ўсім балоце расла асака. Пад нагамі была цубкая ўжо зямля — з прыемнасцю стаў на яе, адчуў сябе спакайней.

Сцежка вывела знячэўку да хаціны, што прытулілася глухой сцяной да высозных клёнаў — ніколі і не страчаў такіх нідзе.

«Леснічоўка? Адкуль яна? Не памятаю, каб яна стаяла, не раз, здаецца, і праходзіў тут. Ці жыве ў ёй які самотнік, збеглы ад сораму і ганьбы сваёй радзімы? А мо то прыстанішча лесавіка, а я без яго дазволу забрыў у яго ўладанні? Хто ж я буду тут — няпрошаны госць? Ці вандроўнік-паляўнічы, які збіраўся адкрыць сусвет, і збіўся з дарогі, галодны і стомлены? Ці жабрак, які ходзіць па хатах і вымольвае кавалак хлеба? Так яно ці не так, але такіх любая паляшуцкая хата сустрэне прыхільна, абагрэе і накорміць.

Што ці хто чакае мяне ў гэтай хацінцы? Вораг ці сябра?..»

Антон асцярожліва пастукаў у дзверы. Ніхто не адгукнуўся. Яшчэ грамчэй пастукаў — зноў ціха. Тады ён паспрабаваў асцярожліва прачыніць дзверы — яны тоненька піснулі і замоўклі.

— Ці ёсць хто ў гэтай хаце і ці можна зайсці стомленаму вандроўніку? — спытаў яшчэ ў сенцах Клімовіч і, не дачакаўшыся адказу, узяўся за ручкі дзвярэй ужо ў хату.

— Хто жывы ёсць у хаце? — зноў падаў голас госць, пільна ўслухоўваючыся ў цішыню хаты.

Ніхто зноў не адказаў яму.

Тое, што ў хаціне нехта жыў, было бачна адразу. Па-першае, было суха і ўтульна — як усё роўна кожны дзень палілася грубка і печ. Грубка і сапраўды была цёплая, а на прыпечку стаяў гарбатнік — быў амаль гарачы. І Клімовіч не вытрымаў — адліў у гліняны кубак кіпню, і тады па хаце паплыў травяны церпкі водар.

Гарбата настоена была на паляшуцкіх зёлках, дамешваўся сунічнік і маліннік. Глытнуўшы, госць адразу адчуў, як да яго пачалі вяртацца страчаныя сілы.

Ён скінуў з сябе ўсю амуніцыю, паклаў каля парога. Плашч павесіў каля дзвярэй на ласіныя рогі.

Скрозь па сцяне віселі высушаныя пучкі святаянніку і любісты, арнікі і дзівасілу. Там жа звісалі вязанкі баравікоў, цыбулі, стручкі перцу і карані пятрушкі.

На стале ляжалі нейкія кнігі і часопісы, газеты і канверты. Роўным стосікам высіліся талеркі — вымытыя і высушаныя. Чарніліца і ручка з пяром — у цэнтры стала. Але што найбольш здзівіла — друкавальная нямецкая машынка «Эрыка».

І не вытрымаў, заклаў аркушык паперы, надрукаваў машынальна пытанне: «Адкрыйся, таямніца! Я прыйшоў сюды з добрымі намерамі, без кепскіх думак і жаданняў. Нічым не парушу чароўнае суладдзе і дабрыню, якія сустрэліся мне тут...»

Не дзівіўся, што машынка была з беларускімі літаркамі «і» і «ў». Як хто падрыхтаваў для яго і рабочы стол, і стос паперы — сядай, спадар Клімовіч, пішы, бо ты заўсёды плакаўся, што не хапала табе часу і магчымасцей засесці за нешта значнае і вялікае, а для газеты страчыў толькі тое, што ад цябе патрабавалі... Ніколі ты не належаў сам сабе. І рабіў усё тое, што праціўна было тваёй натуры...

«Хто, які добры Чалавек загнаў мяне сюды, а мо і сам Бог стварыў такую выдатную магчымасць пасядзець, па-разважаць...»

Столькі герояў і сюжэтаў сядзела ў яго галаве, столькі жыццёвых сітуацый, трагедый і шчаслівых імгненняў! На цэлыя аповесці і раманы, а рэалізаваць усё тое не мог — адбіралі час клопаты быту, неўладкаванасць, жабрацкае існаванне і штодзённая барацьба за выжыванне; працаваў за капейкі, якіх хапала толькі на тое, каб пражыць ад зарплаты да зарплаты — і то не заўсёды...

Хто ж тут жыве? Хто? Адгукніся!

Беларускі пісьменнік, што адгарадзіўся ад усяго свету і зашыўся сюды, каб тварыць свае геніяльныя творы? Але для каго ён тварыў, адарваўшыся ад плыні жыцця? Хто чытачы ў яго? Птушкі і дрэвы? Неба і сонца? Айчына ў небяспецы, сатана правіць баль, лепшыя пёры цяпер на перадавой, на літаратурных барыкадах, ірвуць сэрцы на іншае, не на творчасць. І ў кожнага балючая думка, як уратаваць Бацькаўшчыну, не аддаць яе на здзекі чужынцу. Бо колькі ўжо можна быць пад прыгонам і ў сваёй Айчыне адчуваць сябе эмігрантам, як той казаў — апазіцыяй?..

Тут жа, пры сцяне, стаяў драўляны ложак, засцелены прасцірадлам, падушка, запасныя коўдры на табурэціку. У кутку, на паліцах самаробнае шафкі, ляжалі стосікам прасціны, стаялі гладышы, вазы, кубкі, стос нейкіх кніг, скорасшывальнікі з нейкімі дакументамі ці запісамі... Чалавек, што тут жыў, быў, мусіць, педантам і апантаным творцам...

«А дзе ж ён падзеўся? Пайшоў на паляванне? Хутка вернецца? Калі ж не вернецца, то я з дазволу Ўсявышняга пазнаёмлюся з яго паперамі... Можа, мне тут прыйдзецца прабыць шмат часу — у палоне Дабрыні можна быць і вечна... А цяпер — спаць, спаць і спаць...»

Боты пакінуў там жа, ля парога, стрэльбу прыткнуў за спінкай ложка — каля галавы, і толькі тады лёг на ложак.

Адразу ж, як толькі прымружыў ацяжэлыя павекі, да яго падкраўся глыбокі і моцны сон.

Тады ж яго ахутала супакаенне, якога ён, здаецца, ніколі не адчуваў за сваё жыццё.

**4**

Сонца не краталася са свайго месца.

Мо яно заблудзілася і таму не ведала, у які бок павярнуць далей свой шлях, як і не ведала, ці то зрабіць зыход дня ці пачатак яго. Ніхто, здаецца, не ведаў, чаму так здарылася, як і не ведалі, хто быў у тым вінаваты.

Так і Антон заблудзіўся і таму не знаходзіў выйсця, таксама не ведаў — ці то поўдзень у яго жыцці, ці жыў ён на зыходзе таго ж дня...

Зоркі не ведалі, чаму іх днём не відаць з зямлі.

Млечны Шлях страціў сваю значымасць і перастаў указваць арыенцір нябесным валацугам.

Здавалася, нябесны шар перастаў круціцца па сваёй арбіце і таму затаіўся ў чаканні невядома якой каманды.

Стрэлкі гадзінніка забыліся, у які яны бок круцяцца і ці правільна паказваюць час.

Бо касмічны і зямны час адначасова спыніліся...

У пекле засумняваліся, ці сапраўды ўсё адпавядала сапраўднасці.

У раі таксама не ведалі, ці рай ёсць сапраўды той рай, які тысячагоддзямі апраўдваў сваю назву і прызначэнне. І мільярды чалавечых душ імкнуліся купіць ці набыць у гэтую запаветную Краіну квіток, з-за чаго ахвяравалі сваімі прынцыпамі і звычкамі, адмаўляліся ад процьмы салодкіх імгненняў і спакус, што прыдумала чалавецтва. Без чаго не маглі жыць мільёны і мільёны людзей...

А ці можа быць Рай у Пекле?

А ці можа існаваць Пекла ў Раі?

Ці ёсць ён — Пякельны Рай?!

Хто адкажа на гэтыя пытанні? І ці ёсць яны, увогуле, адказы?..

Хто пра тое ведае?..

Спаў Тонік невядома колькі гадзін, а можа, і сутак.

Бо нельга было вымераць час і даведацца пра яго дакладнасць. Гадзіннік даўно адмовіўся адлічваць секунды, а сонца заснула ў зеніце, не рухалася...

У яго ад перасыпу балела галава. Але ў душы адчуваліся лёгкасць і жаданне паляжаць яшчэ які час у ложку, асэнсаваць пражыты ў хаце час...

Што з ім здарылася? Выбраўся ў лес, у невялічкую вандроўку, а вярнуцца назад ніяк не можа. Цяпер жа ён не можа з упэўненасцю сказаць, ці хацеў ён сапраўды таго...

Можа, і вярнуўся б, ды перашкодзілі, сапсавалі ўсё страх і заўчасная радасць. Тое ён добра зразумеў і асэнсаваў. Калі яшчэ не прапала жаданне вярнуцца дахаты.

Страўнік напомніў пра сябе, што ён пусты. Смактала пад грудзьмі, і ад голаду стала млосна.

У рэчавым мяшку ён адшукаў загорнутыя ў ручнік сала і паўбохана хлеба, некалькі цыбулін, вараныя яйкі. Нездарма ж Насця прымусіла захапіць у дарогу, хоць і на некалькі гадзін збіраўся на тую пагулянку.

«Збіраешся ў дарогу на дзень, а яды бяры заўсёды на некалькі сутак», — гаварыла гаспадыня, і так мовяць заўсёды палешукі.

Добра, што паслухаўся, а думаў жа...

Голад утаймаваў хутка. Напіўся гарбаты з таго ж эмаліраванага гарбатніка. І адчуў сябе наетым і задаволеным. Уявіў яшчэ і вязнем, які задаволены сваім жыццём. Успомнілася нечая прытча: «Раб, які не адчувае сябе рабом, тройчы раб...» Тут жа і папракнуў сябе за папрок — недзе і нехта чытае яго думкі, яго незадаволенасць, яго іранічнасць — усё тое толькі адцягвае на невядомы тэрмін час яго выбаўлення з няволі, ну, няхай не з няволі, а з раю...

Выбаўленне з раю?..

Захацелася перабраць газеты і часопісы, што ляжалі на стале. Цікава, што тут за чалавек такі жыў, што так доўга не аб'яўляўся? Што ён чытае, чым жыве? Газет такіх там, у сябе, ён і не бачыў. «Вольная Беларусь», «Ліцвінія», «Пекла і рай», «Мы — не рабы».

Былі тут і знаёмыя — «Свабода», «Пагоня», «Спадчына», «Полымя адраджэння»... Былі газеты і на незразумелай мове. Як ні ўчытваўся ў

выхадныя дадзеныя, каб даведацца, хто іх друкаваў і дзе, дакапацца да адраса не мог... Ці то адукацыі не хапіла, ці адмысловая мова была ў газет...

Тое ж было і з кнігамі. Багдановіч, Колас, Ядвігін Ш., сучасныя — Сыс, Рубанаў, Арлоў, Гілевіч, Быкаў, невядомыя аўтары і назвы твораў, якіх Клімовіч, да яго сораму, ніколі не чуў і не страчаў. Кнігі былі на невядомых мовах і выдадзены былі ў невядомых выдавецтвах...

На глухой сцяне, дзе не было вокнаў, вісеў каляровы плакат — «Сацыялізм — шчаслівае жыццё». Шчаслівая дзяўчынка трымала абярэмак кветак і шчасліва ўсміхалася. І стаяла яна на мурагу. А пад ім чалавечыя чарапы, процьма чарапоў, і на кожным штэмпель-факсіміле «Сталін, Сталін, Ста...».

Жудасна было глядзець на плакат. Быў ён стары, заседжаны мухамі, выгаралы, гадоў мо з сорак яму — ці ўсе пяцьдзесят, а мо і трыста...

На сцяне вісеў гадзіннік. Маятнік у ім хістаўся з боку на бок, але на цыферблаце не было стрэлак. І лічбы зусім не гадзіннікавыя, і не дванаццаць іх было, а дваццаць — па стагоддзях.

Якое цячэнне часу адбывалася тут?

У цэнтры сцяны, пасярэдзіне, пад плакатам, Тонік прыкмеціў дзвярную бліскучую — ці не залачоную? — ручку. Дзвярэй жа, здаецца, не было — агледзеў памяшканне ўважліва і дасканала. Ці іх не было перад гэтым бачна?

Нейкі час вагаўся — адчыняць ці не? Яго як што стрымлівала, не пускала, і адначасова нейкая ж сіла і падштурхоўвала, піхала наперад.

Асцярожна, як бы крадучыся, падышоў да сцяны, узяўся за цёплую залачоную ручку, крутануў дужку ўніз. Шчоўкнуў замок. Гук сведчыў, што язычок выскачыў з ячэйкі...

І тады Клімовіч пацягнуў ручку на сябе.

Дзверы лёгка паддаліся, без рыпу, бязгучна прачыніліся, і ён расчыніў іх зусім, на ўвесь разварот.

Дзеры аказаліся двайнымі. Тыя, другія, былі ці то дубовыя, ці то грабавыя. І ручка ўжо іншага ўзору — срэбным крыжам і большага памеру.

Яшчэ з большым хваляваннем і нецярпеннем дакрануўся да яе. Упэўнены быў, што дзверы выведуць у двор, бо хатка была з чатырох сцен — у тым ён пераканаўся, абышоўшы вакол, калі шукаў уваход. Гэтак жа крутануў, як і першую, таўхануў злёгку ад сябе. Дзверы

паддаліся, самі ўжо расчыніліся ўсё шырэй і шырэй, — перад ім быў не падворак, не клёны, якія былі за сцяной, а зусім іншае відовішча...

Першае, што зрабіў Антон Клімовіч, пастараўся не выказваць свайго здзіўлення, супакоіў сябе, загадаў думкава верыць ва ўсё тое, што ўбачыў і ўбачыць...

Ён, усё ж зачараваны, як сонны, пераступіў дубовы парог і апынуўся ў прасторнай светлай зале з высокімі і шырокімі вокнамі. Карцела зірнуць за шыбіны, верылася ўсё ж, што ўбачыць у акне тыя высозныя клёны, да якіх падступалася леснічоўка. Але ўбачыў толькі белыя аблачыны на блакітным небе.

Адчуванне было такое, што ён сядзіць у самалёце, а недзе там, пад воблакамі, зялёна-блакітная зямля. Але і яе не было бачна — толькі воблакі і блакіт.

Калі ж адышоў ад акна — яго пачало хістаць, то і сапраўды адчуў бязважкасць і злёгку кальнула ў скроні. Успомніў пра дзверы — ці знойдзе хаця выхад назад? Дзверы былі ўжо зачыненыя. Яны паддаліся, зноў расчыніліся, — і тады ён супакоіўся, адышоўся ад дзвярэй, толькі яшчэ раз азірнуўся, каб лепей запомніць іх распалажэнне.

Памяшканне было правільнай круглай формы. Столь была высака над галавой, блакітная, як і неба. А мо то і было неба, бо Тонік адчуў лёгкі подых паветра, і сонца было бачна — на тым жа месцы...

Па ўсім крузе, між вокнаў, былі стэлажы з кнігамі, фаліянты ва ўсіх былі аднолькавыя — жоўта-карычневага колеру, аднолькавага памеру.

Толькі цяпер прыкмеціў, што пад стэлажамі, правільней, у стэлажах уманціраваны дзверы — дванаццаць дзвярэй на аднолькавай адлегласці. І кожная прыцягвала сваёй таямнічасцю, запрашала завітаць.

І Клімовіч разгубіўся...

За яго спінай нешта зашамацела, затрашчала, і ён павярнуўся: над дзвярыма, праз якія Антон увайшоў у залу, засвяціўся вялізны, на ўсю сцяну, экран. На яго, усміхаючыся, глядзела Яніна. Тая, якую сустрэў у лесе. Толькі яна была ўжо ў іншым адзенні — у бялюткай кофце, з караламі на шыі.

— Добры дзень, шаноўны спадар Антон! Рады вітаць цябе ў нашых уладаннях. У Краіне Памяці і Суладдзя.

— Дзень добры, шаноўная панна Яніна! Дзякую за запрашэнне ў тваю дзівосную краіну. Мне тут цікава і ўсё падабаецца.

— Прыемна чуць такія словы. Гэта словы не ганарліўца, з якога прэ пыха і ўпэўненасць, а разважлівага чалавека. Я радая, што ты з

гонарам прайшоў усе выпрабаванні, якія выпалі на тваю долю. Таму ты і атрымаў пропуск у Галоўную Хату. Цяпер ты можаш карыстацца ўсім тым багаццем, што там ёсць. І заставацца зможаш столькі, колькі захочаш. Праз тры дні ты ў любы час можаш вярнуцца ў свой Камень. Цяпер для цябе не існуе ніякіх перашкод.

— Дзякую. Я не буду спяшацца дадому.

— У цябе, я ведаю, процьма пытанняў. Але пакуль што толькі адно ты можаш высветліць у мяне.

— Што азначае — Галоўная Хата?

— Ты знаходзішся ва ўнікальным Сховішчы Сусветных Скарбаў. У Хаце сабраны культурныя каштоўнасці з усяго свету. Кожная чалавечая душа зарэгістравана, і пра яе можна даведацца са Святой Кнігі. Ты можаш прачытаць любую кнігу на любой мове свету. Для гэтага дастаткова яе ўзяць у рукі. Тут кнігі ўсіх стагоддзяў, усіх краін і народаў. Выдадзеныя і нават не выдадзеныя, якія будуць некалі чытаць — праз пяць, сто і тысячу гадоў...

— Дзі... Зразумеў. Дзякую! Хачу азнаёміцца з гэтым багаццем.

— Калі спатрэблюся, можаш мяне заўсёды знайсці — націсні толькі кропачку зялёнага колеру. А цяпер — да сустрэчы! Поспехаў табе! Па ўсіх тэхнічных пытаннях звяртайся да гіда — ён ад цябе злева. З кампутарамі ты меў справу, так што ўсё ў тваіх руках...

Да Тоніка прыйшло сапраўднае супакаенне. Прайшлі ўзрушанасць і здзіўленне, якім ён заўсёды не даваў вырвацца на волю, знікла душэўная дрыготка і недаўменне, ён стаў самім сабой.

Ён усміхнуўся. Рашыў проста пасядзець у мяккім крэсле, прыйсці да канчатковай раўнавагі. Сеў, расслабіўся, раскінуў ушыркі рукі. Прымружыў вочы. Ні пра што не думаў.

Паплыў па цячэнні бяздумнасці, бязважкасці і абыякавасці — збіраўся з сіламі...

Пра сябе адзначыў, што ў сваім жыцці ён яшчэ раз перамог самога сябе. Цярпеннем перамог. І падняўся яшчэ на адну прыступку. Да чаго? Сам не здагадваўся. Да самаўдасканальвання? А якога? І што гэта такое — удасканальванне?

Прывядзенне ў належны стан сваёй душы? Ці прафесіі? Ці пражыцця ў суладдзі з Богам, з яго запаветамі?..

Мільёны пытанняў — і ніводнага адказу.

Біблія... Першая Біблія ў свеце і — «Біблія» Францішка Скарыны. Ці ёсць яны ў сховішчы?

Націснуў на кнопку «Задавайце пытанне». Успыхнуў вялікі экран — мо метраў трыццаць вышыні.

— Ці можна паглядзець арыгінал першай у свеце Бібліі?

На табло загарэўся адказ: «1-1-1-1-1».

— Не разумею, што азначаюць лічбы.

Срэбрам засвяціліся словы: «Гэтыя рукапісы знаходзяцца за дзвярыма № 1, у першым радзе, на першай паліцы, у першым адсеку, па ліку — першая...»

Клімовіч кіўнуў галавой.

Ён выдыхнуў з сябе паветра, настроіўся на хвалю творчага спасціжэння. Адчуў знаёмы сверб душы — «Не дазваляй ніколі душы ленавацца», крутануў галавой, як бык, што выходзіў на карыду, падняўся з крэсла і пайшоў да дзвярэй — першыя ад уваходных. Не памыліўся — на дзвярах таблічка высвечвала нумар, смела адчыніў іх.

Калі ж зайшоў, з'явілася адчуванне, што ў памяшканні ён не першы раз, што яму тут усё знаёмае і вядомае...

Парог пераступіў смела і ўпэўнена.

У твар ударыла свежая прахалода, патыхала здаровым і жывым пахам. Не цвіллю і сырасцю, як у стандартных савецкіх жабрацкіх бібліятэках і музеях, а водарам, без пылоты і смецця... Хто ж тут прыбіраў, хто мыў і чысціў, сартаваў, ставіў на паліцы кнігі і класіфікаваў, падбіраў і заносіў у картатэку?..

Клімовіч не задаваў нікому пытанняў, ён проста дзівіўся гіганцкай рабоце, хаця не сустрэў ніводнага тут чалавека, жывой істоты, нават робата.

Без цяжкасцей ён адшукаў першы рад, першую паліцу і першы адсек. Біблія стаяла першай. З хваляваннем узяў у рукі Кнігу Кніг. Адчуў яднанне з Богам. Да яго лба дакранулася длань Усявышняга Творцы...

Клімовіч ведаў, што Кніга Бога знаходзіцца ў Ерусаліме. Але ж яна была і тут. Якая з іх — арыгінал? Ці то Боскі цуд — адна і тая ж кніга магла знаходзіцца ў двух месцах? Пэўна ж, так...

«І прасвятлее розум у таго, хто імкнецца да Святла. І памутнее ён у таго, хто лянуецца і не звяртаецца да мяне, не звярае сваё жыццё з маім. Я раздзяліў жыццё душы на Пекла і Рай. Ніколі не знойдзеце раю ў пекле, але хто шукае прывідны рай на зямлі, знойдзе сабе пекла, бо толькі сатана можа паддурыць народы, аплесці іх розум чорнай павучынай, прымусіць адмовіцца ад Запаветаў...»

Антона аж здрыганула ад гэтых радкоў. То ж пра такіх, як ён, бязбожнікаў, якія верылі ў светлы рай на зямлі, у камунізм, які бачыўся так блізка і яскрава, і які ніхто ніколі і ні пры якіх абставінах не мог пабудаваць. Як і тую Вавілонскую вежу...

Праз нейкі час ён паставіў Кнігу Кніг на сваё месца.

Непадалёк, у тым жа радзе, была і скарынаўская «Біблія», хаця, ведаў Клімовіч, яна знаходзілася ў Дзяржаўнай бібліятэцы, якая насіла імя таго ж сатаны, які паддурыў людзей і хацеў адлучыць іх ад Бога...

На паліцах былі сабраны ўсе Бібліі свету. А на сценах былі прымацаваны карціны з біблейскімі сюжэтамі пэндзляў Шнора і Дарэ, Ван Дэйка і Скарыны, Эмстэда і Бэнэ, Ліліена і Рубенса — усіх і не злічыць, бо кожная краіна дала свету сваіх геніяў, кожны з іх уславіў Бога, і Бог праславіў іх...

Перахрысціўся тройчы Антон на ўсе бессмяротныя кнігі. Ён навучыўся маліцца тут, каля кніг. Хаця даўно паверыў у Бога, і Бог дараваў яму яго невуцтва і дзікунства... Але, ведаў Клімовіч, яму яшчэ ісці і ісці да Бога, яшчэ доўга вырываць і выкарчоўваць з сябе асцюкі заразы і бацылаў, што ўшпырылі яму ў школе, затуманілі мазгі, пазбаўлялі волі, адбіралі і забаранялі імкненне да Божага бласлаўлення... І ён выправіўся ў гэтую нялёгкую дарогу, верыў, што пераадолее любыя цяжкасці, што выпадуць на яго долю...

Стомленым, але задаволеным ён вярнуўся ў круглы пакой. Нават забыўся пра дзверы Вяртання, бо цікаўнасць да невядомых ісцін узяла верх, і ён з гэтым ужо не мог нічога парабіць. З памяці не сцерлася жаданне вярнуцца дадому. Яно, жаданне, драмала ў мільярдных адсеках і ячэйках, але не прачнулася яшчэ памяць, яна драмала і чакала свайго часу... Чакала таго імгнення, калі мозг Антона запоўніцца ведамі, вопытам, мудрасцю, што выпрацавала чалавецтва за тысячагоддзі і якія не магло ўзяць наступнае пакаленне, што прыходзіла на змену — з-за ляноты сваёй не магло, уяўнай і памылковай задаволенасці...

Тонік адчуў сябе малым дзіцёнкам, якога ўкінулі ў пакой, дзе было шмат дарослых цацак. Яго згаладалы мозг, быццам лёгкі паралон, напітваўся з кожным імгненнем тымі сусветнымі здабыткамі, што накапіліся на Зямлі і ў Сусвеце...

«Божа, дзякуй, што Ты ёсць, што паклікаў мяне сюды. Каб даказаць ёлупню і неразумнаму стварэнню, што мы на зямлі нічога не значым, бо нічому не навучыліся, не зразумелі, чаго прыйшлі на гэты белы Свет, ад каго залежым, хто даў нам Сілу і Розум...

Даруй, што позна прыйшоў да Цябе...

Цяпер я іншы. Цяпер я буду ведаць, дзеля чаго трэба жыць. І — як жыць. І — колькі жыць.

Я яшчэ слабы розумам, шмат чаго яшчэ не петру, але з усіх сіл буду імкнуцца ісці да Цябе... Дай толькі мне сілы. Кожны дзень, пражыты на зямлі, я хачу прысвяціць Табе...»

Калі ж мінула першае ўзрушанне, калі кроў зноў спакойна і раўнамерна пабегла праз сэрца, ён зноў падступіўся да кнопак чароўнай машыны. Паслаў у Сусвет пытанне:

— Якія віды мастацтва знаходзяцца ў Сховішчы?

Экран засвяціўся жоўтым колерам, потым успыхнуў блакітам. На ім ішоў пералік асноўных скарбаў, што былі схаваны ў нетрысках унікальнай установы.

Тонік выгукнуў нешта невыразнае, падобнае на здзіўленне ці ўзрушэнне. У яго няйнакш адняло мову. У тое цяжка было паверыць. У Хаце былі сабраны творы ўсіх мастакоў свету — вядомых і невядомых, прызнаных і непрызнаных. Бо ўсе яны адзначаны перстам Творцы. Аб'ектыў Сонца і Месяца засведчыў усё, што адбывалася за тысячагоддзі з кожным чалавекам, з кожнай жывой істотай.

У відэатэцы былі хранікальныя кадры ўкрыжавання Ісуса Хрыста (а атэісты сцвярджалі, што таго ніхто ніколі не бачыў), яго Ўваскрашэнне, кадры пра Настрадамуса, пра Сусветны патоп, пра...

Не было складанасці даведацца пра загадкавыя смерці князёў Вялікага Княства Літоўскага, пра лёс кожнага караля Рэчы Паспалітай. Ды пра ўсіх-усіх людзей. Памяць засведчыла апошні ўздых, апошні ўдар сэрца, прасачыла, дзе знаходзіцца яго душа, у каго перасялілася пазней...

«Спакайней, спадар Антон, спакайней... А то страціш розум ад перанагрузкі думак, — супакойваў сам сябе Клімовіч, з усіх сіл аберагаў сябе ад уздзеяння аграмаднага грузу інфармацыі, што накапіла Памяць. Не, гэта не Сховішча, не Музей, гэта... Такога і слова падабраць немагчыма, такога вызначэння яшчэ не было на ўсім зямным шары. Мо і ў Сусвеце. Не ішла нават ні ў якае параўнанне Каралеўская бібліятэка ў Вялікабрытаніі, Нацыянальная ў ЗША... — Спакайней, Антон, спакайней. Беражы свае эмоцыі...»

Ён задумаўся, нахмурыў лоб, абхапіў галаву рукамі. Яго як што падымала і апускала — акурат як з тым дубам на лугавіне. То было папярэджанне? Узрушанасць не аціхала, і ён падышоў да акна.

Глядзеў на белыя вялізныя аблокі і баяўся сам сабе прызнацца, што ён нішто ў гэтым жыцці. Што яго веды, якімі ён няхай і не ганарыўся, але выкладчыкі ацанілі як выдатныя, былі на нулявой адзнацы інтэлектуальнага ўзроўню Сусвету. Яму стала прыкра і сорамна за сябе.

Цікава, што скажа Памяць Сусвету пра Крыж святой Еўфрасінні Полацкай? Дзе знаходзіцца сёння, у каго, у чыіх нячыстых руках?..

Параілі прайсці ў відэазалу «Памяць». Стаў на падлогу, і яго нейкая сіла панесла да намечанага месца. У зале было пуста, хаця стаяла некалькі соцень крэслаў — паўкругам. Дзе ж астатнія гледачы? У яго памяць урываўся напамінак пра нейкую такую ж залу, дзе ён праглядваў сюжэты з мінулага Полацкага княства... Дзе і калі тое было?

Пагасла святло, некуды знікла зала. Клімовіч апынуўся ў нейкім іншым асяроддзі — знаёмым і незнаёмым. Ён таксама апынуўся ў Полацкім княстве. Гістарычныя фільмы, што рыхтаваліся кінастудыямі, не ішлі ні ў якае параўнанне з тым жыццём, у якім ён апынуўся. Рэжысёры-пастаноўшчыкі праз сучасную інтэрпрэтацыю бачылі мінулае толькі сваім розумам і вокам. Яны і іншых прымушалі глядзець на мінуўшчыну гэтак жа, пад іх вуглом, пад іх ракурсам...

Але тое, што ўбачыла вока Клімовіча, значна розніласся ад прывычных кадраў — наіўных і недасканалых. І святая Еўфрасіння была незвычайнай прыгажосці, і мова яе розніласся ад нашай — была пявучай, мілагучнай і магутнай, як малітва да Бога, светлай, як сонейка, спакойнай, як цячэнне Дзвіны ці Прыпяці...

Еўфрасінню ніхто не іграў, яна сама была перад ім, у першапачатковай сваёй красе Прадславы, і ад праўдзівасці яе вобраза і душы нараджаўся гонар за сваю зямлю, за сваю зямлячку — пасланніцу Госпада...

Тонік быў у саборы інакам. Падаваў Еўфрасінні кнігі і чарніла. Насіў столік, за якім любіла сядзець святая, калі выходзіла на прыроду. Як радавалася сэрца хлапчука, калі бачыў яе перад сабою! Бачыў і не мог сказаць, бо не належаў самому сабе... І Еўфрасіння нічога не заўважала.

Потым буйным планам з'явіўся Крыж, які толькі што змайстраваў для Прадславы Лазар Богша. А ён, аказваецца, быў веку немаладога, падслепаваты, русявы, у даматканай прыгожай кашулі і з сінімі, як валошкі, вачамі...

Крыж напачатку ўзялі грэнадзёры царскіх войскаў. Потым быў адабраны. Кроў капала з яго — варожая і свая. Адна смерць за другой, калі хто дакранаўся да яго, то ішоў на той свет, — як зачараваны быў Крыж...

Потым, бачыў Антон, ляжаў ён на зялёным аксаміце, побач з іншымі каштоўнасцямі — дарагімі камянямі, бранзалетамі, завушніцамі, караламі... Яго ўкралі чужыя рукі, і зіхаценне камянёў затухла. У няволі апынуўся Крыж, не на роднай зямлі, а ў захопнікаў, якія прыкідваліся сябрамі...

І не бачаць яго вернікі, не атрымліваюць Божага бласлаўлення. Таму і не шанцуе ліцвінам у жыцці ад таго, што за кратамі святы Крыж, пакутуе ў няволі, і цяжка яму выбавіцца з яе — свае ж не спрыяюць таму, беручы тым самым вялікі грэх на сябе і на наступныя пакаленні. Таму і ноч насунулася на Ліцвінію, светлага дня не бачна... Жах які, крыўда якая! Моцць такое багацце, ахоўную грамату ад зла — і страціць яго, згубіць, дазволіць, каб нечыя брудныя і крывавыя рукі чужынца захапілі яго, паланілі...

Антон сціснуў кулакі, як быццам збіраўся тут жа кінуцца на крыўдзіцеляў. У шчокі ўдарыла гарачыня. Яго пёк сорам — быццам гэта ён быў адзін вінаваты ў тым злачынстве супраць ліцвінаў...

Цяпер ён ведаў, дзе знаходзіцца святы Крыж, ведаў, як вярнуць яго ў святы храм Прадславы.

Калі выберацца з Галоўнай Хаты і прыедзе дадому, то ён раскажа ўсяму свету, хто падняў руку на Божую Рэліквію, і ўвесь свет пракляне аднаго чалавека. Нездарма ўвесь род яго пракляты...

Убачанае доўга не выходзіла ў яго з галавы.

## 5

Начаваць ён пайшоў у леснічоўку.

Дзверы лёгка прачыніліся, упусцілі яго ў цесную, але ўтульную хаціну. За час яго адсутнасці нічога не перамянілася, хіба што стала цёмна за акном — але колькі было часу, то быў дзень ці ноч, ён не ведаў.

Як гэта ў прымаўцы — шчаслівыя за часам не цікуюць. А ён шчаслівы ці няшчасны? Пра тое ён даведаецца пасля, калі вернецца ў ранейшае вымярэнне і час...

Клімовіч быў ашаломлены. У галаве не ўкладвалася, як такое можа быць — усе багацці свету сабраны ў адным месцы. Колькі ў Хаце памяшканняў і адсекаў? Хто фінансуе, і хто за ўсім гэтым сочыць?

І чаму пра сховішча ніхто не ведае? Нідзе пра яго і не ўспамінаецца.

А мо то тварэнне не чалавечага розуму? То ведамства канцылярыі Творцы, бо чалавечы інтэлект і магчымасці не здольны дасягнуць такога.

Чалавек толькі навучыўся здымаць эпізоды свайго жыцця праз аб'ектыў. З падсветкай, калі цёмна. Пасля рэпетыцый з акторамі здымаюць мастацкія стужкі, стараючыся падагнаць пад праўдападобнасць. Тут жа здымаецца без рэпетыцый, без папярэджання і без згоды, як кажуць, прынцып схаванай камеры. Жыццё натуральнае. Не выхапленае ўрыўкамі, прыгожымі эпізодамі, а без супынку — ад

нараджэння і да імгнення смерці. І нават пасля смерці. Днём назірае Сонца, а ноччу — Месячык.

Тыя камеры ніколі не стамляюцца, ніколі няма недахопу ў магнітнай відэастужцы. І здымае пры любых абставінах — на зямлі і пад зямлёй, на моры і на дне яго, у космасе і на любой планеце...

Чалавек пражывае жыццё ў суцэльных загадках і ў невядомасці. Прападаюць ці знікаюць людзі, а пра іх лёс ніхто не ведае. А хто і ведае, то можа ніколі не расказаць таму, каму трэба пачуць і ўбачыць...

Клімовічу зноў жа ўспомнілася баба Настазя. Дзевяцярых нарадзіла. Засталася потым без мужа. Без Антонавага дзеда. Колькі на картах гадала, колькі паклонаў Богу ў царкве адбіла, начамі ўсхопвалася, калі нешта скрэблася ў дзверы ці шыбіну акна — і марна сэрца рвала, не адкрывалася ёй тайна пра мужа. Энкавэдысты схапілі яго сярод белага дня, у «эмку» пасадзілі і павезлі ў Петрыкаў, раённы цэнтр. Дзед прызнаўся, што быў японскім шпіёнам...

«Цікава, а ці можна прасачыць-паглядзець яго лёс? Дзе ён знік? Бо таваркі бабуліны, такія ж гаротніцы, што дзяцей гадавалі без гаспадара, гаварылі, выказвалі здагадкі, што недзе адбыў яе гаспадар зняволенне ды прыстаў да якой маладзіцы, новую сям'ю завёў...»

Не верыла бабка, супраціўлялася, адмахвалася ад іх слоў, клала зноў (у які раз!) перад сабою падушку, на яе карты раскідвала — тры выцягвала з калоды, клала іх па цэнтры — малюнкамі ўніз, а потым ужо ў чатыры бакі раскідвала ў адкрытую. Пасля ўжо тры карты пераварочвала, доўга вывучала іх, глядзела, якія падступаліся да цэнтра, і гаварыла:

— Вось бачыце, няма і блізка ніякай дамы побач, толькі казённы дом, і ўсё туз піковы блытаецца... Чуе маё сэрца, згінуў недзе сярод балот і лясоў...

І ўздыхала, божкаючы, слёзы выцірала рагом хусткі. Потым задумвалася, на таварак сваіх забывалася. Думкі па ўсім свеце паразляталіся, злавіць не можа, як і дзеці яе, як тыя птушкі гнёзды свае спавілі за тысячы вёрстаў — так лёс распарадзіўся.

А бабка сама, адненькая жыла. Во з ім, з унукам Тонікам, — маці прывезла на няпэўны час...

Вячэра была сціплай: сала, некалькі яек. Перад гэтым, здавалася, ён пачынаў бохан хлеба — як не палавіну адрэзаў, і яек, добра памятаў, заставалася толькі два. А цяпер і бохан хлеба цэлы, і яек па-ранейшаму пяць... Колькі і браў у дарогу.

І ў гарбатніку было столькі гарбаты, колькі было ўчора. Не здзівіўся, спакойна павячэраў, перагледзеў старыя газеты. Хаця ж нехта прыносіў і падшываў новыя...

З цікавасцю прачытаў усе нумары «Мужыцкай праўды», якія былі ў сто разоў цікавейшыя, чым сучасныя газеты. Чуў пра «Мужыцкую праўду», а ніяк не мог прачытаць іх у цэнтральных бібліятэках — хавалі іх ад дапытлівага вока. З-за чаго хавалі? З-за слоў прарочых Кастуся Каліноўскага, якія ён напісаў перад пакараннем: «Шчасця мы да тае пары не здабудзем, пакуль над намі маскаля не будзе...»

Прарокам вялікім аказаўся Кастусь. Папярэджваў жа. Не паслухаліся. Не гаспадарамі, а толькі спадарамі спрычыніліся, шчасце сваё ў чужыя рукі аддалі, — даверылася авечка ваўку, паверыла ў яго пяшчоту, а воўк сілай прымусіў палюбіць сябе. Адсюль і боль Каліноўскага... І — наш сорам.

Засынаючы, падумаў, што заўтра ранічкай абавязкова трэба пра дзедаў лёс даведаецца. Паспрабаваць даведацца.

За акном зашапацеў лагодны дождж, але грому не было. На даляглядзе зыркала слабая бліскавіца, асвятляючы ў хаце сцены, белую печ.

У хату знекуль плыў водар прывяленай травы, чабору і смуроды; у агульны пах уплятаўся чаромхавы дурман. Цішыня навявала дрымоту. Недзе ў кустах падала голас сава, як усё роўна імкнулася праспяваць Тоніку калыханку...

Але не спалася, і ён колькі разоў выходзіў у двор. Дыхаў паветрам, няўцямна глядзеў у шэрань ночы.

Раніцай, калі выйшаў зноў на парог, убачыў, што дарога, па якой ён прыйшоў у леснічоўку, знікла, а вакол хаты была суцэльная вада. Леснічоўка стаяла на востраве, і берагоў не было бачна.

Але тое яго не палохала, бо ведаў, што тое ўсё прывіднае, усё знікне тады, калі ён таго зажадае...

Страх зусім уцёк з яго душы.

Ён нават распрануўся і падставіў сонцу сваё белае цела.

...сонца па-ранейшаму было ў зеніце.

Першае, што ён зрабіў, сеўшы за пульт, прамовіў заданне:

— Ян Фіцнер. Арыштаваны ў траўні 1937 года энкавэдыстамі. Які яго лёс?

У глядзельнай зале чакаў, калі пагасне святло.

Потым загарэўся экран, стала цёмна вакол...

Заспявалі пеўні. І Тонік пазнаў сваю вёску, бабульчын хлеў і хаціну. І бабулька — якая яна маладая і прыгожая! Не паверыш, што

ў яе столькі дзяцей. Шчаслівая, вочы свецяцца ўнутраным святлом, не падазрае аб сваёй горкай долі.

А гэта хто? А-а, то ж дзед Ян, у саматканым адзенні. Гной накідвае на воз, каб потым адвезці на поле. Дужы, здаровы, на вілкі мо паўтоны гною набірае. Як і конь толькі пацягне. Спявае нешта — работа спорыцца, вясна на дварэ — няма калі адпачываць...

Тонік углядаўся ў дзеда і стараўся ўявіць, пра што ён думаў тады, яшчэ не дзед, бо не было і ўнукаў яшчэ, — ці толькі пра гной і сяўбу? Ці што святое было ў яго, недатыкальнае для іншых?..

Захапіўся ўбачаным. Не падганяў падзеі, пранікся тым жыццём, паверыў, што ён сапраўды ў тым часе, побач з маладой Насцечкай, будучай бабуляй Настазяй, і Янікам — дзедам Янам...

Паверыў, і ногі адразу ж адчулі травеньскую глебу, голас Насці пачуўся выразна і хораша. І так яму стала прыемна ад гэтага, што захацелася пагукаць бабку, дакрануцца да яе рукі...

— Яня, го Яня, ты чаму ж мне ніткі не прынесла? — пытаецца маці ў дачкі. — Я ж працу не магу скончыць...

— Нясу, нясу, — адгукваецца адразу ж шасцігадовая дзяўчынка, — я ж і забылася зусім... Ды руку перавязвала — нарыў баліць...

«Божа, дык гэта ж мая мама, — жахаецца ад радасці Тонік, — якая яна цікавая, распэтланая, вясёлая, на адной назе скача, несучы матулі ніткі... І на руцэ фурункул... Якое ў іх цікавае жыццё, якая суладнасць...»

Янінка зірнула на яго, Тоніка, здзіўлена папыталася:

— А адкуль ты тут? Што ў нас робіш? Пабіраешся?

— Не, проста гуляю, — зніякавеў Тонік, спалохаўшыся таго, што з ім усё адбываецца напраўду, — у казакоў-разбойнікаў...

— Ну і гуляй сабе, — дзерганула плечуком Янінка, горда ўзняла галаву і пабегла да маці...

«Толькі тут, у гэтым вымярэнні, я магу гаварыць і з нябожчыкамі, і з тымі, хто даўно не жыве ў тым часе і забыўся пра тое, — і цікава рабіць тое, можа, і небяспечна, але кожны, пэўна, чалавек, павінен мець такую магчымасць — вяртацца не толькі ў сваё мінулае, а і ў мінулае сваіх продкаў. Дзе яшчэ можна атрымаць такую магчымасць? Унікальную магчымасць».

Прыехала чорная машына і спынілася насупраць хаты. Гаспадара запрасілі да сябе вайсковыя людзі з зялёнымі пятліцамі.

— Возьмите с собой все необходимое, — сказаў афіцэр з вострым носам і чорнымі вачыма, — и распрощайтесь — неизвестно, сколько суток или месяцев будете отсутствовать...

Праўду казалі карты бабы Настазі — смерць ён напаткаў на самым пачатку свайго зняволення...

Тоніка ўсё больш разбірала цікавасць. Чалавецтва пакутуе, не могучы раскрыць шмат якіх тайнаў і забойстваў. Толькі гіпотэзы і здагадкі, а праўды не ведаў амаль ніхто...

І тады ён, карыстаючыся ўнікальнай магчымасцю, рыхтаваў наступныя пытанні:

«Дзе падзеўся бурштынавы пакой падчас сканчэння вайны?»

«Хто забіў Кенэдзі — прэзідэнта ЗША?»

«Дзе Напалеон схаваў нарабаванае багацце, везучы яго на радзіму ў 1812 годзе праз Беларусь?»

«Як адбывалася бітва пад Воршай маскоўскага войска і ліцвінаў?»

«Хто пабудаваў Эгіпецкія піраміды?»

«Што робяць на зямлі іншапланецяне і ці існуе паралельнае жыццё на зямлі?»

«Ці скіне калі-небудзь Ліцвінія ярмо прыгнёту ад свайго ўсходняга суседа?»

«Што Чарнобыль для ліцвінаў?..»

Сотні і тысячы пытанняў жадалася распытаць. Калі ж даведваўся падрабязна пра ўсё, галава распухала ад інфармацыйных паведамленняў.

Даведаўся шмат пра што, і ў той жа момант яму стала вельмі шкада людзей. Шкада ўсё Чалавецтва.

Божа, якія людзі безабаронныя і бездапаможныя! І чаго яны пра сябе стварылі такі німб — істоты звышразумнай і звышуладарнай, усёмагутнай? Хто ім такое ўбіў у галаву? Пэўна ж, самі, толькі самі...

Божа, прабач ім, яны ж нічога не ведаюць, як і я не ведаў нічагуські пра сябе!.. І ніхто не сказаў мне пра тое, што я — гэта я, а не істота вышэйшага розуму. Валадар, чаму мы такія тупыя, Ты ж сам нас стварыў сваёй рукой? Ты ж даў нам розум і мудрасць, а мы не можам гэтым багаццем распарадзіцца. Тое, што здымаў Месяц, не бачыў, упэўнены, ніхто ў свеце. Адзін ты, Ойча, Валадар Сусвету, ведаеш пра тое, і ніхто ў свеце нічога і ніколі не ўтоіць ад Цябе. Як мудра ўсё пабудавана і адначасова проста — ніводнаму, нават самаму геніяльнаму, чалавеку не дадзена тое зразумець і ўсвядоміць.

Я ўдзячны Табе, Божа, за маё прасвятленне, за тое, што Ты даў мне зразумець незразумелае, спасцігнуць неспасціжнае, убачыць нябачнае, адчуць неадчувальнае... Толькі Ты адкрыў мне грэх мой і Чалавецтва перад Табой, і ці здольны замаліць яго чалавек, не ведаю, не ўпэўнены...

## 6

Пад вечар, стаміўшыся, захацеў пагаварыць з Янінаю, перакінуцца словам-другім, каб не занудзіцца на адзіноце. Хаця ж не, на адзіноце ён не быў, наадварот, ніколі сябе не адчуваў у акружэнні розных людзей, прадстаўнікоў розных стагоддзяў. Ён мог у любы час пабыць сярод сяброў Пушкіна і Лермантава, паслухаць вершы саміх паэтаў, пабачыцца з Максімам Багдановічам і Еўфрасінняй Полацкай, сустрэцца з князямі і вялікімі гетманамі Вялікага Княства, пабачыць Грунвальдскую бітву...

Яніна падалася яму нейкай заклапочанай і ўсхваляванай, але не сумнай. Гожы твар свяціўся таямнічасцю і мудрасцю.

— Слухаю цябе, спадар Антон! Чаму так доўга не гаварыў са мною? Не было пытанняў?

— Пытанні былі. Але я баяўся іх задаваць.

— Баяўся? То не тваё слова. Ты не хацеў проста пытацца?

— Можа, і так, Яніна. Я і цяпер не магу спытацца, надта ж важкі і адказны груз зваліўся на мяне. Цісне галава, каб не раскалолася...

— А ты медны вобруч на галаву надзень. Ён над табою вісіць. Так і здымеш цяжар з галавы і са сваёй душы.

Як карону князя надзеў на галаву. І тут жа адступіў боль, галава праяснілася. Гнятлівы настрой таксама знік.

— Дзякую, Яніна! Цяпер па-іншаму адчуваю сябе. Ці можна яшчэ пытанне?

— Слухаю цябе.

— Як я магу распарадзіцца ўсім пачутым і ўбачаным? Ці магу я падзяліцца ім, напісаць?

— Калі ласка. Ніякай забароны няма. Ты можаш пісаць фантастычныя раманы і аповесці, хаця гэта, як сам бачыш, не фантастыка, а рэальнасць.

— Так, я пераканаўся ў гэтым. Тое прымушае задумацца над сваім жыццём. Я зразумеў, што нічога ў гэтым жыцці не схаваеш. Усе, нават самыя патаемныя думкі, будуць вядомы. Сонца і Месяц запісваюць усё, фіксуюць...

— Так, так... Усё ты зразумеў.

— Я зразумеў. Чалавецтва — не. Здагадваецца толькі.

— Калі-небудзь і яно прыйдзе да гэтага. Бог цярплівы. Ён можа доўга чакаць, калі апамятаецца Чалавек. А ён абавязкова прыйдзе да самога сябе, спусціцца на грэшную Зямлю.

— Яшчэ пытанне — хто ты, спадарыня Яніна?

— Я — Ліцвінія. Я — тваё сумленне, радасць і боль, шчасце і каханне. Узнёсласць і натхненне. Хіба ж не пазнаў мяне?

Ён усміхнуўся. Цеплыня разлілася па ўсім целе.

— Здагадваўся. Не хацеў памыліцца. І ты ў адказе за нашу Гісторыю і Будучыню?

— Пра тое ж сам ведаеш.

— Ці змагу я вярнуцца калі-небудзь сюды, калі стане невыносна цяжка, ці захачу пра што-кольвечы даведацца?

— Невыносна цяжка табе ўжо больш ніколі не стане. Бо ты ўмееш цяпер ахоўваць сваё сэрца ад нечаканасцей. І галава балець не будзе, бо ў мазгу ажылі мільёны клетачак, якія будуць здольны прымаць інфармацыю Космасу і Зямлі.

— Сюды завітаць дадзены дазвол толькі мне?

— Не толькі... Раз у стагоддзе мы запрашаем абраных людзей. Ты адзін на Зямлі дакрануўся думкамі і дзеяннямі да магмы недазволенага і незразумелага. Ты змог развіць і ўдасканаліць свой мозг для таго, каб раскрыць тайну існавання Сусвету, але ты быў не падрыхтаваны да гэтага. Таму мог, сам таго не падазраючы, згарэць у Агні Праўды. І мы цябе пусцілі і дазволілі ісці тым шляхам, які ты сам і абраў. «Стукайцеся — і вам адчыняць...» — так раіць Бог. Ты пастукаўся, і перад табою расчыніліся дзверы. І ёсць яшчэ адна прычына твайго знаходжання ў Хаце. Твой праўнук стане геніяльным паэтам, напіша геніяльныя творы пра гісторыю Ліцвініі. Яму і перадасца твая інфармацыя, якую ты здабыў тут. Не выскачаць з памяці ніводзін факт, ніводная падзея. Яго кнігі ўжо стаяць на паліцах за дванаццатымі дзвярыма, якія ты ніводнага разу так і не адчыніў. І правільна, што не адчыняў іх. Але ты ўсё роўна не знайшоў бы прозвішча свайго праўнука...

— Я і не хацеў шукаць тое, што яшчэ будзе. У будучыню заглядваць не хачу, хаця тое мяне найбольш і непакоіць. Лёс Ліцвініі непакоіць. Сатана ў ёй. А тое страшней нават за Чарнобыль... Сама заклапочаная. Чаму? Што непакоіць, любая Ліцвінія?

— Тое, што і цябе. Хворыя мы, хворыя людзі. Але трэба выжыць.

— Мы яшчэ пабачымся?

— Тут — не. А так мы будзем бачыцца штодня. Ты будзеш адчуваць мяне штохвілінна. Я і забылася — на заканчэнне твайго прабывання ў Краіне, дзе няма тайнаў, я падрыхтавала табе невялічкі сюрпрыз-сувенір... Танненькі, усяго за сорак сем капеек...

— Дзякую. Даю слова, веды, атрыманыя тут, выкарыстаю толькі на добрае. Тайны раскрыю толькі тыя, што не пашкодзяць нашай Ліцвініі.

— Хай яно будзе так! Жыве Ліцвінія!

— Жыве! — сціснуў і падняў каля правага пляча сагнутую руку Антон, ад хвалявання пераняло дыханне.

На экране замест Яніны паплылі белыя аблокі. З-за іх выглядваў сярпок маладзіка — як злізаны сярпок бабы Настазі, якім яна спраўна і ўвішна жала жыта.

І тут пачуўся голас аднекуль зверху, і быў ён прыглушаны і спакойны, адначасова ж і ўладарны:

— Ты ўвайшоў у Дом мой! Ты дакрануўся і адчуў, прасвятлеў і прачысціўся... Пра кожнага на зямлі я ведаю ўсё — з таго часу, як немаўля набывае імя. Я сачу за кожным з дня яго нараджэння і да апошняга ўздыху. Ці ведаеш ты малітву, з якой павінен звяртацца да мяне, каб уведаць яшчэ больш пра ўсё?

— Ведаю, наш магутны Божа! А я, дзеля вялікай ласкі Тваёй, увайду ў дом Твой, пакланюся святыні Тваёй богабаязна. Госпадзе! Вядзі мяне ў справядлівасці Сваёй на непрыяцеляў маіх; выпрастай перада мною дарогу Тваю. Бо няма вернасці ў вуснах іхных: сэрца іхнае — ліха, горла іхнае — адкрытая магіла, язык іхны ліслівы. Навучы, Усемагутны Валадару, зразумець і ўведаць тое, што напаткаецца мне невядомае на шляху маім... Уваж, Госпадзе Ісусе Хрысце Божа наш, са святога жылля Твайго й з трону славы валадарства Твайго і прыйдзі асвяці нас, Ты, што на вышынях сядзіш з Айцом і тут з намі нябачна прысутны. Бо Тваё валадарства, і сіла, і слава, Айца, і Сына, і Святога Духа, цяпер, на ўвесь час, і вякі вечныя. Амін.

— Раскрыюцца табе багацці мудрасці і розуму, калі звернешся да мяне. Бо ты паверыў мне, паверыў у мяне. І ў сябе паверыў. Шмат грэшных душ неўзабаве прыйдуць да мяне.

Таго, хто гаварыў да яго, ён не бачыў, але яскрава адчуваў Яго прысутнасць, святое свячэнне было над ім, зыходзіў на яго валадарны дух і спакой. У ім зноў адкрывалася невядомае дагэтуль пачуццё светласці і далучэння да нябесных вяршынь, злучэння з імі нябачнымі ніцямі.

На яго былі ўскладзены абавязкі пасрэдніка, таго, хто злучыць чалавечыя душы з мудрасцю Божай, не навучыць, а толькі падкажа, якой дарогай ісці да Дома Валадара...

Нейкі момант ён не адчуваў сябе. Яго цела згубіла вагу — ногі не датыкаліся да зямлі. Свячэнне над галавой рабілася ўсё большым і большым, каляровымі кругамі яно разыходзілася і згасала, а з нябачнага цэнтра нараджаліся ўсё новыя і новыя... Яны пульсавалі. У такт ім у яго целе сэрца штурхала па венах ачышчаную кроў, і мозг рабіўся іншым, абноўленым, мільярды клетачак ажылі і ацэньвалі навакольнае жыццё з новым падыходам, з іншымі крытэрыямі...

— Вось у такім стане і павінен жыць кожны Чалавек! — данеслася да вушэй. — Для ўсіх адкрыты дзверы Дома Майго, нікому не забаронена пераступіць парог яго.

— Весела гукае Богу ўся Зямля. Уся Зямля пакloніцца Табе і будуць пяяць імені Твайму!

— Веру ў тое!

— Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу! Амін.

І ў гэты ж момант выбухнула зыркім воблакам святло — як быццам сонца падкацілася да яго зусім блізка, да самага твару. Ён толькі зажмурыў моцна вочы, каб не асляпіцца. Не страх быў у ім, а засцярога, не хваляванне, а сцішанасць...

Стала ціха, так ціха, што цененька зазвінела ўвушшу.

Патыхаў аднекуль слабы павеў ветру.

Патыхала вечнасцю, спакоем і суладнасцю.

Антон яшчэ раз агледзеўся, бо развітваўся з Домам Валадара, ведаючы, што сюды больш не вернецца. Ды яму і не трэба сюды вяртацца. Пра ўсё ён і так ведае, а калі ўзнікне неабходнасць, у любы момант звернецца да Творцы і Ўсёведаючага і атрымае жаданы адказ.

Клімовіч ведаў, упэўнены быў, што так яно будзе і сапраўды.

Ён яшчэ раз агледзеўся, са шкадаваннем глядзеў на ўсё, такое рэальнае і праўдзівае, не фантастычнае, якое кратаў рукамі, дзе мог перакінуцца ў любы час, падуладны яму былі любыя жаданні...

Няхай не ва ўсе дзверы ён зайшоў, няхай далёка не пра ўсё даведаўся — ды і не пад сілу тое аднаму чалавеку. Галоўнае, што ў яго жыцці адбылося тое, чаго ні ў кога і ніколі не адбывалася за сто гадоў. Адсюль ён выйдзе ці не самым мудрым і таму шчаслівым чалавекам на ўсёй Планеце. Так, шчаслівым, бо атрымаў бласлаўленне ад Творцы Сусвету.

Вось і ўсё. Цяпер — развітанне.

Антон дакрануўся да ручкі, яшчэ раз азірнуўся: пераміргваліся зялёныя светлячкі на сцяне, свяцілася неба ад сонца.

— Бывай, зала! Бывай, Сховішча Сусветных Скарбаў! Дзякую, што падзялілася са мной неацэнным багаццем!

Калі ён змоўк, сцяна ператварылася ў суцэльную шэрую тканіну. Значыць, яго чулі, сачылі да апошняй секунды за яго знаходжаннем у зале.

Антон яшчэ стаяў нейкі момант, не могучы скрануцца з месца — яго як што не пускала, а ў душы ўжо нараджалася цёплае шкадаванне, што больш не пабачыць таго, што адкрылася яго вачам перад гэтым, адно хіба радавала — як добра, што ёсць такое неацэннае багацце ў Свеце!

Творца ведаў, што тварыў. І для каго.

Дзверы расчыніліся, потым другія — і ён апынуўся зноў у леснічоўцы са знаёмым хатнім пахам, водарам гарбаты і асенняга лісцяпаду.

Хата была асветлена тым жа зенітным сонцам: промні ў леснічоўку не пападалі.

«А сувенір! — спахапіўся Тонік. — Я ж забыўся пра сувенір, які падаравала мне Ліцвінія...»

Ён спехам вярнуўся, як не падбег да дзвярэй, узяўся за металічную ручку, крутануў яе, адчыніў дзверы — і ледзьве неываліўся ў двор — парог дзвярэй леснічоўкі з другога боку быў над ровам з вадой. Напачатку нічога не зразумеў — а дзе ж падзелася зала з экранам і дванаццаццю дзвярыма?! Яна ж была тут, за гэтымі адзінымі дзвярыма, то ж не прывід быў, а рэальнасць...

Шчымлівае шкадаванне і горычнае расчараванне агарнулі яго, нябачным вобручам зноў нешта сціснула галаву — закалола ў скроні. Але ненадоўга, на колькі секунд...

І тады ж ён апамятаўся, успомніўшы, што нельга паддавацца эмоцыям і часоваму настрою — трэба пазбавіцца ад сваіх ранейшых спадарожнікаў — страху і шкадавання, усплёску радасці і здзіўлення. Яны толькі замінаюць, шкодзяць яму. Спакойнасць і разважлівасць. Вось два кампаненты, якія выведуць яго да намечанага.

«Ці то Яніна падманула, ці я сам вінаваты, што не ўспомніў своечасова пра сувенір за сорак сем капеек. Ды ладна ўжо, што паробіш. Так яно, напэўна, і павінна было ўсё адбыцца...»

Перасохла ў горле, і ён наліў у кубак карычневага кіпеню — піў, смакуючы яго, лагодна ўсміхаючыся ад асалоды.

Галава рабілася яснейшай, і ўвачавідкі праходзіў боль.

І ён перастаў шкадаваць аб згубленым. Ці, як ён сам сябе паправіў, нязнойдзеным. Бо як жа можна згубіць тое, чаго не меў. Ад такой думкі і зусім стала лёгка. Што даказвала, і ў які ўжо раз, што чалавек сам сабе гаспадар, гаспадар свайго настрою.

«Ну, што, Антон Клімовіч, пара і гонар ведаць! — гаварыў сам да сябе госць леснічоўкі, — загасцяваўся ты тут, загуляўся... Цікава, колькі ж часу ты правёў тут? Час праляцеў як адна секунда. Як адно імгненне. У вечнасці. Ніколі так карысна не праводзіў час, траціў заўсёды яго на бязглуздзіцу і непатрэбшчыну...»

Перад дарогай падсілкаваўся — зноў адрэзаў лусту ад непачатага бохана хлеба, не зменшылася і сала, цэлымі засталіся і яйкі.

Скінуў з ног мяккія ходнікі, паклаў на ранейшае месца — на прасціradла, якім была засцелена амаль уся падлога.

Пашукаў анучы — яны былі сухія і мяккія, як быццам нехта іх вымыў і высушыў перад печчу. Чыстымі былі і гумовыя боты — і следу ад ранейшай гразі не засталося на іх.

Паглядзеў яшчэ, ці не забыўся чаго, каб зноў не шкадаваць потым, прайшоўся па хаце. Паправіў рэчы на стале, акуратна склаў стосікам кнігі, потым паставіў у ранейшым парадку зэдлікі і табурэткі.

Кінуў позірк на падваконне.

Напачатку лёгенька кальнула ў скроні. Слабенька так, адно нябачная іголачка ўпілася ў цела, і ён як зачараваны падыходзіў пакрысе да акна — не зводзіў пільнага позірку з той рэчы, якую ўбачыў. Яго ўвагу прыцягнуў агульны сшытак з чорнымі вокладкамі...

Асабліва не спадзяваўся, не цешыўся тым, што пашанцуе. Бо колькі разоў у жыцці памыляўся — толькі возьме ў рукі яго і адразу адчувае, што рэч не належыць яму, чужая, не той сшытак, што даў пехацінец за арэхі... Тут жа ўпершыню ўнутраны голас падказваў, крычаў нават, што ён цяпер не памыляецца, што гэта адзіна той згублены ці ўкрадзены некім сшытак, які і сапраўды, як казала Яніна, каштуе ўсяго сорак сем капеек...

Клімовіч выдаўжыў руку, адначасова баяўся, што ён, сшытак, раптоўна знікне з вачэй, растворыцца, што было б зноў жа не дзіўнай з'явай, бо тут дзівосаў хапала з коптурам.

Рука дакранулася да вокладкі, пальцы зноў адчулі цяпло сваёй паперы, адчулі як жывую істоту, якая ўсе гады была неадрыўнай і жывой часткай Антона...

Сшытак узяў у абедзве рукі, як бы баючыся, што ён можа выслізнуць і некуды праваліцца. Хвалюючыся, адгарнуў вокладку — і тады кроў магутнымі штуршкамі ўдарыла ў скроні: «Ён! Ёоо-он, мой сшытачак дзяцінства!..» І малюнак той жа — фіялетавым чарнілам намалявана дарога, і на ёй ён, Тонік, на пачатку яе. Дрыжачымі рукамі адгарнуў першую старонку.

«Божа, ці праўда ўсё гэта?!»

Яго рукой, роўным каліграфічным почыркам школьніка, напісана дата першага запісу. І словы песні:

*Люба, братцы, люба,*
*люба, братцы, жыць, -*
*з нашым атаманам...*

Дыхнула салодкім дымком дзяцінства. Тым далёкім часам, калі свет быў такім ружовым і прыгожым, калі яшчэ былі маладымі і прыгожымі тата з матуляй... І брацікa Міколкі голас пачуўся, нябожчыка брацікa...

Але найбольш здзівіла і ўразіла, нават ашаламіла, зусім не тое, не песня. У сшытку, помнілася, былі ўсяго два запісы. А тут яшчэ і яшчэ. Ды напісана не чыёй-небудзь рукой, а яго асабістай, Тонікавай. Ён добра памятаў свой почырк у школе, у арміі, у інстытуце… І напісанае пазней той жа кітайскай ручкай, што ён любіў пісаць, тым жа чорным чарнілам «Вясёлка-2». Неверагодна!

Тое ўсё не ўкладвалася ў яго галаве!

Больш таго, сшытак быў спісаны ўвесь, да апошняй старонкі. Густа, у кожны радок — без пропускаў. Каб болей улезла? Ці такі аб'ём і быў запланаваны напачатку? Разлічаны на ўсё жыццё?

Але яго здзіўленню не было межаў, калі ён, прабегшыся хутка па радках, зразумеў: спісана і апісана ўсё яго жыццё! Да падрабязнасцей і дробных эпізодаў. Але напісана выбарачна, з жыцця выхаплены эпізоды, як ён сябе адчуваў у раі падчас будаўніцтва светлага будучага, ды ўсё пад мудрым кіраўніцтвам магутнай і любімай, як яму імкнуліся пераламаць хрыбет, накінуць на яго калючую сарочку ўціхамірвання…

«Дык вось што азначала Янініна папярэджанне пра сюрпрыз-сувенір за сорак сем капеек! — апамятаўся Тонік і думкава ды запознена папрасіў прабачэння за тое, што не вельмі хораша падумаў пра яе. — Сапраўды нечакана. Але як ён аказаўся тут, на гэтым востраве, — хто прынёс сюды мой сшытак?!»

Была напачатку думка ўзяць сшытак з сабою — то ж ён згубіў яго, а не хто іншы. Дома ён апрацуе яго, прыдасць свежае гучанне, дадасць мудрасці, якую набыў тут, карацей, было жаданне зрабіць рукапіс-дыярыуш на высокім узроўні… Каб, ужо стаўшы кнігай, выклікаў не толькі цікавасць, а і захапленне, радасць нечаканага адкрыцця Сусвету. Але тут жа другая, супрацьлеглая думка падказвала, што нічога адсюль выносіць нельга, бо ён, сшытак-дзённік, ператворыцца ў нешта іншае, непазнавальнае альбо прападзе, ці чарніла знікне са старонак…

І таму ён не захацеў рызыкаваць.

Рашыў яшчэ хоць і на месяц, хоць і на два застацца ў лесні-чоўцы, харчу тут было і было, і прачытаць, дакладней, перажыць нанава сваё жыццё. Зноў адчуць, як трашчалі ў яго мазгі, як разрывалася ад болю сэрца і ледзь-ледзь не храснуў пазванок — так стараліся гнуць яго да зямлі начальнікі бальшавіцка-сатанінскай сістэмы…

І ён рашуча скінуў з сябе адзенне, зняў боты — і сеў за стол.

Адгарнуў старонкі сшытка.

Чытаў — і не верыў, чытаў — і жахаўся, адчуваючы зноў боль, які пранізваў яго раней, з самага дзяцінства, — колькі ж яму дасталося за ўсе гады!

Нельга двойчы зайсці ў адну і тую ж раку? О, гэта як паглядзець і хто будзе глядзець.

Ён цвёрда рашыў зайсці ў раку сваёй Памяці — як бы тое цяжка яму ні было...

## Частка другая

### 1

Помніўся з дзяцінства эпізод.

Гуляў Тонік ля калгаснага двара, ля канюшні — пара стаяла над парыльняй слупам.

Кульгавы Нікадзім — пад Берлінам асколкам зрэзала нагу па калена — танцаваў вакол вялізнага цэбра, дзе ў кіпені парыліся драўляныя палкі ў руку таўшчынёй.

Нікадзім аж узмакрэў, стараючыся не прапусціць нейкі адказны момант у сваёй рабоце — самакрутка толькі пераскаквала з аднаго куточка рота ў другі, і адначасова мружылася вока — цыгарэта ў левым баку, адкрываецца правае вока, і наадварот.

— Дзед Нікадзім, — зацікавіўся Тонік танцамі старога, — а што гэта ты робіш тут?

Дзед усміхнуўся ў пракураныя вусы, адкрытым вокам хітра стрэліў у яго бок, адказаў коратка:

— Ну...

— Што — «ну»?

— Дугі гну.

— Я папраўдзе, дзед Нікадзім, што ты робіш?

— Ну... Кажу ж — дугі гну. Ты паглянь, ета во, сюды, што тут на дне ў кіпені ляжыць? Яны, палкі, пакуль прамыя, а ў гарачай вадзе я іх згінаю. Ад вару яны гнуткімі робяцца. Так і санкі вырабляюць — пад парам згінаю, ета во, сам бачыш... Бачыш?

— Ну...

— Дугі гну. Вось і зразумеў.

І зарагаталі ўдвух, задаволеныя каламбурам.

Вось тады, глыбокім вечарам, ён і намерыўся зрабіць трэці і апошні запіс у сшытку:

«Нікому і ніколі не ўдасца сагнуць мяне ў дугу! Нікому!..»

Слова ў слова так і было запісана на другой старонцы. І дата стаяла — «20 сакавіка 1955 года».

Добра памятаў, што не пісаў тады тых слоў, а толькі падумаў і збіраўся дастаць сшытак раніцай, калі распачнецца дзень.

Але ж словы былі напісаны. І прытым яго рукой.

Ён пісаў — і не пісаў. Ці можа быць такое?

*15 кастрычніка 1957 года*

Няма нічога ў свеце больш балючага, чым дзіцячыя слёзы.

Настаўнік геаграфіі Сымон Кузьменка, па мянушцы Шпірка, часцяком здзекаваўся з вучняў. Ахвяру для сваёй душэўна-здзеклівай асалоды ён выбіраў заўсёды раптоўна, можа, нават і нечакана для самога сябе.

Была новая тэма: «Зямля Франца-Іосіфа. Клімат і жывёльны свет». Тэма лёгкая, і вучыць амаль не трэба было — раз прачытаўшы, усё можна запомніць.

Шпірка быў чарнявы з твару, нос кручком, як у крумкача. Вочы чамусьці заўсёды былі чырвоныя, бы ён штохвілінна напінаўся, падымаючы ці несучы што важкае, непасільнае. І заўсёды ён на некага быў злы. Мы баяліся яго ўрокаў, баяліся з ім сустракацца позіркам. Калі з ім размаўлялі каля дошкі, то глядзелі альбо ў акно, ці сабе пад ногі.

Радасны і задаволены, крочыў я ў школу. Настрой быў вясёлы — урокі добра падрыхтаваў, ганарыўся ўказкай.

— Ты што гэта такое, панімаеш, зрабіў?! — узняў Шпірка чорныя калматыя бровы — глядзеў злосна і незадаволена на мяне, як страшыў мяне чырвонымі бялкамі. — Гэта ж, панімаеш, шампур шашлыкі рабіць!

Клас засмяяўся ад жарту. Я ж зніякавеў ад нечаканасці павароту падзей — не чакаў, што так сустрэне ён мяне.

— Я п-пп... па-па... — я ад хвалявання заўсёды заікаўся, і нічога з гэтым парабіць не мог, і адказаць нічога яму не здолеў.

— «Па-па-па», — перадражніў ён мяне, — што ты, панімаеш, распапкаўся? Двойка табе за ўказку і за тэму...

А потым так сталася, што Шпірку перавялі ў другую школу. Не з-за мяне, пэўна ж. Ударыў па твары вучня — знайшоў сабе новую ахвяру для здзекаў. І, каб не было дырэктару вялікіх непрыемнасцей, перавяло яго раённае начальства ў суседнюю, Турбінскую школу...

Я атрымаў перамогу. Але ведаў, што то быў толькі першы званочак, як папярэджванне, што трэба быць заўсёды гатовым да ўсяго, што стрэнецца ў жыцці, — да благога і добрага.

То была ці не першая ранка на маім сэрцы.

Чаго празвалі мы Сымона Шпіркай? Падслухалі, як ён гарэлку купляў у Аўгустоўскіх — дзеда і бабы. Пытаюцца, чым закусваць будзе, дык ён і адказаў: «Шпіркай, канечне ж, шпіркай...» У нас, на Палессі, так не называлі. А ён — «шпірка». Быў ён з Берасцейшчыны. Ну і прыклеілі яму мянушку — Шпырка ці Шпірка...

**2**

У леснічоўцы закурваць не хацелася. Карцела ўтаймаваць хваляванне, якое падступілася да яго ад напамінку пра далёкае дзяцінства. Крытычна ацэньваючы напісанае некім пра яго, прыйшоў да вываду, што занадта ж дакладна перададзены той настрой і боль, што былі пры ім, не прапушчана пры гэтым ніводная дэталька, штрых. І гэта толькі яго старонкі жыцця, і толькі ён разумее і адчувае, што паміж радкамі, хаця аўтар не кіраваўся з аглядкай на нейкую цэнзуру...

Ён выйшаў босы на ганак.

*Снежань, 1957*

У хаце ні паленца дроў. Апошнія маці ўкінула ў печ.

— Мо, сынок, у лес выбраўся б, якіх дручкоў на санках прывёз бы, — просіць мяне маці, на бацьку не спадзеючыся, у таго ў галаве былі толькі школа ды ўрокі — настаўнічаў у Вішнёўцы, што за пяць кіламетраў ад нас (кінулі туды за п'янства), — сто разоў прыставала да бацькі, ды ўсё ўпустую, раніцай няма чым і выпаліць.

— Добра, вось апошні ўрок падрыхтую і паеду...

Урокі зроблены. Заўтра лёгкія прадметы. Бо заўтра пятніца, якую я люблю. Бо за ёю субота, калі і зусім не трэба будзе рыхтаваць урокаў, і можна стаць на лыжы і паўдня прабегаць па ўзгорках і гарах...

Я ведаю, дзе можна набраць амаль гатовых дроў. Ды і не абы-якіх...

Брыгада клёпальшчыкаў, якой кіруе наш сусед Ладымер — сваяк дзядзькі Адася, лесніка, паклала пракаветны дуб, і мужчыны крыжуюць яго на клёпкі. Дуб яшчэ не ачышчаны ад галля, яшчэ і да палавіны камля не дабраліся, пілуюць «Дружбай» кавалкі і шаткуюць на аднолькавыя адрэзкі, складваюць у штабелі. Бачыў заўчора, як прабягаў паўз іх на лыжах...

Вось з верхатуры і насяку тонкіх сухіх галін, і лепшых дроў мне не знайсці.

— Добры дзень! — вітаюся з усімі, назіраю, як ідзе ў іх праца — шчыруюць мужчыны, стараюцца скласці да канца дня пяты штабель — такая норма ў іх на дзень.

— Добры, добры! — не выпускае пілу з рук дзядзька Ладымер — хударлявы, высокі, гнуткі, заўсёды з усмешлівым тварам, ведае, чаго прыехаў, але для прыліку ўдакладняе: — Па сучча? Давай, нагружай. Сучча шмат сухога, акурат для цябе...

Я доўга і не валаводзіўся — насек хутка, склаў акуратна, звязаў вяровачкай, каб не рассыпаліся дарогай. Аж узмакрэў, намахаўшыся сякерай. Ды, пэўна ж, трошкі перагрузіўся — не мог скрануць з месца. Убачыўшы мае марныя намаганні, дзядзька Ладымер падышоў і памог выцягнуць на ўтаптаную дарогу.

— Хіба ж дацягнеш сам? — падзівіўся, гледзячы на нагружаныя санкі.

— Дацягну — дарога добрая, — радасна кажу я, ведаючы, што абрадуецца маці, убачыўшы такія ладныя дровы.

— Пастараніся! — крыкнуў нехта ззаду, ляскаючы пугай — яна звонка шчоўкнула ў вечаровым паветры.

Я пазнаў голас Фэлькі — вясковага баламута і хітрага бабніка. Быў, мусіць, на добрым падпітку — вясёлы, сам з сабою гаварыў. У яго быў свой конь, які даваў яму перавагу над іншымі людзьмі — незалежнасць і ганарлівасць.

— Пастараніся, ну?! — уладарна крыкнуў Фэлька ў цемры.

Мне б, дурню, стаяць на месцы і не рухацца, нічога з ім не сталася б — аб'ехаў бы, конь у яго вунь які спраўны, але я, ёлупень, — да гэтага часу кляну сябе — сцягнуў санкі з цубкай дарогі ў мяккі глыбокі снег — на ўзбочыну.

— Но-ооо! Пайшоў, вараны-ыыы! — ляснуў зноў пугай, але ўжо па баках каня, у мой бок і не зірнуў — не ведаю, ці пазнаў ён мяне.

На добры лад ды на яго ласку ён мог бы загадаць, каб прычапіў я да ягоных саней шворку — і за колькі хвілін давёз бы мяне пад саменькую хату.

Не прапанаваў і не зірнуў у мой бок — пагнаў каня і знік у снежнай замеці.

Я ж сеў у снег і не ведаў, што рабіць далей. З месца зрушыць саначкі я ўжо не мог — не хапала моцы і сілы. Калені, здаецца, не адчувалі ўжо холаду, а перад сабой не бачыў ні дарогі, ні замеці — усё засланілі слёзы.

Непадалёк, другой дарогай, гучна размаўляючы, прайшлі лесарубы — брыгада Ладымера. Але ў мяне не было ні сілы паклікаць дзядзьку, ні жадання... Мне было яшчэ і сорамна перад ім, што не

паслухаўся яго здзіўлення, а атрымалася, як той казаў — «жадность фраера сгубила», ды адно хіба цешыла — усё роўна яны не пачулі б мяне ў вечаровай завірусе.

Фэлька не спыніўся каля мяне з-за маці…

Між імі, як мне думалася, прабегла чорная кошка.

Нехта прытуліў маю галаву да цёплых грудзей.

— Што з табою, сынок? — маці спалохана туліла мяне да сябе. — І навошта ж ты столькі нагрузіў… Добра, што Фэлька ў акно пастукаў, сказаў, што ты тут гібееш… Кажу, чаго не памог табе, рагоча толькі…

Маці расцерла мне шчокі, раскатурхала, вярнула да жыцця. Скінула верхнія дручкі долу, і мы разам выцягнулі саначкі з абочыны.

## 3

Далей запіс ужо быў кароткі, ці не самы кароткі на працягу ўсяго дзённіка:

«Здараецца ў жыцці так, што нешта хочаш забыць усё жыццё і забыць ніяк не можаш, а яно смыліць, муляе, як цвік у боце, што ненарокам вылез… Каб жа ведаць, што так атрымаецца, абабег бы я цябе, Валянціна, за тысячы кіламетраў. Не ведаў, што так балюча можа раніць каханне, не падазраваў нават, што боль той патройваецца, калі яго стварае каханы чалавек…»

Вось і ўсё. І здагадайся, што меў на ўвазе аўтар свайго дыярыуша. Так, ён вельмі не хацеў, каб пра ўсё ведалі іншыя. Не хацеў свой боль паказваць на людзі. З усіх сіл стараўся тое патушыць у сабе… Таму яго двайнік і запісаў так коратка, каб праз шмат гадоў успомніць з усмешкай, бо ведаў, што час залечыць яго душэўныя раны…

«Валя, Валя, Валянціна — намалёвана карціна…» Такі вершык дэкламавалі ёй аднакласнікі, і яна не злавалася на іх, толькі смяялася.

Валя — прыгажуня класа. Калі не школы. Доўгая каса, як не да пояса, гнуткі станік, прыгожая, з годнасцю хада. Але галоўнае ў яе прыгажосці — вочы. Вялізныя, бы слівы венгеркі, з блакітным адлівам неба. І вусны — пульхныя, сакаўныя, дакраніся — пырсне сок. Што хлопцы з класа, настаўнікі — маладыя і пажылыя нават — губляліся, зірнуўшы на яе, у яе вочы, не аднаго жонка раўнавала да Валянціны, учыняючы дома сварку…

Першым асмеліўся яшчэ ў дзевятым класе правесці яе дадому Бронік Башылаў — выдатнік класа. Ён быў спартсменскага складу, дужы, на памяць мог расказваць цэлыя часткі з «Яўгенія Анегіна» Пушкіна і «Новай зямлі» Коласа. Можа, тое і спадабалася Валянціне, хто ведае.

Пецька Крупа падгледзеў познім вечарам і абвясціў усяму класу — цалуюцца ўзасос. Ніхто не ведаў, як да гэтага аднесціся — падняць на смех, па-дзіцячаму дражнячы «цілі-цілі цеста...», ці паважаць іх, бо яны ў сваім жыцці зведалі першыя прыступкі да таямніц вялікага кахання, прачынілі завесу інтымнай чароўнасці...

Ніхто з класа пазней не асмеліўся кінуць у іх адрас хоць адно крыўднае слова.

А яны сядзелі на розных партах, уважліва слухалі тлумачэнні настаўнікаў, адказвалі самі ля дошкі і з месца, — і ніводнага разу не перакінуліся тым таямнічым, адным ім і вядомым, позіркам: ці то навучыліся так хавацца ад іншых, ці зусім не існавала між імі той духоўнай сувязі, што сілкуе каханне.

І потым жа нешта ў іх паламалася, не зладзілася. І не сварыліся, але адносіны іх разарваліся. Хто быў у тым вінаваты, ніхто не ведаў.

Пасля чарговага школьнага вечара (а іх часта наладжвалі, была такая завядзёнка) Валянціна падышла да Адася, як свайму даўняму сябру жартоўна загадала:

— Сёння ты мяне павінен правесці дахаты!

Адась, здаецца, пачырванеў ад нечаканасці, не змог вымавіць і слова, таму толькі кіўнуў галавой у знак згоды. А яна ўжо таго не бачыла, у яе і не было сумневу, што будзе неяк інакш, што Адась адмовіць ёй.

Выдатнік Браніслаў танцаваў цэлы вечар з Насцяй, сціплай і сарамлівай, яшчэ ж нясмелай дзяўчынай — на Валянціну не глядзеў, хоць яна і вельмі старалася пазлаваць яго, выклікаць у яго рэўнасць. Але яму, мусіць, было ўжо ўсё роўна, як кажуць, да лямпачкі, усе яе выбрыкі — здагадваліся мы, што выкінуў хлопец назусім са свайго сэрца...

На адным з такіх вечароў, ужо ў дзесятым, на пачатку вучобы, калі яшчэ першыя прымаразкі не кранулі зялёныя карункі лістоты на дрэвах, запрасіла прыгажуня Валянціна на «белы танец» мяне. Была яна ў блакітнай сукенцы з чырвонай ружай на высокіх грудзях, і не зразумець — ці то вочы адбівалі блакіт сукенкі, ці то сукенка напітвалася блакітам яе вачэй...

— Ты адзін з класа і не прызнаваўся мне ў каханні, — дыхаючы ў шыю і шэпчучы на вуха, танцавала прыгажуня з усмешкай Афрадзіты, не ведаючы, якую хвалю пачуццяў падымала ў маёй душы. — Чаму так — не кахаеш ці саромеешся прызнацца?

— Ні тое, ні другое, нават і не трэцяе, — адказаў першае, што прыйшло на язык, стараўся стрымліваць сябе, бо жыццё трошкі навучыла — перш чым кінуцца ў вір, змераць неабходна глыбіню.

— А што — трэцяе? — здзівілася шчыра прыгажуня, какетліва адкінулася ад мяне, зазірнула ў вочы — не чакала такога адказу. — Чаму маўчыш і толькі ўсміхаешся?

— Трэцяе тое, што я не ведаю, што такое каханне і з чым яго ядуць.

— Так-такі і не ведаеш? — жмурыць прытворна вочы дзяўчына і ўпіваецца сваімі слівінамі ў мае — вось-вось не вытрымаю і адвяду позірк.

— А адкуль мне ведаць? То табе вядома — з усімі хлопцамі класа перацалавалася... У цябе ж вопыт, а мяне апошні раз цалавала...

— Хто? — цікаўна ўхапілася за саломінку міс класа.

— Сучка Майка, калі гулялі з ёю на поплаве...

Валя рассмяялася, адкінуўшы галаву, ды так моцна, што ўсе, хто танцаваў, паглядзелі недаўменна на нас.

Цалаваў Валянціну каля яе хаты. Кружылася на нябачнай восі зямля. А неба з Вялікай Мядзведзіцай адплыло некуды ў бездань, і разам з зоркамі адарваліся мы ад зямлі, паплылі ў бязважкасці, як аблачыны...

— Я кахаю цябе, Валянцінка!..

...Сустрэла мяне маці, але не здзівілася майму візіту — як чакала, запрасіла ў хату.

— Валянціна дома? — папытаў для прыліку, хаця ведаў, што яна вось-вось вынырне з-за шырмачкі ў кваты і пацягне мяне, шчаслівая, за руку да стала, дзе мы сядзелі не адзін вечар, распытае-раскажа, падзеліцца навінамі і адкажа на галоўнае пытанне...

— Няма яе, міл чалавек, — неяк скрушна прамовіла маці, глядзела на мяне вінавата, як шкадавала, быццам нешта здарылася непапраўнае па яе віне, — з'ехала... заўчора. Са Шпіркам. Настаўнікам. Разводным. Без роду і племені... Ды вось яна табе тут пісьмяцо, галубок, пакінула.

Маці падала мне заклеены беленькі канверт.

«Тонік, любы мой, прабач! Прабач! Прабач! Жыццё распарадзілася інакш, чым мы яго планавалі. Маім мужам будзе Кузьменка, і я цяпер — Кузьменчыха, бо гэта я яму ўпершыню аддалася. Яшчэ ў сёмым класе».

Маці стаяла каля акна, маўкліва плакала. Крыўдна было за сябе, за дачку...

— Падлюка яна, вашая Валянціна, цётка Насця!

І, больш не сказаўшы ніводнага слова, выйшаў, выкуліўся з хаты. Не развітаўся, не азірнуўся.

А я думаў, што жыў у райскім садзе...

Аказалася — жыў у пекле...

Раніцай ён зноў выйшаў на ганак.

Зірнуў удалеч і адзначыў, што далёкі лес значна прыблізіўся да леснічоўкі. Слаба, але праглядваўся пясчаны бераг, на ім высокія сосны і кустоўе.

З'явілася патрэба прагуляцца, размяць ногі, падыхаць лясным водарам.

Далёка не адыходзіў, каб не заблудзіцца і не згубіць леснічоўкі. Бо без яе яму аніяк нельга. Як без паветра. Як без надзеі. Як без будучыні.

Вецер гнаў воблакі некуды за возера.

А сонца не краталася з месца — але ўжо прыпякала не так, як да гэтага. Ці мо тое яму толькі падалося. І не зразумець было — стаяла ранняя восень ці позняе лета.

Над галавой, высака ў небе, недзе пад самым сонцам, падалі голас жоравы — спявалі перад адлётам развітальную песню.

У галаве Клімовіча сумбур. Уражанне такое, што ён прачытаў процьму кніг і ўсе яны ляжалі ў беспарадку на падлозе і ніхто іх не можа расставіць на кніжных паліцах у патрэбным парадку. Але тое ўжо зробіць час, увойдзе духоўная рака ў свае берагі...

Калі ж чытаць усе запісы ў дыярыушы, то на тое спатрэбіцца не адзін месяц. А мо і год. А калі зноўку перажыць усё тое, што адбывалася з ім, прапусціць праз сябе, то яму неабходна мець некалькі сэрцаў. Бо ад адной такой нагрузкі, перамешанай з душэўнымі пакутамі, якая ўзвалілася на яго, цяпер не вытрымае, разарвецца яго сэрца...

Дакрануцца б толькі да асноўных болек — ад гэтага нікуды не падзецца, так ужо наканавана лёсам. Перад новай дарогай, што выпала яму, трэба азірнуцца, узважыць усё і ацаніць пройдзены шлях, паглядзець на сябе збоку. Для чаго тое ўсё? Ён жа, Антон Клімовіч, нараджаўся зноўку. Нараджаўся ў новай якасці. Ён узяў на сябе вялікую адказнасць перадачы, узбагачэння Чалавека ўнікальнымі ведамі і магчымасцямі.

Ён у заўтра павінен пайсці з вопытам мінулага, каб, адраджаючы сваю радзіму, адраджаючы сябе, не паўтарыць больш тых памылак, якія яму выпалі.

**4**

*Жнівень, 1963*

«Я іду па сваёй вёсцы...

На душы — бязмежная радасць — аж трымціць сэрца. Даўно ж не быў — замучыла настальгія. Як і некалі, іграў на другім канцы вёскі Мікола Прусаў на гармоніку; нехта кляпаў касу — дробненькі стукат разлягаўся па ўсіх Крушніках; я іду, а не ведаю, дзе знаходзіцца нашая хата і чаму не чуваць брэху сабакі...

Насустрач ішла дзяўчына ў празрыстай сукні, усміхалася ветла мне, падала рукі — як для абдымкаў. Не ведаў, хто гэта мог быць — Валянціна ці іншая якая дзяўчына. Мне ж не хацелася з ёю абдымацца — нешта замінала, адштурхоўвала. А яна падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй, а я стаяў і не рухаўся з месца... Потым адчуў саланаватыя вусны, гарачыню дзявочага цела...

— Пад'ём! — зычны голас старшыны Падкапаева разарваў ранішнюю цішыню.

Вочы сонныя, але падсвядомае пачуццё дыктавала рухі рукам і нагам — неабходна было за сорак пяць секундаў насунуць на сябе нагавіцы, потым накруціць на ногі анучкі і ўсунуць іх у боты. А яны начышчаны да бляску яшчэ звечара. Потым на хаду ўжо нацягваем на сябе гімнасцёркі — і займаем у страі свае месца.

Старшына глядзіць на свой гадзіннік, сочыць пільна за секунднай стрэлкай. Мы пастроіліся, але трое — Цыбулька, Сташкевіч і Аліеў — яшчэ толькі ўссоўвалі ногі ў боты.

Падкапаеў злуецца, нядобра ўсміхаецца, падае зноў каманду:

— Адбой!..

Гэта азначала, што мы за тыя ж секунды павінны былі раздзецца і легчы зноў у ложак, чакаючы новай каманды.

Так кожную раніцу на працягу некалькіх тыдняў і месяцаў вучыць нас жыццю старшына Падкапаеў. Першыя дні тое выглядала як гульня, як камедыя, а з цягам часу абрыдла ўсё, як горкая рэдзька, і было ўжо смешна і горка з такой чорнай казуістыкі.

— Пад'ём! — яшчэ грамчэй крычыць старшына, і з нас, як пух, злятаюць байкавыя коўдры. Мы зноў як завадныя цацкі механічна ўзмахваем рукамі, матаем анучкі і спяшаемся як хутчэй у строй...

Падкапаеў неўзлюбіў мяне з першай сустрэчы. А напачатку ж здаўся мне чалавекам дабрачым — падобным быў на таго вайскоўца, што ў далёкім дзяцінстве падараваў мне агульны сшытак з чорнымі вокладкамі... Нават і голас супадаў — адзін да аднаго. Аж, бач ты, як памыліўся. Здорава памыліўся!

Ці то мой твар яму прыйшоўся не даспадобы, ці з-за таго, што не вельмі аддана казырнуў яму каля туалета, за што ён выказаў мне заўвагу а мо што і зусім іншае, пра што і не здагадваўся, — але я ўжо быў упэўнены, што ён ад мяне не адстане, што прыклеіўся, як

бярозавы ліст ад веніка ў лазні, што выцісне з мяне старшына ўсе сокі, павыцягвае ўсё жылле, і што мае ён вялікае жаданне скруціць мяне ў бараноў рог, сагнуць у дугу...

Тут ужо ён нечым напамінаў мне і Шпірку — той жа хітры і хціві позірк, тая ж яхідная ўсмешачка, калі ён выбіраў сабе ахвяру і прадчуваў асалоду ў здзеку над ёю...

— Я вас научу любить Родину! — з нейкім сваім чорным намёкам абяцаў старшына, аглядаючы кожнага па чарзе — прыглядаўся да гузікаў і каўнерыкаў, да ботаў і кішэняў, — з трэцяга разу толькі мы ўкладаліся ў нарматыў. — Смирно! Еще смирнее!..

Падкапаеў рашыў пакараць мяне сам.

І пачалося ў мяне вясёленькае жыццё. Чысціць гальюны? Пасылае Клімовіча. Разгружаць вугаль на станцыі? Таксама я. Падраздзяленне едзе на экскурсію, а для мяне старшына абавязкова знойдзе смярдзючую работу. І так з тыдня ў тыдзень, з месяца ў месяц...

Нікому не скардзіўся на сваё жыццё. Як усё роўна хоць так помсціў Падкапаеву. Сваёй упартасцю, і тым, што не згінаюся, як ён хацеў...

Мне пастаянна не хапала сну. Ад нядосыпу кружылася галава. Стоячы на першым пасту — каля сцяга часці, заснуў, прыхінуўшыся да сцяны. Дзяжурным па часці быў мой лепшы сябар — старшына Падкапаеў. Ён і прыспеў мяне, спячага, на месцы... Адабраў аўтамат і праз колькі часу праз камандзіра адправіў мяне на гаўптвахту... На пяцёра сутак.

Я нават абрадаваўся гэтаму, бо некалькі дзён не выпадзе бачыцца са старшыной. Удалося і выспацца ў першую ноч. Днявальным на губе быў мой таварышок яшчэ па каранціне Пецька Гром. Ён і не чапаў мяне амаль усё сваё дзяжурства — нават і есці не прыносіў, каб не будзіць.

Здзекі нада мною працягваліся.

Мы вялі з Падкапаевым зацятую вайну. Я ведаў, што ён паставіў перад сабою задачу — зламаць мяне. Зламаць маю волю, сагнуць да зямлі, зрабіць мяне бязвольным і безабаронным. Таму мне неабходны былі сілы, шмат сіл, і невядома, дзе я іх здабываў. Пэўна, вясковая загартоўка напітвала мяне той энергіяй і стойкасцю, якую не мог перамагчы Падкапаеў...

Мы былі вайсковыя будаўнікі — будаўнічы атрад, дакладней, батальён. Розныя людзі, розныя характары. Мы ведалі, дзе працавалі. Некалі тут, у печах, якія рыхтавалі нейкую адмысловую цэглу для невядома якога будаўніцтва (цэглу забіралі начамі ў вагоны, вывозілі

яе пад вялікім сакрэтам у невядомым кірунку), працавалі вязні-смертнікі. Пасля вайны працавалі палонныя немцы. Потым там адбывалі свой тэрмін зэкі — рэпрэсаваныя і з зоны. Гэта ўжо нас туды кінулі пасля ўсіх — маладых, дужых і нежанатых...

Вось гэта пекла дык пекла, і ворагу такога не пажадаеш... Тэмпература такая, што вось-вось расплавішся, таму і не вытрымлівалі, падалі, трацячы прытомнасць, на падлогу. Той, хто быў мацней ці стаяў над намі, выліваў вядро халоднай вады на слабакоў...

Бачачы, што мяне нельга ўзяць і такім пеклам, Падкапаеў пайшоў на іншае.

Вечарам, у прыцемку туалета, нечакана абступіла мяне некалькі чалавек. Нехта адзін з іх накінуў на галаву світку, і мяне жорстка збілі. Нагамі і кулакамі. Білі ў жывот, па галаве... Адзін голас падаўся мне знаёмым — выразна «чёкаў». «Ты чё, ударить не умеешь?» — пытаўся злосна і балюча выцяў колькі разоў у жывот... Я страціў прытомнасць і не ведаў, што паваліўся на брудную падлогу з калюжынамі смярдзючае і едкае мачы...

«Чё» быў з Валгаграда, як і Падкапаеў. Стараслужачы. Мяне невядома хто вынес, непрытомнага, з туалета і занёс у казарму.

Раніцай я не выканаў каманду «Пад'ём!», якую падаў старшына Падкапаеў. Ён спрабаваў сцягнуць мяне з ложка, але перадумаў, апамятаўся.

Потым з рота ў мяне пайшла кроў на падушку, і я пачаў трызніць.

Адпраўляючы ў шпіталь, ваенны следчы доўга і настойліва дапытваўся, хто мяне так збіў.

Я маўчаў. Нічога не гаварыў. Як і не чуў пытанняў. Мне здавалася, што і той следчы быў сярод тых, хто збіваў мяне.

Ці не месяц мяне лячылі ў шпіталі. Рабілі аперацыю ў жываце. Праведваў Падкапаеў, прыносіў яблыкі і апельсіны. Я яму шпурнуў прынесенае ў твар, сказаў:

— Перадай прывітанне свайму землячку, Серпухаву. Спытай, чё ён не праведвае мяне пасля таго, як размаляваў так. Калі я сказаў бы пракурору, хто гэта так мяне ўдзелаў і пячонкі паадбіваў, ды яшчэ хто гэта арганізаваў, то загрымелі б вы, падонкі, усе да аднаго за краты — як піць даць. Толькі б маё слова...

Старшына перамяніўся, здаецца, у твары. З жахам паглядзеў на мяне, як усё роўна дзякаваў за маўчанне.

— Але то было б маім паражэннем. А я хачу цябе сам перамагчы. І — перамагу...

Вярнуўся я са шпіталю праз тры месяцы.

Ваенныя дзеянні паміж намі, здаецца, скончыліся. Ці не капітуляваў перада мною старшына Падкапаеў?

Вечарам стараслужачы падаў мне гімнасцёрку і загадаў:

— Подшей, салага, подворотничок!

— Сам прышывай! — агрызнуўся я, кінуўшы гімнасцёрку яму пад ногі.

Калі клаліся спаць, сказаў днявальны, што мяне выклікае старшына ў капцёрку. Падкапаева там не было, але кругам сядзелі чалавек з дзесяць на табурэціках. Амаль усе каўказцы — грузіны, асеціны, армяне, азербайджанцы...

— Ну, что, салага, давно кровью умывался? — спытаў у мяне Халілаў.

Мяне падхапіў самы апошні і шпурнуў на сярэдзіну памяшкання. Удар першы быў у скіўіцу. Я паляцеў зноў на ранейшае месца. Наступны ўдар у жывот. Зноў штуршок, і зноў балючы ўдар. Адчуваў ужо на твары ліпкую кроў. Яна сцякала за каўнер, а кунакі наносілі і наносілі мне кухталі...

— Ну, что, еще?

Я ўставаў, ізноў на мяне сыпаліся ўдары. Нехта кулаком моцна ўдарыў у скроню, і ў мяне закружылася перад вачыма — упаў адразу на падлогу. Зноў жа — галавой...

Мне проста пашэнціла. Мяне забілі б, калі б не выручыў былы зэк з Мазыра. Ён, Мішын, адцягнуў мяне ў казарму і паклаў на крайні ложак. Ноч сядзеў нада мною, ставіў халодныя прымочкі.

Родзік Мішын узяў нада мною апеку і больш ужо нікому не аддаваў на здзек. А Падкапаеву прыгразіў, калі хто мяне кране пальцам, то ён пусціць у ход апошні сродак. Які то быў сродак, я не ведаў, але зразумеў, што цяпер буду ўратаваны...

Але ў арміі былі свае законы, свае цяжкасці. І калі іх параўнаць з непрыязню старшыны і крывавымі здзекамі нацмэнаў, то гэта, аказваецца, былі яшчэ толькі кветачкі. Бо ягады былі наперадзе... Буйныя, пераспелыя. Як шраціны, упіваліся ў цела. А стралкі былі ой якія трапныя — варашылаўскія ім і ў падмёткі не згадзіліся б...

Не атрымалася ў Падкапаева — у дугу я не сагнуўся.

Можа, у тым, сам таго і не падазраючы, і памог мне той жа Падкапаеў з Валгаграда.

Тут ужо толькі так — калі шчасця няма, то няшчасце прыходзіць на дапамогу. Парадокс, але ўсё так атрымалася ў мяне.

Тады пацвердзілася і яшчэ адна філасофская выснова — усё, што ні робіцца, усё да лепшага. Да лепшага?..

Супрацьлеглы бераг яшчэ больш прыблізіўся да мяне.

Ён ужо быў на адлегласці шырыні Прыпяці каля Мазыра.

Перагаворваліся, куляючыся ў небе, чайкі.

Сонца ледзь-ледзь зрушылася з поўдня: ад дрэваў пачалі ўжо адыходзіць на паўкрока цені.

Гулялася мне добра, дыхалася вольна — на ўсе грудзі.

Недзе на тым беразе загаўкаў сабака — пэўна, паляўнічы, і мо гнаў якога звера на гаспадара, бо раз-пораз цяўкаў, не выпускаючы здабычу сваім позіркам.

Антон крыкнуў што было сілы, і рэха імпэтным водгаласкам панеслася над люстэркам возера ці мора, паскакала па паверхні і заглухла ў вершалінах высокіх сосен.

У той дзень ён болей не чытаў свае запісы, не хацеў перагружацца забытымі эмоцыямі, бярог сілы для наступных сустрэч са злом і несправядлівасцю...

Сон ахапіў яго адразу, як лёг у ложак.

Спаў колькі часу, не ведаў — мо восем, а мо і дванаццаць гадзін.

І сны яго былі светлыя і спакойныя...

## 5

Ён гартаў старонку за старонкай. Быў апісаны кожны дзень, кожная падзея — значная і нязначная.

Толькі цяпер звярнуў увагу і зразумеў сэнс: напісанае было, без асаблівага сумневу, адным і тым жа почыркам. Хіба што розным чарнілам. Калі быў светлы настрой і нічога не пагражала гаспадару дыярыуша, то пісалася зялёным колерам. Калі ж упляталіся мінорныя ці журботныя ноткі, то пачынаўся сіні колер. Калі ж зусім гнятлівы, песімістычны, нават чорны настрой і калі прысутнічала крыўда, несправядлівасць і зло — бралася толькі чорнае чарніла...

Радкі выводзіліся то роўна, то крыва, то прападалі зусім дзе-нідзе літары (думка абганяла руку?), і можна было падумаць, што пісаў непісьменны чалавек, а то радкі кладліся роўна і акуратна... Па кожным слоўцы і росчырку пяра ён мог вызначыць свой настрой — той, які быў некалі на той час і гадзіну...

Сама меней у дыярыушы было зялёных радкоў.

Трошкі больш было сініх.

Астатнія радкі — суцэльныя старонкі. Ды што старонкі! Амаль увесь сшытак спісаны чорным чарнілам!

І ён спалохаўся свайго адкрыцця — дык, значыць, у яго жыцці былі толькі адныя чорныя старонкі?!

А калі толькі чорныя — дык хіба тое называецца жыццём?

Ці — існаваннем?

Пеклам, няйнакш...

А можа ж, той вайсковец нездарма яму стрэўся тады на дарозе і нездарма ён даў яму сшытак з чорнымі вокладкамі? Пэўна ж, ведаў, які лёс наканаваны хлапчуку ў будучым. Мусіць, то яго, Тоніка, душа пад выглядам вайскоўца сустрэлася тады на дарозе. І ўсялілася ў дзіцячую душу.

Зноў скаланула Клімовіча ад новага адкрыцця. Толькі цяпер дайшло да яго свядомасці — вайсковец як дзве кроплі вады быў падобны на старшыну Падкапаева. Такое ж вайсковае адзенне. Такая ж і фуражка, і шрамы, во — шрамы, на шчацэ былі яны аднолькавыя.

А ў арміі столькі часу мучыўся здагадкамі — дзе ж яго бачыў, калі і дзе сустракаліся? І не ўспомніў, колькі ні напружваў сваю памяць. Падумаў ужо, што то, мабыць, яго сны...

Дык гэта ён, аказваецца, і выпрабоўваў яго моц, ствараючы невыносныя ўмовы. Мо таму і выжыў у Савецкай Арміі. Выжыў і не звар'яцеў.

«Падрыхтаваў мяне да такой вытрымкі старшына Падкапаеў?!»

Кожная гадзіна прабывання ў леснічоўцы падсоўвала яму новыя і новыя адкрыцці, якія прымушалі зноў і зноў па-іншаму паглядзець на сябе. Яму як хто даў у руку вялізнае павелічальнае шкло, і ён разглядаў сябе — бачыў казурку, якая была малапрыкметнай з'явай, прывідам, гібрыдам розных з'яў і разуменняў...

Ніводнае адкрыццё — будучае ці мінулае — не выклікала ў яго здзіўлення.

*Восень, 1965*

«Я дэмбільнуўся з Савецкай Арміі...

Не сказаць, каб я быў стройны і роўны, але ледзь-ледзь мяне сагнула. Не нашмат, праўда, а трошкі, градусаў так на два-тры, ад сілы — чатыры...

Дзякуй, дзядзька Ладымер, за навуку! Дзякуй за мудрасць і падказку, за компас, што ты даў мне ў рукі. Азімут свайго руху ад сябе самога я атрымаў ад цябе...

У цывільнае жыццё я іду загартаваны, хаця ж і з ранамі на сэрцы. Яшчэ — пакрыўджаны несправядлівасцю і жорсткасцю, злосцю і бяздушнасцю людзей, якія акружалі мяне, кіравалі мною, аддавалі загады, якія вымушаны быў выконваць.

Цяпер я нікому не паверу, што Савецкая Армія — гэта школа жыцця. Можа, і школа, але школа антыгуманізму і антычалавечнасці.

Усё рабілася дзеля таго, каб задушыць у нас, маладых хлопцаў, пяшчоту і дабрыню. Каб забівалі і не задумваліся ні над чым.

Хацелі задушыць тое і ўва мне. Імкнуліся адбіць мазгі, зрабіць з мяне шызіка ці дэбіла, — тады я ні пра што не думаў бы, а, ідучы забіваць нявінных, як у тым жа Афганістане, мірных людзей, заваёўваючы іх зямлю і насаджаючы другую рэлігію, яе зусім і не маючы ў сваіх душах, змог апантана крыкнуць:

— Служу Савецкаму Саюзу!..

Да арміі я паступіў у педінстытут. Калі ж скінуў вайсковую амуніцыю, перавёўся на завочнае аддзяленне. Але пасля таго, як мяне ўзялі на працу ў раённую газету. Я і не прасіўся туды.

Праз паўгода паклікалі мяне на трэці паверх — у райкам партыі. Інструктар аргаддзела Мікола Траяноўскі па тэлефоне сказаў, што мяне чакае другі сакратар Альберт Каралёў.

— Мы ўважліва чыталі твае матэрыялы, — казаў сакратар. — Смела, глыбока, свежа. Мы прапаноўваем вам пасаду інструктара райкама партыі. Як вы глядзіце на гэта?

Я вычакаў паўзу. Здзівіла, што ён сказаў і «ты», і «вы». Кватэру адразу прасіць было няёмка, хаця карцела спытаць пра галоўнае.

— Гляджу дадатна.

— Тады — лады. У аддзеле раскажуць, чым будзеш займацца. Загадчыка арганізацыйнага аддзела пакуль няма — праз два тыдні прыедзе пасля заканчэння партыйнай школы. Тады пачнецца сапраўдная работа. А цяпер — да сустрэчы. Думаю, што вам спадабаецца работа ў апараце.

«Нам сонца не трэба — нам партыя свеціць...»

І закруціла мяне, завіхурыла партыйная работа. На заводзе па вырабу меліярацыйных машын рыхтаваў справаздачны партыйны сход, бо на ім павінен быў прысутнічаць першы сакратар Галафееў — жорсткі, з заўсёды незадаволеным тварам. Яго баяліся як агню.

Потым прападаў на нафтабудзе — рыхтавалі наглядную агітацыю. Намячаўся рэспубліканскі семінар па эфектыўнасці рэалізацыі партыйных рашэнняў...

«Нам сонца не трэба — нам партыя свеціць...»

Жыццё на прыватнай было не мёд. Пакутаваў ад неўладкаванасці. Падвучылі хлопцы падысці да прафсаюзнага лідэра Ігара Шантаровіча, параілі сказаць пра ўмовы свайго быту. Ігар унёс у спісы, запісаў, колькі чалавек у сям'і.

Раніцай сказалі ў прыёмнай, каб мы, трое інструктараў, зайшлі ў кабінет новага загадчыка аддзела Кузьменкі — прыступіў да работы.

Перад гэтым, казалі, ён працаваў у Гарадзенскай вобласці. То пасля партыйнай школы накіравалі да нас...

Мы зайшлі, павіталіся, селі ў крэслы.

Я асабліва і не прыглядаўся да новага загадчыка, тым больш што сядзеў ён насупраць акна, у якое свяціла сонца. Мы ўзялі ў рукі блакноты (разумныя словы начальства трэба было заўсёды занатоўваць), каб запісаць указанні, парады і прапановы.

— Для пачатку пазнаёмімся. Завуць мяне Сымон Бенядзіктавіч Кузьменка. Завочна я вас ведаю, але хто ёсць хто...

У мяне ўсярэдзіне нешта ёкнула, як быццам абарвалася тоненькая нітачка. Голас падаўся знаёмы і непрыемны для мяне. Толькі тады я павярнуў галаву і пільна ўглядзеўся ў чалавека.

«Божухна, дык то ж — Шпірка, які Кузьменка?!»

— Мікола Ермакоў...

— Пятро Шарынец...

Назваўся і я — апошнім.

Ніводнага разу Сымон не падаў выгляду, што мы ведаем адзін аднаго. Ды не проста ведаем, а не можам адзін аднаго пераварваць. Бо некалі паміж намі прабегла чорная кошка. А можа, я дарэмна нагаворваю — Сымон чалавек не злапамятны і забыўся пра ўсё, забыўся, што я яго абразіў пры ўсім класе, назваўшы Шпіркаю, — столькі ж год прайшло...

Ды, пэўна ж, не, такіх людзей жыццё не мяняе, яны і застаюцца імі ж, хіба больш жорсткасці дабаўляецца да іх жаданняў, — акурат такія і патрэбны былі партыі...

Паехаў вечарам правяраць партыйную вучобу ў дзіцячым садку — сярод выхавацеляў. Перад гэтым трэба было зайсці да загадчыцы. Пастукаў асцярожліва ў дзверы і зайшоў у невялічкі пакойчык. За сталом сядзела мажная, з высокай прычоскай-стогам жанчына, здзіўлена паглядзела на мяне. Здаецца, крыху пачырванела ад нечаканасці.

— Ты, Тонік? — акругліла яшчэ больш свае вялізныя вочы. — А я ведала, што ты мяне знойдзеш.

На мяне глядзела прыгажуня нашага класа Валянціна, і не зразумець было — абрадавалася яна нашай сустрэчы ці не.

— Адкуль ведала?

— Сымон Бенядзіктавіч казаў, што ты ў апараце працуеш.

— Так, ён мой начальнік. Пра школу мы ніводнага разу не гаварылі. А я не ведаў, што ты тут працуеш. Я ж на занятккі да вас прыехаў...

Было жаданне адразу ўсё кінуць і пайсці з гэтага кабінета, так мне гідка стала, убачыўшы яе, Валянціну. Вельмі ж балюча некалі яна абышлася са мною, каб вось так проста і спакойна размаўляць. Валянціна адводзіла вочы, пэўна, адчуваючы за сабой віну...

— А мы перанеслі заняткі на паслязаўтра. Сёння дзень у нас такі, што нельга сабрацца ўсім разам. Я вінаватая, што не пазваніла. Як жывеш, Тонік, Антон? Жанаты? Дзяцей маеш?

— Усё нармальна. І дзеці ёсць. Сын.

— У мяне двое дзяцей — сын і дачка.

Маўчым. Не ведаем, пра што далей і гаварыць. Добра, што хоць заняткаў не будзе — з ёю не прыйдзецца быць цэлы вечар. Мне даўно карцела падняцца і пакінуць яе, што ж тут заседжвацца?

— Ты мне прабач, Антон, што ў нас так атрымалася. Маладая была, дурная...

— Ды што ты, усё нармальна, усё выдатна. У тым сэнсе, што так яно ўсё і атрымалася. Лепей і быць не магло. Ды ведаю, што і ты не шкадуеш, што так атрымалася.

Яна ўздыхнула, паглядзела, адвярнуўшыся, у акно:

— Як сказаць. Усё ў гэтым жыцці складана. Мо калі і пагаворым пра ўсё?

Ад загадчыцы дзіцячага садка я выходзіў з незразумелым настроем. Ні радасці, ні шкадавання, ні цікаўнасці... Хіба што адно — унутраная задаволенасць, што не кранае мяне яе ўсмешка і нерастрачаная гарачыня, як яна прызналася. Жанчына раздалася ўшыркі, што і не абдымеш цяпер — стала як паравоз. Толькі вочы засталіся тыя ж — вялізныя, круглыя, і здаецца, яшчэ большыя — як у цялушкі.

Раніцай праходзіла бюро гаркама. На ім сярод дзесяткаў пытанняў адно рыхтаваў і я. І рыхтаваў я яго ад педагагічнага інстытута. Музычны факультэт інстытута слаба ўдзельнічаў у культурна-асветніцкім жыцці горада. Чаму менавіта такое пытанне загадаў Шпірка вынесці на бюро, я не ведаў.

Зміцер Вераб'ёў, загадчык кафедры, упіраўся, сцвярджаў, што не ўваходзіць у іх абавязкі прымаць удзел у культурным жыцці горада, на гэта ёсць творчыя і фальклорныя калектывы, а іх задача — вучыць студэнтаў азам музыкі. Я і сам пра тое добра ведаў, але... Прыходзіў і раз, і другі, і трэці да іх, рыхтаваў паперы для пасяджэння бюро...

На незадаволены твар Зміцера стараўся ўвагі не звяртаць — ён то чырванеў, то рабіўся бледным, амаль белым. Не прыдаў значэння, што ён раз-пораз браў пад язык таблетачку нітрагліцэрыну...

Бюро, як заўсёды, пачыналася своечасова.

Нашае пытанне было пятым, і я, бачачы, як перажывае загадчык кафедры, яшчэ маладога ўзросту чалавек, параіў яму гадзінку пагуляць па парку, падказаў яшчэ, што яму не след так хваляваецца, перажываць, бюро ёсць бюро, нічога ў тым смяротнага няма...

— А гэта нястрашна? — наіўна, па-дзіцячы спытаў ён, зноў беручы таблетку пад язык.

— Ну, усе жывыя выходзяць адтуль, — пажартаваў я такім чынам, каб хоць трошкі развесяліць яго.

Але, здалося мне, не развесяліў. Ён, неяк няўклюдна схіліўшы на плячо галаву, пайшоў па калідоры да лесвіцы, каб сысці ўніз.

Я ўжо занепакоена пашкадаваў, што ўзяўся за такую незразумелую справу — які клопат партыі пра тое, што не належыць рабіць спецыялістам, ніяк не разумеў...

Калі нас паклікалі, Зміцер, здалося мне, быў ужо спакойны, нават усміхаўся мне. Калі ж усе расселіся, я расказаў сутнасць пытання. Апавядаў пра вялікую работу кафедры, пра тое, што не хапае музычных інструментаў, а тыя, што ёсць, патрабуюць рамонту. Сказаў, што пры інстытуце працуе мастацкая самадзейнасць, што калектыў часта выязджаў выступаць перад жыхарамі горада і раёна, ездзіў за сотні кіламетраў у іншыя вобласці.

У канцы ж выказаў адзін толькі папрок, што пажадана было б кафедры музыкі аказваць больш дапамогі творчым калектывам горада. Я, як мог, стараўся бараніць Зміцера. Бо чалавек ён быў таленавіты, творчы. Напісаў некалькі лірычных песень, якія гучалі па радыё...

У разгар разгляду нашага пытання першы сакратар ударыў раптоўна далонню па стале, строга спытаў у Зміцера:

— Так, скажите, пожалуйста, почему вы лично устранились от этой важной работы?

Загадчык кафедры перамяніўся ў твары, паспрабаваў адказаць шчыра:

— Абавязкі, ускладзеныя на мяне па рабоце, я выконваю добрасумленна — заўваг не маю.

— Почему вы разговариваете не на русском языке? — чамусьці яшчэ больш распаляўся першы, глядзеў ва ўпор на Зміцера, як стараўся нагнаць на яго больш страху.

— Бо я выкладаю прадмет на роднай мове.

— У меня есть предложение: за слабое участие в общественной работе объявить заведующему кафедрой строгий выговор с занесением...

— Я ж не член партыі... — кісла ўсміхнуўся ён.

Я бачыў, як Зміцер схапіўся за левы бок, збялеў увесь. Самога сябе ненавідзеў я за тое, што не адумаўся напачатку, не задумваўся над тым, што раблю глупства і грэх. Не здагадаўся адвесці своечасова бяду ад сумленнага чалавека. А я мог тое зрабіць...

Бюроўцы сумеліся, як спалохаліся, пераглядваючыся. Толькі першы сакратар, як дыктатар, сядзеў па цэнтры доўгага паліраванага стала і не адчуваў агульнай трывогі, скрыгатнуў незадаволена зубамі. Бачыў ён каля гэтага стала і не такое — на насілках выносілі з інфарктамі...

Зміцера ў калідор я вывеў пад рукі, потым завёў у свой кабінет. Падаў вады. І тут жа набраў нумар «Хуткай дапамогі», папрасіў тэрмінова прыехаць — кепска з сэрцам...

Ён прылёг на крэслы, і я падклаў яму пад галаву падшыўку партыйных часопісаў. Ён цяжка дыхаў, хапаў ротам паветра.

— Вы мне прабачце, Зміцер Пятровіч, але чаго ж не сказалі, што ў вас хворае сэрца. Я б не рыхтаваў гэтае пытанне. Альбо размову вялі б з іншым чалавекам... То я ва ўсім вінаваты...

— Глупства, пройдзе... Казалі вы добра і правільна. Але цяпер я разумею, у чым справа. І з намеснікам вы не закрылі б пытанне. Хм... М-ммм... То ж з дзіцячага садка прыехала да мяне загадчыца — Валянціна Кузьменка. Як не загадала памагчы зрабіць перадавы дзіцячы садок, прыстала, каб я памог наладзіць у іх музычныя заняткі... Я... я адмовіўся, спаслаўшыся на перагрузкі ў вучэбным працэсе. Яна раззлавалася, сказала, што пашкадую пра тое, што адмовіўся... Вось і... Мм-ммм...

— Не лепшае?

— Здаецца...

«Валянціна? Жонка Шпіркі? Хацела свой садок зрабіць лепшым у горадзе? Для чаго? Каб яе перавялі загадчыцай гарана? Успомніў, нешта казалі такое... Аўтарытэт хацела зарабіць сабе на чужым таленце? Божа, яна сапраўды адпомсціла. І як? Маімі рукамі. І як я, дурань набіты, не адчуў, не зразумеў, што раблю агідную справу?! І Шпірка мне адпомсціў. Хітра і жорстка. Як толькі тое і ўмее рабіць партыя...»

Зміцеру было горш і горш. Пасінеў твар, і я перапалохаўся, баяўся, каб не здарылася якой бяды. Добра, што «хуткая» прыехала адразу ж. Дактары ўбачылі, што здарылася, адразу распранулі, пачалі рабіць кардыяграму... Адзін укол, другі... Зміцер задыхаўся, круціў галавой.

— Інфаркт, — канстатаваў ціха доктар у акулярах, паказваючы крывулі на палосцы паперы жанчыне. — Неадкладна трэба яго ў рэанімацыю...

Зміцер махнуў рукой, сіліўся нешта сказаць — і адкінуў галаву. Глядзеў няўцямна ў шэрую столь.

Не хацелася верыць у тое, што адбылося.

Кардыёлагі бездапаможна развялі рукамі...

«Божа, ці замалю я калі грэх, які ўзяў на сваю душу? І чаму мне выпала такая доля — выконваць чорную работу. За некага. Ойча, навучы, як быць гаспадаром свайго жыцця, каб у яго ніхто не ўмешваўся, не ламаў, не курочыў...

Адзін, не надта блізкі, сябра сказаў неяк, што ў мяне райскае жыццё.

Ад зайздрасці сказаў, даведаўшыся, што я працую «ў апараце»... Ці мог я растлумачыць яму, што варыўся ў звычайнай смале сапраўднага пекла? Не ведаў, як выбавіцца мне з яго, як адмыцца, ачысціцца ад ліпкага бруду, што паспеў прыліпнуць да мяне. Я адчуваў сябе выпацканым з ног да галавы...»

Калі «хуткая дапамога» забрала нежывога ўжо Зміцера Пятровіча, пайшоў я на бераг Прыпяці. У самога сэрца вісела на валаску. Баяўся, што і маё разарвецца следам за Зміцеравым...

У райскім пекле былі свае — жорсткія і звярыныя — законы.

Сатаняты правілі свой крывавы баль...

Я ўзвыў, як паранены звер, і прасіў Прыпяць, каб яна забрала, сцішыла мой боль, уратавала ад пякельнага агню, што палаў у душы. Была рака для мяне за родную маці, за самага лепшага ў свеце лекара...

І ніхто на Галафеева, ні на бальшавіцкую партыю не падаў скаргу ў Вышэйшы суд за тое, што яны забівалі людзей такімі вось метадамі. Не кулямі ж стралялі, словамі...

Сатанінская арганізацыя была па-за законам...

«Нам сонца не трэба, нам партыя свеціць...»

Думаў, што ў гэтым пекле і было для мяне самым вялікім выпрабаваннем на душэўную моц гэтае трагічнае здарэнне.

Але я, на вялікі жаль, вельмі памыляўся...

## 6

Далей у дзённіку былі пропускі, шматкроп'е...

Абазначаны яны былі, аднак, чорным чарнілам. Зноў бачна яскрава — разрывалася душа ад несправядлівасці і прыніжэння. Аб мяне выціралі ногі. З мяне здзекаваліся і зневажалі. І нічога святога

не было ў іх бруднай справе. Сатана Вялікі парадзіў маленькіх сатанятак, і яны ўжо не ўяўлялі жыцця без смагі крыві, паспытаўшы яе ў семнаццатым, потым у трыццаць сёмым; жыць не маглі без агрэсіі, без злосці і здзеку над чалавечымі душамі...

Яны цвёрда верылі ў тое, што іх улада будзе вечнай і непахіснай, што яны замест сонца будуць свяціць вечна...

Выклік да Галафеева не абяцаў нічога добрага, нутром адчуваў. Па рабоце ён ніколі нікога не выклікаў, для таго існавала другая сістэма партыйнай работы.

Ён сядзеў за сваім сталом надзьмуты, як індык, незадаволены, як заўсёды, але яго пастава сведчыла, што ён не абы-хто на гэтай зямлі — фігура! Ён — гаспадар, бай, хан, пан, і будзе ўсё так, як ён скажа, як загадае...

Перад гэтым мне прафарг сказаў, што неўзабаве павінен здавацца дом і што гаркаму выдзелілі дзве двухпакаёвыя кватэры. Я вось-вось павінен атрымаць ордэр і хутка засялюся ў новую кватэру. Сказаў Ігар, каб рыхтаваў выпіўку і закуску. Я ўжо і Яніне пахваліўся.

Але радасці ў яе вачах не ўбачыў: «Ты як сапраўдны камуніст жывеш. Ты ўжо думаеш, куды ссыпаць ураджай, хаця яшчэ нічога не сеялі. Не кажы, спадар, гоп, пакуль не пераскочыў...»

Я быў прысаромлены роднай жонкай, нават пакрыўдзіўся на яе за недавер.

— Как у вас хватило партийной совести подделать документы? — свідраваў мяне першы сакратар спапяляючым позіркам.

— Якія дакументы? Не разумею, Анатоль Аляксеевіч.

— Не понимаете? Документы на квартиру. Вы вместо профорга напечатали списки на получение квартир.

— Слова даю, я не бачыў і ў вочы тыя спіскі. Прафарг сказаў, што хутка здаецца дом і нам выдзелена дзве кватэры. Больш я нічога не ведаю...

Пада мною пачынала плысці зямля, хістацца пакой.

— Вы лжете! Я давно хотел спросить, почему вы никогда не разговариваете на русском языке? Вы — националист?

— Я — беларус. І вучылі мяне ў беларускай школе.

— А вы изучали тот предмет, где утверждается о необходимости слияния языков и наций? Там утверждается, что будет единый — русский, язык Пушкина и Достоевского, а беларусский — это мертвый язык. Это утопический, клоунский язык... Но я не об этом. Меня возмутило то, что вы сделали.

— Я нічога не рабіў.

— Мне доложил обо всем Кузьменко.

— Паклічце яго, хай пакажа, што я пісаў і ці падрабляў што.

— Здесь не прокуратура, чтобы устраивать очные ставки. У меня все.

Каб захаваць сэрца, я адпомсціў сваёй дурной галаве.

З Міколам Ермаковым у кавярні мы выпілі па бутэльцы гарэлкі. Ён быў шчаслівым чалавекам — пабудаваў даўно кааператыўную кватэру і пляваў на ўсіх і на ўсё. І быў незалежны ў думках і меркаваннях. Піў ён за кампанію, і толькі дзеля таго, каб аблегчыць мае пакуты і боль.

Дадому я тады не дайшоў. На паўдарозе мяне падабрала міліцыя і, як самая гуманная ў свеце міліцыя, пашкадавала, паклала ў чысценькія беленькія прасцінкі, не забыўшыся перад гэтым адправіць пад душ. Праўда, здаўся ён мне чамусьці надта халодным — ведама, добра не нагрэлі, вугаль, мусіць, быў у іх сыры, няякасны, як і ўся нашая сацыялістычная сістэма...

«Нам сонца не трэба — нам партыя свеціць...»

Я спаў на панцырным ложку, і снілася мне, што Шпірка і Валянціна прынеслі мне на сподку зялёненькую паперку і прымушалі распісацца — то быў ордэр на кватэру. А я не мог ніяк распісацца — мяне ванітавала і выварочвала вонкі кішкі... Усё заканамерна было ў жыцці і лагічна: самы лепшы выхад для мяне — захліпнуцца ў асабістых ванітах...

«Раньше думай о Родине, а потом о себе...»

Людзі, а хто ж падумае пра мяне?!

Ці не партыя?

Бо «народ и партия — едины»?

Старонкі, старонкі, старонкі...

Здзіўляўся, як у такім невялікім сшытку можа ўмясціцца ўсё жыццё. Як магло напісацца столькі радкоў? То ж ці не аб'ём «Чалавечай камедыі»?

Не ўтрымаўся, спусціўся па пясчаным схіле да вады.

Памыў рукі, твар, удыхнуў на поўныя грудзі вечаровага паветра.

Гледзячы на ваду, адкрыў для сябе чарговую заканамернасць: калі ён прачытае яшчэ адзін запіс у сваім дыярыушы, то берагі мусяць зліцца. Значыць, яму дазволена перажыць яшчэ адзін, але толькі адзін-адзіны эпізод з мінулага жыцця, напісаны, канечне ж, чорным чарнілам і кітайскай ручкай... Але ж іх тысячы і тысячы.

Якія выбраць, выдзеліць?

*Сакавік, 1991*

Запіс кароткі, у некалькі сказаў. Але праз гэтыя сказы ўспаміналася яскрава, як ён зусім нядаўна працаваў у газеце.

«Падман». Так называўся крытычны артыкул, які ён друкаваў у газеце. Галоўным героем быў загадчык магазіна Ждановіч. Стрыечны брат загадчыка аддзела ЦК партыі. Была зроблена масіраваная атака, каб выгнаць з працы, пакараць так, каб і дзесятаму заказаў.

Чаго яму каштавала вылузацца з кіпцюроў крывавага монстра, колькі крыві папілі, колькі ён правёў бяссонных начэй! Валасатай рукі ці ўплывовага дзядзькі ён не меў...

Снег на яго галаву пачаў падаць яшчэ ў школе. Не разумеў толькі, чаго здзіўлялася маці, калі падстрыгала яго:

— І адкуль, сынок, у цябе валасы сівыя пракідваюцца? Рана праз цяжкае праходзіш — непасільнае ўзвальваеш на сябе...

Почырк неяк павяло ўбок. У беспарадку стаялі літары — то ўверх заносіла радок, то ўніз спаўзаў, як гнуткая вяроўка.

Ведаў чаго. І ведаў, што тварылася тады ў спакутаванай душы.

Нават Яніна не здагадвалася ні пра што...

«Тупы ўдар па галаве, і перад вачыма быццам бліснула маланка. Болю не адчуў — толькі млявасць і кволасць апанавалі ўсё цела.

— Так его, писаку, чтобы знал, про что писать, — хрыплы голас недзе ў цемры чуўся далёкім працяглым рэхам.

— Не на смерть, но чтобы... Так его, гада...

Мне было ўжо ўсё роўна. Я ляжаў на санцапёку, але тысячы сонцаў пяклі мяне, і не зразумець — ці то я на гарачай патэльні, ці ў гарачым прысаку...

А потым, здаецца, злыя людзі забыліся пра мяне і пакінулі ў спакоі, некуды зніклі. Я абрадаваўся, што мае пакуты скончыліся, цяпер я пайду туды, куды захачу, і ніхто мяне не затрымае, не перашкодзіць...

Дзіўна, але я ў родным горадзе заблудзіўся.

Увайшоў у нейкі тунель, і мяне невядомая магутная сіла штурхнула ў плечы, не дазволіўшы нават азірнуцца, агледзецца і павярнуць назад, пайшоў і пайшоў наперад — усё хутчэй і хутчэй... Усё здавалася, што вось-вось выйду на нейкі чысты прагал, туды, дзе сонца, дзе жыццё...

Чуў нейкія галасы над сабой, нехта строгім голасам камандаваў: «Кісларод!», «Ціск!»...

Над тунелем размаўлялі людзі, і што тое азначала, не ведаў... А потым доўга і нудна звінела ўвушшу, падступалі ваніты да горла, але

крочыў і крочыў наперад, не зважаючы ні на што. Імкнуўся да нейкай невядомай мэты...

Ішоў доўга і цяжка — аж надакучыла.

Здаецца, за некалькі гадзін (а мо і сутак) я выбіўся з сіл і не ведаў, як адпачыць. Але нельга было ні прысесці, ні прылегчы — я нічога не бачыў, нават дарогі. І не было нават сілы ўпасці — нехта падтрымліваў мяне пад пашкі.

А потым — во дзіва! — нешта адарвала мяне ад зямлі, без крылаў узняўся, потым падпіхнула яшчэ з большай сілай, і тады я паляцеў з шалёнай хуткасцю наперад — у тым цёмным тунелі-трубе маячыла наперадзе кропка далёкага святла, якое прыцягвала мяне, абяцала жыццё і выратаванне ад няшчасцяў...

Вось-вось яно наблізіцца да мяне. Ужо здавалася, да яго рукой падаць. Я ўжо выразна яго адчуваў, але яно непрыкметна зноў аддалялася, як дражнілася ўсё роўна са мною.

— Тампон, пульс нулявы...

Нехта ці то сачыў за мной, ці нечае рэха далятала да мяне адтуль, звонку трубы, — і што толькі людзям ад мяне трэба?

Мяне несла яшчэ з большай хуткасцю. Я аж сціснуў сківіцы, каб аблегчыць свае пакуты палёту — усё цела здранцвела, напруцілася, і я ўжо баяўся, што не вытрымаю, што палопаюцца нябачныя абручы і дзежачка мая рассыплецца на асобныя клёпачкі...

І здарыўся цуд! Я ўляцеў — так, уляцеў! — у нейкую іншую прастору і, дзіўна, не баяўся, што разаб'юся ад той неймавернай хуткасці. Так яно і было — мяне нешта (ці нехта?) плаўна паставіў на цёплы пясок.

Твар абдало пяшчотнае паветра. Я ступіў крок наперад і пайшоў па мяккай траве. Пачуліся людскія выразныя воклічы. Але дзе яны былі, тыя людзі, дзе знаходзіліся, даўмецца не мог. Убачыў толькі тады, калі ўзбіўся на ўзгорак і перада мною адкрылася панарама невядомага наваколля.

Людзей было вельмі шмат. Былі яны ў асноўным у белым адзенні, і твары іх былі светлыя і задаволеныя.

— Здароў, нябожкко, добры дзень! Чаго ж да нас завітаў? — побач стаяў мой аднагодак — падалося, здзіўлена глядзеў на мяне, недзе я яго бачыў — да болю знаёмы твар.

— А хто вы?

— Не пазнаў... Настазя табе падкажа. Настазя, хадзі-но сюды...

З-за яго спіны выглянула... баба Настазя і злосным голасам накрычала на мяне, рукамі замахала:

— А, Тонічак, ты мой родненькі!.. Унучак мой даражэнькі! Рана, ой як рана ты да нас завітаў! Ты ж сваю работку ўсю не перарабіў... То хай мы, мы дык сваё адтэпалі, адгаравалі, а ты... Карты мае праўду казалі — згубілі дзеда твайго сатаняты, на лесапавале ён Богу душу аддаў, забралі вылюдкі яго душачку... Во тутака зноў пабачыліся...

— Баба Настазя, я...

— Нічога і чуць не жадаю! Нічога! Прагані яго, Ян, адсюль, не месца яму тут, не месца... Прабач, што мы такія паганыя з табою, але мы ўбачымся з табою праз шмат гадоў, няскора, унучак. Так трэба. А тутака ты не затрымлівайся — пабачыў, як мы тут жывём, і ўцякай адсюль... Хутчэй.

— Тут у вас рай, бабуля?

— Уцякай адсюль! Хутчэй, пакуль не ўдыхнуў на поўныя грудзі гэтага паветра.

Дзед з бабай падышлі да мяне, узялі з абодвух бакоў за рукі — і адарвалі ад зямлі, паднялі над сабой і моцна піхнулі, бязважкага. Адпрэчылі ад сябе, ад свайго раю, у якім, як яны сказалі, мне рана было яшчэ знаходзіцца...

Я ляцеў назад той жа дарогаю, тым жа тунелем, і зноўку звінела ўвушшу — аж да болю ў барабанных перапонках. Аказалася, што на адваротным шляху шырокая прасторная труба была злучана з вадою — на ладнай глыбіні. Толькі вада чамусьці не цякла па трубе, хаця яе нічога не перапыняла...

У ваду ўвайшоў ці ўляцеў незаўважна, амаль не адчуў, і яна, здалося, была сухой, але мне не хапала дыхання — горла абхапіла чыясьці рука і не адпускала. Сціскала мацней і мацней. Выразна бачыліся бурбалкі, водарасці, пукатыя здзіўленыя вочы незнаёмых рыб. Мне не ўдавалася ніяк выплысці наверх — нешта прыціскала настойліва да дна, да водарасцяў. Промні сонца ледзь-ледзь прабіваліся да мяне і клікалі да сябе, туды, наверх, дзе было паветра і існавала жыццё.

Не ведаю, якая сіла спаднізу зноў штурханула мяне. Але пад спіну ўжо — ці то дзед з бабай яшчэ прыглядвалі за мной і сачылі, каб я не застаўся, ці хто на тым марскім ці рачным дне клапаціўся пра мяне, — і тады мяне порстка панесла на паверхню чыстай і празрыстай вады...

Сонца зырка ўдарыла мне ў вочы, і я зажмурыўся, сцішваючы рэзкі боль.

— Ну во, цяпер, здаецца, вярнуўся...

— З таго свету вярнуўся...

Мяне акружалі людзі ў белых халатах. Не разумеў, што здарылася, што яны ад мяне хочуць.

— Я... быў... там... дзеда з бабай бачыў, але яны мяне прагналі адтуль. Забаранілі... там быць...

— Ну і добра, што прагналі, — хірург глядзеў на мяне вясёлымі і стомленымі вачыма, радаваўся сваёй перамозе. Я ж радаваўся, што не застаўся ў гасцях нябожчыкаў. — Мы радыя за цябе. Малайцы ў цябе дзед ды баба, разумныя, далажу табе, людзі!

Але ж што такое са мною ўтварылася?!

**7**

У той вечар госць леснічоўкі не пакінуў — адцягваў момант развітання.

Сонца ўжо даўно села за цёмныя шчыкі лесу. Не трымалі ногі, зліпаліся вочы, здавалася, яго зусім пакінулі сілы — двойчы пабыць на тым свеце, то ўжо, мусіць, занадта...

На твар аднекуль з начной шэрані ўпала некалькі сняжынак.

«Снег? — падумаў ён, задраўшы галаву. — Чаго ж ён так рана сабраўся ісці — нават і замаразкаў яшчэ не было...»

Позна лёг спаць, і спалася яму лёгка, і галоўнае — не падкочваліся да яго ніякія трывогі. У сне ён не падскокваў, як уджалены гадзюкай (а яны не раз кусалі яго, як папярэджвалі аб небяспецы), не кідаўся з боку на бок, ратуючыся ад нейкай пачвары, што гналася за ім...

Не прачынаўся ён некалькі леснічоўскіх сутак — сонца то апускалася за гарызонт, дасылаючы ў акно развітальныя малінавыя промні, то ўставала з другога боку, зазірала ў другое акно, здзіўлялася, што госць не прачынаецца — старалася як найбольш паслаць у хаціну жоўта-ружовых промняў...

Але разбудзіла яго цішыня.

І — раніца.

Тонік выйшаў у двор. Прысеў колькі разоў, памахаў рукамі, нос удыхаў ранішняе, волглае яшчэ павету.

Ад леснічоўкі вакол узняўся ранейшы лес, перанітаваны кустоўем. Тырчэлі на пясчаных выспах на высокіх сцяблінах жоўтыя кветкі — каравяк мядзведжае вуха.

І ўжо не існавала вострава.

Ужо не было зусім і вады...

«Ну што, спадар Клімовіч, мо пара ўжо і вяртацца, га? Зачакаліся цябе, мусіць, і Наста, і Чэрчыль, ды і на працы не з радасцю аднесліся да самаволкі... Цікава, колькі я адсутнічаў? Дзень, два ці ўвесь

тыдзень? Пара, браце, табе, ды і даўно пара знікаць адсюль. Загуляўся, мо і занадта... — дакараў сам сябе Антон, але тут жа і супакойваў: — Але ж, згадзіся, што не ўпустую бавіў тут час. З вялікай карысцю пабыў у леснічоўцы і ў Сховішчы Валадара. Галоўнае, што цяпер маецца ключ, код размовы з Творцам. Мусіць жа, пачэсна быць пасрэднікам...»

Раніца як быццам загадвала, каб Антон Клімовіч збіраў свае манаткі і пакінуў леснічоўку, нават уцякаў адсюль, як тое раіла баба Настазя з дзедам Янам яму там, на другім канцы жыцця...

Але ён зноў нечага марудзіў, разважаў, усё адцягваў той момант, калі зробіць першы крок ад парога леснічоўкі да свайго дому, да свайго часу. Стаяў, курыў, глядзеў у далеч асмужанага ранішнім туманам лесу і адзначыў пра сябе, што развітваецца з чароўнай мясцінкай са шкадаваннем...

У ім аднначасова жыло і цвярозае пачуццё, што ён выкарыстаў свой апошні шанец, выкарыстаў з карысцю — і не толькі для сябе асабіста.

Непакоіла хіба адно — ці здольны ён будзе ў сваім вымярэнні і часе ўсё ўспомніць, занатаваць, перадаць усяму люду простыя і неабходныя веды, раскрыць вочы на многія рэчы, на якія ніхто раней не звяртаў ніколі неабходнай цікавасці і ўвагі...

На дарогу з'еў кавалак хлеба з салам. Выпіў два кубкі гарачай гарбаты. Нешта падказвала яму, і ён пачуў тое, — схадзіў да крыніцы, набраў вядро вады, наліў поўны гарбатнік свежай — паставіў на прыпечак.

Пасля падмёў у хаце і памыў падлогу — пакінуў сляды, як прыходзіў з вуліцы.

Паліў кветкі — здалося яму, што трошкі звяла лісце.

Заслаў ложак — так, як было да яго прыходу.

Толькі пасля таго, як усё ўпарадкаваў у хаце, пачаў збірацца і сам.

Ды што яму было збірацца — накінуў куртку з капюшонам, а за спіну закінуў рэчавы мяшок.

Перад тым як пераступіць парог, яшчэ раз уважліва агледзеў хаціну. Спыніў позірк на чорным сшытку, які паклаў туды ж, дзе і браў, — на падваконнік, да герані. Хацелася забраць з сабою, але перадумаў, не хацеў парушаць Закон леснічоўкі, ды і тыя радкі ён ведаў на памяць — кожнае слоўца.

— Дзякуй табе, Хаціна! Дзякуй табе, Валадар, што дазволіў дакрануцца да Мудрасці і Розуму! — прамовіў уголас, перахрысціўся на покуць, на абразы, на Бога. — Дзякуй і табе, Янінка-Ліцвінія, што

накіравала мяне сюды! Дзякуй усім за навуку, за маё прасвятленне і нараджэнне!

Здалося, што леснічоўка ледзь прыкметна зрушылася з месца, адным бокам нахілілася, як адбіла развітальны паклон свайму госцю.

«Пачула... Усе пачулі. Значыць, не папракнуць, што не развітаўся, што не па-людску пайшоў ад іх... А цяпер — усё, цяпер — пара! Бывайце! Прабачце! Дзякую!..»

Калі ж ступіў на зямлю, сышоўшы з ганка, убачыў, як у двор, адкрыўшы веснікі, зайшоў Апанас Янушкевіч. Быў ён стомлены, але ў вачах не гаслі хітрыя іскрынкі.

Следам забег у двор і Чэрчыль. Павіляў хвастом, як прызнаў госця, але адразу ж падаўся ў сваю будку.

— Ты, Тонік, не губляй зарады, — падаў ляснік той патрон, якога не ставала ў патранташы, — з усіх, можа, ён і самы важнейшы... Ох і нахадзіўся я сёння, ног не чую, і Чэрчыль вунь натаміўся, упаў без задніх ног... Ну, ты з усім тут справіўся? Хапіла часу?..

— Ды хапіла.

Карцела папытацца пра тое-сёе, але не выпадала — натуральнасць становішча вымагала разумення сітуацыі.

— То і добра. Недарэмна, ета самае — ёлачкі-маталачкі, час тут бавіў. А я тут ляснік і вартаўнік яшчэ ў прыдачу... З Чэрчылем, ета самае, тут не прападзём, так я кажу?

Янушкевіч азірнуўся, гледзячы на будан:

— Набегаўся, гаварыць не хоча... Ангельскі падданы мне называецца...

Апанас таптаўся ў двары, як што шукаў, зазіраючы то за плот, то ў гародчык, на Антона ўжо не звяртаў і ўвагі.

— То я пайшоў, Апанас, — нясмела прамовіў Антон, — пара мне ўжо...

— Ды ведаю, што пара. То ідзі, праводзіць не буду, прабач... Клопатаў тут процьма, адлучацца нельга ні на хвіліну. Бывай, ета самае, хай усё ў цябе ладзіцца.

— І табе ўсяго найлепшага, — пажадаў Клімовіч, усё яшчэ не ведаючы, да якога разраду гэтую сустрэчу аднесці.

Ладна адышоўшыся, асэнсоўваючы сустрэчу з нябожчыкам, азірнуўся. Леснічоўкі на ўзгорку не было. На яе месцы стаяў пракаветны, не абхапіць і пяцярым, высокі дуб — чапляўся за аблокі, расчэсваў сваім шчыкам шыкоўныя шавялюры дзівосных калматых звяроў-аблокаў. Быў ён яшчэ ў зялёнай лістоце, пры маладой сіле, і ніводнага зжоўклага лісточка не значылася на ім...

Уздыхнуў, ямчэй паправіў на плячы мяшок, заспяшаўся, каб не спазніцца.

А вось і кладка, і кіёк-апірнік.

Клімовіч хутка мінуў усе пяць пралётаў — ніводнага разу не паслізнуўся. Па баках не глядзеў — не было калі.

Сойка ў алешніку прагаварыла нешта спакойнае і знаёмае.

Вецер гуляў у вяршынях, часаў свае бакі аб стромкія дзеравіны.

Праз нейкі час выбіўся на цубкую дарогу: яна ўжо шырэла і шырэла, аж пакуль не вывела на такую ж, але са свежымі слядамі, — на бальшак.

Неўзабаве яго дагнаў вазніца — дзядзька гадоў за шэсцьдзесят, у расхлістанай сарочцы. Нокаючы на каня, абагнаў Антона, сказаў абыякава, кіўнуўшы некуды за спіну:

— Хочаш, дык сядай, калі стаміўся... Давязу да Каменя, а мне далей...

Сонца хілілася к вечару. У блакітным небе зазыўна вялі рэй жаўрукі.

«Жаўрукі ўвосень? — падзівіўся Клімовіч. — Дзіўна...»

— Харошае надвор'е цяпер... — падаў голас вазніца. — Я ўжо і бульбачку пасадзіў, дзякаваць Богу, цяпер толькі б дожджычак...

«Хіба ёсць азімая бульба? — спытаў у сябе Тонік. — Залівае дзядзька, насмяшыць, мусіць, мяне хоча...»

Але вазніца болей голасу не падаваў, быў, мусіць, не з гаваркіх. А Антону неяк і не з рукі было дапытвацца пра яго фантазіі — баяўся пачуць нешта такое, што магло прынесці расчараванне ці боль, таму аддаўся на волю лёсу і абставінаў...

— А Божачка ты мой! — успляснула рукамі Наста, убачыўшы яго ў весніцах — пераступаў перагародку. — Што ж ты нарабіў, хлопча! Я ўсе вочы прагледзела, леснікі абшукаліся цябе... Міліцыя з ног збілася. На працы тваёй не ведаюць, што рабіць... Дзе ты быў столькі часу?

Жанчына абняла яго, жанчына плакала, радуючыся, што бачыць яго жывога і здаровага. У вачах шчаслівыя іскрынкі-агеньчыкі.

— Пры чым тут міліцыя?

Антон адчуваў сябе вінаватым, што нарабіў клопату жанчыне, што прымусіў яе і іншых хваляваацца.

Потым яна з пільнай цікавасцю прыглядалася да яго, як быццам не верыла, што ён стаяў перад ёю. Антон тым часам паставіў каля ганка стрэльбу, скінуў з сябе патранташ, сеў на прыступкі і паклаў яго побач.

— Наста, скажы мне... а колькі мяне не было?

Гаспадыня здзіўлена паглядзела на яго — ці не жартуе, чаго пытаецца, быццам і сам не ведае. Быць таго не можа, каб не ведаў...

— Ды травень ужо вуняка на вуліцы. Усё цвіце, хіба ж сам не бачыш?.. І зіма прайшла. А ты як жа без адзежыны, без яды, без пасцелі? Дзе ж ты прападаў столькі часу?

Толькі цяпер Антон убачыў, што над яго галавой схіліліся яблыневыя галіны — усе ў квецені. І гудуць у іх пчолы.

— Не можа таго быць! — усхапіўся з месца Тонік, адчуў, як гарачыня ўдарыла ад хвалявання ў твар. — Мяне не было шэсць месяцаў?!

— Так, Тонік, так. Паўгода не было цябе. І жонка твая прыязджала. І з працы тваёй. Я ім кажу, што ўзяў стрэльбу і падаўся на паляванне. Мяне следчы не раз дапытваў, судовую справу па табе адкрылі — каб шукаць цябе.

Ён абхапіў галаву рукамі, зажмурыўся. Не ведаў, як аднесціся да пачутага.

Яна ўзяла рэчавы мяшок, дастала некрануты харч, яшчэ болей падзівілася, развяла рукамі:

— Нічагусенькі не разумею — дык ты ж да яды не дакрануўся... Як жа ты выжыў, калі нічога не еў?!

Клімовіч зноў сеў на прыступкі ганка, абыякава сказаў:

— Еў я, Наста, і піў. І ў цёплай пасцелі спаў. Усё было добра.

— То дзе ж гэта ты быў, што там у цябе ўсё было? Мо гасцяваў у каго, прызнавайся?

Наста павесялела ўжо, калі прайшоў першы сполах, калі пераканалася, што не прывід перад ёю, а яе госць, што прыехаў да Апанаса і да яе, бо лічыла сябе вінаватай, што адпусціла яго перад Пакровай у лес. А ён з'явіўся як ні ў чым не бывала, як учора і выйшаў ад яе... Дзівосы...

— Не, Наста, я быў там, дзе ўжо ніколі не змагу пабыць. Быў там, дзе ніхто пабыць не можа. Скажы яшчэ, Наста, а ці паправіўся Чэрчыль?

Жанчына перасмыкнула вуснамі:

— Не, галубец... Няма нашага Чэрчыля. Даўно няма. Адразу ж, тады, як ты пайшоў, перад абедам падаўся да тоўстага дуба — там і спруцянеў. Забраў яго гаспадар з сабою. Сумна мне без яго, надта сумна... Шкада, Тонік, што цябе тады не было на дзевяціны і на саракавіны... Шмат тады народу прыйшло памянуць майго Апанаса...

— Я з ім там бачыўся. І з Чэрчылем. Апанас і там леснікоm, вартаўніком яшчэ пры Вялікай Хаце. Кажа, што жывецца добра, не скардзіцца...

— Мне нічога не перадаваў, Тонік? — цікаўна зазірнула яму ў вочы жанчына, шчыра паверыўшы ў яго словы.

Ён уздыхнуў:

— Не, Наста, доўга нам пагаварыць не выпадала... Словам-другім і перакінуліся. Ён усё шукаў нешта, зазіраў усюды, ды не мог адшукаць... А Чэрчыль у будку зайшоў і не вылазіў адтуль; казаў Апанас, што натаміўся вельмі, бегаючы па лесе...

— Калі шукаў, то добра. Я ведаю, што ён шукаў... Ці каго.

— Я цяпер яго памянуць хачу, Наста. Налі кроплю...

Яна прынесла яму поўную шклянку на ганак, і ён нагбом выпіў усё, да дна. Апанасава самагонка была моцнай і чыстай. Апякла ўсё ўсярэдзіне, як агню глынуў.

Прыкусіў цыбулінай, панюхаўшы скарыначку хлеба.

Не распранаючыся лёг на канапу ў сенцах.

Заснуў адразу. І снілася яму леснічоўка на Зялёным востраве за Бронькай. І высокі дуб. І Апанас з Чэрчылем. Быццам яны ўтрох ідуць па патаемных сцежках, а Чэрчыль забягае наперад, аддана зазірае ў вочы, як чакае нейкае паляўнічай каманды...

Не чуў, як над ім стала Наста, хітала скрушна галавой:

— Божа, Божа, пэўна ж, прыйшлося шмат перажыць чалавеку за гэтыя месяцы... Нейкі не такі вярнуўся, якім быў да гэтага, — ці то пастарэў, ці памаладзеў, не разабраць... Галава вуняка якая ўся белая, бы мукой прысыпаная... Сказаць жа забылася, што незнаёмая дзяўчына ўчора прыходзіла, сшытак нейкі перадала — з чорнымі вокладкамі. Янінай назвалася, сказала, што ведаеш яе і як Ліцвінію... Адкуль мог яе ведаць — нетутэйшая ж, і гамонка не такая, і апранаха на ёй не нашая... Ну, ды Бог з ім, як кажуць, вам, маладым, відней... Не забыць бы аддаць, як прачнецца. А, во яшчэ... Трэба ж адбіць тэлеграму жонцы, што Антон прыйшоў. Прасіла ж, і з працы далі адрас...

Гаспадыня накрыла яго тонкай коўдрай у вялізныя квадраты. Доўга глядзела ў двор праз шыбы, думала пра нешта сваё. Уздыхнула, падалася да сваіх паўсядзённых клопатаў — порацца па гаспадарцы.

Доўга яшчэ ў яе хаце гарэла святло...

Ноччу пайшоў спорны травеньскі дождж. Зямля чакала яго, наталіла сваю смагу. У прыроды свае законы, сваё цячэнне жыцця і свае дажджы, якія жывяць і пояць прыход заўтрашняга дня...

Вельмі ж грымела — як у разгар лета. Аж шыбкі на верандзе звінелі — цененька і меладычна.

Але ўсяго гэтага Антон Клімовіч не чуў. Ён соладка і моцна спаў.

Побач з ім, на падваконніку, ляжаў агульны сшытак з чорнымі вокладкамі — дыярыуш яго знаходжання ў пякельным раі.

*Сочы, санаторый «Беларусь»*
*Кастрычнік 1995*

**Змест**



**Бароўскі А.**

Пякельны рай: Аповесці / Анатоль Бароўскі.— Мн.: Маст. літ., 2002,—326 с.

ISBN 985-02-0452-4.

Творы празаіка ў кнізе «Пякельны рай» вызначаюцца шчырасцю і дабрынёй, узвышанасцю і глыбокім аналізам герояў і вобразаў, якія на мяжы містыкі і рэальнасці, фантасмагорыі і фантастыкі, паміж Космасам і Зямлёй...

Аўтар праклаў у беларускай літаратуры сваю адметную і нялёгкую сцежку і крочыць па ёй упэўнена і смела.

УДК 821.161.3-31